УДК 821.161.2-3
ББК 84(4Беи)-44
К33

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 92.
Заснаваная ў 2009 годзе.*

**Кеда, А.**
К33 **Шчонаўскія** абразкі: кніга прозы / Альжбета Кеда. – Гродна: ЮрсаПрынт, 2017. – 260 с.
ISBN 978-7134-26-7/

Кніга Альжбеты Кеды (Алы Петрушкевіч), гарадзенскай пісьменніцы, кандыдата філалогіі, – гэта не проста аповед пра гісторыю яе роднае вёскі Шчонава, што на Карэліччыне. Гэта сапраўды непрыдуманая проза пра даўняе і не вельмі далёкае мінулае жыццё людзей, вартае памяці. Аўтарка сабрала яго аскепкі, каб не страцілася, з верай, што напісанае застанецца.

Адрасавана найперш тым, каго цікавіць жыццё ў беларускіх вёсках.

**ISBN 978-7134-26-7**

**УДК 821.161.2-3**
**ББК 84(4Беи)-44**

# Прадмова

У гэтым годзе спаўняецца 355 гадоў з таго часу, калі маё Шчонава ўпершыню згадваецца ў пісьмовым дакуменце: у Метрыцы ВКЛ за 1662 г. Ніколі, ні за якімі часамі і ўладамі, ніхто не згадваў пра гісторыю гэтае невялікае вёскі. Ніхто не пісаў пра яе.

Такую працу – перадаць іншым веды пра сваё – Людвіка Сівіцкая назвала абавязкам перад гісторыяй. Кожны, хто піша, мусіць зрабіць гэта. І я маю абавязак. Мушу сплаціць доўг перад сваёю Радзімай, якая для мяне не тая вялікая савецкая імперыя, а найперш – маё Шчонава, мая Карэліччына-Наваградчына. Яна для мяне – толькі з вялікай літары. Адкідаю недарэчнае правіла, якое сама ў школе вучыла і якое вучням сваім калісьці даводзіла.

Усё гэта правільна і ўсё гэта зразумела. Але колькі пісала гэтую кнігу, столькі не магла выбраць дакладны адказ на пытанне: дзеля чаго гэта раблю? Не столькі для іншых (а пытанне гэтае ад многіх чула), а найперш для сябе. Бо звычайна пішуць гісторыю, шукаюць звесткі ў архівах. Тое, што захавала слова напісанае, увекавечанае. Мне ж было вельмі важным адлюстраваць прыватнае, штодзённае, жывыя падзеі, якія памятаюцца не так і доўга і якія, магчыма, камусьці пададуцца звычайнымі і няважнымі згадкі. Але мне так ніколі не падавалася.

У маёй кнізе побач з дакладна (наколькі гэта магчыма сёння) запісанымі тапонімамі, спісамі жыхароў галоўнае ўсё ж «дакументы звычайнага жыцця». Праз звычайныя ці незвычайныя падзеі выказанае жывое чалавечае пачуццё: любові, нянавісці, страху, болю, задавальнення, пяшчоты… Таму гэта і «дакументы душы».

І апошняе. Збірала матэрыялы для кнігі з вялікай любоўю. Да мае роднае зямлі, да кожнае сцяжыны, якую сотні разоў прайшла ў вясновым веку і куды завітваю, калі толькі магу, да кожнае шчонаўскае хаты. І да тых, хто ў гэтых хатах жыве і жыў.

*Шчонава – шчасце маё вясновае,*
*тут мой жыццёвы зачын.*
*Ты каля мілай Зямчаткі прытулена,*
*грудам высокім надзейна затулена*
*ад непагодных, шалёных вятроў.*
*Воддаль ад шумных шляхоў.*

*Шчонава, ты пазіраеш*
*самотна і стомлена*
*вокнамі хатаў пустых.*
*Дзе твае дзеці, што тут узгадаваныя?*
*Па ўсім свеце параскіданыя.*
*Дзе гаспадыні і гаспадары?*
*Спяць на высокай гары.*

*Шмат я прайшла,*
*ды заўсёды вярталася*
*на твае сцежкі,*
*што пазарасталі ўсе.*
*Шмат узгадала, вярнула, знайшла,*
*сёння са словам любові прыйшла,*
*каб не згубілася ты назусім,*
*каб засталося ў слове маім.*

# *Частка I*
# *Каб не знікла*

*У кожнай вёсцы, ды і ў кожнай сям'і, знойдзецца нямала гісторый, смутных і смешных, але заўсёды цікавых для асобаў неабыякавых, што хочуць ведаць пра мінулае, пра тое, чым жылі людзі раней. Гэтыя гісторыі знікаюць, нібы пясок, што сыплецца з далоняў часу. Вось жа, і аўтарцы гэтых абразкоў захацелася выхапіць хоць некалькі іскрыстых крупінкаў, каб не зніклі пад нагамі ў таго, хто ніколі не спыняецца, каб не сплыла з вадою нашае маленькае рачулкі Зямчаткі ў нікуды жывая гісторыя мае роднае вёскі Шчонава.*



## «Я ж табе гэту дзеўку ў рыжуй сукенцы вывяду!»

Праца, цяжкая вясковая праца. Да знямогі. Асабліва летам. Палоць, жаць, лён ірваць, касіць, сушыць, стагі класці... А яшчэ ж чорная, страшная – торф капаць. Я ўжо такое і не застала. Катаржная. Не іначай. Капалі той торф ля Дубровы, за чатыры кіламетры ад Шчонава. З ног падалі. Гэтак стамляліся. Здавалася, дахаты б хутчэй, каб адпачыць, выспацца. Вярталіся шчонаўскія дзяўчаты вечарам, неяк абмывалі з сябе бруд (лазняў ні ў кога не было). Вадзіца ажыўляла, здымала стому. І маладосць брала сваё. Збіраліся каля Пасэсаравага гумна і заводзілі песню. Любімаю была пра «дзевушку Тамару», «эту дзевушку в шэрэнькам плацье, эту дзеву Тамару-красу».

А песню пачуўшы, хлопцы падыходзілі. І дзе ўжо тут пра сон думаць? Кароткая летняя ночка мінала як адно імгненне…

А назаўтра ранкам цётка Ганна Пасэсарава, маючы нескончоныя клопаты па гаспадарцы, на кухні, мусіла па некалькі разоў бегчы да таго гумна, каб падняць дзяўчат на працу. Будзячы – недабудзячыся сваю Ніну і яе сябровак, якія і начаваць заставаліся ў тым гумне, быццам у дзявочым інтэрнаце, куды хлопцы ніколі не дапускаліся, злавалася, прыгаворваючы: «Я ж табе гэту дзеўку ў рыжуй сукенцы вывяду!»

А назаўтра паўтаралася тое ж…

## За першую палучку

Ніна Пасэсарава вельмі хацела вучыцца. Да навукі здольная была. Але не было як, бо вучылі старэйшую, Люню. Таму і працаваць мусіла з ранніх гадоў. Як усе дзяўчаты ў Шчонаве. А якая праца ў вёсцы? У калгасе. На лёне, які трэба было і палоць, і рваць, і падымаць, і трапаць. Верхняга адзення ў дзяўчыны не было ніякога, апроч куфайкі. З абутку – боты керзавыя. Як падумаю пра такія строі дзяўчыны на выданні, горка, балюча становіцца. Які ж гэта здзек з маладосці, з

красы дзявочай. Як жа хацелася Ніне справіць плюшавік! І як бы пасавала ёй тая чорная бліскучая абнова. Была спраўная, харошая, што пашчонаўску – у целе дзяўчына. Валасы мела чорныя, густыя, доўгія. Толькі б дачакацца першае палучкі!



*Ніна Пасэсарава*

Была ў іх радзіне далёкая сваячка Альжбетка. Адзінокая, незамужняя. За палякамі служыла ў пана ў Дарагаве. Была працавітай, ашчаднай. То і назбірала залатовак, адзення сабе ў апошнюю дарогу. А пасля 39-га года, калі паноў прагналі, жыла ў сям'і зводнае сястры Тацянкі, маці Уладка Пасэсаравага. Не аднойчы дапамаглі сям'і тыя яе залатоўкі. Калі Уладка ў гады вайны забіралі ў абоз па загадзе бурмістра з Наваградка, выкупіла, хату будавалі – дапамагла. На старасці моцна і доўга хварэла, у бальніцы ляжала. Там і памерла. Хаваць яе павінна была дзяржава, бо кроўных сваякоў ніякіх не мела. Але жонка Уладка Ганна Пасэсарава сказала: «Ня буду браць грэх на душу. Самі пахаваям». Прывезлі Альжбетку, каб у апошнюю дарогу сабраць. І тое яе адзенне дасталі. А ляжала яно на гарышчы, у куфры, які нікому адкрываць не дазвалялася. А як адкрылі, жахнуліся: усё з'едзена моллю, растраслося на пацяруху. Ды такое ж усё багатае, харошае было. Што ж рабіць? У хаце галеча, ні грошай, ніякое тканіны, каб сукенку пашыць…

І якраз тады атрымала Ніна сваю першую палучку, за якую марыла справіць сабе плюшавік. Пашкадавала яна бедную Альжбетку. Купіла ў Райцаўскай краме ўсё патрэбнае, сабралі пакутніцу ў апошні шлях не горш як усе людзі…

Абноўку сабе Ніна ўсё ж справіла. Праз год. Ды ўжо і не плюшавік, а прыгожае паліто, якое доўга-доўга насіла. «Бог

мяне пашкадаваў. Прэмію за лён далі», – згадвае яна сёння з мілай усмешкай. Ведае, што дабро заўсёды мусіць вярнуцца да чалавека.

## *«Бог усё ведая!»*

Волька Барэйчыха – гарушчая ўдава. Яе Міхалко памёр у 1941-ым годзе. І таму ніяк не магла яна быць «законнаю» ўдавою, як большасць шчонаўскіх кабетаў паваеннага часу, чые мужыкі не вярнуліся з вайны. А гэта азначала, што ніякое, нат самае мізэрнае дапамогі ад нашае «гуманнае» ўлады мець не магла, бо муж не за перамогу загінуў. Гаравала, не раз галадала з дзецьмі, працавала цяжка-цяжка. Як усе ўдовы. Доўга пасля вайны не магла ўзбіцца хоць на які абутак. Хадзіла ў халодны час у адным атопку ад Алёшавага (старэйшага сына) бота і абрэзаным, каб хоць роўнымі былі, гумовіку.

Прыйшла яна аднойчы да суседкі, што праз балота жыла. Зусім гэта і не балота было, а роўны зялёны луг, паша для кароў, коней, авечак. Не было ў Шчонаве слова «луг» у вядомым значэнні. Толькі той, якім валасы мылі. А ў суседкі – поўныя ночвы апенькаў з варанчанскага лесу. І так захацелася Вольцы тых грыбоў! Але вядомы сюжэт з беларускае нашаніўскае класікі пра пяць лыжак заціркі не паўтарыўся. Хоць трагізмам, як у Змітрака Бядулі, ён бы не набрыняў, бо, як казала пасля Волька ўнучцы, колькі ёй тых грыбоў трэба было б, ну са жменю якую, а ў іх жа цэлыя ночвы. І глядзела на ласунак зразумелым позіркам, і хваліла, і распытала, што будуць з імі рабіць, ды суседка «не зразумела», што так абыходзіць беднай Барэйчысе. Але гонару гарушчая ўдава не страціла: не папрасіла. Ішла дахаты пакрыўджаная і абражаная «нездагадліваю» скупою кабетаю. «І такая крыўда мяне ўзяла, так мне кепско было, што, здэцца, свет нямілы. Адно ж бачу: на купіне сярод балота – апенькі. Далібог, не было іх, як туды ішла. Гэто Божанька мне іх паслаў (яшчэ адзін падкарэктаваны класічны сюжэт), бо бачыў, як мне грыбоў захацеласё. Бог усё ведая!»

Гэты аповед унучка чула неаднойчы. І заўсёды радавалася разам з бабуляю. І хоць была ўжо «акцябронкам», але верыла: «Бог усё ведая!»

## *Няшчасная*

Унучка Волькі Барэйчыхі вельмі любіла глядзець па тэлевізары фігурнае катанне. І сама бабуля пры тэлевізары прысядзе, бывала. Уважліва глядзіць, каментаваць пачынае. Як жа сядзець ды маўчаць? Тыя яе наіўныя, але такія шчырыя каментары запомніліся ўнучцы назаўсёды. Асабліва падабалася кабеце парнае катанне:

–Хорашо, хорашо гуляюць. І музыка харошая. Толькі сукенкі ў дзяўчатаў надто кароткія. Як паверняцца, дык усё наверсе. Глядзець ні хочацца.

А пра жаночае адзіночнае такі дыялог з унучкаю часам адбываўся:

–Харошая дзеўка, толькі няшчасная.

–Чаму ж яна няшчасная?

–Як чаму? Ніхто яе гуляць ні бярэ. Дык выйшла ў круг і адна гуляе.

Ніякіх довадаў пра такі від спорту, як адзіночнае катанне, не прымала. Бо не мусіць чалавек адзін *гуляць*. А пра адзіночнае мужчынскае катэгарычна выказвалася:

–Няўжо яму дзевак не хапае, што адзін выйшаў?..

## *«Уставай, праклята!..»*

Не адна Волька Барэйчыха была ўдавою гарушчаю. Такою ж была і Марыля Світкава, удава Гіля Сідара. Багаццем, якога ніколі ім, бедным кабетам, не хапала, былі дровы. У Марылі яны ніяк гарэць не хацелі. Нагаруецца, пакуль у печы распаліць. Мокрыя. А чым распальвала? Не было каму накалоць ёй сухенькіх смалячкоў, якімі звычайна ў гаспадарскіх шчонаўскіх печах дровы распальвалі. Паперы ж тады не было. А калі і распаліць, то патухнуць. Так і мэнчылася. Смяяліся шчонаўцы з яе шчырае крыўды і няве-

дання «законаў гарэння»: «У людзей поўная печ дроваў і ўсе гарацъ, а ў мяне два палены, ды і тыя гарэць не хочуць».

Прачнулася яна аднойчы ранкам (напярэдадні якраз радыё ў хаты шчонаўцаў правялі) і чуе, як з прыёмніка заспявалі: «Уставай, праклята, закляймёна!..» Што там далей спявалі, не так і цікава. Бо пачатак у самае сэрца трапіў. «Гэто ж якраз пра мяне. Гэто ж я і праклята, і закляймёна», – дзялілася пасля незвычайнаю навінаю са сваімі суседкамі. А пагаварыць вельмі любіла. У яе пасторнай хаце знаходзілі сабе прытулак хутаранскія дзяўчаты. На вячоркі збіраліся. Марыля сыходзіла з дому да якое суседкі, то была ім вольная-вольніца.

І загінула, гарушчая, ратуючы свой нажытак. Загарэлася яе хата. Ад коміна – так у Шчонаве казалі, калі пажар узнікаў з-за таго, што ў доўга нячышчаным коміне загаралася сажа. А на гары ж лён ляжаў. Кінулася яна ў агонь, каб ратаваць той лён. І яе ўжо адратаваць не змаглі. Абгарэла ўся. Такая страшная смерць.

А праз некалькі тыдняў пахавалі побач з маці і яе сына Валодзю. Гэтую гісторыю ўпершыню пачула ад свае дзядзінай, Марылінай дачкі Ніны, якая і мянушку маці атрымала – Світкава. На могілках, калі яна стаяла ля магілаў сваіх маці і брата. Брат дабіраўся на хаўтуры па маці з Баранавічаў, дзе мусіў зарабляць сабе на жыццё. Ніякі транспарт у тыя часы не хадзіў. На якойсьці падводзе даехаў, а пасля ішоў пехам. І меў з сабою нейкія грошы. Праходзіў паўз тых ямаў дуброўскіх, дзе торф капалі. Так і не дайшоў.

Шукалі яго. Знайшлі толькі праз два тыдні. У тых чорных ямах. Пакваліўся нехта на няшчасныя капейкі беднага хлопца. Забойцу не знайшлі. Ды ніхто асабліва і не шукаў...

Было гэта ці не адзінае ў Шчонаве забойства за ўсе пасляваенныя гады. Аж да навейшага часу...

## *Гаіста*

Ганна Захарава ў маладосці была вельмі прыгожай дзяўчынай. Высокая, стройная, з шыкоўнай касою. Выйшла замуж за Паўлюка Гіля. Стала яна Паўлючыхаю. Бяда яе

была ў яе характары. Ганароваю, упартаю, незгаворліваю кабетаю была. Не маўчала мужу. І ён не з тых быў, каб жонцы наравіць. Біў яе. Калі трываць было невыносна, брала на рукі малога Лёніка і ўцякала да бацькоўскае хаты, дзе не надта яе чакалі, бо ў той хаце дзяцей братавых было поўна. Паўлюк прыйдзе, адарве акно ў кухні, забярэ сына. Ідзе маці следам, дзіця ж не пакіне.

Ды нядоўга трываў гэты шлюб. Паўлюк быў «граматным». Звязаўся ў трыццатыя гады з савецкім падполлем, за шчаслівае жыццё і вызваленне Заходняй Беларусі змагаўся. Неаднойчы быў катаваны ў пастарунках, неаднойчы сядзеў у турмах. Расказваў, як здзекаваліся. Мне малой (а ўжо гэта былі аповеды ад ягоных слухачоў) ніяк не быў зразумелы адзін з відаў таго катавання: прывязваюць чалавека да стула, каб не схіліўся, а на галаву вада зверху, з вышыні па кроплі капае. І так да страты прытомнасці.

Змардаваны, хворы вяртаўся Паўлюк з турмы. А пасля ізноў за палітыку браўся. Але не быў жалезным камуністам. Вырашыў аднойчы: досыць. Не за сябе, казаў, вырашыў, а за дзяцей:«Хто маіх сыноў гадаваць будзе?»

Але «сябры»-падпольшчыкі гэтай «здрады» не даравалі. Перастрэлі ў лесе і так збілі, што ў хуткім часе памёр Паўлюк. «Печане адбілі», – такім было заключэнне шчонаўскіх «экспертаў».

Памёр, па сведчанні сына Пятра Паўлавіча, у Картуз-Бярозе. Прыйшла жонка наведаць яго, а ёй кажуць: «Памёр». Прывезла мужа свайго і пахавала ў Мокраве. Магілка згубілася.

Засталася Паўлючыха з трыма хлопцамі. Заўсёдныя нястачы, відаць, і зрабілі яе вельмі ашчаднай. Асабліва здзіўляў мяне доказ гэтага: запалкі яна на чатыры часткі раскалвала. Не на дзве, што было агульнапрынятым у бедных шчонаўцаў, а на ўсе чатыры. Гэта ўжо занадта! Во сквапная! А мяне дзівіць іншае: якія ж гэта запалкі тады былі? Сёння пры ўсёй ахвоце, якая горш за няволю, ніякі запалак нават на дзве часткі не расколеш. А калі раптам раскалоў бы які народны ўмелец, то запаліў бы наўрад ці...

І нядобразычлівай (мякка кажучы), нягоднаю Паўлючыха таксама была. Характар мела суровы, была недаступнаю да іншых. За вочы яе называлі Гаістаю. Мая мама, шчонаўская настаўніца, ніяк не магла дайсці да этымалогіі гэтае мянушкі. І што ў ёй такое крыўднае? Тлумачылі: бо злая, гадкая, таму і Гаістая. Не, не прымала мама такую версію. Дапамагла гісторыя, крыніца з'яўлення гэтага «неалагізму». Даведалася, што так яе «граматны» Паўлюк называў. «Эгаістка, так ён казаў?» – здагадаўшыся, перапытала мама сваю свякроўку, Паўлючышыну залвіцу. «Ну і я ж так кажу: Гаістая».

Так шчонаўцы на свой лад падкарэктавалі тое «граматнае» слова, якое ўсё жыццё суправаджала Ганну Паўлючышыху.

## *Пранікі*

Ну, не казалі ніколі ў маім Шчонаве *пернікі,* а толькі *пранікі*. То і пішу так, па-шчонаўску. (Гэта я да кніжных філолагаў, якія, моваю па-за аўдыторыямі асабліва і не карыстаючыся, любяць такія «памылкі» вывуджваць).

Канец пяцідзясятых. Каб аддзячыць за пашытую кашулю краўчысе Фані Лысішынай, брыгадзір Коля Барэйко мусіў завезці яе на кані ў Наваградак па шафу. Няблізкі свет. Даехалі, купілі. Паўдня мінула. Есці захацелі. А грошай пасля пакупкі мелі лічаныя капейкі, бо ў калгасе за працадні працавалі. З сабою Фаня ўзяла малака ў бутэльцы, якую закаркавала газетаю. Нат і хлеба не было. Купілі яны на тыя капейкі пранікаў. Па два з паловай выйшла. З'елі. Як і не елі. «Каб хоць калі-небудзь гэтых пранікаў ды колькі хочаш наесціся!» – кажа брыгадзір Коля з такою тугою вялікаю, не верачы асабліва, што часу такога можна прычакаць.

## *«Каця-пастушка»*

Гэта была ўлюбёная песня шчонаўцаў часу майго дзяцінства. Яе спявалі на кожнай вясёлай вясковай бяседзе: на вяселлях, хрэсьбінах, пасядзелках. Спявалі па некалькі

разоў. Мы, малыя шчонаўкі, бегаючы пад вокнамі, не маглі дачакацца, калі нарэшце гэтую песню зацягнуць.

Што вабіла ў ёй маленькіх дзяўчынак? Незвычайныя падзеі ў незвычайным асяроддзі, прыгожыя гарадскія строі («*цёмна-сіні касцюм*» і «*шаль галубая*»), трагічнае каханне, здрада, крывавая помста...

Сёння ігнараваны раней жанр – жорсткі гарадскі раманс – пачынае даследавацца навукоўцамі. Неаднойчы даводзілася чытаць артыкулы на гэтую тэму. Аказваецца, сюжэт пра Кацю-пастушку, створаны ў гарадскім асяроддзі, быў вельмі папулярны ў многіх мясцовасцях Беларусі. Перабраўшыся ў вёску, знайшоўшы тут і таленавітых выканаўцаў, і ўдзячных слухачоў, займеў ён розныя варыянты.

Аднойчы на хрэсьбінах у Лысішыных, яшчэ ў старой хаце (хрысцілі Вову), нешта вельмі доўга не спявалі нашу любімую. Вось ужо і зацягнуць зараз. А тут выходзіць мама і пасылае мяне дахаты з нейкаю патрэбаю. У такіх выпадках сяброўкі не павінны былі пакінуць адну. Але ніхто не захацеў са мною бегчы, бо ўсе чакалі «Кацю-пастушку». Вось тады я ўпершыню зразумела, якое яно, дзявочае сяброўства. Бегла лятом дахаты, назад. Здалёку пачула ўжо апошні куплет. Але якім было маё шчасце, калі песню ў хуткім часе заспявалі ізноў:

*Па дзярэўне хадзіла за стадам авец*
*Дзерэвенская Кацяпастушка.*
*Панаравілся ей чэрнабровый Андрэй,*
*Чэрнабровый красівый Андрушка...*

## «Я – маленькая дзевачка...»

Гэтую жанчыну, а звалі яе Волька, ніхто за вочы не называў па імені. Толькі па мянушцы – Труска. Была яна адзінокаю. Ніколі не мела сям'і. Быццам да роднага дзіцяці, ставілася да пляменніка Валодзі Сяннічка, сына свайго брата. Памятаю, як на Спаса (а гэта было наша парафіяльнае свята), калі амаль у кожнай хаце госці, яна праводзіла сваіх. І не адпускала. Казала: «Як паедуць, то пад калёсы лягу». На конях тады ў госці ездзілі. Так хацела, каб яшчэ засталіся.

Ад адзіноты размаўляла сама з сабою. Перамаўляліся пра тое суседкі, крыху падсмейваючы, крыху шкадуючы самотную кабету.

Вось жа, на Навагоднім ранішніку (а гэта было свята для ўсёй вёскі), калі самы вялікі школьны пакой быў біткам набіты шчонаўцамі рознага веку, Дзед Мароз (не Святы Мікола), раздаўшы падарункі школьнікам і малым дзецям, прапаноўваў прачытаць верш каму са старэйшых. І за гэта таксама ўручаўся падарунак. Цукеркі і пячэнікі ў мяшэчках, сшытых са школьнае паперы ў лінеечку або ў клетачку, з намаляванаю навагодняю ёлкаю. Цукеркі тады былі – ого! – якім ласункам! І не адна бабуля хацела б той падарунак атрымаць. Каб пасля, зразумела, тым жа ўнукам і паддаваць іх. Але неяк сорамна было. Перад усёй вёскаю ды на тыя цукеркі пакваліцца. Абгаворацъ жа! Яшчэ як!

А Труска выходзіла. І чытала вершык:

*Я – маленькая дзевачка.*
*Я ў школу не хаджу.*
*Дайце мне падарачак,*
*Спасіба вам скажу.*

Другі радок мог вар'іравацца: «*Я Леніна люблю*». Зусім не таму, што была ў нашай вёсцы нейкая асаблівая любоў (ці ўвогуле любоў) да малодшага класіка марксізму-ленінізму. А таму, што яны проста былі, гэтыя леніны ўсюды, у такой колькасці мазолілі вочы з партрэтаў, кнігаў, кінафільмаў, што маленькія дзеці, якія толькі пачыналі гаварыць, ужо пазнавалі Леніна. А яна ж, гэтая Волька Труска, і сапраўды ў тую хвіліну была «*маленькай дзевачкай*».

Як зараз бачу: бярэ яна той «*падарачак*» спрацаванымі старэчымі рукамі, прыціскае да грудзей. Ідзе з нейкаю крыху сарамліваю, але ўсё ж шчасліваю ўсмешкаю кудысьці да самае сцяны. Ведаючы напэўна, што будзе за гэты вершык абгавораная да костачак.

## *Зефір*

Крамы ў Шчонаве не было. З'явілася толькі напрыканцы 60-ых. Спачатку ў хаце Федзі Валадзенькавага. Прада-

вачкай была ягоная жонка Тоня. А пасля і асобны будынак пабудавалі, цагляны, недалёка ад рэчкі.

А было гэта яшчэ да сваёй крамы. Жанчыны невялікім гуртам пайшлі ў Райцу. Купілі хто што хацеў. Вяртаюцца. Алена Лукошкава нясе ў руках чатыры зефірыны. Мае чатырох дачушак. Усім па адным прысмаку. Глядзіць яна на той зефір і не вытрымлівае. З'ядае адну. І кажа: «У мяне ж чатыры дзеўкі. Як я тры зефірыны на чатыры падзялю? Трэба яшчэ адну з'есці». Але што тыя дзве з'етыя смакоцці? Хіба ж здаволішся? Яшчэ больш захацелася Алене зефіру. Узяла і яшчэ адну з'ела: «Нічога, адну прынясу, хопіць пакаштаваць». Нясе ў руках апошнюю, глядзіць на яе і супакойвае сваё мацярынскае пачуццё: «Што ім, чатыром, гэтая адна зефірына? Нават і не разломіш. Ніякі і не наядак». І з'ела апошнюю...

Але нічога, дачушкі на Алену ніколі не крыўдавалі. Вельмі любілі і шанавалі сваю матулю.

Было гэта на маіх вачох. Ішла з мамаю. Вечарам яна пераказвала тое бацьку. І са смуткам казала: «Няўжо не магла Алена купіць таго зефіру, каб і самой пакаштаваць, і дочкам данесці?» Мусіць жа, не магла, бо якія грошы ў калгасе плацілі? А іх яшчэ трэба было «на кніжку» класці. А пасля ўсе гэтыя «кніжкі», такою катаржнаю працаю сабраныя, і «пагарэлі»…

А краму ў Шчонаве ўжо зачынілі. Прыехаў бульдозер, выкапаў яму, зруйнаваў будынак, а друз закапаў. Як і не было. І ходзяць зараз апошнія шчонаўцы да аўталаўкі, якая прыязджае двойчы на тыдзень.

## Два і яшчэ адзін

Валадзеньк*о* (адна з формаў імені Уладзімір, якіх у Шчонаве было багата: Валодзя, Уладак, Ўладак, Уладзік, Уладзё, Ладусь, Ладысь і пазнейшае Вова) быў гаспадаром ганаровым. Жыў на хутары асобна, на шляху між Шчонавам і іншымі хутарамі, што нібы вёска выглядалі. Меў багаты сад, дзе раслі незвычайна салодкія грушы-цукроўкі і вялікія бэры. Яблыкі ў Маскву вазіў прадаваць. Капейку

выручаў неблагую. Недарэмна ж такую харошую хату сваймy Федзьку ў Шчонаве выбудаваў. А пры весніцах – вялікая гарабіна, якая радавала вока і ў час вясновай квецені, і восенню, уся чырвоная ад гронкаў. Нейкая надта ж ураджайная была. Казалі, што тыя ягады гаспадар таксама збіраў і здаваў кудысьці.

Мелі падазрэнне шчонаўцы, што не выгаворвае ён гук *р*. Але ніяк тое спраўдзіць не ўдавалася. Бо заўсёды ўнікаў словаў з гэтым гукам. Мова ж наша багатая. Навошта казаць *дарога*, калі можна *шлях*, навошта *добры*, калі – *лагодны*, *роўны* – *гладкі* і г.д.

Вось вырашылі мужчыны Валадзенька ўсё ж падлавіць. У нейкіх калгасных рахунках была лічба тры. А ён пры якойсьці невысокай, але ўсё ж пасадзе знаходзіўся. То і пытае ў яго брыгадзір, каб тое *р* з ягоных вуснаў нарэшце пачуць: «Колькі... (не памятаю ўжо чаго) прывезлі?» А ў адказ Валадзенько разважліва, як і заўсёды, кажа: «Два і яшчэ адзін»...

## *«Ізноў гэты Дуст балуецца...»*

Вельмі часта электрычнасць у Шчонаве (а правялі яе ў шасцідзясятыя гады) прападала. Тады гаспадыні даставалі газоўкі, якія не паспяшаліся выкідаць, калі запаліліся ў хатах «лямпачкі Ільіча». Бо запас бяды не чыніць. Часам святло вярталася праз дзень, праз два. А калі і ў той жа дзень. Такімі вечарамі вельмі цікава было назіраць, як прабягаюць па хаце дзівосныя светлыя промні-цені ад аўтамабільных фараў. Хоць зрэдку, але ўсё ж ездзілі па нашых вулках машыны. Грузавікі. А яшчэ цікава было запалкі паліць. Гэта калі мамы не было дома. Так, каб згарэлі цалкам. Трэба было пераняць згарэлы канец мокрымі пальцамі…

У суседнім Хвалаве жыў хлопец Валодзя Цярэшка. Мянушка ягоная Дуст. Меў адносіны да электрычнасці. І прызнаўся аднойчы, што спецыяльна, каб пасваволіць, выключае святло. А мо каб уладу сваю паказаць: во што я магу! Такі сабе валадар святла ў шчонаўскіх ваколіцах. І з таго часу, калі знікала электрычнасць, у шчонаўскіх хатах чула-

ся: «Ізноў гэты Дуст балуецца». Хоць, зразумела, далёка не заўсёды прычынаю былі ягоныя свавольствы.

## Абаранак – качарга

Тыя калгасныя грузавікі ўсе былі аднолькавыя. Адрознівалі іх толькі па нумарох. І таму шчонаўскім кабетам было вельмі цікава, як старая непісьменная бабуля Марыля Сцяпаніха пазнае аўтамабіль свайго сваяка Віталя, зяця дачкі Анюты, што за Абрамовічам замужам была. Толькі пад'едзе, шафёра яшчэ не відаць, а яна ўжо ведае, што гэта ягоная машына. І калі стаіць некалькі, таксама беспамылкова яе вылічыць.

Аднойчы ўсё ж дапыталі, раскрыла сакрэт кабета. «У яго ж на боку два разы абаранак – качарга намаляваныя», – адказала старая і паказала нумар на борце: 07–07.

## «Бпела-румяна»

Надзя Адамавічава з хутаранскага Кліну – дяўчына на выданні. Вось і завіталі ў іх хату сваты з далёкае вёскі. Але папарэдзе кожнай падзеі заўсёды ішла вестка. Покуль даехалі тыя жаданыя госці да іх хаты, перадалі нейкія дабрадзеі пра сватоў Ганне Юлькавай, каб пайшла, паведаміла.

А было тое на пачатку восені. Надта слівы ў тым годзе ўрадзілі. У хаце ўсё імі заслана: і на стале, і на лавах, і на падлозе ў куце, і на печы, і ў печы сушацца. Як пачула старая пра сватоў, забегала, завохкала: як жа тых сватоў, так жаданых і такіх зараз не чаканых, прыняць, дзе іх пасадзіць-частаваць? Усё ж у слівах. «Бярыце дзяругу, зграбайце слівы і выносьце ў каморку. Халера іх ні возьмя», – падказала Ганна і пачала дапамагаць. Надзя ж не меншы клопат мела: як прыбрацца, каб паказаць сябе. Была дзяўчынай не надта выразнай. Але ў ход пайшлі «Сняжынка» (крэм такі для твару, адбельваючы, быў у тым часе ў шчонаўскіх модніцаў), шмінка чырвоная, якою і шчокі падмалявала, чорны аловак…

З светлай усмешкай неаднойчы гаварыла пасля пра тое сватанне старая Адамавічыха: «Гляджу я на сваю Надзю, а

яна сядзіць харошая, бпела-румяна...» Менавіта так і выгаворвала гук, між звонкім *б* і глухім *п*. Таксама з усмешкай, але ўжо зусім іншай, пераказвала падзеі дасціпная Ганна Юлькава, дакладна капіруючы тое «бпела-румяна»...

А залёты аказаліся ўдалымі. Напачатку прымак у Адамавічавай хаце, пазней Іван Ракач паставіў сваю новую хату. Сёння ж, калі не засталося на хутарах ні аднаго шчонаўца, маладыя з'ехалі ў розных напрамках, старыя выправіліся ў апошні прытулак на самай вялікай шчонаўскай гары, ён – адзіны і апошні сталы жыхар усіх трох хутаранскіх ваколіц: Бягельні, Коньдзеўкі і Кліна.



*Ці ж не прыгажуні? Злева направа: Люня Пасэсарава, Воля Апанасішына, Маруся Маздзюкова, Гэля Валенцікава*

## *Харошыя дзеўкі і харашухі*

Для азначэння вышэйшай якасці ў Шчонаве карысталіся словамі «харошы», «файны». Ніколі чамусьці не казалі «прыгожы». А што самае прыгожае ў кожнай ваколіцы? Зразумела ж, дзявочая краса. Слова «дзяўчына» таксама не ўжывалі. Толькі «дзеўка», а ў множным ліку яшчэ і «дзяўке» можна было пачуць.

Якія ж прыгожыя былі ў нас дзяўчаты! Высокія, станістыя, доўгавалосыя. Тварыкі як на карцінах. Але і між іх былі прыгажуні з прыгажуняў. З старэйшых вылучаліся Ніна і Люня Пасэсаравы, Ганна Юлькава, Надзя Петрукова, Анюта Валадзень-



*Вяселле Марусі Тунікавай. Строі маладой не горшыя, чым у замежным фільме*



*Харошая дзеўка Маруся Тунікава*

кава, з маладзейшых – Галіна Абрамовічава, Люда і Рэня Адамовічавы. Мне ж найбольш падабаліся дзве хутаранскія красуні: Маруся Тунікава і Анюта Міхасёва. Не ведала тады, хто і чые яны, бо мне незразумела было, навошта гэта ведаць. «Харошыя дзеўкі» – была самая дакладная інфармацыя. Яны былі суседкамі, напэўна, сябравалі.

Аднойчы прыйшлі да бацькі ў нейкай патрэбе. А яго дома не было. То наказалі: «Перадай, што мы прыходзілі». Так і перадала вечарам: «Да Вас



*Рэня Адамовічава*

прыходзілі харошыя дзеўкі». «Хто?» – перапытвае. Ніяк яму растлумачыць не магла, хоць і апісвала старанна іх партрэты: адна чорная, другая белая, абедзве з доўгімі валасамі. І сама не разумела, як гэта ён не ведае, хто ў Шчонаве харошыя дзеўкі.

А яшчэ было рэдка ўжывальнае і крыху загадкавае для мяне слова «харашуха», якое мною ўспрымалася як уласная назва. Мама ім часам карысталася. Спытала ў яе, хто гэтая Харашуха. Патлумачыла, што гэта і ёсць прыгожая дзяўчына. І прыклады прывяла: «Раней харашухаю была наша суседка цёця Фаня Сцяпанава, цяпер Зіна Парасчына, а як вырасцеш, то ты будзеш»…

## Кукольнікі

Так называлі ў Шчонаве валачобнікаў.

Увесь той дзень – Вялікдзень – быў у вёсцы сапраўды святам з святаў. У кожнай хаце абавязковыя фарбаваныя (валачоныя) яйкі, смачныя-смачныя булкі і варанае мяса з самаробным хрэнам, белым або падфарбаваным бурачным сокам. «Хадзі, дам табе валачонае», – так кожная гаспадыня запрашала суседскіх дзяцей на пачастунак.

У маёй памяці Вялікдзень застаўся яшчэ зафарбаваным далікатным фіялкавым колерам, бо якраз тады расцвіталі ў недалёкіх Захомах гэтыя мілыя першыя кветкі. І шчонаўскія дзяўчынкі беглі ў лес, каб прынесці дахаты прыгожы букецік.

Да многіх прыязджалі госці, у чыёй-небудзь хаце ладзілі танцы.

А заключным акордам свята якраз і былі кукольнікі. Як я іх чакала! Уяўляліся нейкімі незвычайнымі казкавымі

персанажамі, якія прыйдуць аднекуль з цемры пад наша вакно. І будзе адбывацца штосьці цудоўнае.

Але так ніколі не дачакалася. Бацька, які шчыра прыняў новую веру – камуністычную ідэю, мусіў выяўляць і ваяўнічы атэізм. І вясковыя кукольнікі баяліся співаць ля брыгадзіравай хаты.

Думаю зараз: мо і добра, што не дачакалася. Бо не былі тыя спевы такімі цудоўнымі, якімі іх малявала маё дзіцячае ўяўленне…

## *Шчонава – мая калыханка*

Чаму не калыска? Не толькі таму, што калысак тых процьма («Постмадэрнізм – калыска мая»), а таму, што самае светлае ў той калысцы якраз калыханка, якую хто толькі ні спяваў мне: мама з самай вялікай любоўю; нянька Маня Прымачышына, спадзяюся, таксама не без пяшчоты; бабуля Маня, якая з'яўлялася ў нас са свайго далёкага ляснога Антанёва па важнай справе – спарадкаваць свежаніну – і заўсёды варыла чырвоны густы журавінавы кісель; бабуля Волька, што прыходзіла з сваіх хутароў адведаць першую ўнучку; маміна сяброўка, суседка цёця Фаня Сцяпанава, якая заўсёды любіла мяне і гэта не без шчырае ўзаемнасці; і мой старэйшы, ужо дарослы, трохгадовы брат Колік, сэрцайка якога разрывалася ад шкадавання і ён адчайна прасіў-прыгаворваў: «Алачка-дзевачка, ні плач! Алачка-дзевачка, ні плач!», а пасля сам пачынаў плакаць ад бездапаможнасці і ўжо не проста калыхаў, а з усяе моцы шугаў лёгкую, нібы арэлі, калыску, каб аднойчы выкуліць тую Алачку-дзевачку з усімі яе немаўлячымі строямі.

Засынаць пад шчонаўскія шлягеры тае пары («Кацю-пастушку», «Ёлачку», «Біла мяне маці…» і інш) і вечныя ў нашым Краі: «Люлі-люлі-люлі, пайшоў кот па дулі...» было такой асалодай, адмовіцца ад якое па сваёй волі не хацеў ніхто. Таму і змагалася паўтарагадовая Ала за сваё права засынаць пад спевы калыханкі, калі з'явіўся больш законны прэтэндэнт на калыску – брацік Валер. Карысталася з таго, што ён пастаяць за сябе не мог, і крычала: «Мяне,

мяне!», што азначала: мяне пакласці ў калыску першай. Рады іншае, як толькі класці абодвух, не было, бо Ала паказвала характар, выхоўваючы цвёрдасць, ад якое ўсё жыццё імкнецца пазбавіцца.

Валера ўжо калыхала цёця Ганна, якая застанецца нашай няняй назаўсёды. Яе прывозілі з хутароў кожны будзённы дзень, бо дэкрэтны адпачынак быў вельмі мізэрным, а мама, настаўніца, павінна была ісці вучыць дзяцей. А часам цёця Ганна і сама прыходзіла, хоць заміж аднае нагі пратэз мела...

З'яўляецца неяк цёця Ганна да нас пасля нядзелькі, а мама ёй з страхам кажа: «Што ўчора было, Ганначка! Ала праснулася і стала Валерку на твар. Добра, што заплакаў і я пачула...» Але гэтую навіну цёця Ганна ўспрыняла зусім спакойна: «Была б бяда, каб Валер на Алін твар стаў. Колькі тае Алы!» А і праўда. Ала была тоненькая, як звіхлячок, лёгкая, як пярынка, а Валер, няўрокам кажучы, добра вагу набіраў, паесці любіў, гурманскія схільнасці з калыскі ў сабе выхоўваў. Еў, спаў, прыбываў. Толькі б суха было. Макрэчы не выносіў. Калі нарадзіўся ў мяне сыночак, цёця Ганна шчыра пажадала, каб быў ён у мяне такі ўдалы, як у яе Валерк*о* калісьці: еў, спаў, прыбываў.

Вось жа стаць на Алін лялечны тварык ён ніяк не змог бы, каб і хацеў, бо доўга ножкі хадзіць не жадалі. Вельмі рана гаварыць пачаў. Б'е па нагах і кажа: «Крывулі, чаму ні ходзіця?» А ўжо калі пайшоў, то адразу і панёс усё, што ні давалі. Аднойчы бацька прынёс пуд цукру (хіба на працадні выдалі). Даў Валеру, і той перанёс праз хату. І на біс гэты нумар юны асілак неаднойчы выконваў. Але прыйшла цёця Ганна, убачыла і катэгарычна забараніла: «Што гэто вы ўздумалі: дзіцяці гэдакі цяжар даваць!»

Сёння нямодна і, сцвярджаюць, не карысна калыхаць немаўлятак, якіх ужо і не спавіваюць. І калыханкі мала хто ім спявае. Няўжо нашы продкі меней разумелі?..

## *Частка II*

## *Мушу захаваць*

*Узгадцы пра мае абразкі, надрукаваныя ў другім выпуску альманаха «Новы замак», паведамлялася, што напісаныя яны пра знакамітых людзей вёскі. У таго аглядальніка, які, відаць, не чытаў тэкст, спрацавала інерцыя: калі пішуць, то пра вядомых.*

*Вось жа, не было ў маім Шчонаве ні аднаго чалавека, знакамітага ў агульнапрынятым сэнсе гэтага слова. Але дазволю сабе дапоўніць класіка:* **кожны** *чалавек – гэта цэлы свет. І няма для мяне людзей «простых», бо кожны – асоба з сваім непаўторным светам. Мілыя для мяне падзеі даўняга шчонаўскага жыцця, згадкі пра дарагіх людзей, многія з якіх ужо даўно знайшлі спачын на высокай шчонаўскай гары, мушу захаваць, бо напісанае застанецца.*

## *Лубін*

У шасцідзясятыя гады ніхто з шчонаўцаў не замыкаў сваіх хатаў. Не памятаю нават, ці быў у нас замок. Уявіць немагчыма было, каб нехта зайшоў у чужую хату і нешта вынес.

А вось красці ў калгасе ніякі маральны закон не забараняў. Асабліва даставалася таму, што расло. Праўда, і тут была пэўная іерархія: што красці больш грэшна, а што зусім не. Цёця Ганна Юлькава з гумарам абуралася: «Лубіну нажаць – хіба ж гэто красці? Во картоплю ці бураке…» Ну і даставалася тому лубіну ці не найбольш. Як звечарэе, то і збіраецца кабета з самай надзейнай на той час суседкаю ў поле, узяўшы серп і дзяружку. Сабралася аднойчы і мая мама. Хоць і вельмі пераживала: настаўніца, а красці даводзіцца. Бо чым нашы свінні горш за іншых? Бацькі тады дома не было, пры ім бы ніколі не пайшла. У Магілёве вучыўся. Усё на маме. За каляжанку выбрала маладую суседку Зіну Парасчыну, таксама не вельмі дасведчаную ў той справе. А поўня свяціла. І так далёка відаць было. Ідуць і страху адна адной наганяюць.

Лубін тым летам рос на гары каля могілкаў. Толькі дайшлі, жаць сталі, раптам бачаць: з могілкаў выходзіць чорны цень, высозны, страшэнны. Вочы ж у страха вялікія. Перапалохаліся бедныя, леглі ў лубін ні жывыя ні мёртвыя. А цень на іх насоўваецца. Калі параўняўся, пазналі суседку Тамару Мішышыну, якая ішла, пэўна, са свайго поля, што было ля самых могілкаў…

Супакоіліся трохі. Зноў жаць пачалі. А тут па сцежцы з хутароў Вера Лідзіна з сваім Іванам ідуць. Ізноў леглі нашы зладзейкі ў лубін і чакаюць, каб непажаданыя сведкі прайшлі. Параўняліся, а Вера і кажа: «Іван, во сюды ідзі». І паказвае якраз туды, дзе мама з Зінай схаваліся. Ускочылі яны і пабеглі дадому напраскі праз той лубін…

Памятаю, як праз нейкі час, зімою ўжо, мама з крыўдаю выгаворвала Веры, з якою сябравала, што толькі адзін раз у лубін і схадзіла, а яна яе выкрыць захацела. Бедная Вера таксама тое памятала, апраўдвалася: «Казала Івану, каб ішоў туды, бо там лубін высокі быў, мы таксама нажаць хацелі,

а адтуль нехта як паляціць. Мы і не пазналі, хто гэта быў. Перапалохаліся…»

## *Жорсткасць*

Ці была яна наогул характэрна для маіх шчонаўцаў? Яшчэ як. Як і вялікая дабрыня. Так, яе можна апраўдваць нястачай. Але ж праяўлялася яна далёка не ва ўсіх.

Неаднойчы чула пра тое, як гаспадар Дубень Рыгор з шчонаўскіх хутароў карміў свайго сабаку. Налівaў поўнае вядро вады, на дно кідаў дзве вараныя бульбіны. Бедны сабака, заўсёды галодны, заўсёды на ланцугу, піў тую ваду. Аж бакі яму выпіналіся. Падаў. Уставаў. Ізноў піў, бачачы бульбіны. Ці ставала яму сілаў адчуць іх смак, калі ўжо, урэшце, уся вада была выпітая?..

Мне, малой дзяўчынцы, было вельмі балюча чуць пра гэта. Хацелася неяк змяніць гісторыю, падказаць беднаму сабаку выйсце: «А чаму ён не перакуліў вядро, не выліў ваду?» Але ў жыцці, і ў сабачым таксама, нічога змяніць нельга…

Пра нешта падобнае даведалася пазней. Ужо пра тое, як іншы гаспадар, бацька, карміў сваіх дзяцей. У вайну замік цукру падсалоджвалі ваду сахарынай. Пару таблеткаў на кубак. І гэта з лустай хлеба быў наедак. Цётка Ніна Пасэсарава сказала неяк: «Здаецца, каб цяпер мне тае вады з хлебам далі, то наелася б…»

Вось жа, Мікіта Чайка даваў сваім дзецям вады, кінуўшы на дно кубка кавалачак белае эмалі, адбіты ад посуду. Дзеці мусілі выпіць ваду, чакаючы, калі ж «сахарына» ўрэшце растане і стане салодка…

## *Смерць Сымона*

Хіба адзіная такая смерць чалавека ў маім Шчонаве.

Было гэта ў 1940-ым годзе. Памятаюць старыя людзі халодныя зімы тых перадаваенных часоў. Баяліся, каб бульбакарміцелька ў склепах не памерзла. Печкі там ставілі ці вуголле з хаты насілі. Так і Сымон. Пайшоў у склеп бульбу даглядзець ды ўчадзеў. Жонка і не ўбачыла адразу, бо дачку



*Такою вырасла Сымонава дачка Жэня*

малую даглядала. Толькі тры месяцы Жэні было, грудзьмі яе карміла.

Знайшлі Сымона, а ён ужо мёртвы.

Нагаравалася ўдава, з трыма дочкамі застаўшыся. Нагараваліся дочкі, без бацькі гадаваныя. Жэня нат пятнаццаць гадочкаў не мела, калі на ферму калгасную пайшла кароў даіць. Усе ведаюць, якою невыносна цяжкаю гэта праца тады была. Усё рукамі рабілі, усё на сваіх плячох насілі.

У хаце бацькоўскай Мілка засталася. Так і пражыла адна. Працавітая, трывушчая была. Першая з сёстраў на шчонаўскую гару выбралася. Недалёка ад бацькоў пахаваная.

## *Пост старое Юльчыхі*

Юльчыха была вельмі набожнай. А ўжо пасты спраўляла заўсёды. І шчырым постам пасцілася: нічога ў рот, апроч вады і хлеба, не брала.

Было тое незадоўга да яе сыходу. Старэнькая была. Зусім змарнела. І ў галаве цямнее, круціцца, і ледзьве ногі валочыць. Ні на якія ўгаворы, каб хоць што скаромнае з'ела, не паддаецца. Ніякое рады нямашака. Хоць бы малака выпіла.

Надумаліся да яе доктара запрасіць. Прывезці яго меўся брыгадзір Коля Барэйкаў. Перад тым дамовіліся: па дарозе доктару патлумачыць мусіў, што недамаганне ад таго надта шчырага посту, папрасіў, каб той і лячэнне адпаведнае назначыў.

Прыехаў лекар, паслухаў бабулю, ціснenне змераў. Зусім нізкае. Пакінуў вітамінаў, нейкіх лекаў. А галоўнае: мусіць быць добрае харчаванне. «Як жа, доктарко, пост жа?» – паспрабавала пярэчыць старая. «І ў пост можна, калі такі дыягназ», – строга прамовіў лекар. Не слухацца яго ніяк не выпадала.

Так мусілі родныя падмануць старую кабету. Дзеля яе карысці. Праўда, апроч малочнага, нічога не ела. Але і таго досыць бало. Хутка адышла. І ў галаве круціцца перастала.

## «Як мядзведзь на дзерава залезя»

Згадала гэта ў час прэзентацыі новага «Беларускага настольнага перакіднога краязнаўчага календара», што ствараецца ахвярнай працай прафесара Гродзенскага дзяржуніверсітэта Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча на матэрыяле Гарадзеншчыны. Размова зайшла пра адрыўныя насценныя календары, якія былі ў большасці нашых хатаў і выконвалі некалькі функцыяў: адукацыйную, пазнавальную, эстэтычную, гаспадарчую. Звычайна лісткі штодня адрываліся, папера скарыстоўвалася ў гаспадарскіх патрэбах. У нас лісты не адрываліся: была прыгожая, каляровая кардонка, на якой каляндар замацоўваўся гумкаю, што трымала скарыстаныя лісты.



*Валерко Барэйкаў на новым роварчыку. Ліпень, 1965 г.*

Канец шасцідзясятых. Наш бацька вучыцца ў далёкім горадзе. На маміных плячох, апроч школьнае працы, трое дзетак, немалая гаспадарка, агарод, соткі… Кожны бацькаў прыезд – свята. На пытанне малога Валерка: «Калі папа

прыедзе?» – мама адгортвае старонку календара, паказвае той дзень. Гэта было пытанне, якое суседзі часта задавалі ўсім нам. Дзіўна было цікаўным цёткам чуць ад Валера незразумелы адказ: «Як мядзведзь на дзераво залезя». Калі ж прыйшоў той шчаслівы дзень і мама перагарнула старонку, убачыла намаляванага мядзведзя, што лезе на дрэва.

## Самая верная сяброўка

Фаня Сцяпанава была самай вернаю мамінай сяброўкаю. Жыла недалёка, праз хату. Штодня ў нас бывала. Хоць на хвілінку прыбяжыць. Усе працы вялікія маме дапамагала спраўляць.

Жыла з бацькамі, пасля іх сыходу з дачкою Людай засталася. Працавала на ферме. Якая гэта катарга была! Брала мяне цёця Фаня на ферму. Цікава было паглядзець, што ў тым кароўніку робіцца. Як зараз, бачу тыя вялізныя бідоны, поўныя малака, што ўдзвюх уздымаюць даяркі. Як зараз, чую той едкі пах, настоены на прэлым сене, малацэ, гноі. Не, зусім не гадкім ён быў: сенажу і сіласу тады яшчэ не было. Памятаю, як дзялілі сена на няроўныя кучкі для кожнай даяркі, затым цягнулі саломінкі: хто большую выцягне, таму і сена болей. Такая вось гульня была. Тады ўпершыню дазволілі мне кароўку падаіць. Паспрабаваць. Не зусім гэта ўдалося, але – памятаецца…

Як пачалося тое сяброўства, цёця Фаня неаднойчы згадвала: «Думала я: хіба ж я, даярка, ды ёй, такой разумнай, настаўніцы, роўня?» Вось жа, вывезлі ёй гной на соткі, што побач з хатай. Выйшла разбіваць адна ды пасля дойкі ранішняе. Бачыць, ідзе да яе Валя Барэйкава. «Ды са сваімі вілачкамі!» Менавіта так і казала: вілачкамі. Каб і праз слова пяшчоту да суседкі выказаць. Кажу ёй: «Пятроўначка, у Вас жа свае работы поўна. Ці ж Вам, настаўніцы, мне такую брудную работу рабіць?» А тая ў адказ: «Дзе ж Вы адна ды на ўсе соткі разаб'яце? Я да ўсякай работы прывычная».

Няўдала замуж выйшла. Мама неаднойчы абуралася: «Хіба ён Вас, Фанечка, такое прыгажуні, варты быў!?» Як і не была замужам: з'ехаў у Мінск і там другую знайшоў. Рас-

казвала цёця Фаня, як ездзіла ў той Мінск. Знайшла яго, а там і сапраўды тая другая. Пасядзелі, пагаварылі. Пыталася ў яе: «Ну, з кім мой мужык спаць ляжа: з табою ці са мною?» Гэта такая бравада была. Не вярнуўся яе муж у Шчонава.

А цёця Фаня і сапраўды незвычайна прыгожай была. Нават і ў старасці тварык гладкім, румяным застаўся. А постаць якая спраўная, рост высокі. Валасы цёмна-русыя, густыя, вочы вялікія, выразныя. Толькі шчасця Бог не даў…

Калі мы пакідалі Шчонава, плакала цёця Фаня, плакала мама. Такое вернае сяброўкі ў яе больш ніколі не было.

Дадзена было ім сустрэцца перад самым сыходам маміным. Прывезлі яе ў Райцу да доктара. Цёця Фаня ў чарзе сядзела, а мама прайшла і не павіталася. Ёй так балела, што свету белага не бачыла. Калі ж выйшла ад доктара, заўважыла сваю сяброўку, абняліся яны. І развіталіся. Назаўсёды.

## *«Ежмо і гаварэмо»*

Ганна Юлькава асабліва цаніла людзей, што ўмеюць пагаварыць. «Яна ж такая гутарлівая!» – найвышэйшая ацэнка кабеце. Вымаўляла тое слова з націскам на першым складзе, расцягваючы, быццам смакуючы. Але ўсяму ёсць мяжа.

Заўсёды дапамагала ў тых працах, дзе не патрабавалася хадзіць, бо ў шаснаццаць гадоў нагу страціла. Восенню каму толькі буракі ні церабіла. Тым разам Адамовічам. І дачка іх старэйшая Люда таксама прыехала з Наваградка.

«Але ж галаву адурыла! Гаворыць і гаворыць. То пра дачку сваю, як яна нейкія булкі пячэ, то яшчэ нешта…» Кажу ёй: «Вы ж любіце гутарлівых». «Дык ні на хвіліну не сціхла. Думаю: зараз есці будзем, то хоць памаўчыць, а яна ўсё гаворыць і гаворыць. Кажу ёй: «Давайце ўжо есці». А яна: «Дык ежмо і гаварэмо…»

## *Шчонаўскія краўчыхі*

Шчонаўскія кабеты рэдка куплялі гатовыя сукенкі, бо і дорага было, і выбару не было асаблівага. Краўчыха ж пашые як скажаш, дапасуе да фігуры. Мама часта шыла ў Фані Лысішынай. Думаю зараз: калі яна яшчэ і шыць паспявала,



*Шчонаўскія дзяўчаты, убраныя мясцовымі краўчыхамі.*
*Злева направа: Маруся Маздзюкова, краўчыха Жэня Апанасава,*
*Жэня Якубава, Анюта Петрукова,*
*Фаня Сцяпанава, Анюта Уладкава*

даяркай працуючы, усе жаночыя хатнія справы робячы? А яшчэ ж дзялкі, соткі…

Умела дагадзіць маме Вера Лідзіна. Яна і да гэтага часу згадвае, што мама задаволеная была яе сукенкамі. Чамусьці не запомнілася мне, ці шыла маме Валя Зенкевічава. Згадваюць і яе швейныя здольнасці шчонаўскія кабеты.

У блізкім Хвалаве жыла краўчыха Ніна Цярэшка, або Батурыха, як яе ўсе клікалі па мужавай мянушцы. Часам і да яе шво насілі. Праўда, яна брала неахвотна, бо працавала санітаркай у Райцы ў шпіталі. Але ўжо сваіх дзяўчат Ліду і Тамару апранала так прыгожа, так стыльна, што ніхто такімі строямі пахваліцца не мог. Густ жанчына мела не абы-які.

І сёння памятаю, якую прыгожую сукенку пашыла мне Тоня Алёшышына. Тканіну бацька з Масквы прывёз. Гладкая, бліскучая, яркага, настуркавага колеру. Сукенка была заказана прыталеная, у складачку, з паясочкам і белым каўнерыкам.

Мая стрыечная сястра Ніна Каціна на ўсё жыццё запомніла сукенку, якую ёй сшыла Лапаціха, жонка настаўніка. Пры-

гожая тая сукенка была, уся белая, а ўнізе кайма каляровая. Дзяўчынка вельмі любіла гэтую рэч, апранала толькі па святах.

Часам не выпадала каму да краўчыхі ісці. Тады свае здольнасці шчонаўскія ўмеліцы праяўлялі. Маруся Алёшы Канцавога пашыла сукенку для саваёй сястры Люсі рукамі, бо машыны не мела, а дзяўчынцы ў Райцу на свята ісці трэба было. Вельмі хораша атрымалася.



*Маладыя, прыгожыя: стаяць Таня Тунікава, краўчыха Тоня Алёшышына, Люба Ёўнава. Сядзяць Маня Прымачышына і Ліда Алёшышына*

А вось усё хатняе шво: навалачкі, простыні, зарубіць, залатаць, сукенку на фартух перашыць – рабіла для нас цёця Ганна. Да гэтага часу захоўваецца ў мяне некалькі яе працаў. Захоўваю з удзячнасцю і замілаваннем, згадваючы яе спрытныя ручкі.

## Але ж харошая матэрыя!

Волька Барэйчыха мела сакрэт: тканіну на сукенку купляючы, моцна рукамі яе расцягнуць. Адвярнуўшыся, каб ніхто не заўважыў. Часта тая тканіна не вытрымлівала, надрывалася. Ганьбу такой рэчы старая давала адразу.

Самае галоўнае патрабаванне было, знак якасці ад старое Барэйчыхі, каб сукенка насілася доўга, каб зносу ёй не было. Ды каб яшчэ і пераліцаваць можна было, калі на сонцы выцвіце. Але калі ўжо выбера да густу, то нарадавацца не можа: «Але ж харошая матэрыя! Ну і сукенка будзе!»

## Шчонаўская полька

Танцы (гулянё) у Шчонаве былі святам для ўсіх. І старыя, і малыя прыходзілі. Стратэгічнымі пазіцыямі сталых жанчынаў былі месцы на лаўках, пры сценах. Каб усё згле-



*Шчонаўскае гулянё. Злева направа: Жэня Максімава з Валодзем Міхасёвым, Надзя Захара Навумчыка (сястра Тамаша), танцуюць Маня Аляксандрава і Фаня Сцяпанава (кавалераў не пазналі), Ганна Юлькава, Алёша Барэйкаў, Чайка Коля (у шапцы, невысокі), Алёша Настулін каля музыканта Юзіка Барынавага*

дзець, каб назаўтра ні аднае костачкі маладое перамытае не засталося.

Танцавалі па хатах, у цёплы час на вуліцы, але часцей у школе, якая вечарамі ператваралася ў клуб, каб пасля закрыцця школы да зруйнавання назаўсёды ў яго ператварыцца.

Модны вальс, вясёлы кракавяк, шляхетны падэспанак часцей за ўсё выконваліся мясцовымі музыкамі. Але самым улюбёным шчонаўскім танцам была полька. Не тая недарэчная паскакуха, якую толькі і ведаюць сёння. Гуляць польку трэба было так, каб яйка, на галаву пакладзенае, не ўпала. Без усялякіх падскокаў, роўненька, лёгенька, прытупваючы, круцячыся то ўправа, то ўлева.

Разагрэюцца дзяўчаты, польку за полькаю скачучы, выйдуць у марозны вечар і на снег палягуць. Адыходзяць ад стомы, каб ізноў, вярнуўшыся, польку гуляць.

Вельмі любіў польку мой бацька. Добрым танцорам быў. Але не ягоны воблік паўстае перад маімі вачыма, калі шчонаўскія танцы згадваю, а Казакевіча Аркадзя, які, моцна

прытупваючы, гуляе польку ў хаце Мілкі Лысішынай. Перакрыкваючы музыку і тлум, танцор па-заліхвацку прыпявае, бясконца паўтараючы адно і тое ж: «Эх, давай, давай, давай, не прыгаварывай, давай!»

З тых шчонаўскіх гуляняў мае першыя танцавальныя ўрокі і любоў да танцаў, даўніх, вясковых.

## Надзя-танцорка

Як кожнай маці, Марылі Адамавічавай з хутаранскага Кліну яе дачушка Надзя наймілейшаю была. А пахваліцца асабліва і не было чым. Не тое што брыдкаю Надзя была, але і не прыгажуняю. Ды і іншых нейкіх здольнасцяў не мела. Маці ж вельмі хацелася дачкою перад суседкамі пахваліцца.

Здавалася Адамавічысе, што дачка яе вельмі хораша танцуе. То і казала жанчынам неаднойчы: «От мая Надзя хораша гуляя: тупая ўправо, а круціцца ўлево!»

## Ракач і гадзіннік

Дачакалася і Надзя свайго нарачонага. З'явіўся да яе ў сваты Мікалай Ракач з далёкае вёскі. Усё добра заладзілася. Вяселле надоўга адкладваць не сталі.



*Ракачова вяселле. Брама, сустракаюць маладога*



*Сястра Ракача, малады з маладою, брат Надзі Міша*

Мела Надзя наручны гадзіннік. Вельмі ён у вока маладому ўпаў, мо не меней, чым маладая. Бо ніколі хлопец такое рэчы дарагое не меў. Надзеў ён той гадзіннік сабе на руку і ўсё вяселле прасядзеў, на прыгожую цацку гледзячы. Адгорне рукаў піджака і любуецца. Задаволены, шчаслівы!

А дзяўчаты вясковыя, што пад вокнамі стаялі, усё выгледзелі. Бо чаго ж яшчэ на вяселле хадзіць, каб такую навіну ды не згледзець?

## Манька-Паштарка

Манька Юлькава жыла са сваёю сястрою Ганнай. Была калекай: не вырасла, на адно вока не бачыла, вельмі дрэнна чула.

Яшчэ зусім малою дзяўчынкай была, як тое калецтва займела. Раззлаваўся чагосьці на яе суседскі хлопец, схапіў кій, што пад руку трапіў, і смальнуў Маньцы па галаве. Так і не вырасла, аглухла і аслепла. Але ўсе цяжкія мужчынскія працы па гаспадарцы рабіла: арала, касіла, дровы ў лесе

нарыхтоўвала, секла… Дзе і сілы браліся ў такое маленькае?

Вельмі любіла малых хлопчыкаў. Калі кабета дзіця чакала, найлепшым Маньчыным пажаданнем было: каб хлопчык нарадзіўся. Як радавалася, калі ў мяне Максімка на свет з'явіўся!

Калі малы шчонавец падрастаў, гаварыць навучаўся, праводзіла з ім Манька «курс маладога байца» – так сама гаварыла. Вучыла лаяцца. Калі мама яе папракала, ці ж можна, каб дзіця такія словы казала, адказвала: «Які ж мужчына вырасце, калі лаяцца ўмець не будзе?» Праўда, тая лаянка ў параўнанні з сённяшнім брудам, што льецца адусюль, з вуснаў не толькі мужчынскіх, была цалкам бяскрыўднаю.

Апошнія гады зусім не бачыла. І другое вока выцекла. Але нейкую дзіўную здольнасць мела: памятала даты, святы. Сядзіць на ложку, перабірае пальцы на руцэ, нешта шэпча, вылічвае. А пасля і абвесціць сястры: сёння такое і такое свята, або – сёння ж Алін Максім нарадзіўся!..

Вось жа, працавала калісьці ў 60-ыя гады Манька паштаркаю. Праўда, нядоўга. То газету не прынясе, то ліст надта доўга трымае. Не вельмі тую службу шанавала: работы па гаспадарцы хапала. Звольнілі яе. Не надта й бедавала. Але мянушка гэтая – Паштарка – за ёю так і засталася назаўсёды.

## *Доля*

Шчонаўцы вельмі баяліся грому, маланкі. І недарэмна. У памяці многіх засталася сумная карціна смерці вясковай кабеты Гіль Марылі, Юркавай жонкі. Пасіраціла малых дзяцей. Нацярпеліся бедныя без мацеры.

Загінула жанчына ад грому. Сядзелі за сталом з суседкай Мішыхай, аж уляцеў той страшны Пярун у хату і забіў гаспадыню. А суседку нат не крануў. Такая вось доля…

Таму, калі гром грымеў, розныя засцярогі рабілі: вокны завешвалі, юшку ў коміне закрывалі. Не дай Божа, валасы каб у акне відаць былі, бо ж маланку прыцягнуць могуць. Як зараз памятаю тое адчуванне страху, што ўсіх ахоплівала.

Праўда, нам, малым, яшчэ і цікава было, як той гром страляе, як маланка паліць.

А Мішыха пазней замуж за Колю, сына Марылі, выйшла. Таксама доля…

## *Ягады Веры Трахімавай*

Баба Вера Трахімава хадзіла ў ягады ў Захомы разам з іншымі кабетамі. Але колькі адзінокай старой тых ягад трэба? Нарве яна збанок і перасыпле ў вядро сваёй дачцэ Валі. Ідуць жанчыны дахаты не заўсёды з поўным вядром, бо не паспеюць: работа ж дома пільная чакае. Ды і ягады не заўшы добрыя. А Валіна вядро поўнае.

Вера была чужаніцаю ў Шчонаве. Прыйшла сюды замуж з далекаватага Палужжа. Не надта яна ўмела з суседзямі ладзіць. Нават з самымі роднымі: дачкою, сынамі, нявесткамі. Ні з кім не сябравала. А вось мама мая ніколі з ёю нядобрым словам не перамовілася. Відаць, у знак асаблівай прыязнасці да настаўніцы сыпаліся часта Верыны ягады і ў маміна вядро.



*Вера Трахімава са сваякамі-суседзямі. Злева направа: Пеця Трахімаў, Валодзя Валі Трахімавай, бабуля Вера, Тамара Алёшы Канцавога, Коля Валі Трахімавай, Ніна Пецева, Іван Трахімаў з жонкай Фаняй Лысішынай, іх дзеці Ваня і Света. Сярэдзіна 1960-ых г.*

## Абрамовічавы жарты

Мікалай Абрамовіч пражыў доўгае жыццё, амаль сто гадоў. Мяркую, і таму, што любіў жартаваць. Не заўсёды ягоныя жарты былі лагоднымі, часам ператвараліся ў высмейванне, часта выклікалі абурэнне і злосць. Але былі яны не пазбаўленыя досціпу. Таму і вартыя згадкі.

### Лісіныя шкуры

З'яўленне падводы жыда-ганучніка было ў Шчонаве не абы-якою падзеяй. Вельмі ж прыгожыя хусткі ён прывозіў. Аплатай былі ганучы, старая вопратка, шкуры. Абрамовіч і кажа вазніцы: «Заедзь у тую хату, там лісіныя шкуры набудзеш». І паказаў яму на двор Мікалая Лукошкі. Туды і скіраваўся абрадаваны ганучнік.

А што было далей, хай вам, шаноўныя чытачы, намалюе ваша ўяўленне. Падкажу толькі, што мянушка гаспадара, на якую ён вельмі злаваўся, была Ліс…

### Варвара і камень

Шчонаўцы часта вазілі прадаваць яблыкі. Часам вельмі далёка: у Мінск і нават у Маскву. Між мужчынаў, што тым разам вярталіся з продажу, былі Абрамовіч і Варвара (такую мянушку меў Коля Дубень). Вырашыў Абрамовіч пажартаваць з наіўнага, недалёкага Варвары. Калі, выехаўшы з Мінска, замочвалі дзесьці пры дарозе ўдалы гандаль, падняў камень, даў Варвары і сказаў: «Трымай!»

Ездзілі тады на грузавых машынах па шасэйных дарогах. Каля чатырох гадзін з Мінска дарога займала. Уявіце, як рагатаў у душы Абрамовіч, увесь гэты час гледзячы на Варвару, які паслухмяна трымаў у руках камень. Аж да самых Карэлічаў, дзе ўрэшце спытаў: «А што далей рабіць з камнем?» – «Кінь», – прагучаў лаканічны адказ шчонаўскага жартаўніка.

### Піскунова самагонка

Абрамовіч працаваў на мельніцы. Вядома, што змолатае збожжа мусіць быць «замочанае». Юзік Захарчук, па мянуш-

цы Піскун, не забыўся прыхапіць бутэльку самагонкі, якую жартаўлівы Абрамовіч незаўважна падмяніў на бутэльку з вадою.

Селі мужыкі пасля працы, закусь расклалі. Мельнік і кажа: «Твая гарэлка, ты і налівай сабе першаму». Глытнуў Піскун «гарэлкі», анямеў на хвіліну ад неспадзеўкі, а тады ўсе вядомыя на той час у вёсцы маты выпаліў на адрас свае жонкі. Ды з абяцанкаю добрага прачуханца ёй даць. Быў пэўны, што гэта яна гарэлку на ваду памяняла. «Падставіла» мужыка.

«Не раві! Во твая гарэлка», – дастаў Абрамовіч схаваную бутэльку, каб супакоіць раззлаванага Піскуна-крыкуна.

### *У адведзіны*

Адна шчонаўская ўдава вельмі сталага веку прыняла прымака. Мужчыну значна маладзейшага.

Родам яна была з іншай вёскі. І трэба ж было яе сваякам сустрэць Абрамовіча. То і пытаюцца: «Як там наша сваячка маецца?» – «Добра, дзіця нарадзіла», – быў адказ.

Дзе радзіны, там і адведкі. Сабраліся сваякі, падарунак купілі і прыехалі ў Шчонава. Пад'язджаюць да двара сваячкі, а яна ў градах. Прывіталіся і да справы: «Дзіця паказвай».

Зразумела, што гэты зусім не бяскрыўдны жарт вельмі абразіў паважаную жанчыну. А каго б не абразіў? Доўга яна на Абрамовіча злавалася, не размаўляла.

Але ж і сваякі тыя які розум мелі? У такі цуд наіўна паверылі, уявіўшы жанчыну ледзьве не біблейскаю Сарай…

## *Не на плоце вісела*

Калі Вы, шаноўны чытач, асоба далікатная, шануеце сваё гжэчнае ўяўленне, то можаце прамінуць гэты абразок.

Многія шчонаўцы з'ехалі пасля вайны ў далёкі край, у Мурманскую вобласць. Па-рознаму там уладкаваліся. Але амаль ніхто ў беларускі калгасны рай не вярнуўся. Была між тых эмігрантак сястра Косціка Яўсея Вера. Спачатку быццам няблага там было, грошы мела, адзенне справіла. Дачку

нарадзіла. Ды дахаты хацела, у лістох пра гэта пісала. Сваякі прапанавалі вярнуцца. Але не ўжылася ў братавай сям'і. Хадзіла па хатах, прасілася пажыць. Ніхто не пусціў. Вымушана была зноў з'ехаць. Але ўжо на ногі там не стала. Не надта ёй жылося. Дачка тым часам падрасла. Пісаць лісты стала да стрыечнае цёткі Ганны Юлькавай. Кожны ліст у вёсцы пераказваўся, каментаваўся. Шкадавала яе Ганна. Нічога добрага ў жыцці дзяўчына не бачыла. Бо з самага ранняга юнацтва надта ж Лена шмат у сваіх лістах пра хлопцаў расказвала. З кім сустракаецца, хто дахаты праводзіць. І ўсе яе надта любяць. То і не дзіва, што ў хуткім часе прыйшла ў лісце навіна пра будучае дзіцятка. Пісала пра гэта без скрухі. А гэта ж яшчэ сямідзясятыя гады былі, калі вёскі нашы даволі цнатлівымі меркамі кіраваліся. Асабліва падліло вады ў агонь паведамленне, не без гонару выказанае будучай маці: «Дакладна ведаю, ад каго дзіця будзе». Тут ужо цётка Ганна не стрывала, каб у лісце-адказе не ўкалоць: «Канешне ж, ты, Ленка, ведаеш, ад каго ў цябе дзіця. Бо яна ж у цябе паміж ног была, а не на плоце вісела».

Толькі ці зразумела тую горкую іронію недарэчная дзяўчына? Лісты ад яе ісці перасталі. Думалі ў вёсцы, што прапала яна. Ці жывая, ніхто і не ўведаў.

## *Частка III*

## *У гады вайны*

*Прайшлася вайна па маім Шчонаве, прарэдзіла людскую грамаду. Зусім маладзенькія хлопцы і маладыя, здаровыя мужчыны палеглі недзе далёка ў брацкіх магілах, зніклі без вестак. Маладыя, здаровыя кабеты, іх жонкі, ураз пастарэлі, весткі страшныя атрымаўшы. Да пераліку гэтага сумнага дадамо і дзетак іхніх, што яшчэ нарадзіцца маглі б.*

*Ды і тут у часы тыя страшныя гінулі людзі. Па розныя бакі вайны.*

## Летам 41-га

Як пачыналася вайна ў маім Шчонаве? Тыя, хто гэта памятаюць, кажуць: «Прыйшлі немцы». Нашы людзі спрадвеку жылі тут, а ўлады прыходзілі і сыходзілі.

Цётка Фаня Лысішына расказвае, што прагналі немцы саветаў. Ішлі яны з Галянова праз двор панскі. І тэхнікі усялякае было поўна. Ніхто не ўцякаў, ніхто не баяўся. «А чаго было баяцца? – пытае. – Тыя немцы былі прыгожыя, высокія, прыстойныя. Прыйшлі і пайшлі сабе далей».

Мужчыны, што працавалі ў двары, стаялі і глядзелі. Знаёмая карціна. Калі прыпыніліся адпачыць, звярнуліся да мужчынаў:

–За два тыдні Маскве капут.

Уладак, бацька цёткі Фані, нямецкую мову ведаў, бо ў маладосці быў забраны ў Нямеччыну на працу. Некалькі гадоў там прабыў. Удовін сын, не было каму заступіцца, то і забралі. Нат і не думаў ён тады, што з гэтае вайны, якая быццам паўз іх прайшла, ён не вернецца.

## Не вярнуліся

У кнізе «Памяць. Карэліцкі раён» пералічаныя мае шчонаўцы, што не вярнуліся з вайны. На помніках у Райцы і ў Карэлічах іхнія імёны выбіты. Хай ім вечная памяць будзе.

Хоць імёны іхнія пададзеныя, але разабрацца, хто ў гэтым спісе, цяжка. Тым больш людзям з маладзейшых пакаленняў, якія не вельмі ў мінулае ўзіраюцца. А ў Шчонаве маім суцэльныя Гілі, Таўлуі, Дубені, Навумчыкі, Яўсеі. Таму вырашыла расшыфраваць той спіс пры дапамозе старэйшых шчонаўцаў. Падаю яго з тлумачэннямі, поруч з імёнамі – мянушкі, па якіх лягчэй зразумець, чыя сям'я не дачакалася з вайны сына, мужа, бацькі.

### *Шчонава*

**Гіль Іван Антонавіч** – жанаты не быў, брат Мані Тамашыхі.

**Гіль Сідар Сідаравіч** – муж Марылі, бацька шасці дзяцей. Вядомы ў Шчонаве па мянушцы **Світко**.



*Гэтыя прыгожыя хлопцы не вярнулія з вайны.*
*Злева направа: Дубень Уладзімір Фёдаравіч (Паталоча),*
*Зайка Уладзімір Канстанцінавіч, ягоная жонка*
*Анюта Апанасава, Андрэй Юлькаў*

**Гіль Уладзімір Аляксеевіч** – муж Аляксандры (**Дудкі**), бацька дваіх дзяцей.

**Гіль Уладзімір Сідаравіч** – брат Сідара, муж Волькі, бацька траіх дзяцей. Вядомы ў Шчонаве па мянушцы **Лысы**. Сын ягоны Коля на бацьку быў падобны.

**Дубень Аляксандр Іванавіч.**

**Дубень Мікалай Сідаравіч** – муж Любы (Розы), бацька пяці дзяцей, мянушка **Сяннік**.

**Дубень Юлек Юльянавіч** – муж **Лізы**, бацька траіх дзяцей. Хата іх была на ўзгорку на хутарах, пазней тут пабудуецца Коля Варвараў.

**Мулярчык Іван Міхайлавіч** – муж Ганны, бацька чатырох дзяцей. Вядомы ў Шчонаве па мянушцы **Прымак**.

**Навумовіч Аляксандр Антонавіч –** ніхто не ведае гэтага чалавека. Не было ніколі ў Шчонаве людзей з прозвішчам **Навумовіч**. Відавочна, гэта памылка.

**Навумчык Антон Захаравіч** – муж Ганны (Антоніхі), бацька пяцярых дзяцей. Вядомы ў Шчонаве па мянушцы **Вясёлы.**

**Навумчык Захар Захаравіч** – малодшы брат Антона, сваёй сям'і займець не паспеў.

**Навумчык Мікіта Мікалаевіч** – муж Марылі, бацька траіх дзяцей. Вядомы ў Шчонаве па мянушцы **Джараджон.** Бацька Алеся, дзядуля Коліка па мянушцы **Зайчык**.

**Таўлуй Міхаіл Мікалаевіч** – муж Волькі **Мішыхі**, бацька Тамары.

**Трафімаў Іван Трафімавіч** – ніхто не ведае і гэтага чалавека.

**Цярэшка Мікалай Канстанцінавіч** – не было ў Шчонаве Цярэшкаў.

**Яўсей Андрэй Юльянавіч** – сын Юляка і Ганны па мянушцы **Чубкі.** Сваёй сям'і не меў.

**Яўсей Апанас Юльянавіч –** брат Андрэя, муж Волькі (**Апанасіхі**), бацька пяцярых дзяцей.

У гэтым спісе няма **Таўлуя Піліпа** са шчонаўскіх хутароў – муж Настулі, бацька Колі.

### *Хвалава*

**Гуцька Мікалай Міхайлавіч** – з Галянова, дзед Гены, Валодзі Гуцькаў.

**Дубень Уладзімір Фёдаравіч** – муж Юлі, бацька Шуры, мянушка ягоная **Паталоча.**

**Зайка Канстанцін Антонавіч** – мянушка **Булён**, муж Аляксандры, бацька траіх дзяцей.

**Зайка Уладзімір Канстанцінавіч** – муж Анюты, бацька дваіх дзяцей.

**Цярэшка Мікалай Сцяпанавіч** – муж Надзі (**Міколічыхі**), бацька траіх дзяцей.

**Цярэшка Уладзімір Сцяпанавіч** – муж Альжбеты, бацька дваіх дзяцей.

**Фрыдрык Піліп Піліпавіч** – муж Ганны (**Піліпіхі**), бацька траіх дзяцей.

## *Захаравічы*

Трое сыноў Захара Навумчыка былі забраныя на фронт. Двое не вярнуліся, Антон загінуў у Германіі, а Захар прапаў без вестак. Ёсць і такія між шчонаўцаў. Вельмі хацелася б

верыць, што выжылі яны, што трапілі ў якія далёкія краіны і жылі яшчэ доўга-доўга. Бо і такое бывала.

Вось жа, Захар быў зусім маладым, калі забралі яго ў войска яшчэ палякі. Відаць, у 1939-ым. Сямнаццаць гадочкаў меў. Добра памятае яго цётка Вера Лідзіна. Быў вельмі вясёлы, добры, любіў дзяцей. Збярэ малых, казкі ім расказвае, кнігі чытае. Дзяўчынка моцна любіла яго. Калі даведалася, што ў войска забіраюць, упала на зямлю, доўга плакала, што не ўбачыць Захара, не пачуе яго. І не ўбачыла болей ніколі.

Слаў Захар з фронту лісты дахаты бацькам, сястры Надзі. Сцвярджае цётка Вера, што знешне вельмі падобны на яго пляменнік Алёша, сын брата Тамаша, які таксама на фронт забраны быў, але, на шчасце, смерць абмінула гэтага Захаравіча.

## Сідаравічы

Двое сыноў Дубеня Зыдора (так спрадвеку ў Шчонаве Сідараў называлі) таксама на фронт узятыя былі. Міхась і Мікалай. Ажно да Берліна дайшлі. Міхась вярнуўся, шэсць баявых узнагародаў меў, між якіх медалі за ўзяцце Варшавы і Берліна. А вось брату ягонаму Мікалаю, з якім разам ваяваць давялося, вярнуцца не было наканавана. Загінуў ён пад Берлінам у апошнія дні вайны. Смяротна паранены, паміраў на руках у Міхася.

Добрым чалавекам быў Міхась, адукаваным. За Польшчаю сем класаў закончыў. Старэйшыя людзі памятаюць, якія грунтоўныя веды тады ў сямігодках атрымоўвалі. Мала хто далей ад пачатковае школы вучыўся. Таму і абралі яго брыгадзірам, калі калгас у Шчонаве арганізавалі. Доўга брыгадзірыў. Добрым словам яго людзі згадваюць.

## Вярнуліся

Да болю мала іх з тае бойні вярнулася. Успомнім фільм Мікіты Міхалкова «Натомленыя сонцам-2». Праўда, фільм мае фантастычна-шчаслівы канец, як ніколі не было ў баях за тыя страшныя вышыні. Зразумела цяпер, дзеля чаго іх у

44-ым бралі. І чаму так многа хлопцаў нашых беларускіх у канцы вайны палегла.

Да 25-й гадавіны перамогі, вясной 1970-га года, зладзілі ў Карэлічах святкаванне, парад удзельнікаў вайны. Падышоў Навумчык Тамаш да настаўніцы Валі Барэйкавай і кажа:

– Гляньце, хто тут ідзе. Адныя недабіткі засталіся. Там намнога больш нашых мужчынаў палегло.

Сапраўды, загінулі, па афіцыйных звестках, са Шчонава сямнаццаць чалавек і з блізкага Хвалава сем, а вярнулася значна меней: Навумчык Тамаш, Дубень Міхась, Дубень Алесь (бацька Фані Калеснік), Дубень Алесь (Чаркес), Таўлуй Уладак (Пасэсар)…

## Дэзерцір

Быў адзін такі ў Шчонаве. Дубень Апанас, муж Парaскі. Няшчасны чалавек. Прасядзеў некалькі гадоў у гумне, у склепе, хаваючыся, на свет белы не выходзячы. Жыў у вялікім страху. Як і ўся сям'я ягоная.

А ў іхняй хаце ў вайну і пасля вайны школа была. Дзеці, здавалася б, сваім занятыя, а ўсё навокал прыкмячаюць. Бачылі яны, як хадзіла Параска ў гумно, нешта пад хвартухом хаваючы. Згледзелі, што рукі пад ім трымала, быццам грэла. Есці мужу насіла жанчына.

Нарадзіла Параска сына Колю, які мянушку Дэзерцір з-за тых бацькавых схаваў атрымаў.

Ды хто мае права судзіць гэтага чалавека? Насуперак таму, чаму вучылі за саветамі, усё ж самае каштоўнае для чалавека – жыццё. А калі яшчэ невядома, за якія ідэалы гінуць патрэбна, то тым больш зразумець яго можна.

Як бы ні было, усё ж жыццё збярог. Бо палеглі нашы шчонаўскія мужчыны на тых вышынях, пераправах па ўсёй Еўропе.

## Адседзелі

І турма маіх шчонаўцаў не абышла.

Адседзелі ў страшныя сталінскія часы ў турме Таўлуй Уладзімір (Барын) і Кастусь Навумчык, якога ўсе Тунікам называлі. Па возе снапоў у калгасе ўкралі. Ажно па дзесяць

гадоў мужчынам далі. Гора зазналі. Хто данёс, як даведаліся, не памятаюць таго ў Шчонаве. Старшынёю (*прадсядацялям*) тады Лапацкі быў.

Да бедных удоваў пасляваенных шчонаўскіх яшчэ і гэтыя жанчыны, Барыніха і Тунічыха, дадаліся.

Вярнуўся Тунік надта *нервенны*. Рабіць усё ўмеў. ГУЛАГ усяму навучыў. Ды лаяўся матам страшэнна. Тады ў Шчонаве ніхто сабе такога не дазваляў. На жаль, сёння брудная лаянка наскрозь працяла маю вёску. Асабліва з вуснаў апошніх маладзейшых шчонаўцаў.

Васіль Таўлуй таксама ў турме адседзеў. Солтысам быў у вайну. Далі дваццаць пяць гадоў. Адседзеў быццам васямнаццаць. Абараніць мне яго хацелася перад шчонаўцамі:

–Нехта ж павінен быў тым солтысам быць. Сілаю назначылі. Ён жа нічога злога не зрабіў.

–Не, нядобры ён быў, людзей у абоз гнаў, выслужваўся.

Але самае галоўнае злачынства, якое яму прыпісваюць, – Аленавіча *ўдаў*. Выдаваць, даносіць, наогул, лічылася вельмі ганебнай справай. Так і казалі ў Шчонаве – *удаваць*. А тут немцам, фашыстам выдаў чалавека. На пакуты страшныя, на смерць.

Успамінае цётка Фаня Лысішына:

*Прыехаў з Гродна міліцыянер. Выклікалі мяне. Папку – на стол. І пытае:*

*– Як Васіль быў солтысам? Ці біў каго?*

*Я не хацела расказваць. А ён у папцы паглядзеў і чытая, што некі камсамолец чуў, як Васіль казаў пра Аленавіча:*

*–Біця яго, біця, сабаку гэтаго…*

Гэта не адзіныя сведчанні пра тое злачынства.

Адпакутаваў і Васіль сваё.

## Аленавіч

Неаднойчы чула пра гэтага чалавека ад цёці Ганны Юлькавай. Звалі яго Мікалай, гэта дзядзька Віці Афіцэравага. Але і сёння памятаюць апошнія шчонаўцы яго як Аленавіча.

На пытанне, чаму немцы схапілі Аленавіча, цётка Фаня Лысішына тлумачыць:

–Бо Аленавіч за саветаў быў. Як узялі, то страшно катавалі. Увесь збіты быў. Завезлі на машыне ў Піляке. Пусцілі. Ішоў у лукаты. Застрэлілі.

Загінуў страшнаю смерцю. Пахаваны на шчонаўскіх могілках. Чамусьці ў кнізе «Памяць» не знайшлося згадкі пра яго. А быў героем. Супраць фашыстаў змагаўся.

## Расстрэл, які не адбыўся

Пра гэта таксама ад цёткі Фані Лысішынай даведалася.

Прозвішча чалавека, які наклікаў смерць на Уладка Гіля (Лысага), Фанінага бацьку, Уладак Маковік, мянушка Кадлубай. Родны брат Параскі і стрыечны Тунічыхі.

Быў звязаны з партызанамі, што дыслакаваліся за Нёманам. Меў даўнюю крыўду на Уладка Гіля. Яшчэ з тых часоў, калі разам у пана Ждана служылі. Ведае гэтую гісторыю цётка Фаня, бо ад бацькі, непасрэднага відавочцы і ўдзельніка, неаднойчы чула.

Данёс Кадлубай партызанам на Уладка. Што ён там нагаварыў, хто ведае. Але з'явіўся ноччу ў хаце Уладка з двума партызанамі, якія забралі бацьку з сабою.

Калі даехалі да Пілякоў (недалёка ад Малюшычаў), заўважылі здалёку, што з Карэлічаў па дарозе едуць уласаўцы. Кадлубай адразу ж уцёк у двор. Уцёк і маладзейшы партызан. А старэйшы дапамогі ў Уладка просіць:

–Што рабіць? Ратуй!

У Малюшычах жыў даўні сябар Уладка Барыс, з якім таварышаваў яшчэ з мінулае вайны. Памчаліся да яго. Той схаваў небаракаў у сена. Наляцелі уласаўцы, але пашанцавала, не знайшлі. Хоць сена штыкамі ад вінтовак паролі.

Атрымалася, што Уладак партызана выратаваў. Даехалі яны да атрада, дзе той і расказаў пра сваё выратаванне. Адпусцілі партызаны шчонаўца. Яшчэ і сала з сабою далі. Даведаўся ён там, што хваліўся Кадлубай:

–Завязуць Уладка Лысаго за Нёман і расстраляюць…

Абышла яго смерць тым разам. Але не на доўга. Забяруць яго на фронт у 1944-ым. У тым жа годзе і загіне ў Латвіі.

## *Смерць ад партызанскае кулі*

Вайна не толькі забівала тых, хто змагаўся па розныя бакі. Яна часам рыкашэціла і трапляла ў людзей, што жылі, працавалі на сваёй гаспадарцы, ніякіх адносінаў да тае вайны мець не хацелі.

Так недарэчна загінуў на шчонаўскіх хутарах Мікалай Таўлуй, муж Гэлі Сахлэевай. На вачох суседзяў, жонкі і дзяцей. Зайшлі на іх надворак партызаны. Між іншых той жа Уладак Маковік (Кадлубай), стрыечны брат Мікалая. Вінтоўка ў партызана была зараджаная. Гаспадар трымаў на руках сына Віцю. А тут якраз прабягаў сабака. Кадлубай выстраліў. Куля зрыкашэціла і трапіла ў гаспадара. У жывот. Паспеў яшчэ сыночка з рук перадаць… Як тое было насамрэч, ніхто дакладна не скажа. Адны гавораць, у сабаку страляў, іншыя – проста выпадкова націснуў на курок…

Як пачуваў сябе той «ваяка», вяртаючыся ў атрад? Ці паведамлена было камандзіру пра ягоны «подзвіг»? Як наогул чалавеку жыць з такім грахом на душы? Не маю адказаў на гэтыя пытанні. Пэўна, усё яны на вайну спісвалі, а яна, у сваю чаргу, мусіла таксама ўсё спісаць.

Двое дзетак засталіся сіротамі, двое хлопчыкаў, Коля і Віця.

## *Смерць Кадлубая*

Урэшце і сам Кадлубай смерці не пазбег. Расстралялі яго партызаны.

Згадвалі шчонаўцы, што паставілі яго на варту, а ён уцёк да свае каханкі, што жыла недзе ля Мокрава. Даведаліся пра тое, прыехалі некалькі чалавек, забралі з хаты, прымусілі яму выкапаць. Паставілі перад ямай. Указ зачыталі. Быццам чатырнаццаць засадаў партызанскіх сарваў, немцам пра іх паведамляючы. Але не былі тыя партызаны, большасць з якіх нашы хлопцы вясковыя, да загубы чалавека здольныя. Ніхто не хацеў страляць. Тады выступіў адзін, нетутэйшы:

–Такога падлеца жалееце? Он чатырнаццаць засадаў сарвал.

І выстраліў.

Прысыпалі яму і зніклі.

Было гэта недзе ля Варончы. Сем тыдняў праляжала цела ў яме. Пакуль не даведаліся сваякі. Прыехалі на возе сёстры Параска, Тунічыха і каханка Кадлубаева. Адкапалі. Але з ямы выцягнуць жанчыны рады не далі. Прыехаў на кані Тунік, за ногі прывязалі цела вяроўкай, канём выцягнулі.

Пахавалі на шчонаўскіх могілках.

## *Выратавалі людзі*

Пагроза расстрэлу навісла і над Колем, братам Уладка Маковіка. Мянушку ён меў Казёл. У чым яго абвінавачвалі партызаны, цяжка сказаць. Быў жанаты, меў трое дзяцей.

Хадзіў па хатах і прасіў людзей падпісацца. Усе падпісваліся.

Ці не адзіны гэта прыклад калектывізму, калі папера, на якой подпісы ставілі звычайныя вяскоўцы, выратавала чалавеку жыццё?

Пасля вайны Коля з сям'ёю з'ехаў у Карэлафінск. Неаднойчы прыязджаў, адведваў родныя мясціны. Калі не стала жонкі, хацеў адну незамужнюю шчонаўку за жонку ўзяць. Ды не суджана было тое…

## *Шчонаўцы-партызаны*

Нямнога іх са Шчонава было. Пайшоў у партызаны Алёша Барэйкаў. Сам пайшоў. Свядома. Змагацца з немцамі хацеў. Шмат гора нацярпеўся: і замярзаў, і галадаў, і смерць неаднойчы побач была. Але яшчэ больш нацярпелася сям'я ягоная, маці з малодшымі дзецьмі. Не, каб іх даглядаць, працаваць на зямлі, як усе ў Шчонаве, дык пакінуў ён іх не толькі на працу невыносна цяжкую, але і на небяспеку смяротную. Бо колькі прыходзілі немцы, столькі мусіла бедная ўдава Волька Барэйчыха з дзецьмі ўцякаць, хавацца. Добра яшчэ, калі летам, цёпла. А як зімою? Толькі па хатах чужых схавацца можна было. Але ж не ўсе пускалі, бо ведалі, што і на сваю сям'ю бяду наклічуць. Ніколі не адмовіла, не выправіла са свае хаты суседка Ліда Абэлгава. Заўсёды ў яе беднай хаціне маглі Барэйкавы навалу перачакаць.

А яшчэ ж партызан павінен каня мець. Большасць тых коней па вёсках здабывалі. Не мог Алёша у людзей забраць. А ў мацеры змог. Вывеў з хлява, каб не бачыла. Нагараваліся без каня, пакуль на другога ўзбіліся. І пакрыць каня таксама нечым трэба. Прыйшоў дахаты, калі мацеры не было, і дастаў з куфра перабіранку каляровую, якую жанчына вельмі шанавала. Плакала па ёй не меней, чым па кані.

Быў у партызанах і Толя Якубаў. Праўда, пазней пайшоў. Прыйшлі партызаны, загадалі збірацца. Аднекваўся, не хацеў ісці. Цётка Жэня Мялешчыха кажа:

–Выстралілі, то і пайшоў. Дзе ж падзеняшся?

Такая вось мабілізацыя ў партызанскі атрад.

## Самы прыгожы будынак

Такім быў на ўсю ваколіцу шчонаўскую дом святара, што стаяў недалёка ад маёнтка. Двухпавярховы, ганак высокі. А вакол – сад, кветнікаў многа. Мала хто з маіх землякоў быў там, бо зайсці без запрашэння нельга было, усё вакол агароджана.

Калі прыйшлі саветы, адкрылі ў тым доме школу. У вольныя дні і ў святы гулянні там ладзілі. А калі немцы з'явіліся, хацелі зрабіць там камендатуру. Ды партызаны не далі, спалілі той самы прыгожы будынак.

## «Намі расчыняюць...»

Шчонаўцы заўсёды спачувалі гаротным. Бо і самі гора шмат зведалі. А ў вайну асаблівае спагады яўрэі патрабавалі, бо былі гнаныя, бо здзек вялікі трывалі толькі за тое, што яўрэі. Спрадвеку з нашымі людзьмі побач жылі. І спрадвеку іх у нас жыдамі называлі, без усялякага намеру пакрыўдзіць.

Хто як мог ім дапамагаў. І ў хаты пускалі, і хавалі, і есці давалі.

Цётка Фаня Лысішына ўзгадвае жыда Вэрваля, ганучніка, які да вайны тавар па вёсках вазіў, *лапенё* збіраў. Хаваўся ён ад немцаў недзе ў кустах за Мокравам. Прыйшоў аднойчы да бабулі іхняе Фядоры. Пакарміла яго, нанач пусціла. Запомніла кабета словы ягоныя мудрыя, быццам прыпавесць:

–Фядорко, Фядорко, намі расчыняюць, а вамі падмесяць…

Расказала яшчэ тады пра гэта ўнучцы Фані і наказала:

–Унучачко, ні кажы ж нікому, што ён тут быў. Бо і яго заб'юць, і мне будзя, і ўсіх нас паб'юць.

Знайшлі ўсё ж таго няшчаснага Вэрваля, не схавалі яго кусты мокраўскія. Бачылі людзі, як гналі яго па дарозе на Карэлічы, здзекаваліся, білі. «Кацюшу» спяваць прымусілі. Спяваў. А дзе ж падзенешся?..

## *Хай бы згніў той лён!*

Марыля Лысіха вельмі бедавала па сваім мужу, якога забралі на вайну. Ведаць хацела, што з ім, ці жывы яе Ўладачак. Хадзіла па гадалках, каб хоць што даведацца. Выбралася аднойчы ў Пурневічы, праз Дуброву праходзіла. На яе вачох адбылася трагедыя, пра якую многія памятаюць, бо звязана яна з гібеллю вядомага ў нашых краёх чалавека, дэпутата Вярхоўнага Савета БССР Тамаша Ласко.

У гады вайны жыў ён з жонкай і двума дзецьмі ў Дуброве. Хаваўся, бо ведалі немцы пра яго дзейнасць за саветамі. Палявалі на былога дэпутата. А тут якраз лён высах, трэба было яго звезці. Выйшаў Тамаш са свайго схову, запрог каня і паехаў на поле. Відаць, быў нехта, хто віжаваў за Ласковымі. Бо не паспеў гаспадар той лён упарадкаваць, як наляцелі немцы, паліцаі. Здраднікі ёсць заўсёды і ўсюды. Удаў той віж чалавека на загубу.

Угледзеў навалу Тамаш яшчэ здалёку. Пачаў уцякаць, даляцеў да гумна, дзе ў яго зброя была схаваная. Закрыўся і пачаў адстрэльвацца. Толькі падыдуць да гумна паліцаі, а адтуль кулі свішчуць. Тады паставілі яны перад сабою жонку і дзяцей Тамашовых, загадалі да гумна ісці. А самі следам. Загаласіла бедная жанчына:

–Тамашко, не страляй, гэто мы!

Заціхла ўсё ў гумне, толькі праз колькі хвілінаў адзін стрэл пачуўся. Калі паліцаі выламалі дзверы, знайшлі Тамаша Ласко мёртвага. Стрэліў сабе ў жывот разрыўною куляю.

Шмат хто з дуброўцаў гэта бачыў. І шчонаўка Марыля Лысіха таксама. Казала пасля неаднойчы:

–Нашто ён выйшаў, паехаў на полё?! Хай бы згніў той лён!

Хай бы…

## *«За сваю мацяру»*

Было гэта летам 44-га. Немцы адступалі. Былі такія, што ад сваіх адсталі, па лясох бадзяліся. Партызаны злавілі некалькі чалавек, у палон узялі. А сярод іх адзін зусім маладзенькі. Сеў на зямлі каля мельніцы і просіцца:

–Не біце мяне, мне толькі дзевятнаццаць гадоў…

Быў між партызанаў Коля Качкарыкаў з Кайшоўкі. Маці ягоную ўласаўцы расстралялі. Падляцеў ён да таго немчыка з вінтоўкаю:

–Я за сваю мацяру буду вас біць і кроў вашу піць!

І прыкладам па галаве таму. Ажно пырскі разляцеліся…



*Ждан Юля Гаўрылаўна (сядзіць), жонка Дубеня Уладзіміра Фёдаравіча (Паталочы), які не вярнуўся з вайны*



*Шура – Паталочаў сын. Выліты бацька*

## *Частка IV*

## *Каб скласці мазаіку*

*Усё новыя згадкі прыходзяць на памяць з мінулага. Бясконца прадзецца нітка ўспамінаў. Еду ў Шчонава, ведаючы, што заўсёды знойдзецца ў памяці маіх землякоў нешта, раней не згаданае. Спяшаюся занатаваць, разумеючы, што вельмі кволая мяжа між жыццём і нябытам. Імкнуся, каб не паглынула назаўсёды чорнае небыццё таго, што было ў маім Шчонаве.*

## У кнізе знакамітага мастака

Запытала ва ўсяведнага GOOGL-а, ці чуў ён што пра маё Шчонава. Зразумела, выдаў пра адміністрацыйную адзінку, багата спасылак на сайты, дзе згадваецца «вядомая» асоба са Шчонава, якою, ізноў жа зразумела, аказалася Ала Барэйкава. Але самае цікавае – гэта ўрывак з кнігі «Край дзіцячых гадоў» знакамітага фотамастака Яна Булгака, чый род паходзіць з нашых мясцінаў. У раздзеле VII «Дарогі і двары. Чамброў» з вялікім хваляваннем прачытала: «Прыгажэй за ўсё было пачынаючы ад Шчонава каля Райцы… Ужо за Шчонавам ваколіца пераходзіла ў прыгожы парк – гарысты і лясісты, зарослы дубамі і елкамі і акружаны цудоўнай далінай: здавалася, прырода зрабіла ўсё, каб сабраць тут пейзажныя элементы, якія складалі адзінае цэлае, поўнае прыгажосці і гармоніі. Дарога вілася ля падножжа лесу, што ўзвышаўся на пагорках, і вяла за край прыгожай даліны, прыцягальная зацішнасць якой не паддавалася ніводнаму апісанню. Даліна завяршалася прыгожай дубровай і фанабэрылася сваім харастcovered, як залётная дзяўчына, якая ведае сілу сваёй красы і ведае, што на яе глядзяць…

На гэтай дарозе я зведаў першыя хвіліны эстэтычнай асалоды, якую моцна перажываў, і гэты вопыт узнаўляўся потым не раз з напружаннем, што ніколі не змяншалася, уводзячы мяне ў стан гарманічнай згоды з акружэннем, што з'яўляецца падставай для шчасця, якое я адчуваю з усёй паўнатой».

Даўно няма тых дубоў. Няхай даўно няма і тае дарогі. Ёсць іншая. Едучы па ёй, зведваю не меншую асалоду, чым калісь знакаміты мастак. Зведваю вялікае шчасце. І ад сузірання красы маіх родных мясцінаў, і ад адчування паўнаты жыцця, і ад далучанасці да жыцця ў гэтым Краі, яго мінулага, пра якое збіраю аскепкі, каб скласці мазаіку.

## Здзек

Чаму мае дарагія шчонаўцы так цяжка, так пакутна, у невыносным болі дажываюць свой век? Чаму яны клічуць смерць, як тое неаднойчы чула ад нашае няні цёці Ганны

Юлькавай, ад цёці Фані Сцяпанавай? На мае ўгаворы пра тое, што свет гэты такі прыгожы, што сонейка цёплае, што неба блакітнае, а больш нідзе гэтага няма, яны толькі самотна ўсміхаліся, гаворачы: «А што я ў гэтым жыцці бачыла?», «Я ж тут толькі пакутавала», «Калі ж мне гэтак усё баліць…»



*Заўсёдная праца жаночая. Звеннявая Ніна Пасэсарава нясе ваду на каромыслах*

Невыносна цяжкаю была іхняя праца. З самага маленства. Як ва ўсіх людзей з беларускіх вёсак. Але было і тое, чаго быць не павінна. Бо гэта здзек, злачынства. У рамане Аляксея Карпюка «Карані» заўчасна памірае жонка галоўнага героя Лаўрэна Маркевіча, якая атруцілася, полючы калгасныя буракі, што былі апрацаваныя хімікатамі. Нядаўна даведалася пра тое, як апрацоўвалі лён шчонаўскія кабеты. Завялася ў ім нейкая мошка. Прыцягнулі вялізную бочку з дустам. Цалюткі дзень звеннявая Ніна Пасэсарава насыпала з тае бочкі голаю рукою (якія пальчаткі тады хто ведаў?) гэты дуст у капронавыя панчохі, а жанчыны з імі цалюткі дзень па полі хадзілі і сеялі тую атруту. І труцілі сябе.

Дзе ж тое здароўе будзе?

## Каб вы вярнуліся, дзеткі

Найцяжэй пакутавалі ўдовы. Бяспраўныя, безабаронныя. Асабліва дакучаў клопат – чым у печы паліць. Не жаночы. Ніколі жаночым быць не павінен. Але якраз тое і было, што не павінна.

Прыйшла Волька Апанасіха, удава Апанаса Яўсея, у кантору да старшыні машыну прасіць, каб торф прывезці. Адмаўляе. Бо таму трэба даць, хто ваяваў. Хто з вайны вярнуўся. Хто паранены быў. А як жа сем'ям, сіратам тых, хто

палёг на вайне? Так балюча кабеце зрабілася, так крыўдна. Выйшла яна ў калідор, а там поўна шафёраў, хлопцаў маладых. Не пабаялася, што ў канторы, выказала свой боль гучна, на ўвесь голас: «Як, ня дай Бог, хлопчыкі, вайна будзя ды забяруць вас, падымайця рукі, падымайця ногі, каб вам стрэльнулі ды толькі паранілі. Каб вы вярнуліся, дзеткі!»

Колькі жыла жанчына, столькі пра тую крыўду памятала, столькі расказвала. А колькі расказвала, столькі плакала.

З тым болем і на той свет, мо лепшы да яе, сышла. Каб і там расказаць.

## *Няўдалыя залёты*

А тым часам дзяўчаты, новае пакаленне працаўніцаў шчонаўскіх, падрасталі. Дзеці вайны. Якім пра сваё, маладое думаць хацелася. Ужо і на нявестаў пабраліся. Шмат хто з'ехаў. Хто ў Мінск. Як Надзя Петрукова, Клаўдзя Лідзіна. Хто на цаліну, хто ў Запаляр'е. У Мурманскую вобласць. Як Анюта Апанасішына, Люба Барэйкава. Але большасць тут, у Шчонаве, засталіся, у калгасе працаваць. «Палачкі» за працадні атрымліваць.

Суседні калгас, што ў Валоках, быў багаты. Кіраўніцтва магло дазволіць раскошу – запрасіць самалёт для апрацоўкі поля. Самалёты тыя лыталі зусім нізка. Лётчыка лёгка было разгледзець. І ён, відавочна, усіх бачыў.

Вось жа, звеннявая Ніна Пасэсарава, маладая прыгажуня, відаць і ўпала ў вока тому лётчыку. Яе поле было побач з валоцкім. Напрацуецца з самага ранку, стоміцца, схаваецца пад бэзавы куст ля Якубавай хаты, каб хоць крыху прыдрамнуць, таго сну, якога так мала ў маладосці было, дабраць. А тут самалёт лятаць пачынае. Над ёю кружыцца. «Нізянько. Відаць, як лётчык у кабіне сядзіць», – кажа цётка Ніна, быццам і зараз таго хлопца з мінулае маладосці бачыць. Аднойчы дык і асвянціў яе, лінуўшы вадою халоднаю. Раззлавалася дзяўчына, нахапала купінаў і давай па самалёце шпурляць…

Ніколі больш не залятаў лётчык на шчонаўскае поле. Крыўдлівы аказаўся. Так і скончыліся нічым ягоныя залёты. «Скончылася любоў», – робіць выснову колішняя звен-

нявая. Каб стрывала ды прыветліва рукою памахала, то хто ведае, ці засталася б у Шчонаве…

## *Куклы*

Што такое куклы? Не, гэта не лялькі. У Шчонаве два такія словы-амонімы. Першае – закручаныя ў вузел на патыліцы валасы. Але не пра гэтыя куклы размова. Так называлі скрутак з каласоў, які рабілі як метку на полі: дасюль сёння зжалі, адсюль заўтра пачынаем.

Тым разам Ніна Пасэсарава, Маруся Маздзюкова, Валя Мікітава, Гэля Валенцікава, Волька Апанасішына на полі за Прахорыхай ячмень жалі. А зрабіць больш вельмі хочацца! І прыдумалі шчонаўскія стаханаўкі, як начальства сваё абхітрыць. Куклы аднясуць на зробленае ўчора ды і прысыплюць зямлёю. Стаяць яны закапаныя, законныя. А сёння і тое ўлічана будзе. І так у смак увайшлі, што па звестках атрымалася на тым полі зжата 140 гектараў, а засеянае мо з 70 было.

Смяецца цётка Ніна Пасэсарава, пра тое згадваючы:

–Разаблачылі нас. Як палічыла бухгалтарка Соня, то і ўгледзелі ўсе, што махлявалі мы.

Брыгадзірам тады Міхась быў. Добры чалавек. Вечарам мернікам зжатае поле мераў. Не заўважыў, што куклы падстаўныя. Таксама смяяўся. Мо і захапляўся кемлівасцю жнеяк:

–Як вы такое ўздумалі!

Бо таксама ж не ягонае, калгаснае. Але пасля ўжо веры не даваў: кожную куклу падымаў – ці сапраўдная, ці не прыкапаная.

Не ведалі шчонаўскія дяўчаты, што па ўсёй краіне савецкай, дзе толькі маглі, працоўныя так рабілі. Бо не на сябе, не на сваё. Бо праца была вельмі цяжкаю. Туфтою гэтая лухта называлася.

## *Бухгалтэрыя*

Спачатку шчонаўскі калгас называўся «1-га Мая». Зразумела: праца ў калгасе – гэта ж свята працы. Мо яшчэ і таму, што партызанскі атрад, які дзейнічаў на гэтай тэрыторыі,

таксама так называўся. Першым старшынёю стаў Рыгор Дубень.

Кантора была ў хаце Мішыхі, насупраць могілкаў. А раз кантора ёсць, то і бухгалтэрыя быць павінна. Пісьменных, граматных, як у Шчонаве казалі, каб у той канторы сядзець, і не было. Якраз тады Толя Якубаў прывёз з войска сабе жонку Соню. Яна і стала першаю бухгалтаркаю. Адна на ўсю кантору. На савецкім кампутары – косткавым лічыльніку – працавала. Пасля на паперу лічбы пераносіла. А звесткі перадавалі ёй учотчыкі. Звычайна імі былі маладзейшыя, крыху больш граматныя за іншых хлопцы-калгаснікі. Вось і ўся бухгалтэрыя.

## Ганебнае пакаранне

Самае ганебнае пакаранне ў шчонаўскім калгасе – гэта крытыка ў насценнай газеце. Нат і газетаю тую нагляднасць назваць не выпадае. На кардоннай паперы Лёнік Паўлючышын, таленавіты мастак-самародак, маляваў карыкатуры на тых, хто нейкую правіну меў, з’едліва падпісваючы свае зусім не сяброўскія шаржы. Праўда, ніколі не прызнаваўся, што гэта ягоная творчасць. «Нічога не ведаю! Нічога не маляваў!» – адмахваўся ад абражаных аднавяскоўцаў. Бо і злавалі, і сварыліся, і праклінaлі. Гэта ж ганьба якая! На сцяну вывесілі! Колькі сваркі было! Асабліва, калі скрытыкаваныя былі дзяўчаты маладыя: ніхто ж замуж не возьме дзеўку з такою «славаю».

Лёнік часам не толькі ўказы старшыні выконваў, тую крытыку наводзячы, але і самадзейнічаў. Зазлуе на каго – ды і адпомсціць, скрытыкуе. Аднойчы Ніна Пасэсарава штосьці яму не дагадзіла, дык намаляваў яе з траплом у руках. Набралася дзяўчына сораму.

## Вось табе і адпачылі!

Дзяўчаты з хутароў шчонаўскіх Каця Харанджукова, Жэня Аляксандрава, Ніна Пасэсарава, Зіна Валенцікава, Клаўдзя Лідзіна і Жэня Міхасёва жалі жыта на полі якраз

за хатаю Барэйчыхі. Брыгадзірам тады быў Аляксандр Гіль, Свіздун, па-тутэйшаму, Жэнін бацька.

Напрацаваўшыся зраніцы, пайшоў брыгадзір паснедаць. Хата іхняя якраз насупраць поля. А ў хаце акенца маленькае, ды на тое поле глядзіць.

–Давайце і мы адпачнем! – гэта Жэня, брыгадзірава дачка, смелая такая, прапаноўвае.

–А як убачыць твой бацька праз акно, то будзе нам!

–Не ўбачыць. Лягайце за снапы.

І сама першая легла. А на нагу, на ступак, хустку сваю белую завязала, быццам на галаву. Ляжыць, а сама нагою бахкае. Здалёк павінна падацца, быццам гэта галава жнейкі то падымаецца, то апускаецца…

Не перахітрылі, аднак, дзяўчаты брыгадзіра. Добра разгледзеў ён праз акенца маленькае іхнія хітрыкі. І скрытыкаваць загадаў. Намаляваў Лёнік вельмі абразлівую карыкатуру: сноп вялікі, а на ім конна ўсе тыя дзяўчаты паселі, ногі выцягнуўшы, а на нагах хусткі пазакручваныя.

Ну і ганьбы было! На ўсё Шчонава. Вось табе і адпачылі!

## «Хлеб наш забіраюць!»

Аднаго разу і старшыня Алёша Барэйкаў таксама быў абняслаўлены, крытыкі дастаў. А было гэта так. Жалі тады, зразумела ж, уручную. А тут камбайн калгас атрымлівае. Радавацца павінны б жнейкі, дапамога ж такая. Ды дзе там! Праўдзівы бабскі бунт узнялі. Павыходзілі на поле з сярпамі і старыя, і малыя. Пасталі, сярпы перад сабою паскладалі. Загаласілі на ўсё наваколле:

–Не пусцім камбайна! Працу нашу забіраюць! Хлеб наш забіраюць! Як жыць будзем? Што есці? Дзе заробкі знойдзем?

І старшыні дасталося. Вырашыў ён камбайн адправіць: «Добра. Без яго справімся». Свой хлопец, не захацеў супраць людзей ісці.

Выклікалі яго ў раён. Добрага прачуханца далі. У Шчонава з раёна падскочылі, на месцы разбіраліся. Скрытыкаваць Лёніку загадалі, што той і выканаў, відаць, не без задаваль-


*Алёша і Коля Барэйкавы*

нення. Бо толькі праз указ зверху і можна было так зрабіць.

Намаляваў мастак камбайн, зачэплены за штаны старшыні. Быццам цягне ён гора-кіраўніка, а той упіраецца, крычыць: «Не хачу камбайна!» Вось сораму набраўся тады Алёша Барэйкаў!

Зразумела, прыйшла тэхніка на поле. Было гэта ў 1952-ім годзе.

А хлеба шчонаўцы як уволю не елі за першымі калгасамі, так яшчэ няхутка наеліся.

## Цяжкі хлеб

Дзе ж было хлеба наесціся, калі свайго не было з чаго спячы, а купіць можна толькі ў Наваградку. Няблізкі свет. Найменей дваццаць пяць кіламетраў будзе. Трэба ж яшчэ і грошы каб былі. А дзе іх набрацца? У калгасе ж не заўсёды плацілі.

Вось жа, калі ўсё ж капейка якая з'яўлялася, выбіраліся шчонаўцы ў Наваградак. Бралі з сабою санкі, бо з мяхамі ішлі. У горадзе чэргі па хлеб вялікія, а на рукі толькі адну буханку давалі. Станавіліся па 25 разоў, каб поўны мяшок набраць. Ладавалі мяхі, да санак лейцы прывязвалі і цягнулі на сабе…

25 буханак 25 кіламетраў.

Цяжкім быў той хлеб шчонаўцам.

## Пастаноўка

Але не толькі цела патрабавала наедку. Душа чалавечая таксама спажытку прагла.

– Ой, як мы культуры хацелі! – кажа цётка Ніна Пасэсарава.

Прыдумалі дзяўчаты пастаноўку зладзіць. Як яе рабіць, з чаго пачаць? Да настаўніцы па раду звярнуліся. Тая прапанавала «Машэку» паставіць. Зарганізавалі гурток у хаце ў Барэйчыхі. Ролі размеркавалі. Мялешчыха Ганкаю была. Падказваю: у Купалы не Ганка, а Наталька.

–То ў Купалы. А мы мянялі, як хацелі. Каб той Купала ўстаў, то назад бы памёр. Бо мы скурожылі ўсё, што ён напісаў. Дабаўлялі, перараблялі.

Пачаліся рэпетыцыі. Пры газоўках. Хлопцы не дапускаліся. Такі тэатр антычны наадварот: усе ролі дзяўчаты выконвалі. Ніна была князем (у Купалы – малады баярын). Сорам вялікі быў дзяўчыне штаны апрануць. Але што зробіш – роля абавязвала.

А хлопцам вельмі хацелася на рэпетыцыі трапіць. Ды дзяўчаты мужна трымаліся, выганялі іх, закрываліся. І вырашылі тады хлопцы (Коля Барэйкаў, Аркадзё Антонішын, Міцё Чайкаў, Коля Харанджукоў, Пеця Паўлючышын, Коля Варвараў) адпомсціць акторкам.

Пастаноўка рыхтавалася ў старой школе. Але бяда: сцэны не было. Вырашылі папрасіць у Юльчыхі дзверы ад хлява. Двайныя былі, вялікія, цяжкія. Вось тут помста хлапечая і адгукнулася. Загадалі, каб ніхто не дапамог: ні на кані не падвёз, ні паднёс тую «сцэну». Да таго ж яшчэ гаспадыня дзвярэй за «пракат» запатрабавала гной з-пад каровы выкінуць. Цэлы дзень выкідалі акторкі гной. А назаўтра цэлы дзень дзверы насілі. На сабе. Па чатыры чалавекі. Увесь час змяняючыся. Бо не для дзявочых сілаў ноша тая. Спачатку адны прынеслі. Пасля вярнуліся па другія. Каля паўтара кіламетра ў адзін бок. Але што ж зробіш: ахвота горш за няволю. Культуры хацелі!

Удалася на славу тая пастаноўка. Поўная школа людзей сабралася. Не толькі са Шчонава, але і з Валокаў прыйшлі. Месца ўсім не хапіла, пад вокнамі стаялі. Нацешыліся, насмяяліся…

–А як жа дзверы вярталі?

–Адпусціліся хлопцы, даравалі. На кані адвезлі…

## *Крыж*

Крыж у Шчонаве стаяў на перакрэсці дарог. Адна спускалася з высокае гары, другая разыходзілася праз вёску ў абодва канцы. Насупраць Прымачышынай хаты.

А час быў змагарны. Не, ніякіх ворагаў не было і звання. Усіх перамаглі. Камунізм будавалі. Амерыку вось-вось абагнаць збіраліся. Але якое ж жыццё ў Савецкай краіне без барацьбы? Змагаліся з рэлігіяй. Антырэлігійную прапаганду, відавочна, патрабавалася праводзіць па ўсім фронце. Асабліва ў навучальных установах.

Дырэктарам Шчонаўскай пачатковай школы ў той час быў Лапата Міхаіл Уладзіміравіч. На ягоныя плечы ў асноўным і клаўся той няпросты абавязак. Раз у год, перад Вялікаднем, праводзіў ён выхаваўчую гадзіну, расказваў вучням, што Бога няма і ніколі не было. Што і яйкі фарбаваць ды свянціць не варта. Па хатах хадзіць ні ў якім разе нельга. І, наогул, ніякае гэта не свята. Відаць, перад тым меў настаўнік належныя дырэктывы з раёна.

Менавіта яму давялося і крыж зваяваць. Мяркую сёння, не была то ягоная ініцыятыва. А ўказ зверху, якія нашы людзі заўсёды выконваць мусяць. Папрасіў ён кагосьці з



*Крыж у цэнтры Шчонава*

мужчынаў, каб крыж спілавалі. А за гэта бутэльку гарэлкі паставіў.

Сёння па ўсіх вёсках крыжы стаяць, упрыгожаныя, дагледжаныя. Сустракаюць тых, хто прыходзіць, і праводзяць тых, хто пакідае свой край.

Доўга не ведала, хто той наш шчонаўскі крыж знішчыў. Баялася ўведаць, мяркуючы, што гэта зрабіў мой бацька...

## Будаваліся...

Вельмі цяжка было жыллё сабе пабудаваць. Пра гэта ўсе шчонаўцы згадваюць.

На хату Алёшы Антонішынага і Мількі Лысішынай дрэва куплялі аж за Беняконямі. Праца будаўніка цяжкая, што і казаць. І сёння таксама. А тады яшчэ больш, бо ўсё ўручную рабілі. За дзень майстар прасіў пяць рублёў. Добрым будаўніком быў Трахім Дубень. Але дзе ж тых рублёў набрацца, каб наняць работнікаў?

Настаўніцкая зарплата Валі Барэйкавай цалкам на аплату будаўнікам ішла. Атрымае грошы, як на шчонаўскія меркі то і неблагія, ідзе дахаты і ведае, што там ужо чакаюць яе. Адразу і аддае ўвесь заробак.

Алёша Антонішын сам амаль усё рабіў. Няблага сталярыць налаўчыўся. «Каб не сам, – кажа цётка Мілка, – то яшчэ горш пакутавалі б». І так не адразу ў хаце жыць пачалі. Закончыць не маглі. На гарышчы спалі. А ў хаце торф ляжаў, парасяты стаялі. Нават карову Мілчыну пасажную прадалі, каб грошы на хату мець. Цяжкі час быў. На Вялікдзень на стол баначку камсы, картоплю і агуркі салёныя паставілі. Гэтак самае вялікае свята справілі…

Іх сям'я – адзіная на ўсё Шчонава засталася, дзе гаспадар і гаспадыня з таго пакалення ў сваёй хатцы жывуць.

Як жа балюча глядзець на пакінутыя хаты, у якія столькі сілаў, сродкаў укладзена, дзе жыццё пражыта, дзеці пагадаваныя. У лепшым выпадку дачакаюцца тых дзяцей з горада хоць на летні, цёплы час. У горшым – трухлеюць, развальваюцца, каб аднойчы быць зруйнаванымі, закапанымі. Бо ўсё ў нас хораша павінна быць, гладка. Каб вока начальніцкае старыя хаты не мазолілі.

## *Двойчы памірала*

Гэта таксама пра Мілку Лысішыну. Двойчы была пры смерці. Моцна труцілася, бо есці не было чаго. А малады арганізм патрабаваў сваё.

Так тое было. Першы раз наелася Мілка зялёных памідораў на галодны страўнік. Без хлеба, без нічога. Каб голаду таго навязлівага пазбыцца. Так ёй балела, што ледзьве адратавалі.

А другі раз грушы прычынаю былі. Лён яна з іншымі жанчынамі слала. Галодныя, як заўсёды. А побач – Брэўтаў сад. Тыя грушы былі зялёныя, няспелыя. Так наелася, што ўстаць не магла. Адратавала яе тым разам Анюта Якубава, што на малаказаводзе працавала. Прынесла спірту, па кропельцы ў рот улівалі…

Ад тае ж цяжкае працы не змагла дзіцятка вынасіць, выкідыш быў. Так і засталася бяздзетнаю. Хоць дзяцей вельмі любліла. Да пляменнікаў, дзетак сястры Фані, як да родных ставілася. І да ўнукаў таксама.

Відаць, ратавала цётку Мілку Неба. І сёння яна жыве, з мужам, дзядзькам Алёшам. У сваёй хатцы, так цяжка калісьці збудаванай.



*Мілка Лысішына*

## *Карбунец і гарончка*

Сваркі шчонаўскіх кабетаў, што здараліся з розных нагодаў, у часы майго дзяцінства часам нагадвалі спектаклі, у якіх да двух галоўных герояў (гераіняў) далучаліся іншыя дзейныя асобы. Сварыліся гучна, на ўсю вёску, згадваючы грахі не толькі адна аднае, але і сваякоў.

Важным момантам у тых сварках былі праклёны. Сярод іншых найбольш уражвалі мяне два вобразы, якія ўпляталіся ў маналогі: «А каб цябе карбунец пабраў!», а ў адказ: «А каб цябе гарончка схапіла!» Што гэта за Карбунец і Гарончка, ніяк не магла зразумець. Адно была пэўна: гэта імёны нейкіх страшных пачвараў, якія хапаюць і нішчаць людзей. Гарончка ўяўлялася асобай жаночага роду, тоўстаю, з вялізнымі кіпцямі, Карбунец адпаведна – мужчынскага, высачэзны, худы, касцісты. Далей маё дзіцячае ўяўленне малявала карціну: аднекуль (хіба з самога неба) звальваецца на Шчонава Карбунец, хапае бабу Веру Трахімаву, якая часта была гераіняю тых сварак, а следам нясецца Гарончка, у чые лапы трапляе каторая з нявестак ці нават Верына дачка…

Часам гэтыя словы выкарыстоўваліся і з іншае нагоды. Каб выказаць неразуменне чагосьці і крыж на тым паставіць, шчонаўка магла адмахнуцца: «А карбунец яго ведае!»

Этымалогія гэтых словаў цалкам зразумелая: карбункул і гарачка, з’іначаныя на польскі манер.

Ад цёткі Волькі Пецевай даведалася, як яна не так і даўно мірыла дзвюх шчонаўскіх кабетаў, заўсёдных «антыподак»: «Нямнога ўсем нам засталося. Памром, пахаваюць, усех у рад пакладуць. То і там маўчаць будзем?»

Ужо там яна. Пэўна, і там мірыць…

## *Нагадала*

Ведаць, што чакае наперадзе, хто ж не хоча? Асабліва дзяўчаты маладыя, што перад сваёю доляю невядомаю стаяць.

Сабраліся сёстры стрыечныя Галіна Абрамовічава і Фаня Алесева і паехалі да гадалкі.

Такую будучыню няшчасную Фані ўгледзела тая, што нават не ўсё і сказала. Што бацька памрэ маладым, сказала, а пасля яшчэ страшнейшае гора будзе. І было. Пажар. У хуткім часе пасля яе вяселля. Калі нават даранае пагарэла. Ды і далей няшмат шчасця ўбачыла яна ў жыцці.

А пачала гадаць Галіне – зусім іншае расказала. І замуж добры, і дзеці добрыя. І ўсё добра.

Так і сталася.

Думаю сёння: мо і праўда, гаданнем тым заклала дзяўчатам у галоўкі іхнія інфармацыю, якая ўрэшце і сталася рэальнасцю. Бо бывае з намі тое, чаго чакаем, чаго баімся. Прыцягваем да сябе. Недарэмна ж у Шчонаве казалі: «Чаго баішся, таго не ўбаішся».

## *Казакевічы*

Самы ганаровы гаспадар у маім Шчонаве – Казакевіч Аркадзь. Нетутэйшы. Родам з Асташына. Вылучаўся з вясковае грамады тым, што быў надзвычай прадпрымальным. Ніколі ў калгас на працу не хадзіў. Як і ягоная жонка Анюта Якубава. На малаказаводзе працаваў. На матацыкле ездзіў.

Усе тагачасныя тэхнічныя навінкі найперш у іх хаце з'яўляліся: першы тэлевізар, машына пральная. Ды і хатнія рэчы таксама былі адмысловыя. Ні ў кога не было такога незвычайнага, прыгожага рукамыйніка. Высокі, ледзь не да столі, з тумбачкай. Мне, малой, карцела ведаць, куды ж тая вада сцякае. Але спытаць саромелася. А яшчэ было ў іх вялікае трумо, што стаяла ў хаце. Мушу тут патлумачыць, што хатай у Шчонаве называлі яшчэ і чысты пакой, залу, у адрозненне ад кухні, якую трэба было прайсці пасля сеняў.

Хто ў тыя далёкія шасцідзясятыя ў Шчонаве цытрыны калі меў? Хіба ніхто. Апельсіны зрэдку. А Казакевічы мелі. Малодшая Ларыса была дзяўчынкай надзвычай добрай, таварыскай. Прынесла аднойчы цытрыну ў школу, разрэзала напалам і пачаставала свайго суседа па парце Валера Барэйкавага. Так апетытна выглядала тая садавіна заморская, што аж слінкі ў малога пацяклі. Са смакам адкусіў ён сакавіты кавалак і … Выбег на ганак, выплюнуў і шпурнуў пачастунак так далёка, куды толькі дакінуць змог.

А яшчэ разводзілі Казакевічы трусоў. Многа іх было. І мяса далікатнае мелі, і скуркі прыгожыя выраблялі. Дабрадушная Ларыса прынесла Але Барэйкавай адну скурку, каб футра ляльцы пашыць. Пашылі. Нядоўга, праўда, лялька ў ёй пафарсіла. Прыйшла аднойчы Ларыса з плачам: бацька даведаўся, што вынесла з хаты дабро, прымусіў вярнуць…

У канцы шасцідзясятых пакінулі Казакевічы Шчонава. Бліжэй да Карэлічаў пераехалі, дзе і сёння жывуць.

## Як жа зямельку пакідаць?

Сыходзіць пакаленне нашых бацькоў, што трымаліся за зямлю з апошніх сілаў.

Усё вакол хатаў апрацоўвалася. Толькі вузкія межы ля платоў заставаліся. Нідзе зямля не гуляла. Самыя вялікія ўчасткі адводзілі пад бульбу. І садзілі яе адвеку на адным і тым жа месцы. А зямля такога не любіць.

Волька Пецева апрацоўвала не толькі зямлю ля новае хаты, але і каля старое доўга не пакідала. Колькі магла. Калі ўжо і радзіць тую заўсёдную бульбу зямля перастала і калі сілаў не стала апрацоўваць яе, забедавала жанчына: «Як жа зямельку пакідаць? Я ж яе ўсю цераз пальцы свае прапусціла…»

Пакінула. І зямельку, і свет гэты белы. Як жа самотна яго пакідаць!

## Пястушка

«Ты ж адна ў бацькоў! Пястушка!» – так прывітала маладую нявестку свякроў. Вось ужо не свая кроў! Чужая. Бо свая ведала б, якою «пястушкаю» была Ніна Пецева, адзіная дачушка ў сям'і.

Выйшла маладая кабета на вуліцу, каб слёзаў яе не ўгледзелі. І так горка ёй стала, так самотна! Прайшло перад вачыма жыццё ў сямейцы роднай, якое ой як не песціла яе. Бо адна, то і праца ўся на адну. Зусім не дзявочая праца. Сена сушыць, скаціну дагледзець, грады палоць – гэта нічога, да гэтага ўсе прывычныя. А вось гной выкідаць з-пад кароўкі з хлява, зляжалы, што ледзьве выдзерці тымі віламі цяжкімі, хто будзе? А пасля той гной вывезці ды на сотках разбіць. Яе гэта была праца.

Пасля школы ў Мінск падалася, на гадзіннікавым заводзе працавала. Нялёгка і там было. Але нічога. Здаровая была, маладая, хутка бегала. Зрабілі фізоргам. Спаборніцтвы выйгравала. Кіраўніцтва прэміравала: пуцёўку ў Сочы бясплатную далі. Прыехала дахаты і маме расказвае. Што ад тае па-

чуць магла? Толькі пытанні рытарычныя: «Куды ты паедзеш? А хто з сенам мне паможа? Адна душыцца буду?»

Вярнулася ў Мінск і аддала тую пуцёўку.

Ніколі ў жыцці нікуды адпачыць не з'ездзіла. Усе адпачынкі толькі ў Шчонаве праводзіла, дзень пры дні працуючы, маме дапамагаючы.

Пястушка!..

## Вінаваты Новы год

Адсвяткаваць Новы 1968 год шчонаўскія настаўнікі Валя Барэйкава і Міхаіл Уладзіміравіч Лапата запрасілі шчонаўцаў у школу. Амаль усе прыйшлі. Весела было! Песні спявалі, танцавалі. Іграў на гармоніку Лёнік Паўлючышын.

Калі ж развіталіся, падыходзілі да настаўнікаў з традыцыйным: «Калі што не так, то не мы». І чулі ў адказ, што ўсё так, што ўсё добра. А Косцік Чубкаў вылучыўся, з'іначыў звыклае: «Калі што не так, то не мы, а Новы год! У чым я вінаваты? Ні ў чым! Вінаваты Новы год!»

Столькі часу мінула! Амаль усе яны, хто так весела сустракаў тады Новы год, даўно ўжо на высокай шчонаўскай гары. А перад маімі вачыма мільгаюць, быццам кадры кінахронікі, абрыўкі таго вечара: вось спяваюць «Кацюшу» («Па дзерэўне хадзіла за стадам авец дзерэвенская Каця-пастушка…»), а вось улюбёную польку скачуць, аж пыл курыць, а вось развітваюцца. І крыху захмялелы (ніхто ў тыя часы не напіваўся) маленькі Косцік выкрыквае: «Ні ў чым я не вінаваты! Вінаваты Новы год!»

## *Частка V*

# *Ведаць пра сваё*

*«Адкуль Вы столькі ведаеце пра сваё Шчонава?» – так спытаў мой Настаўнік Іван Якаўлевіч Лепешаў, калі прачытаў першы цыкл «Шчонаўскіх абразкоў».*

*Вось жа, многае захавала мая дзіцячая памяць. Слухаць, што гавораць людзі, назіраць за імі, перажываць разам з імі было для мяне вельмі мілым заняткам. Цікаўная да ўсяго, малая шчонаўка ўбірала ў сваю памяць аповеды бабулі Вольгі Барэйкі (Волькі Барэйчыхі) і няні Ганны Яўсей (Ганны Юлькавай) пра даўняе мінулае. Схаваўшыся на печы ці ўтульна прымасціўшыся на маміных каленях, слухала, наслухацца не магла доўгімі зімовымі вечарамі яе размовы з кабетамі, што часта завітвалі да вясковае настаўніцы. Сёння нагадваю шчонаўцам пра іх ранейшае, заахвочваю да згадкаў. Маё пакаленне памятае мала. Старэйшыя пачынаюць расказваць, калі падводзіш іх да нейкае падзеі. Асабліва шмат даведалася ад стрыечнае сястры майго бацькі Ніны Навумчык (Ніны Пасэсаравай), за што ёй шчыра ўдзячна.*

## Магілкі

На могілках між магілаў некалькі маленькіх магілкаў. Без помнікаў. Тут пахаваны малыя дзеці. У 60-ыя і я даглядала такую магілку…

Настаўніца Валя Барэйкава паехала ў Карэлічы на жнівеньскую нараду. Чакала дзіцятка. На апошніх месяцах была. Дрэнна ёй стала. Дахаты ў той дзень не вярнулася. Трапіла ў бальніцу. Дзіця (а гэта быў хлопчык) страціла. Ягонае цельца аддалі бацьку. У кардоннай скрынцы. Прыехаў дахаты, дзе з дзецьмі была няня Ганна Юлькава, узяў лапату, тую скрынку і пайшоў на могілкі. Пахаваў свайго сыночка ненароджанага поруч з магілай бацькі.

Што ён думаў, што перажыў – ніхто не ведае. Бо быў чалавекам, замкнутым на свой боль, ніколі ні з кім не дзяліўся. Боль фізічны таксама трываў моўчкі. Калі яму балела (праз усё жыццё нагадвала перанесеная ў маладосці аперацыя), сыходзіў у далёкі пакой і толькі скрыгітаў зубамі.

Пасля поруч з бацькам пахавалі маці. Тая маленькая магілка знікла. Але заўсёды згадваю, наведваючы могілкі: тут мой ненароджаны брацік.

## Сполах

Маладая дзяўчына пахавана на шчонаўскіх могілках. Тоня Валадзенькава. Па ёй быў пастаўлены самы прыгожы помнік. Высокі, гранітны. У той час такі быў адзіны. Ён і сёння на самай старой, крайняй вуліцы між іншых вылучаецца.

За хатаю Валадзенькавай, што поруч з могілкамі, – вялізныя раўкі. Там-сям дрэвы былі. Гэта зараз суцэльны лес. Тады ўсё кароўкамі выпасвена было, людзьмі выхаджана. Пайшла неяк дзяўчына ў тыя раўкі, а з іх воўк выскачыў, напалохаў яе вельмі моцна. Недарэмна ж кажуць: «Да смерці спалохаўся». Вось і яна так – да смерці. Марнець стала, захварэла. Лячылі, ратавалі. Нішто не дапамагло. Памерла зусім маладая.

Адзіны сын Валадзенькаў Федзя ажаніўся з дзяўчынай па імені Тоня. Памятаю, як мама аднойчы сказала: «Заміж тое Тоні гэтая ў іх сям'ю прыйшла».

## Смерць ў Днепрапятроўску

У нялёгкія пасляваенныя часы хто быў смялейшы са шчонаўцаў, з’язджаў куды толькі можна было. Казалі ў Шчонаве: «Завербаваліся». Бо і насамрэч вербавалі маладую сілу на будоўлі, на працу нялёгкую, абяцалі ж горы залатыя. Спадзяваліся маладыя ў далёкіх краёх лепшую долю знайсці. На Поўнач часцей ехалі, у Мурманскую вобласць. А Маня і Анюта Мікітавы з Нінай Антонішынай у Днепрапятроўск трапілі. Працавалі там на заводзе.

Ды здарылася няшчасце: абвалілася мартэнаўская печ. Пэўна, нямала людзей згінула. Не абмінула бяда і Шчонава. Ахвяраю аварыі стала Маня Мікітава. Цела яе прывезлі на Радзіму. Пахавана на старой вуліцы на шчонаўскіх могілках.

А Ніна і Анюта так і засталіся ў Днепрапятроўску, замуж павыходзілі. І да сёння там жывуць.

## Смерць на Цаліне

І на Цаліну шмат хто са шчонаўцаў з’ехаў. І там заўчасныя магілы іхнія вырасталі.

Маня, сястра Алесі Ждановае, з хутароў замуж у Плужыны пайшла. Завербаваліся яны з мужам і выехалі на Цаліну.

Там абжыліся, адно пад другім дзеткі нараджаліся. Шасцёрко ўжо мелі, як бяда прыйшла. Ехалі на матацыкле. Насустрач імчаў сусед на грузавіку. Наляцеў, збіў. На месцы загінулі.

–Сумысля забіў. Злы на іх быў нечага, – сцвярджае цётка Жэня Антонішына, якая пра гэтую гісторыю і расказала.

Дзетак Анюта, сястра Маніна, забрала, выгадавала. Недзе па далёкім свеце параскіданыя.

## Ваўкі

У той час пасляваенны ваўкі каля Шчонава часта блукалі. Адкуль яны браліся? Мо з Захомаў, мо з Каранчанскага лесу забягалі.

Каровы пасвіць Веры Лідзінай даводзілася з суседскім хлопчыкам Аркадзем Антонішыным. Не вельмі хацелася яму пры каровах быць. Уцякаў да хлопцаў.

Тым разам згледзелі малыя сабаку, які ляцеў на іх. Вера стала палохаць Аркадзя: «Не ўцякай ад мяне, а то воўк цябе з'есць!» Жартам казала, пэўная была, што гэта сабака. Але як падбег той да статка, як вышчарыў зубы, зразумела, які «госць» завітаў. Кінуліся малыя пастухі наўцёкі, крык узнялі. Прыбеглі дарослыя з кіямі. Кароў ураtavалі. Ахвярай лясного бандыта стала Антонішына авечка, якую той паспеў парэзаць.

## Брыгадзір

Брыгадзірам Колю Барэйкавага паставілі адразу, як вярнуўся з войска. З марфлота. Служыў на Балтыцы. Вярнуўся раней, бо перанёс аперацыю на страўнік. Язва. Адгукнулася галоднае дзяцінства. Нікому не паведаміў. «Навошта? Хто мне чым мог дапамагчы? Мая маці, бедная сялянка? Даведалася і толькі плакала б», – так казаў.



*Брыгадзір*

Захаваўся здымак: брыгадзір на кані. У кепцы, у тых сваіх матроскіх клёшах. Часам любіў ўзяць на каня малую Алу. І яна была не супраць. Хоць і страшнавата, але так высока, так цікава. Праўда, сцягонцы дзіцячыя, далікатныя націрала, смылелі пасля, ды нічога…

Амаль два гады не працаваў: ізноў адгукнулася язва, на курорт ездзіў. Каго на такую пасаду ўпросіш? Прасіў Алёшу Антонішынага: «Ты не п’еш, папрацуй, пакуль папраўлюся». Мо Алёша і згадзіўся б, але жонка Мілка не пусціла: «Усім добрым ні будзяш. Вунь і Колі сад парэзалі, адпомсцілі, бо ні ўгадзіў некаму». І стаў тады брыгадзірам Коля Юркаў.

А праз паўтары гады ізноў Коля Барэйкаў брыгадзірыць вярнуўся. Аж да 1965 года, калі паехаў вучыцца ў Магілёў, у партыйную школу.

## Дзялкі

Як жа даліся яны ў знакі шчонаўскім кабетам! Колькі сілачкаў там пакінута, колькі спінаў, рук увярэджаных. Буракі, лён – усё на дзялкі дзялілася, усё ўручную апрацоўвалася. Ніхто не глядзеў, што не можа жанчына, што мо не выпадае ёй тую дзялку апрацаваць. Мусіць! Бо адной саступі, то іншыя бунт падымуць.

Бяда была і брыгадзіру. Ці ж не разумеў ён, што не таму кабета не апалола, што не захацела? Усё разумеў.

Прылятае Коля Барэйкаў у хату да Ліды Маковікавае і крычыць з парога:

–Ліда! Ты думаеш дзялку палоць?!

А ў яе маленькі сыночак на руках. Просіцца жанчына:

–Божа ж мой, Божа! Як мне апалоць, дзе ж мне дзіця дзець?

–Мацяры аддай, хай паглядзіць.

–Дык у мацяры таксама дзялка.

–То так: табе адно паўдзялкі. Такім, як ты, з дзецьмі, паўдзялкі. Але каб апалола!

Дзе ж дзелася, апалола. Мама, сваю закончыўшы, дзіця глядзела, свякроўка дапамагала. Агоралі…

А восенню выбраць буракі трэба, ацерабіць. І так па коле круцілася жыццё вясковае, працоўнае, нялёгкае.

## *Лапенё*

У 50–60-ыя гады па Шчонаве даволі часта ездзіла падвода, якую асабліва чакалі жанчыны. Ці быў той чалавек сапраўды жыдам, невядома. Але шчонаўскае «радыё» разносіла вестку імгненна: «Жыд прыехаў!» Чым бы ні была занятая кабета, усё кідала і бегла, прыхапіўшы з сабою якую старызну.

Гэта быў ганучнік. Так яго яшчэ называлі. Збіраў утыльсыравіну. За гэта даваў прыгожыя хусткі. Квяцістыя шаляноўкі. Колеры – вачэй не адвесці. Поле магло быць чорным, тады хустка выглядала асабліва святочна, на ўрачыстыя падзеі апраналася. Або белым, крыху прасцейшая, але ўсё роўна вельмі прыгожая. У краме такіх не было.

Адзенне тады насілася-пераносілася, аж пакуль зусім не зношвалася, не рвалася. Толькі тады можна было ад яго пазбавіцца. Гэтую старызну ў Шчонаве яшчэ называлі *лапенё*.

Прыбегла разам з усімі і маладая настаўніца Валя Барэйкава. Ніякага лапеня ў яе не было. Мела грошы: у школе, у адрозненне ад калгаса, грошы плацілі. Просіць у жыда, каб хустку ёй за грошы прадаў. А той ніяк не згаджаецца: «Не трэба мне твае грошы!» Дабрадушныя шчонаўскія кабеты ўступіліся за Валю: «Яна жыве ў свякрові. Няма ў яе лапеня. Прадай за грошы».

Неаднойчы чула ад мамы гэты аповед. Была ў ім і вялікая ўдзячнасць да тых, тады зусім чужых жанчынаў, якія адразу не надта яе прынялі, а тут такую падтрымку ад іх нечакана атрымала. І крыўда, што ў свякрові не знайшлося для яе таго лапеня. І вялікае жаданне мець тую абнову.

Хустка для шчонаўскіх кабетаў была абавязковай. Без яе на вуліцу не паказваліся.

Ці прадаў жыд тую хустку, не ведаю. Мне чамусьці гэта не запомнілася. Важней было тое, што маму падтрымалі.

## *Украінка*

Шчонаўскія кабеты вышывалі. Асабліва ўпадабаны сюжэт – «Украінка». Прыгожая дзяўчына ў нацыянальных

строях. І фон адпаведны: каля тыну растуць кветкі. Хіба ў кожнай хаце такая карціна вісела.

Вельмі хацела мецць «Украінку» Валя Барэйкава. Дзеля ўзору ўзяла вышыванку ў Люні Пасэсаравай. Павінна была хутка вярнуць, бо гаспадыня гасцей чакала. Старалася Валя закончыць працу, ды не паспела: трапіла ў раддом, дзе нарадзіла сваю адзіную дачку.

Прыйшоў муж праведаць яе. А рожаніцу хвалюе:

– Ці забрала Люня «Украінку»?

– Забрала, – Коля Барэйкаў заўсёды быў нешматслоўным.

– Як шкада! Я ж не паспела пейзаж вышыць.

Нічога не адказаў Коля, толькі ўсміхнуўся.

Вярнулася жанчына дадому, а тут неспадзеўка. Ды яшчэ якая! На стале ляжыць «Украінка». Усё вышыта. Хто ж яе закончыў?

Такі падарунак падрыхтаваў муж сваёй жонцы. Ніколі больш за ўсё жыццё ні аднаго сцяжка не зрабіў. Ды і да таго хіба ніколі не вышываў, але з маленства вышываць умеў.

Доўга вісела вышыванка ў іх хаце. Пасля гэта нямодна стала.

Зараз мая аднагодка вісіць у маёй хаце. Калега, які аднойчы быў між гасцей, сказаў, што ў іх такія карціны называлі «Бандароўна».

Мо адтуль, з захаплення красою ўкраінскае прыгажуні, на якую глядзела з дзяцінства, і нарадзілася ў маім сэрцы любоў да Украіны.

Але ж «Украінкі» віселі ў кожнай хаце...

## *Да Бога душэю*

Як давесці, што ні ў чым не вінаватая? Як выказаць, што і блізка там не была, што ніколі так не казала? Так і сказаць: не была, не казала, не вінаватая я? Хто ж паверыць? І тады на дапамогу клікалі Бога: «Я ж – да Бога душэю!» Гаварылася менавіта так: душэю.

Асабліва часта гэтую фразу чула ад Веры Лідзінай, кабеты дабрадушнае. Да Бога душэю азначала вышэйшую ступень невінаватасці. Як можна было не паверыць?

## Плёткі разводзіць

Плётку пусціць лёгка: слова адно перавернеш, перайначыш – і гатова. Сэнс сказанага зусім іншы будзе.

У Шчонаве так і казалі: пусціць.

А вось знішчыць плётку вельмі цяжка. Як разабрацца, хто і што казаў ці не казаў? У Шчонаве казалі: плётку развесці.

Як цяпер бачу Волечку Рыгораву, што стаіць у нашай кухні каля парога. Просіцца-моліцца перад мамаю, што тую плётку (якую, і сёння не ведаю, бо абміналі кабеты сэнс тае непрыемнасці) не яна пусціла. Кажа, што ісці да мамы ёй было так цяжка, так сорамна, але мужык сказаў, каб ішла, калі невінаватая. Стаіць такая маленькая, няшчасная. Выглядвае Ала з печы, з-за шырмы, са сваёй схованкі, шкадуе Волечку, а мама ўсё не адпускаецца, усё не дароўвае. Паўтарае строга: «Я плёткі не пускаю, я іх і разводзіць не буду».

Ды ўсяму канец быць мусіць. Маміна «ну добра» ўсё ж прагучала. Супакоеная Волечка дахаты пайшла. Плётку развялі.

## Пажар

На шчасце, не так часта гэтая страшная бяда наведвала Шчонава.

Той пажар адбыўся летам 1967 года. Старую хату Алёшы Канцавога падпаліў ягоны малы сын Вася. Стаяла яна на высокім грудзе. Як здарылася, што хлопчык нарабіў такое шкоды? Куры іхнія на гарышчы нясліся. Палез малы яйкі шукаць. Пасвяціў сабе запалкамі... Згарэла ўсё. Яшчэ і летняя спёка дапамагла.

Сам Вася не пацярпеў зусім. Выскачыў. Пэўна, што напалохаўся.

Здзівіла многіх шчонаўцаў карціна: пасадзіў Алёша свайго сына на калені, гладзіць яго па галоўцы, шкадуе, рады, што з ім нічога не здарылася. Чула неаднойчы ад розных людзей: «Ні на калені садзіць ды па галаве гладзіць, а рэмня даць добрага! Гэто ж трэба: хату спаліў».

Засталіся як стаялі. Першы час жылі ў Ёўнавай хаце. Даволі хутка хату новую пабудаваў калгас. Ніжэй, каля тае гары.

Няма ўжо нічога ад іхняе сядзібы. Ні адно дзіця з гэтае самае вялікае ў вёсцы сямейкі не засталося ў Шчонаве. А Вася ўжо на шчонаўскай гары. Не пашанцавала яму ў жыцці. Памёр зусім маладым.

## Газоўка і кашміроўка

Не, не лямпа. Хустка. Тоненькая, празрыстая. Газавая. Усе дзяўчаты мелі такія ў Шчонаве. Сохла за хвіліну. Памятаецца: сабраліся з Таісай Мішышынай некуды ісці. Завязвае яна газоўку. Яе мама цётка Тамара заўважыла, што там нейкая плямка. Кабета акуратная, не магла яна дазволіць, каб дачка ў хустцы з плямаю ў людзі ішла.

–Няможна так ісці. Трэба памыць!

–Калі ж яна высахне?

–Як бачыш, сухая будзя.

Хуценька пацерла ў руках газоўку ў місе з вадою, на сонцы нагрэтай, вывесіла  на вяроўку. І тут жа зняла. Сухая! Яшчэ і дадала:

–Шануй адзенне дома, а яно цябе – у людзях.

Кашміроўка – таксама хустка. Шарсцяная, з кутасамі. У каляровыя кветкі. Поле магло быць чорнае ці белае. Радзей чырвонае ці зялёнае. Насіліся толькі ў святы.

Без хусткі шчонаўка на вуліцу не паказвалася.

## Праводзіны

Уся шчонаўская малеча хадзіла на танцы. Але не ўсё самае цікавае было там, дзе гулялі. «Хто каго будзе праводзіць?» –  гэтае пытанне не давала спакою даходным малым шчонаўкам. Так хацелася высачыць! Усё: і хто з кім, і куды пайшлі, і дзе стаялі. А каб яшчэ ўгледзець, як цалаваліся – гэта было б самае цікавае. Ніколі, дарэчы, не ўдавалася. Ці аж такімі цнатлівымі былі тыя пары, ці ўмелі ўрэшце адарвацца ад непажаданага «хваста», але ніхто з малых, назаўтра абмяркоўваючы праводзіны, не сказаў, што

бачыў, як цалаваліся. Праблема яшчэ была ў тым, што па адной сачыць ніхто ісці ў цемры не асмельваўся. А дамовіцца, за кім віжаваць, было цяжка, бо ва ўсіх былі свае сімпатыі. Галя Лёнікава заўсёды хацела ісці за Галінай Абрамовічавай, Ала Барэйкава – за Зінай Парасчынай…

Светлыя дзявочыя сукенкі ярка бялеліся ў цемры. Вечар прахалодны. Кавалер, а былі яны гжэчныя да сваіх абранніцаў, абавязкова накідаў на плечы дзяўчыны свой пінжак…

Калі гляджу сёння старыя фільмы з Одры Хэпберн, бачу тыя ж сукенкі, што насілі нашы шчонаўскія харашухі. І валасы гэтак жа ўчэсвалі. Мы, малыя, гадалі: што яны падкладваюць, каб так высока ўзняць. Адна з версіяў – шкляны паўлітровы слоік.

Мода шасцідзясятых у Шчонаве была такая ж, як і ў Еўропе. Хай усё астатняе было зусім іншым…

# Частка VI

# Справы амурныя

*Згадаем тут сустрэчы, развітанні, шчаслівыя і балесныя імгненні жыцця, якія часта вызначалі ўвесь лёс чалавечы. Разбітыя сэрцы і складзеныя ў адно пачуцці дваіх, што разам пойдуць праз жыццё. Як усюды, на ўсёй зямлі, так і ў маім Шчонаве. І адначасна – так нідзе больш, бо ніхто ніколі нічый лёс не паўторыць.*

## Анiся і Мікалай

Яны кахалі адно аднаго. Але Мікалай Валенцік быў бедны. Не пашанцавала Анісі. Аддалі яе замуж у Малюшычы. Толькі дзіцятка нарадзіла, памёр мужык. Мусіла тады пайсці за Галяшука, старога ўдаўца. Ён таксама нядоўга пажыў.

Мікола ўзяў Яўгасю з Кайшовак. Але лёсіла ўсё ж ім з Анісяй сысціся. Аўдавелі амаль ў адзін час. І пабраліся. Пяты шлюб на дваіх. У Анісі была дачка Ліза, у Мікалая – Ліда. Перажывала дзяўчынка, калі мачыха ў хаце з'явілася. Пратэставаць імкнулася. Але хто на яе зважаў? Спаць іх з Лізаю на печы паклалі. То яна сваёй новай сястры выказвала: «Чаго твая маці з маім бацькам спаць легла?» Раўнавала бацьку, сваю маму згадвала. Але змірылася. І з Лізаю ўсё жыццё, як з роднаю, пражыла, сябравала.

Яшчэ і сваіх дзвюх дачок Анісяз Мікалаем нарадзілі: Насцю і Таню. Прыгожыя, акуратныя дзяўчаты былі. Падросшы, служылі ў бацюшкі ў Райцы пакаёўкамі. Спачатку старэйшая, пасля, як яна замуж пайшла за Паўла Машчонскага, малодшая. Райчанкамі сталі.



*Анiся і Мікалай*

## *Гаданне*

Чычук быў старэйшы за сваю Таню, дачку Мікалая і Анісі, на чатыры гады. Яна, яшчэ дзяўчына зялёная, заўважыла яго на танцах, пад вакном стоячы. Надта суровым падаўся, страшным. Вельмі гуляць любіў. Усіх дзяўчат за вечар перабярэ, у польцы перакружыць.

Бацька Танін Мікалай умеў добра гадаць на картах. Навучыў яго адзін дзед шчонаўскі. Перадаў сваю навуку гадання. Прапанаваў яшчэ і думкі чужыя адгадваць. Сказаў прыйсці апоўначы да рэчкі. Увайшлі ў ваду па горла. «Паўтарай «Ойча наш». Адгаварылі малітву.

–А зараз кажы: адракаюся ад Бога, прысягаю Сатане.

–О, гэтаго-то я гаварыць не буду.

–То тады ўсё…

Так і не засвоіў Мікалай навуку чужыя думкі чытаць.

А на картах гадаў спраўна. Дзяўчатам долю прадказваў. Пагадаў старэйшай Насці. Тут і Таня просіць:

– Мне, тато, карты пакладзіця.



*Таня і яе Чычук*

–Нашто табе класці? Твой Чычук і так скоро прыйдзя.

Анісі не падабаліся намеры Чычука да яе дачкі. Бедным быў, старэйшым. То і прадказанні такія мужавы таксама не ўхваляла. Падкралася яна і ўшчыпнула мужыка. А той лагодна супакоіў яе:

–Ну, чаго ты мяне, Аніська, штырхаеш? Я ж не вінаваты, што карты паказваюць. Таня за бедным жыць будзя лепяй, чым Насця за багатым.

## Абы-што прысніла

На святога Андрэя дзяўчаты шчонаўскія гадалі на свайго нарачонага. 1935. Таня Абэлгава і Гэля Сахлэева на печы ў Сахлэевых вакол сябе кружочкам насыпалі каноплі і прыгаворвалі:

*Святы Андрэю,*
*каноплі сею,*
*дай Божа знаці,*
*з кім буду век каратаці.*



*Тыя, што гадалі: пасярэдзіне Таня, справа Гэля*

Пасля таго нельга было ні да кога ні загаварыць, ні засмяяцца. А тут як на злосць рогат бярэ, ліхое падцінае. Рагаталі, пакуль Сахлэіха не накрычала: «Паціхніця, а то як вазьму дзяркач, то ўсіх паспыняю!»

Нарачоны мусіў дзяўчатам прысніцца. Ранкам пра свае сны апавядаюць. Таня і кажа:

–Абы-што прысніла. Чычука гэтага ў летніку шарачковым. Я яго баюся, а не тоё, каб замуж ісці.

–А як прысніўся?

–Быццам сустрэліся ў жыце паміж Райцаю і Шчонавам. І ён мне бохан хлеба даў.



*Сям'я Тані і Мікалая*



–І выйдзяш. І жыць будзяш добра. Багато, – Сахлэіха так сон патлумачыла.

І сталася. Замуж за Чычука выйшла. І жылі добра. Свінабоем быў. Заўсёды скварка ў хаце была. І хлеб не зводзіўся. Той бохан прыснёны.

Шасцярых дзетак выгадавалі. Жылі доўга. Толькі памерлі не ў адзін дзень. На два гады Чычук сваю жонку каханую пераажыў.

*Такою прыгажуняю вырасла старэйшая дачка Чычукоў Іра*

## *Гадала Вера...*

Усе дзяўчаты шчонаўскія гадалі. Хто ж не хоча пра сваю долю ведаць? Гадала і Вера Лідзіна. Хоць перашкаджала ёй сястра малодшая Маруся, усё ж выбрала часіну для важнае справы, калі тая заснула.

Гаданне яе было на хлебе, дакладней, на булцы. Крыху мукі, шчопця солі, вада – цеста гатова. Спякла ў печцы. Трэба было з'есці тую булку і, ні да кога не загаварыўшы, спаць легчы. Нарачоны мусіў прысніцца. Так і зрабіла.

Сніцца ёй, быццам моцна вады хочацца. Мо тая булка перасоленая была? Быццам падае ёй вайсковец расолу напіцца. Не хоча дзяўчына расолу, вады хоча…

Выснову пра сон той правільную Вера зрабіла:

–Не пайду за тога, каго люблю, бо расолу даў, а не вады.

І яе гаданне збылося. Пайшла за Івана, добрага мужчыну. Двух хлопцаў выгадавалі. Толькі памёр ён, да старасці не дажыўшы. Вера замуж за Толіка ў Дорагава пайшла. Але і другі муж таксама памёр. Нямала пажыла яна ў ягонай хаце, а тут дзеці-ўнукі рамонт у ейнай шчонаўскай зрабілі. Вырашыла вярнуцца…

## *Бэля*

Гэтае імя было ў Шчонаве мянушкай. Выкарыстоўвалі як абразу, лаянку, дастасоўваючы да яго не вельмі лагодныя прыметнікі. Насамрэч такая асоба існавала ў 30-ыя гады.

Прайшлася тая яўрэйка Бэля па маім Шчонаве, дакладней, праехалася, не надта прыстойную славу па сабе пакінуўшы. Жыла яна на Зелянцы, краму трымала. Мела дзвюх дачок, Этку і Лізу, а мужа ў яе не было.

Не маркоцілася кабета. Гандаль ішоў спраўна. Ведалі людзі, што махляваць добра ўмела. Часта ў яе хаце п'янкі-гулянкі ладзілі, якія прывабнівалі няўстойлівых мужчынаў.

Упадабаў яе адзін шчонавец. Пакіне жонку, дзяцей і сыдзе з хаты. Пажыве ў тае Бэлі, набалюецца, нацешыцца, а пасля дахаты вяртаецца. Яна праз які дзень следам на падводзе прыязджае. Заходзіць у свіран і насыпае ў мех збожжа. На

роспачныя крыкі жонкі пра тое, што сярод белага дня такі крадзеж учыняе, спакойна адказвала:

–Твой муж у мяне жыў, еў. Чаму я мушу яго дарма карміць? Забіраю столькі, колькі з'еў.

Такое ўяўленне пра справядлівасць было ў Бэлі.

## Вузел

Завязаўся між трыма маладымі людзьмі моцны вузел.

Сястра Уладка Пасэсара Жэня кахала Мішу Таўлуя, брата Валадзенькавага. Каханне было ўзаемным. Ужо і да вяселля справы ішлі. Але не адбылося вяселле: пасагу, які сваты запрасілі, не меў Уладак для сястры. Разышліся іх сцяжыны. Хлопец жонку Вольку з Савашоў узяў, дзетак прычакалі. Праўда, Коля, сынок іхні, ужо падлеткам будучы, памёр, прастудзіўшыся, як каровы пасвіў. Дачушка маленькая засталася.

А Жэня замуж у Рамейкі пайшла за Сцяпана Мялешка. Ды не змірылася яна з тым замужжам. Вярнулася ў хату, дзе брат з сям'ёю жыў. І стала з Мішам сустракацца таемна. Мілуюцца ноччу, а пасля ён дахаты вяртаецца і спаць у гумне кладзецца. Ды аднойчы страшны сон прысніўся яму ў тым гумне. Быццам нябожчыкі яго душылі. Крычаў нема, праснуцца не мог. Злосць сваю на жонцы зганяў. Столькі гора, несправядлівасці, здзеку ад мужа Волька вытрывала. Біў ён яе, з хаты не раз уцякала. А ён следам ляцеў. Хавалася на могілках. Ляжа між магілкамі, той і не згледзіць. А пасля і зусім сысці мусіла да сястры ў Воўцу. А Міша прывёў у сваю хату Жэню. Жыў з ёю, хлопчык у іх нарадзіўся. Мішам назвалі.

Толькі праз два гады вярнулася Волька з дачушкай у сваю хату. Калі мужа на вайну забралі. Так і жылі яны разам, дзве жонкі аднаго мужа. Нат і ладзілі. Дапамагала Волька малога Мішу глядзець.

А Міша старэйшы з вайны не вярнуўся. Мусіла Жэня пайсці з тае хаты. Бо Волька першая, законная жонка. Жыла Жэня ў свайго дзядзькі Кірэя на хутарах. Ды захварэла яна на сухоты, якія і звялі жанчыну ў магілу. Сыночка яе ў дзіцячы прытулак аддалі. Падросшы, прыязджаў некалькі

разоў у Шчонава. Толькі хто яго тут чакаў? Мо і зараз жыве недзе ў свеце вялікім.

Толькі смерць, умяшаўшыся, той вузел мілосны развязала.

## Чайка Мікіта

Не так многа было ў Шчонаве мужчынаў, што з-за каханкі жонку пакінулі, дзяцей пасірацілі. Чайка Мікіта якраз з такіх.

Хата ягоная стаяла ў канцы Кліна. На тым месцы, дзе пазней Апалонік сваю пабудуе. Жыў ён са сваёю Зосяю, пяцёра дзетак мелі: Аркадзя, Ніну, Валодзю, Мілку і Міцю.

А ў школе, што была ля Захомаў, у колішнім доме аканома Пахалінскага, працавала настаўніцаю нейкая нетутэйшая кабета па прозвішчы Качаргіна. Відаць, усходніца. Закахаўся ў яе Мікіта. Ды так, што сям'ю сваю кінуў, пра дзяцей няшчасных не падумаў. З'ехаў ён з тою Качаргіною няведама куды. Ніколі больш у Шчонава не паказаўся.

Зазнала гора бедная Зося з дзеткамі. Працаваць з малымі давялося, галадаць. І бяду страшную перажыла. Узяў да галавы яе сынок Валодзік, што бацька іх кінуў. Не перажыў гэтае ганьбы. Захварэў і памёр маладзенькі.

Толькі адзін Міця, які ажаніўся з Гэляю Валенцікаваю, на Радзіме застаўся, у Карэлічах жыў. Астатнія ўсе выехалі недзе далёка. І ніколі не прыязджалі ў Шчонава.

## Пасаг Ганны Юлькавай

За Польшчаю тое было. Юляк Яўсей знайшоў пярсцёнак. Вельмі прыгожы, залаты, з камнем барвовым. Відаць, нейкі пан згубіў. Гаспадар не знайшоўся. Застаўся пярсцёнак у Юлька. Прыязджаў жыд з Варончы, шмат грошай за пярсцёнак даваў. Ды не прадаў Юляк тую прыгажосць.

–Гэты пярсцёнак будзе Ганнін пасаг, – так заявіў.

Ганна была вельмі прыгожай, ужо й на дзеўку бралася.

Малодшы сын Юляка Андрэй служыў у пана ў Руткавічах. Закахаўся ён у адну дзяўчыну. А яна, відаць, не надта сумленнаю была. Што казала хлопцу, што дакляравала, ніхто таго не ведае, але выкраў ён у бацькі пярсцёнак і занёс ка-

ханцы. Ды не выйшла тая за хлопца замуж. Падманула. Андрэй з вайны не вярнуўся. Засталася самотнаю й Ганна. Пасля таго, як нагу страціла, вырашыла, што замуж не пойдзе. Хоць і сваталіся яшчэ да яе неаднойчы.

Што з тым пярсцёнкам? Праз многа гадоў пераехала сям'я Колі Барэйкавага ў вёску, дзе замужам была Андрэева каханая. Ганна прасіла Колю спытаць у яе пры нагодзе, дзе пярсцёнак. Спытаў. У адказ – маўчанне.

–Нічога не сказала. Ні слова. Як вады ў рот набрала…

Недзе ж ён ёсць, той Ганнін пярсцёнак. А мо і няма. Мо пераплавілі золата…

## Трагічнае каханне

Анюта Максімава была дзяўчынай прыгожай. Кахала яна Толю Якубавага. Немалы час каханне доўжылася. Але здрадзіў Толя, прывёз з войска сабе жонку Соню.

Так пакутавала Анюта, што не вытрымала, у студню кінулася. Дасталі яе яшчэ жывую. Але захварэла пасля таго моцна. Не выратавалі. Памерла маладая. Калі б не здарылася гэтая бяда, пайшла б замуж за Алеся Навумчыка, якога Зайчыкам у вёсцы клікалі. Браў ён яе, любіў, не глядзеў, што з другім сустракалася.

А помнік па ёй брат Федзя паставіў. Сапраўды, прыгожая дзяўчына пазірае са здымка. Пляменніца Галя да яе падобная.

## Каханне Фані Сцяпанавай

Не шанцавала харашусе Фані Сцяпанавай у справах сардэчных. Яшчэ ў ранняй маладосці пакахала яна прыгожага аптэкара. Працавала ў Райцы ў бальніцы, штодня каханага сустракала. Ды не тое, каб словам



*На працу ў Райцу Фаня ездзіла на ровары*



*Фаня Сцяпанава і прыгожы аптэкар. Няўжо не здагадваўся?..*

пра свае пачуцці да яго азваца, а нават глянуць у вочы саромелася. Пакутавала моцна, моўчкі. Ніхто яе сардэчнае таямніцы не ведаў.

Не адна яна была ў аптэкара закаханая. Але іншыя такімі сарамлівымі ды сціплымі не былі. Як магла, дабівалася ягонае ўвагі смялейшая дый нахабнейшая дзяўчына, што вырашыла Фаніны паслугі скарыстаць. Пісала да яго цыдулкі, прасіла Фаню перадаваць. І тая перадавала.

Праз многа гадоў, неаднойчы згадваючы тое сваё вялікае каханне, з болем казала Фаня сваёй сяброўцы Валі Барэйкавай: «Каб яна ведала, каму пра сваю любоў гаворыць! У каго падмогі просіць…»

Такім было тое няспраўджанае Фаніна каханне.

## *Хто асудзіць?..*

Жыццё ўдоваў, якіх у Шчонаве, як і ў кожнай вёсцы беларускай пасля вайны, шмат было, нялёгкае. Гэта вядома. Пра гэта неаднойчы згадвала. Але размова зараз не пра тое. Пра справы амурныя.

Жаночае цела, а яшчэ ж такое маладое, прагнула пяшчоты, кахання, ласкі мужчынскае. Не ўсе жанчыны аднолькавыя, не ўсе маглі тэмперамент свой перамагчы, утаймаваць.

Адна такая ўдавіца жыла з сям'ёю свекрыві. Прымала мужчынаў чужых. Летам то яшчэ і нічога. І сена недзе ў стагох ці на вышках духмянае, і травы высокія, і лес з палянамі сунічнымі каханне тое грэшнае схаваюць. А зімою? Дзе схавацца кабеце са сваім шчасцем украдзеным? Вось жа, прыводзіла тая жанчына мужчынаў дахаты. Як толькі

ўгледзіць свякроў праз вакно, што нявестка госця вядзе, плакаць пачынае на ўсю хату, галасіць як па нябожчыку. А дачка супакойвае маці як можа: «Чаго ты плачаш? Ці табе шкода яе? Сціхні».

Адно бяда: жанатыя тыя мужчыны былі. Але мірыліся неяк кабеты. Сварыліся, зразумела…

Хто сёння асудзіць тую «грэшніцу»? Па-біблейску: няхай той каменем кіне, хто сам бязгрэшны. Не знойдзецца, мяркую, такога. Ды і даўно ўжо яна там, дзе суд справядлівы, высокі. Няўжо не ўлічаны будуць абставіны, што да таго граху чужаложства няшчасных удоваў даводзілі?

## *Такія розныя…*

Уявіце такую карціну. Ідуць мужык з жонкаю з Хвалава, з гасцей вяртаюцца. Даходзяць да хаты аднае ўдавы. Мужык кажа:

–Ідзі дадому.

Жанчына паслухмяна, нічога не кажучы, ідзе да свае хаты, што ажно ў канцы Шчонава. А мужык? Зразумела ж, да тае ўдавы зварочвае. Жыве ў яе дзень, два. Колькі захоча. Працаваць дапамагае. Пасля дадому вяртаецца.

Чаму яна маўчала, чаму не сварылася, не пратэставала? Казала на тое:

–Што зробіш? Ці буду я крычаць, ці не, усё роўна ён да яе пойдзя.

Відаць, мела рацыю. Бо другая кабета, муж якое да тае ўдавы таксама завітваў, што толькі ні рабіла: і крычала, і сварылася, – усё роўна рады даць не магла.

Былі гэтыя жонкі прыгожыя, працавітыя, нічым за тую ўдаву не горшыя. Не кідалі іх мужыкі. Так толькі, на час сыходзілі.

А цымус увесь у тым, што кабеты тыя – родныя сёстры. Такія розныя…

## *Невінаватыя*

Унізе, ля самае дарогі, насупраць беднае хаты ўдавы Барэйчыхі, што стаяла на ўзгорку, рос клён. Сад, агарод,

соткі – усё было схавана за хатаю. Змарнелы куст бэзу з правага боку, ля вакна, здалёку не быў відаць. А высокае дрэва выглядала ва ўсе канцы, было знакам сядзібы.

Настаўніца Валя, што жыла з мужам і маленькім сыночкам у той беднай хаціне разам са свякроўкаю, залоўкаю і дзеверам, любіла прыгожае дрэва. Не перастала любіць і тады, калі з'явіліся на ягоным ствале тлустыя плямы, белая і чырвоная. Першая ад пахучага крэму «Сняжынка», другая ад памады. Раззлаваўся аднойчы яе муж, схапіў тыя няхітрыя жаночыя падмалёўкі, выскачыў з хаты, разламаў і пабіў аб клёнік. Была прычына. А вінаватым не быў ніхто.

Некалькі гадоў таму працавала Валя ў недалёкім, але і не надта блізкім мястэчку Цырыне. Звольнілася, атрымала працу ў Шчонаве. А той цырынец, каму ўпала ў вока прыгожая настаўніца, памятаў яе. Праз некалькі гадоў вырашыў знайсці. Выбраўся неяк нядзелькаю, даехаў да Рамейкаў. Было вельмі рана. Ішоў па дарозе да хутароў у надзеі сустрэць кагосьці, каб распытаць, дзе жыве настаўніца. Ажно бачыць: ляціць насустрач вершнік. Прыпыніў, патлумачыў, каго шукае. Той нечакана вырашыў вярнуцца і правесці да хаты. Пра што яны гаварылі, ці гаварылі наогул, ніхто не ведае.

У хаце ўсе яшчэ спалі. Свякроўка шлупалася на кухні. Раптам адчыняюцца дзверы, маладая жанчына чуе голас мужа: «Госць да цябе прыйшоў. Прымай!» А ў хатцы той ні перагародкі, ні шырмы якое. Глянула яна з пасцелі і знямела, пазнаўшы госця няпрошанага, неспадзяванага. І што сказаць яму, не ведала. Ціха папрасіла сыйсці з гэтае хаты.

Вось тады і паляцелі ў клёнік крэм, памада…

Не мела яна крыўды на мужа. Не мела і на тога даўняга знаёмага. Толькі няёмкасць, прыкрасць ад недарэчнае сустрэчы засталіся назаўсёды. Ніколі больш не сустрэла яго.

Ад мужа папрокі чула амаль усё жыццё.

## *Нойдзяцца вашая Насця*

Чаму ў 1944-ым давялося сям'і Паўла Машчонскага ўцякаць з Беларусі, вядома. Баяліся. І баяліся недарэмна.

У той страшнай калатнечы на дарогах ваенных згубіліся яны недзе далёка-далёка. Доўгі час ні слыху ні дыху не

было. Перажывала Аніся, маці Насці, дзе ж дачка, ці жывая, як там унучка маленькая, якой і годзіка не было…

Ліда, зводная сястра Насціна, сон прысніла. Быццам сабралася сястра ў Райцу і просіць: «Дайце торбачку». Далі ёй белую торбачку. Зайшла Ліда ў пакой, а ён такі прыгожы, залаты… Усё незвычайна прыгожае для шчонаўцаў было залатым.



*Насця і яе сям'я, якая знайшлася*

Разгадваць сны ўмела суседка Волька Барэйчыха. Пайшла да яе Ліда і пачула:

–Нойдзяцца вашая Насця. Жывая яна, здаровая. І недзя вельмо добра, багато жыве. А торбачка белая – гэто пісьмо ад яе скоро прыйдзя.

І праўда – знайшлася. Ліст прыслала ажно з Канады. Завязалася перапіска, здымкі слала свае сямейныя, пасылкі. Як магла, дапамагала гадаваць дзяцей сваім сёстрам. Нат тканіну на шлюбны ўбор малодшай пляменніцы Тасі прыслала. Але пасля абарваліся сувязі. Памерлі сёстры, памерла і Насця. Ды жыла там, за бязмежным акіянам, яе дачка Ліля, якая ведала, што яна з Райцы. І вельмі хацела тую Райцу, сваю Радзіму, знайсці. А жаданні вялікія, шчырыя заўсёды спраўджваюцца…

# Частка VII

## Сямейныя гісторыі Уладкавых

*Спяшаюся сустрэцца з тымі, хто памятае даўнейшае. Не заўсёды, праўда, удаецца паспець, даехаць, дайсці. Ды і не заўсёды людзі сталага веку здольныя распавесці пра даўняе. Гэтак вось доўга ішла да цёткі Анюты Уладкавай, шчонаўкі, што замуж у Райцу пайшла, дзе і сёння жыве. Але дайшла, распытала. Пачутае ад яе, адзінае, хто з Уладкавых дзяцей застаўся, тут распавяду.*

## *Невядомы лёс гаспадара*

Хата Уладка Гіля была ля самых валоцкіх хутароў. Ягоная жонка, Уладчыха (Марыя Ігнатаўна з Дракаў), была вельмі прыгожай кабетай. Чацвёра дзетак у іх нарадзілася: Анюта, Уладзё, Паўлік, Сяргей.

Забралі Уладка ў войска ў 1939-ым годзе. Апынуўся недзе пад Львовам. Не адзін ён там быў. Яшчэ хтосьці са Шчонава. Шэсць разоў Уладчыха да свайго мужа ездзіла. Да Баранавічаў пяшком, а там – на цягніку. Не з пустымі рукамі ішла, пірагі пякла, мяса варыла.

Не вярнуўся Уладак. І весткі родныя не атрымалі, дзе і як згінуў. Надта перамяшалася ўсё там у тыя часы трывожныя. Нат і зараз праўды пра лёс дзеда ўнукі дабіцца не могуць.

## *Смерць Паўліка*

З усіх Уладкавых дзяцей Паўлік быў самым далікатным па натуры. Усіх шкадаваў. Надта за бацькам быў аддany. Калі размовы пра вайну пачаліся, вельмі перажываў. Казаў неаднойчы:

–Як вайна будзя і татку забяруць, то і я жыць ні буду.

Памёр малым. Прастудзіўся, запаленне лёгкіх падключылася. А маці якраз тады ў ад’ездзе была. Пакуль вярнулася, зусім сынок змарнеў.

Лячылі, не вылечылі хлопчыка. Дзевяць гадкоў усяго меў.

Магілка ягоная побач з мамінай.

## *Хвароба Уладчыхі*

Не абышла хвароба і гаспадыню. Моцна застудзілася Марыся ў тых дарогах, рэўматызму дастала. Суставы балелі. Пальцы зусім не варушыліся. І хадзіць не магла. Лячылі яе ў Райцы, ды нічога не памагло. Завезлі ў Наваградак. Не было каму і праведаць. Дзеці адны ў хаце. Самі сабе рады давалі, гаспадарку глядзелі.

Ажно восем тыдняў прабыла Марыля ў тым шпіталі. Наказалі, каб забіраць ехалі. У вёсцы вырашылі, што памер-

ла. Папрасілі дзеці сваяка свайго Юляка Яўсея, каб паехаў па яе. Чакалі з трывогаю, на горшае разлічваючы.

Адно ж бачаць: едзе Юляк і Уладчыха на возе сядзіць. Дапамагло такі тое лячэнне.

–Электрычнасцю лячылі, – кажа дачка Анюта.

Да вясны і зусім паправілася. Немалы век пражыла ўдавою.

## Цукар

Было тое ў самым пачатку вайны. Саветы адступалі. Наладаваны харчамі грузавік цяжка сунуўся праз Коньдзеўку. Зламаўся ўрэшце. Бедныя салдацікі рады даць не маглі. Кінулі. Самі падаліся ў бок Рамейкаў. Спяшаліся, бо немцы наступалі на пяты.

Чаго толькі не было на той машыне! Мяхі з мукою, цукрам, крупамі. Хутаране накінуліся на тое багацце. Мяркую, не знойдзецца чалавека, здольнага абвінаваціць маіх землякоў у марадзёрстве. Хто што ўхапіў, тое і цягнуў дахаты.

Даходны Уладзё з іншымі хлопцамі такое падзеі не прамінулі. Не меў ніякое тары, каб ухапіць сыпучае смакоцце. Разумеў, што дахаты збегаць не паспее, бо нічога не застанецца. Крутануўся туды-сюды і ўгледзеў старое іржавае вядро. Заскочыў на грузавік і паўнюткае цукру насыпаў. А яшчэ ж хочацца! Пачаў насыпаць за пазуху. З усіх бакоў кашулька ўздыбілася. Толькі б гумка вытрымала!

Шчаслівы, цягнуў дахаты тое вядро. А другою рукою насыпанае пад кашуляю прытрымліваў. Усё данёс.

Доўга пасля тым цукрам ласаваліся дзеці Уладка. Ашчаджала сястра Анюта як магла. Ды ўсё калі-небудзь заканчваецца.

## Падбітыя

І гэта было неўзабаве, як вайна пачалася. Палеглі ў хаце Уладкавай спаць. Газоўку патушылі. Ажно – стук у вакно. Моцны, настойлівы. Пакуль маці разабралася, што да чаго, а яны ўжо ў хату заходзяць. Як адчынілі, не маглі даўмецца. Спалохалася кабета, перапалохаліся дзеці. А яны і кажуць:

–Бабушка, ложі нас спаць.

На падлозе паклала. А сама з Анютаю на печ палезлі. Баяліся: шасцёра мужчынаў маладых у хаце. Усю ночку не спалі. Тыя ж паснулі адразу. Толькі адзін усё варочаўся, стагнаў.

Як віднець пачало, злезла Марыля з печы, а маладзенькі салдацік не спіць. Глянула на ягоныя ногі, а яны ўсе ў валдырох. Такія падбітыя салдаты былі. Прамыла яму ногі, тлушчам змазала, перавязала. Заснуў урэшце няшчасны.

Савецкія салдаты гэта былі, акружэнцы. Ці ведала жанчына, што за дапамогу ім расстрэл ад нямецкае ўлады пагражаў? І не толькі яе, але і ўсю сям'ю расстраляць маглі. Але абышлося. Невядома толькі, што далей тых салдацікаў чакала.

## *Аўчыны*

Кажух – найлепшая вопратка ў зімы сцюдзёныя. Узбіцца на кажух, праўда, няпроста. Выгадаваць не адну авечку трэба, шкуры вырабіць, пашыць. Якраз у вайну і назбірала Уладчыха аўчынаў, каб кажушкі дзецям пашыць. Добра выробленыя былі, мяккія, лёгкія.

Наляцелі на хутары немцы, абстрэльваць пачалі. Людзі пахаваліся хто куды. Уладчыха ў яме схавалася, Уладзё недзе з хлопцамі паляцеў у лагчыну рамейкаўскую. Толькі Анюта з Сяргеем у хаце. І аўчыны тыя на лаве ляжаць. Анюта да Сяргея:

–Бяры аўчыны, ляці, у яме схавай!

Схапіў той аўчыны, бяжыць да ямы, маленькі, худзенькі, у нейкай шапцы-кубанцы. А тут паліцыянт падлятае. Тыц з ружжом:

–Хто гэта пабег? Куды?

І бягом за малым. Дагнаў. Забраў аўчыны. Ні адной не пакінуў.

Моцна шкадавала Анюта тую страту. Вось табе і пашылі кажухі.

## Прамаўчалі

Прыгожаю дзяўчынай вырасла Анюта. Шмат хто з хлопцаў на яе паглядаў, замуж узяць хацеў. Алёша Барэйкаў на танцах часта запрашаў. Вельмі ўпадабала Анюту маці ягоная, Волька. Дзяўчына малаціла ў іх, у іншых справах памагала. Хацела яе Барэйчыха за нявестку мець.

І Шура Кароткі з Райцы быццам не супраць быў з ёю ажаніцца. Вельмі ж сястра ягоная хацела, каб Анюту ўзяў. І яе намаўляла, і брату, відаць, пра Анюту гаварыла.

Жыццё пражыта, столькі пераджыта, а да драбніцаў помніцца цётцы Анюце тое *гулянё* ў Апанасавай хаце, калі доля яе магла зусім інакш павярнуцца.

Сядзела яна на лаве ля вакна. І не заўважыла, адкуль той Шура раптам узяўся, каля яе сядзіць і кажа:

–Пойдзям вады нап'емся, – гэта ён так знаёміўся.

–А я ж маладая была, дурная, ні пайду, кажу. І дзе ён прапаў, ні ведаю. Ажно выйшла на двор з гуляня, дадому ісці, а ён ізноў ля мяне. Ідзем і маўчым. Ён нічога ні кажа, і я ні кажу.

Так усю дарогу і прамаўчалі. Пакуль разыходзіцца не трэба было. Ён у сваю Райцу пайшоў, Анюта – на свае хутары. Не пайшоў праводзіць. Ні слова не сказаў. Не развітаўся. Пэўна, чакаў хоць слова ад яе. А ці ж можна дзяўчыне першай загаварыць?

Так і разышліся. Назаўсёды.

## Нінaчка

Замуж Анюта пайшла ў 23-ы гады. Пасватаўся і пайшла. За старэйшага Яся Наўмовіча з Райцы. Добры чалавек быў, добра пражылі. І свякроў добрая была. І з залоўкаю Соняю сябравала.

Першая дзяўчынка ў яе нарадзілася. Нінаю назвалі. Харошая дзяўчынка была. Картачка засталася, дзе яны стаяць, а Ніначка побач, на стульчыку. У летняй сукеначцы, у белым каптурыку.

Але захварэла дачушка. Запаленне мозгу было ў яе. Менінгіт. У шпіталі ў Альшанах ляжала. Не адратавалі.

Доктар супакойваў, казаў, каб выжыла, то пакутавала б толькі, а не жыла.

Запомнілася хутаранам смутная карціна, як ішла маладая маці з мёртваю дачушкай на руках з таго шпіталю. Усе спачувалі, шкадавалі, плакалі. Але што зробіш?..



*Анюта, Ясь.*
*На стульчыку Ніначка*

## Браты і вятроўкі

Хлопцы Уладкавы Уладзё і Сяргей былі вельмі прыгожыя. І працавітыя. За якую працу ні браліся, усё ў іх атрымоўвалася. Уладзё быў знаным на ўсю ваколіцу майстрам, маляром, сталяром. Сяргей трактарыстам працаваў.

Усё жыццё браты пражылі побач. Хаты сабе добрыя пабудавалі. Жонкі іхнія, вятроўкі, аднаіменніцы – Жэні, Апанасава і Сымонішына.



*Прыгажуня Жэня Апанасава*




*Уладзё*



*Сяргей і Жэня*



*Уладзё і Жэня. Стаяць Ніна Хведарава і Надзя Петрукова*

Жэня Уладзева была краўчыхай, мела талент аднoй з лепшых майстрыхаў. Навучылася гэтай няпростай справе ад Аляксандра Цярэшкі з Хвалава. Шыла не толькі сукенкі (гэта было проста), а верхняе адзенне. І жаночае, і мужчынскае. Пасля вайны, калі купіць якое тканіны на паліто было вельмі цяжка, выручала колішняе вайсковае ўбранне. З салдацкіх шынялёў перашывала. Не толькі шчонаўцам шыла, прыязджалі да яе здалёку, нікому не адмаўляла.

А вось дачушак сваіх, Ніну і Лену, шыць не вучыла. Уяўлялася ёй, што паўтораць яны яе долю нялёгкую. Цэлы дзянёк працавала то на гаспадарцы, то ў калгасе, на дзялках вечных, а шыць, каб паспець у час, каб не страціць заказчыкаў, даводзілася ноччу. Ці выспалася хоць калі ўдоваль?.. Не хацела такога для дачок.

На сямейных здымках дзеткі Жэніны ўбраныя, як лялечкі. Мілыя каптурыкі на галоўках, палітончыкі, сукеначкі – усё дапасавана, аблямавана карункамі,



*Уладчыха з сям'ёю сына Уладзя*

пасачкамі. І сама яна ў прыгожа пашытых сукенках, часцей з белым каўнерыкам. Валасы свае шыкоўныя ў косы любіла заплятаць, вакол галоўкі каронаю ўкладвала. Міла глянуць на тыя здымкі.

З дзвюх сядзібаў Уладкавых сыноў засталася сёння толькі Сяргеева, у якой ягоная Жэня жыве. Як і ўсё жыццё, працуе, бо не можа без працы. Як усе мамы, чакае навінаў ад сваіх дзетак. Нядаўна ўнучкі яе, дочкі Нініны, замуж павыходзілі. Няхай жа толькі добрыя весткі прыходзяць у яе хату.

А Уладзева хата згарэла, трапіўшы ў нядбайныя рукі новых гаспадароў.

# Частка VIII

# Сніцца мне маё Шчонава

Маё Шчонава не пакідае мяне. Сніцца наша хата, мая равесніца, якое ўжо няма ў маёй вёсцы. Яна атрымала другое жыццё. Разабралі, перавезлі ў Мір, дзе спраўна служыць новым гаспадарам. «Такое дзерава было, жоўцянькаё, не паточана, як новаё. Шмат яшчэ прастаіць», – гаварыла мне цётка Волька Пецева. Той са шчонаўцаў, хто ўгледзіць нашу хату, пазнае яе. Падаецца мне, што і са мною так. Хоць даўно пакінула наша сям'я гэтую вёску, але засталася я шчонаўкай.



*Каля роднае хаты-равесніцы*

## Захомы

Так называецца недалёкі ад Шчонава лес. Прыгожа. І таямніча: нешта захаванае.

А па дарозе ў Захомы была крынічка, да якое зварочвалі вадзіцы напіцца, ручкі памыць. Адна з тых жылкаў, што жывілі рэчку Зямчатку.

Бярэш кошык, бяжыш ранкам у Захомы, да сняданку ўжо з поўным лісічак, падбярозавікаў, чырвонагаловікаў (так у нас падасінавікі называлі), белякоў, ваўнушкаў і рыжыкаў вяртаешся. Што за цуд – тыя рыжыкі! Амаль няма іх ужо ў нашых лясах. Баравічкі толькі ў ельнічку ля Еўкавых раслі. Не вельмі яны каму паказваліся.

І не баяліся? А чаго баяцца было? Свой лес, свае, добрыя, людзі вакол. Ніякіх звяроў страшных у Захомах не было.

## Міна, мінцыя, мінка

Не пра тую міну, што снарад з выбухоўкай, размова. А пра тую, што выраз твару азначае.

Вось жа, калі была тая міна такою, што чалавека, з твару зусім непрыгожага, рабіла вельмі прыемным, то казалі пра яго ў Шчонаве:

–У яго такая *мінцыя*!

Менавіта так тлумачыла цётка Жэня Антонішына, чаму харашуха Фаня Сцяпанава пакахала Юзіка Барынавага. У войска выпраўляла, сама на кані да Карэлічаў завезла, тры гады чакала. Быў ён хоць і непрыгожы з твару, але высокі, спраўны, на гармоніку файна граў, да кожнага падыход знайсці ўмеў.



*Справа Юзік Барынаў*

Праўда, не склаўся Фанін лёс з ім. Юзік, як многія шчонаўскія хлопцы, вырашыў далей дзе шчасця шукаць. У Мінск паехаў. А Фаня ў горад не захацела. Зразумела ж, што такі спраўны мужчына, ды з такою *мінцыяй*, адзін там нядоўга быў. Прывёў сабе другую жонку, Веру, сын у іх нарадзіўся, Валодзем назвалі. Праўда, маладымі яны ўсе памерлі…

Пра дзяўчынку з заўсёды невясёлым выразам твару, калі падаецца, што вось-вось слёзкі з вачэй пальюцца, настаўніца Валя Барэйкава казала:

–У яе кіслая *мінка*.

Якія файныя шчонаўскія слоўцы – *мінцыя*, *мінка*!

## *Дзеці Алеся Чаркяса*

Чацвёра іх было, братоў Дубеняў, што мянушку Чаркес яшчэ хіба ад дзеда атрымалі: Хведар, Трахім, Алесь, Іван.

Між дзяцей Алеся быў Жора – вядомая ў Шчонаве асоба. Вельмі здольны да навукі, прабіўны, ініцыятыўны хлопец. Жыў у Маскве. Меў нейкі вельмі даходны бізнес. Быццам нават царкву там за свае грошы будаваў. Багаты быў. Самы багаты чалавек з нашага Шчонава. Грошай і для радні сваёй не шкадаваў. Усім дапамагаў. Магілкі сямейныя ўпарадкаваў. Загінуў зусім яшчэ не старым. Ніхто ў Шчонаве не верыў, што памёр сваёю смерцю. Страшная тая Масковія са свету яго звяла.

Марыла сустрэцца з ім, пагаварыць, папрасіць, каб нейкі, хай невялікі, промысел у Шчонаве адкрыў, каб хоць як з магілы вёску нашу выцягнуць. Не сустрэлася, не давялося.

Старэйшая дачка Алесева Ніна была вельмі прыгожая. Пражыла мо гадоў васямнаццаць. Сварыліся бацькі між сабою. Да бойкі неаднойчы даходзіла. Кінулася неяк дачка між імі, каб разняць, маці абараніць. Дасталося і ёй. Ды такім страшным удар той быў, што не выжыла дзяўчына, памерла.

Яшчэ адна дачка, Жэня, нямая была. Ад нараджэння. Крыху нешта гаварыла, але мала хто мог яе зразумець. Сваё імя вымаўляла – Шэра. І мянушку такую мела. Захварэла яна. Гадоў трыццаць пражыла.

Маруся і нябрыдкая была, і мужа Аркадзя Русака мела, і дзетак нарадзіла. Старэйшую Ніну ажно ў Казахстане: на цаліну з мужам паехалі, завербаваліся. Але вярнуліся. У Шчонаве жылі. Толькі жыццё іхняе ўдалым не назавеш. Хату Уладзеву, якую ім Жора купіў, спалілі, перад тым сваю, што ў пачатку Хвалава стаяла, спаліўшы. У агні і муж яе згінуў. Сама ў сыноў жыве. Гарэлка – бяда, што многіх у Шчонаве не абышла, і іхняе жыццё змарнавала.

Мо самае ўдалае жыццё атрымалася ў Волькі Алесевай. Замужам у Хвалаве была. Пражыла, як усе жанчыны, у працы, у клопатах сямейных.

## *Па сваіх сынах*

Неяк у тэлефоннай размове з Аняй Пэкаравай спытала, як маецца баба Ганна Пасэсарыха. Тая адказала:

–Бядуе. Плача па сваіх сынах…

Пра сябе я дагаварыла:

–Бо ніколі не ўгледзіць іх больш…

Самае вялікае гора – хаваць сваіх дзяцей – напаткала жанчыну, калі была яна ўжо ў сталым веку. Памёр яе першынец Валодзя, які жыў у Варончы, пасля Коля ў Наваградку.

Не ўсё адразу складвалася ў лёсе Ганны, дачкі Сымона Гіля. Спачатку нарадзіла яна сыночка, а пасля толькі прыйшла ў хату мужа. Як вырас Валодзя, казаў:

–Каб бацько не ўзяў яе, то я забіў бы яго.

Так абыходзіў сыну лёс мацеры, яе жаночы гонар. Ды і ўласнае дзяцінства, будучыня. Бо няшлюбныя дзеці ў тыя часы незайздросную долю мелі. Ды, дзякаваць Богу, трымаўся



*Валодзя Пэкар – старэйшы сын Уладка Пасэсара*

Ўладак Пасэсар па-людску, забраў кабету з сыночкам. Пяцёра дзетак выгадавалі, прыгожых, разумных, працавітых. Апошняга, Сашу, нарадзіла Ганна, калі старэйшая дачка Люня ўжо на дзеўку бралася. Нялюбаю ёй была цяжарнасць маці. Роды прымаць прыбегла бабуля Тацяна, паклікала яе Ганніна малодшая Ніна. А Люня сышла, каб не бачыць. Пасля, калі ляжала маці, змэнчаная родамі, не захацела нават вады ёй падаць, злавалася. Толькі нядоўгаю тая злосць была. Мілым, прыгожым, увішным і даходным рос малодшы брацік. Грошы нейкія на яго атрымлівалі. Ішлі яны на вучобу Люніну. Дзеці ў хату – шчасце ў хату.

Толькі не дай, Божанька, нікому дзетак сваіх перажыць!..

## *Маня і Шураста*

Так звалі старога хутаранскага кавалера, не вельмі паважліва з'іначыўшы ягонае імя Шура. Чаму не жаніўся? Сам на такое пытанне адказваў:

–Лепш свінню выкармлю, чым жонку карміць буду.

Маня – ягоная сястра. Дзеці Васіля і Алесі Таўлуёў.

Маня таксама замуж не пайшла. Маці не пусціла ў маладосці, калі бралі дачку.

Пасля смерці бацькоў засталіся Маня і Шураста дваіх. Нядобрым быў брат да сястрыцы. Злым, скупым. Ежу ёй выдзяляў. Без яго нічога ўзяць не магла.

Згадваюць, як атрымалі шчонаўцы бульбу. Трэба было яе з капцоў у мяшкі грузіць. Шураста сядзіць ля капца, вёдры насыпае, а Маня тыя вёдры мусіць насіць і ў мяшкі сыпаць. Як магло здарыцца, але зніклі мяшкі. Як жа крычаў Шураста! І на Маню, і на ўвесь свет:

–Даведаюся, хто забраў, галаву адкручу!

Нідзе тыя мяшкі і не падзеліся. І ніхто іх не браў. Засыпаліся яны бульбаю. Разабраліся ўрэшце…

Першым Шураста памёр. Моцна сумавала па ім Маня. Плакала. Толькі добрым словам згадвала. Помнік па ім паставіла. Перажыла брата нядоўга, на некалькі гадоў. Побач іх пахавалі. Толькі помніка па ёй паставіць няма каму.

## *Шчонаўскі Кулібін*

Коля Тунікаў меў незвычайныя здольнасці. Быў вялікім аматарам тэхнікі. Меў матацыкл. А вось правы для язды наўрад ці меў. Бо чамусьці часта даводзілася яму ад міліцыі на тым матацыкле ўцякаць. Ці мо пад чаркаю бываў, таму і ляцеў ад вартавых парадку на злом галавы.



*Бацькі. Марыя і Канстанцін Навумчыкі*



*Коля Тунікаў*

Такія ўцёкі станавіліся падзеяй дня. Вечарам, калі шчонаўцы збіраліся пасля працы каля школы, расказваў герой пра свае прыгоды. Як угледзеў міліцыянераў яшчэ здалёку, як і куды звярнуў, як газу даў, як праз буракі ляцеў… І галоўнае – уцёк-такі. Што тыя галівудскія сюжэты пра пагоні, забойствы, калі тут такое, сваё, шчонаўскае, геройства ва ўсёй красе.

А яшчэ быў Коля радыёаматарам. У школе вучыўся не надта, а да таго добра разбіраўся ў радыёлах, хвалях, што не аднойчы здзіўляў вяскоўцаў сваімі адкрыццямі. Мог нейкім чынам падключыцца да пэўнае радыёхвалі ці мо сваю ствaрыць, што можна было яго праз радыёлу слухаць. Праўда, што ён мог там сказаць? Нічога асаблівага. Але не тое важным было. Гонарам напаўняліся шчонаўцы: іх хлопец па радыё гаворыць.

А яшчэ, як цётка Фаня Лысішына згадала, самалёты бунтаваў. Ляціць самалёт і не ведае куды. Збіваў іхнія хвалі-маршруты. Тут ужо не да жартаў. Доўга не маглі зразумець спецыялісты, што за бермудскі трохкутнік тое Шчонава. Але разабраліся ўрэшце. Праўда, жорстка хлопца не пакаралі. Ды і ніяк, пэўна, не пакаралі. Бо не запомнілася нікому тая расправа. Відаць, слова гонару даў, што больш так рабіць не будзе.

Яшчэ ў маленстве пашкодзіў ён нагу, скочыўшы няўдала з вышыні. Лячыў яе, але так і не вылечыў. Ажаніўся позна. Узяў дзяўчыну з Хвалава. Ды нядоўга пражыў Коля. Мо і да пяцідзесяці не дажыў.

Яшчэ адно змарнаванае жыццё. Прапаў немалы талент.



*Вяселле Колі Тунікавага і Марусі Міколішынай. Маладыя ідуць па Хвалаве*

## Ты здурнела?

Ганна Юлькава ўставала раненька-рана. Супернічала з ёю Жэня Мялешчыха. Усхопяцца яшчэ папоцемку і да вакна: ці гарыць святло ў суседкі праз коньдзеўскае балота. А тады – клопат штодзённы жаночы: карову падаіць, выгнаць, у печы выпаліць, чыгуны дастаць, картоплю патаўчы, *свіням* даць…

Управіцца Ганна, у хату заходзіць. А тут братава Апанасіха з хаты выходзіць. Праснулася. Заміж вітання:

–Ты здурнела?

–Гэто ты здурнела!

Першая фраза азначала: чаго так рана паднялася, другая – чаго так позна ўстала.

## Не дуры галавы...

Сёння, каб адмахнуцца ад кагосьці, тутэйшыя часцей пасылаюць далёка, на няшмат літараў, выкарыстоўваючы ўкрапленні з рускае мовы. Ніколі яны нашымі, беларускімі, не былі.

Раней такія адмахванні да тых, хто надта назаляе, былі разнастайнымі, не пазбаўленымі дасціпу. Асабліва файна дзейнічала хлёсткае, з моцным прыціскам на апошнім слове: «Не дуры мне галавы і с-кі!»

Быццам цяпер чую, як цётка Фаня Сцяпанава, зазлаваўшы, на каго-небудзь так прыкрыкне.

Грубавата, але эфектыўна. Адразу той назола замаўкаў.

Наогул, шчонаўцы ўмелі адвадзіць таго, хто надта ў вочы лез. Устаўляць у размову іншых свае пяць капеек – звычка не надта добрая. «Да цябе не п’юць, ты й не здароўкайся!» – чуў на свой адрас непажаданы суразмоўца.

## Каравай, торт і тарфа

Караваі былі верхам майстэрства шчонаўскіх гаспадыняў. Пякліся яны толькі на самае вялікае і радаснае сямейнае свята – вяселле. Не кожная шчонаўка бралася за гэтую справу. Лепшымі пекаркамі ў вёсцы былі Ніна Пасэсарава, Жэня Сяргеева, Жэня Майдзюкова. Трэба было не толькі спячы



*Караваі на вяселлі Люды Фанінае і Колі Веры Трахімавае. Шлюб па вялікім каханні*

смачны пачастунак, але адмыслова ўпрыгожыць яго. Што да смаку, то Ганна Юлькава так казала:

–Падумайця, як яно будзя нясмачнаё, калі ўсё смачнаё пакладзена: мука пшанічная, яйкі, малако, масло, цукар…

Не зусім яна мела рацыю, бо можна і добрыя прадукты змарнаваць, тае ж солі перасыпаўшы. Ды такое нават у думках не дапускалася. Караваі заўсёды былі смачныя. Былі акрасаю вясельнага стала. Ставіліся ў самым цэнтры, стаялі да самага канца, калі госці дарылі маладых. Кожны атрымліваў ладны кавалак караваю (рэзаў вялікім нажом старшы шафер) і маленькі, што клаўся наверх, торта (рэзала невялікім нажом старшая шаферка).

Абавязковым упрыгожаннем гэтага кулінарнага цуду была зялёная галінка шпарагуса, якую ўплятаалі і ў вясельны вянок маладой. Краі абрамляліся выпечанымі з таго ж цеста вяровіцамі, косамі, выштукаванымі спраўнымі жаночымі ручкамі. Асабліва вабілі вока шышкі, што красаваліся на караваях. Выглядалі яны як кветкі, ружы, былі рознакаляровымі. Атрымаць такую было вялікай радасцю для шчонаўскае малечы, што абавязкова прысутнічала на вяселлі. Таўкліся дзеці



*Вяселле на другі дзень каля Фанінай хаты. Пазнавайце сябе, шчонаўцы. Восень, 1975 г.*

ў парозе, заглядвалі ў вокны, бегалі па двары. Радаваліся разам з усімі. І чакалі шышкі. Ганна Юлькава казала перад вяселлем Барэйкавым дзецям:

–Як будуць дарыць, папрашу, каб мне шышку далі, прынясу вам.



*Вясельны здымак Люды Адамовічавай. У валяне хоць невялічкая, але галінка шпарагуса*

І часта прыносіла. Хоць на смак тая шышка была такой, як увесь каравай, але прагу эстэтычнае асалоды малым шчонаўцам задавальняла напоўніцу.

Слова «торт» было чужым для шчонаўцаў. А торф – сваё, вядомае. То і называлі часам тое салодкае печыва **торф.**

Настаўніца Валя Барэйкава ўвесь час папраўляла Фаню Сцяпанаву:

–Не **торф**, Фанечка, а **торт** трэба казаць.

Паехала неяк Фаня ў Карэлічы, купіла торт. Вяртаецца і думае,

як гэта правільна сказаць, каб дагадзіць суседцы. Заходзіць у хату і кажа:

–Пятроўначка, я тарфы ў Карэлічах купіла…

## *На ёлцы і пасля яе*

Тая сукенка настаўніцы Валі Барэйкавай і сапраўды была вельмі прыгожай. Чорны матэрыял у бліскучую палоску, прывезены з Масквы. Такіх у Шчонаве ў той час ні ў кога не было. Сшытая была ў контры, аздобленая белым каўнерыкам і пярлінавымі гузічкамі. Пастаралася краўчыха Вера Лідзіна, дагадзіла.

Надыходзіў 1970 год. Апранула Валя сукенку на Навагодні ранішнік. А гэта было свята для ўсяе вёскі. Шапталіся кабеты: «Сукенка такая харошая, бліскучая, як ёлка». І сама настаўніца выглядала вельмі міла. Мо таму, што шчасце найлепш упрыгожвае жанчыну. На каленях трымала свайго наймалодшанькага, Воўчаньку. Так яго пяшчотна называлі ў хаце. Хлопчыку крыху больш за год было.

Відаць, былі між тых вачэй цікаўных вочы злыя, нядобрыя. Ураклі хлопчыка. Назаўтра ранкам, калі сястра карміла яго заціркай, затросся брацік, абмяк, амярцвеў. Немым голасам закрычала Ала, клічучы маці. Прыляцела тая, схапіла сыночка, а ён і не дыхае. Хутка падводу знайшлі, завезлі ў бальніцу. Амаль усе канікулы зімовыя прабылі там. Нічога не маглі прызнаць дактары. Незвычайная нейкая хвароба адыйшла гэтак хутка, як і з’явілася. Толькі аднойчы падалося маці, што ізноў з хлопчыкам нешта робіцца, трымала якраз бутэльку з малаком, рукі абмяклі, тую бутэльку выпусціла. Але нічога. Паправіўся Воўчанько.

А была тая зіма вельмі снежнаю. Шчонаўскія вуліцы так замяло, што прайсці можна было толькі праз тунэлі, якія зрабілі ля плоту. Калі Ала прыбірала хату, палавікі выносіла, то вытрасала, каля коміна стоячы. Дарогу прачысцілі, каб хлопчыка з бальніцы прывезці.

Ёлка навагодняя яшчэ стаяла ў хаце. Дайшоў малы да яе, сарваў цацку і разбіў.

–Мама, Воўчанько цацку пабіў! – запрычытала Ала.

–Хай усе паб’е, толькі б здаровенькім быў, – пачула ў адказ.

## *Частка IX*

## *Затрымаць, захаваць*

*Усё блукаю па шчонаўскіх сцежках-дарогах, сустракаючы на іх дарагіх мне шчонаўцаў, назіраю за імі ўважліва, з-за мяжы, якую не перайсці. Імкнуся не пакрыўдзіць іх памяць. Хоць мо і не заўсёды тое мне ўдаецца.*

*Асцярожна іду, вывяраючы кожнае слова. Баюся спалохаць той даўні свет шчонаўскага жыцця, якога ўжо няма. Бо і сцежкі многія даўно зараслыя, і дарогі не па тых самых месцах ідуць. Але самае галоўнае – даўно ўжо не ходзяць па іх тыя, каго там бачу. Бо даўно яны сышлі так далёка, адкуль не вяртаюцца. Затрымаць гэта, захаваць імкнуся. Веру, што не толькі мне адной гэта трэба…*

## *Харанджук*

Чаму да шчонаўскае сям'і прыляпілася гэтая мянушка, ужо ніхто і не раскажа. Мо нейкі з дзядоў Косціка Таўлуя быў у войску падхарунжым, мо яшчэ які сэнс у той не крыўднай, а надта ганаровай, мянушцы захаваны, не даведаемся напэўна.

Косцік быў цікавым чалавекам. З характарам. Надта ж рухавы, працавіты. І ад жонкі патрабаваў хутчэй рухацца. Не паспее дзіця пакарміць, а ён на поле гоніць.

Першая ягоная жонка Волька (сястра Юльчыхі і Сцяпаніхі) памерла маладая ад сухотаў. Двое дзетак малых пакінула, Вольку і Алёшу. Другі раз ажаніўся Кастусь з дачкою Сымона Гіля Аленаю. Яна яшчэ траіх дзетак нарадзіла: Кацю, Колю і Валодзю. Мела Алена талент, спявала вельмі прыгожа. Нат і ў сталым веку спевамі сваімі зачароўвала.

Нядрэннаю мачыхаю была яна. Але ўсё ж свае дзеткі бліжэй, даражэй. Ды Харанджук не такі быў, каб старэйшых у крыўду даць.

Пайшла неяк Алена ў краму. Купіла таго-сяго. Вяртаецца Кастусь з працы, а Каця да яго:

–Татачко, мама мне матэр'ялу на сукенку купіла!

–Добра. А што табе, Волько, купіла мама?

–Мне нічого ні купіла.

–Пакажы, Кацё, той матэр'ял.

Прынесла Каця, шчаслівая, той адрэз на сукеначку, а бацька схапіў яго і да калодкі. Кінуў і пахвастаў сякераю.

–Запомні, Алено, што Каці купіш, тоё каб і Вольцы!

Як жа не запомніць такую навуку! Сказаў як адрэзаў. Дакладней, сякераю адсек. З характарам мужчына быў.

Усю душу ў гаспадарку ўкладваў. То і не дзіва, што ў калгас не пайшоў. Трымаўся да канца. А канец хутка прыйшоў. Бо не перанесла сэрца гаспадара тыя парадкі, што новая ўлада завяла. Памёр Кастусь Харанджук зусім яшчэ не старым.

## *Сёстры*

Вось жа, раслі Харанджуковы дочкі як сёстры. Абедзве прыгожыя, працавітыя, абедзве з характарам. Было ад каго той характар займець. А Волька дык яшчэ, карыстаючыся



*Волька з сяброўкамі. Злева направа: Волька Аўдоліна (Труска), Фаня Сцяпанава, Зіна Барынава, Волька Харанджукова, Каця, настаўніца, што выйшла замуж за Валодзю Міхасёвага*

бацькавай апекай, надта ж імкнулася самастойнай быць. Працаваць пайшла ў Райцу, санітаркай у бальніцу. Заробкам сама распараджалася, ні з кім у хаце не дзялілася.

Замуж доўга не ішла. Выбірала. Шмат хлопцаў да яе сваталася. Падабалі яе многія. Асабліва вылучалася постаць яе, па-дзявочы вабная. У Шчонаве заўсёды моцных, гладкіх дзяўчат любілі. Шырокія косці мела, лаваю яе тыл называлі. Прыязджаюць сваты, а яна – на печ. Зірне, не спадабаецца жаніх, на печ залезе і не злезе, як ні просяць. А вось калі з'явіліся сваты з далёкіх Селішчаў, выглянула з-за занавескі і з першага погляду спадабала хлопца. «За гэтага пайду», – сказала. Але ізноў праблема: вельмі вялікі пасаг запрасілі, а маладая не надта пра яго дбала, куфар не сабрала, ні прасці, ні ткаць не любіла. Ды і грошай шмат запатрабавалі.

Вось тут і прыйшла на дапамогу яе сястра зводная. Каця працавала звеннявою ў калгасе. Хоць заробкі ніякія былі, але раз на год прэмію за добры лён атрымоўвалі. Аддала Каця ўсю тую прэмію, а яшчэ і з куфра свайго пасажным падзялілася. Не пашкадавала ні ручнікоў, ні абрусаў, ні перабіранак. Як роднай сястры паспрыяла.

І яшчэ адзін падарунак, апошні, зрабіла Каця Вольцы. Прыязджала неяк тая ў Шчонава, паказала ёй сястра строй, што ў апошні шлях прыгатаваны быў. Вельмі ўпадабала Волька прыгожую хустку-кашміроўку, белую, у чырвоныя ружы, якую дачка Ніна для маці прывезла. Вачэй ад тае



*Каця з сяброўкамі. Сядзяць злева направа: Анюта Міхасёва, Каця Харанджукова, Люня Пасэсарава, Жэня Аляксандрава. Стаяць злева направа: Зіна Валенцікава, Жэня Максімава, Фаня Лысішына, Валя Трахімава, Валя Мікітава*

хусткі адвесці не магла. Захацела і сабе такую мецць.

Памірала яна зусім яшчэ не старою ад хваробы невылечнае. Прыехала Каця вечарам і ўгледзела, што зусім не ў такую хустку ўбралі сястру. Назаўтра прывезла сваю, сама завязала на галаву Вольцы…

У сваіх вечных дамах ужо гэтыя сёстры. Поруч з нарачонымі. У прыгожых кашміроўках. Каці пазней другую, такую ж файную, купіў зяць ажно ў Маскве. Адна на шчонаўскім грудзе спачывае, другая – на рудніцкім.

## *Суседкі*

Няма нічога горшага, калі суседкі між сабою не ладзяць. Тут і непавага, і зайздрасць, і сваркі. Ды і на дзяцей тыя нелады пераходзяць.

Так усё жыццё побач пражылі Каця Харанджукова і Алена Лукошкава. Без узаемнай прыязнасці, мякка кажучы. Ні ў хату адна да аднае ніколі не зайшла, не паразмаўлялі нат ніколі па-людску. Хто яго ведае, з чаго так бывае. Мо і праўда, сядзіць у кожнага чалавека той татэм, які другога без усялякае прычыны (у Шчонаве казалі без дай-прычыны) не ўзлюбіць. Пэўна, што так.

А ў суседак тых прычынаў, каб пасварыцца, дзясяткі за дзень знайсціся могуць: то курыца ў чужы агарод зойдзе,

то сабака плот пераскочыць, то нешта з аднаго агарода на другі пяройдзе…

Вярнулася аднойчы Алена з бальніцы. Апендыцыт перанесла. Не каб спакойна паляжаць, ад аперацыі адысці, дык яна – у агарод. Бо цыбуля ўжо вырасла. Выбраць трэба. А ўвішная такая, каб і сплясці адным махам: на сонцы высахне. Навыбірала, напляла многа пляцёнак, на яблыні развесіла.

Як жа каб Каця ды не згледзела тую яе рупнасць незвычайную? Асабліва ж уразіла, што цыбулі гэтак многа. Кажа свайму мужу, які з працы вярнуўся:

–Глянь, Валодзя, колькі цыбулі Лукошчыха напляла.

А той мужчына разважлівы, адразу сцеміў:

–А ты глянь, ці на месцы твая…

Можна толькі ўявіць, як той дзень між суседкамі скончыўся.

А мы так абразок завершым: Бедная Алёнушка! Гэта ж трэба, у шпіталі праляжаўшы, адпакутаваўшы, без працы засумаваўшы, так да яе кінулася, што цыбулю і сваю, і суседчыну выбрала, спляла, яшчэ і высушыць хацела…

## *Па Любін пасаг*

Няўдалым быў першы шлюб Любы Барэйкавай. Замуж пайшла ў Застадолле за шмат старэйшага Сцяпана Руца, да таго ж разводніка. Збоку гледзячы, быццам і някепска жылі яны з мужам. Ды нядоўга той замуж трываў. Была ў мужа такая в**а**да, пра якую і гаварыць каму не выпадала. Мо і цярпела б Люба, ды прапанавалі ёй сямейнікі мужавы такое, пра што нікому і сказаць не магла. Вырашыла яна ўцякаць. У свет белы. Куды вочы глядзяць. А вочы дзявочыя ў тыя часы глядзелі на далёкую Поўнач, куды ўжо многія з’ехалі. І сяброўка Любіна, Анюта Апанасішына, ужо там была.

Сабралася маладзіца, калі дома нікога не было, і пайшла. Нат рубля не было. Трыццаць сем капеек усяго мела з сабою. З адчайным гонарам расказвала пазней, што за такія грошы ажно да Мурманска дабралася. Як яна змагла тую дарогу асіліць, ніхто не ведае.

Не ведала і Волька Барэйчыха, дзе яе дачка падзелася. Ажно да таго часу, пакуль не напісала Люба з далёкага Зарэчанска, што ў Кандалакшскім раёне…

Але ж у Застадоллі пасаг Любін застаўся. Шафа, адзенне. На той час гэта былі дарагія рэчы. Трэба было іх вярнуць. Папрасіла Барэйчыха шафёра Валодзю Аляксандравага і сваіх пляменнікаў Валодзю і Колю Пасэсаравых, каб паехалі па той пасаг.

Зразумела, што не надта прыязна іх там сустрэлі. Але шафу аддалі. Завялікая сіла мужчынская была, каб пярэчыць. Праўда, адзенне і абутак мужчыны не змаглі забраць. Не будуць жа яны з-за тых шматкаў заводзіцца. Даношвалі пасля Любіна пляменніцы Сцяпанавы.

## *Кірэй*

Сядзіба Кірэя Таўлуя была на шляху са шчонаўскіх хутароў да Рамейкаў. Хата, хлеў, вялікі цяністы сад. Нічога не засталося. Ніякога слядочку. Поле на тым месцы.

Не шанцавала Кірэю. Першая ягоная жонка Алеся памерла маладая, дзетак пасіраціўшы. Ажаніўся ўдавец з суседкаю Ганнаю, кабетаю немаладою. Але і яна праз тры гады на той свет пайшла, дзяцей не нарадзіўшы.

Ад першага шлюбу засталося ў Кірэя двое дзетак. Старэйшая Маня вырасце, замуж пойдзе ў Райцу за Водыка. Стане Водычыхаю. А вось малодшы хлопец Алёша зусім малады памрэ. Прастудзіўся ён, галава моцна балела, не чуў. Лячылі яго, аперацыю ў Баранавічах рабілі. Нічога не дапамагло.

За такога мужчыну, двойчы ўдаўца, не пабаялася пайсці замуж маладая ў параўнанні з ім дзяўчына, Маня Аляксандрава, сястра Жэні і Валодзі Гілёў. Няблага яны пражылі. Сыночка нарадзілі, Валодзю. Бацька любіў свайго пазнячка, сынчыкам называў. Слова гэта прыстала да хлопца, стаў ён у Шчонаве Сынчыкам.

А тут і Кірэеў час прыйшоў. Засталася Маня ўдавою. Жыла спачатку ў ягонай хаце з сынам, а пасля купіла ў Шчонаве лепшую, Лёніка Рыгоравага.

Няма і Мані, і сына Кірэевага. Маладым памёр.

Едучы па шасейцы з Райцы на Рамейкі, заўсёды гляджу на левы бок. Ні адна дарога, ні адна сцежка не выходзіць сюды з хутароў. Няма куды ім весці. Няма каму іх пракласці. Ды бачыцца мне перад рамейкаўскаю гарою Кірэеў хутар. Праз адлегласць. Праўда, не ў прасторы, а ў часе.

## Маздзюкі

Першым з мужчынаў сям'і Дубеняў, якія мелі гэтую мянушку, Фаня Калеснікава (яна таксама з Маздзюкоў) згадвае Аляксея, свайго дзеда. Дзеці ягоныя, а гэта жонка Валенціка, Аляксандра, вядомая па мянушцы Дудка, і Алесь, для дзяцей шасцідзясятых – пакаленне шчонаўскіх дзядоў.



*Коля і Алёша – Маздзюковы хлопцы*

Алесь ажаніўся з Жэняй Сцяпанавай. Пражыў роўна шэсцьдзясят гадоў. Пенсіі ні разу не атрымаў, – не паспеў. Памёр раптоўна. Не сталі доўгажыхарамі і ягоныя сыны. Коля, Трумар, быў хваравекім, застаўся бабылём, жыў з маці, а вось Алёша, муж Тані Тунікавай, здаровы, высокі, моцны мужчына, памёр раптоўна, не ведаючы хваробаў.

Шо б магла азначаць гэтая мянушка – Маздзюкі? Ніхто ўжо сёння не скажа.



*Алёша Маздзюкоў, Воля Міхасёва, Пеця Паўлючышын*

## *Залатыя рукі*



*Які ён прыгожы –*
*Лёнік Паўлючышын!*

Сыны Ганны Паўлючыхі выраслі не толькі працавітымі, але і вельмі таленавітымі. Залатыя рукі меў старэйшы Лёнік. Ні аднае справы не было, каб не асвоіў. Быў самым дасканалым на ўсю ваколіцу майстрам-сталяром. Што толькі ні выштукоўваў! Сам, сваімі рукамі дом збудаваў і сваёй сям'і, і брату Сымону. Усё сам рабіў: вокны, дзверы. А якія калыскі дзіцячыя, рамкі для карцінаў з-пад ягоных рук выходзілі! Праўдзівыя творы мастацтва. Захаваўся здымак, на якім ягоны малы сын Павел сядзіць у зробленым бацькавымі рукамі драўляным вазку-машынцы на колах. І мэблю сам рабіў. У іх хаце стаяў такі цуд – сервант. Мяркую, многія на яго заглядаліся. А з чым працаваў? Якія прылады меў? Самыя простыя, прымітыўныя. Нат і не снілася яму тое, што сёння кожны ахвочы прыдбаць можа.



*Лёнік і брат Пеця будуюць хату*

Быў Лёнік шчонаўскім фатографам. Некаторыя здымкі нядрэнную якасць маюць. Зразумела, што найбольш здымаў сваю сям'ю, дзяцей. Міла глянуць сёння на тыя выхапленыя са штодзённасці імгненні, якія ніколі не вернуцца.


*Лёнік-гарманіст*

І маляваць умеў. Намаляваў настаўніцы Валі Барэйкавай карціну: прыгожая дзяўчына-чачэнка ў нацыянальных строях на фоне заснежаных гораў. Вісела тая карціна ў аздобнай рамцы ў іх на сцяне. Але вельмі захацелася малой Але самой такую карціну намаляваць. Зняла са сцяны, з-пад шкла дастала і пад капірку перамалявала сабе. Зразумела, што на карціне засталіся тлустыя чорныя лініі. Сапсавала такую рэч выдатную!

А яшчэ Лёнік быў музыкам. Хораша на гармоніку іграў. І спяваць любіў. І танцаваць умеў хвацка. І ролю Дзеда Мароза неаднойчы на школьных ранішніках выконваў.


*Па дарозе з Кайшоўкі да Валокаў. Лёнік і Толя Навумчык з Масквы, пляменнік Захара*

Усё гэтае багатае суквецце талентаў не было адшліфаваным. Самавукам быў Лёнік. Не меў магчымасці хоць якую мастацкую вучэльню скончыць. Не тыя часы былі, не тыя магчымасці для сына беднае ўдавы.

Быў ён прыгожым мужчынам. Не без грахоў мужчынскіх, чалавечых. Шкада, што памёр вельмі рана. А найбольш шкада, што ўсё зробленае ягонымі рукамі залатымі ў хаце сваёй, прахам пайшло…

Помнік ягоны, які дачка Галя паставіла, на шчонаўскіх могілках між іншых вылучаецца. Як жывы на ім Лёнік…

## Шчонаўскі паэт

Сямён Паўлавіч, Сымон Паўлючышын, як яго шчонаўцы называлі, сярэдні між братоў. Таксама ўдалы, таксама прыгожы, як і Лёнік. А да ўсяго яшчэ і *в**у**чаны.* У Навагрудку педвучэльню закончыў, а пасля і педінстытут у Мінску. Лёгка яму навука давалася. Ужо ў вучэльні вылучаўся як таленавіты філолаг. Усе і меркавалі, што на філфак падасца. А ён на матэматычны падаў дакументы, патлумачыўшы:

–Мову і літаратуру я і так ведаю, а вось матэматыцы трэба падвучыцца.

Сямён Паўлавіч быў паэтам. Вершы ягоныя часам у Карэліцкай раёнцы друкаваліся. Пісаў ён і вялікія прынагодныя эпічныя творы. Вяселле ў каго, то цэлаю паэмай здольны быў маладых прывітаць. Памятаецца ягоны выступ на вяселлі Алы Навумчыкавай. Чытаў выразна, артыстычна, з пафасам. А яшчэ бачу, як заходзіць Сямён Паўлавіч у хату майго дзядзькі Валодзі развітацца з ім, у апошні шлях правесці. І з парога кажа:

–Ты, Валодзік, прасіў мяне, каб я табе верш напісаў, калі цябе не стане. А я ж і напісаў.

І чытае той верш…

Добры твор напісаў на смерць свайго брата Лёніка. Не была на тым пахаванні. Мама расказвала.

Да каго ні звярнулася, каб хоць што з тых прысвячэнняў знайсці, ды марна. Не ўмеюць людзі нашы слова напісанае шанаваць.

Наведала неяк Сямёна Паўлавіча незадоўга да ягонага трагічнага сыходу. Даў ён мне свае рукапісы. Выбрала з іх нізку вершаў, у нашым гарадзенскім альманаху «Свіцязь» надрукаваныя. Раскзвала каляжанка Тася Мухіна, што вельмі радаваўся гэтай публікацыі. Апошняй, як аказалася. Змешчаныя там «Радкі з нябыту», урывак з паэмы «Зялёны дол». Задума стварыць паэтычны эпас свайго роду, вёскі засталася неажыццёўленай. Але нават ўрывак сведчыць пра немалы талент шчонаўскага паэта:

*Я павяду расказ з нябыту,*
*што і па сёння не забыты,*
*у сэрцы горасцю адбіўся,*
*не раз начамі перасніўся,*
*з-пад цемры плыў сваёй нудою,*
*ішоў сялянскаю хадою*
*за плугам, за сярпом крукастым.*
*Ляжаць пласты, і пласт пад пластам –*
*апрабаванае дзядамі,*
*іх працавітымі рукамі.*
*Палі прапашныя, лугі –*
*старанне, праца, мары іх.*

*Паклон мой памяці вячыстай,*
*хваёвай казцы урачыстай,*
*на лузе травам, жыту ў полі,*
*шумлівым клёнам і таполям,*
*маёй аселіцы вясёлай,*
*аздобленым садамі сёлам,*
*сівым вякам пад курганамі.*
*Жывуць пра іх казанні з намі,*
*бясконцыя і без пачатку,*
*і для мяне і для нашчадкаў.*
*Вам сэрцам, людзі майго краю,*
*радкі з нябыту прысвячаю.*

Працаваў настаўнікам у Райцы, пасля дырэктарам у Малюшычах. Дом яму прыгожы, быццам цацачны, пры дарозе каля лесу Лёнік дапамог пабудаваць. Усё дапасавана, пафарбавана. Міла глянуць.



*Сымон Паўлавіч у дырэктарскім кабінеце*

Усё б добра. Ды не ладзіліся ягоныя справы амурныя.

З першаю жонкаю Кацярынаю, а яна настаўніцай хіміі ў Райцы працавала, шлюб аказаўся вельмі кароткім. На трэці дзень пасля вяселля пакінула яго і з'ехала. Мы з Галяю Лёнікавай, дзве даходныя малыя шчонаўкі, у той дзень у ягонай хаце былі. Баба Паўлючыха паказвала попел, што застаўся ад спаленых Сымонам лістоў ягонае каханай.

Другая жанчына, Валя, што прыйшла ў дом Сымонаў за гаспадыню, была прыгожай, працавала медсястрою ў Райцаўскай бальніцы. Першы шлюб, ад якога сыночка мела, скасавала. Была яна даўнім каханнем Сымонавым. Добра ён і да пасынка ставіўся. Любіў малога, як сына роднага, ніколі не пакрыўдзіў, даглядаў. Толькі і гэты шлюб нічым закончыўся. Пакінула яго тая прыгожая Валянціна.

А трэцяю, апошняю гаспадыняю ў Сымонавай хаце стала Соня, жанчына з Даўгінава. Невялікае *граматнасці,* простая вяскоўка. Працавала пакаёўкай у школе. А Сымон дырэктарам. Такі вось мезальянс па-шчонаўску. Ды нічога гэта. Каб толькі кабета файная была. Тым больш, што стаўшы жонкай дырэктара, працаваць пачала бібліятэкаркай. Гэта ўжо іншы статус. Але і з ёю не было шчасця Сымону. Пра тую бяду ягоную ўсе ў Шчонаве ведаюць, памятаюць. Не бу-

дзем варушыць балючае. Такое балючае, што ўрэшце і звяло Сымона дачасна ў магілу…

І за што яго Неба так пакарала? Чаму не заслужыў ён кахання, сям'і, звычайнага шчасця мужчынскага, чалавечага? Мо і праўда, як неаднойчы ад шчонаўскіх кабетаў чула, не дараваны быў яму той даўні грэх?..

Кахаліся яны з Марусяю з Райцы. Нябрыдкая дзяўчына. Худзенькая, праўда, невысокая. Ужо і да вяселля справа ішла. Але ўладная маці Лёнікава, цётка Ганна Паўлючыха, не захацела Марусю за нявестку мець.

–Што гэто за жонка такая будзя? Яе ж пад коўдрам ні знойдзяш. Малая, худая, – так сына настаўляла. А ён паслухмяны быў, маці шанаваў.

Бяда была ў тым, што чакала Маруся дзіцятка. Пакінутая Сымонам, не пусціла яго на свет белы…

А дом той цацачны пры дарозе, што без гаспадароў застаўся, нядаўна зруйнавалі. Тыя, што руйнаваць загадваюць, чужога не шкадуюць. Толькі некалькі дрэваў засталося ад усяе сядзібы.

## *Варвара*

Цікава мне было заўсёды, адкуль у шчонаўскага мужчыны такая мянушка – Варвара. І толькі зусім нядаўна даведалася пра тое ад райчанкі Таісы Мухінай, мама якое, шчонаўка, ёй калісьці расказвала. З даўніх часоў гэтая мянушка да Івана Дубеня прыляпілася.

Дзень святое Варвары прыпадаў акурат на час, калі кудзелю пралі. Нельга было працаваць. Але шчонаўскія хутаранкі, якім, як і ўсім жанчынам ва ўсе часы, часу не хапала, вырашылі схітраваць. Шкадавалі яны дзень траціць. Вырашылі схавацца і ад людзей, і ад святое Варвары. Завесілі вокны і пачалі працу.

Але ці можа быць хоць нешта ў вёсцы таемнае, пра што не ведалі б многія? Іван Дубень тады яшчэ маладым хлопцам быў, таксама пра жаночыя хітрыкі даведаўся. Абматаўся ён простыняю, падкраўся да вакна і закрычаў:

–Я святая Варвара! Я Варвара, Варвара!..

З таго дня і атрымаў хлопец мянушку, якое і на дзяцей ягоных, і на ўнукаў хапіла.

Скульптуру Маці Божай, што была на Райцаўскай царкве, называлі святой Варварай. Вось жа, з'явіўся ў Райцы нейкі начальнік міліцэйскі. Суправаджаў яго ўчастковы Сяргей Адзярэйка. Зацікавіўся, што за скульптура на царкве. Трэба ж было, каб якраз у гэтым часе па дарозе праходзіў Варвара. Сяргей, мужчына з гумарам, кажа:

–Я не ведаю, спытайце ў гэтага чалавека. Ён старэйшы, мо скажа.

Так і не зразумеў той чын міліцэйскі, чаму на ягонае пытанне мужчына са злосцю выпаліў:

–Гэтакі дурань, як ты!

## Горкая доля Мані Прымачышынай

Яна была нашай блізкай суседкай, маёй першаю нянькаю. Мілая, добрая дзяўчына з сям'і сірочае, гарушчае: бацька з вайны не вярнуўся.

Замуж пайшла ў Застадолле. Мянушка яе мужа Пятра была Бітка. Добра адпавядала характару маладога мужчы-



*Маня Прымачышына з сяброўкамі. Злева направа: Маня, Анюта Валадзенькава, Анюта Васілёва, Люба Ёўнава, Тоня Алёшышына*

ны. Быццам моцна кахаў ён Маню, але і здзекаваўся таксама моцна. Неаднойчы ўцякала маладая жанчына ў сваё Шчонава. Да Рыгора на хутары прыбягала, да сястры Соні, да брата Мішы.

Праз які дзень прыходзіў Пеця перапрошваць, бажыўся, што больш не будзе. А праз колькі часу ізноў ляцела Маня з Застадолля, дзяцей малых пакінуўшы. Цётка Вера Лідзіна расказвае, што босая па снезе да Рыгора прыбегла аднойчы.

З жыцця такога калочанага захварэла Маня. Прывезлі паміраць яе ў родную хату, да сятры. І Бітка не надоўга яе пераажыў. Засталіся двое хлопчыкаў сіротамі. Бабуля, маці Пецева, гадавала.

## *Фаня-дэпутатка*

Выбралі Фаню Лысішыну дэпутаткаю ў мясцовы савет. Улада ж у нас заўсёды народнаю была. То чаму б стараннай даярцы ў тым савеце не пабыць?

–А што Вы рабілі?

–Як што? На сабранія хадзіла…

Расказала яна, як давялося маці сваю аднойчы выручаць. А было так. Гнала баба Лысіха самагонку. Злавілі яе за тым заняткам незаконным. Судзілі. Баялася кабета таго суда страшнага, не разумеючы, што была гэта праўдзівая фікцыя.

Перад тым з Фаняю-дэпутаткаю пагаварылі. Прызналася тая, што гнала маці самагонку, бо дзе ж дзецца, калі злавілі? Сказалі, каб не хвалявалася, усё будзе добра.

Выклікалі старую Лысіху ў Карэлічы. Пытае суддзя:

–Ці ведаеш, што гарэлку гнаць няможна? Чаму гоніш?



*Фаня Лысішына – дэпутатка*



*Фаня Лысішына, Жэня Лёнікава, Валя Трахімава*



*Прыгажуня Света*

Бедная кабета не вельмі добры слых мела. А тут яшчэ ад страху зусім нічога не чуе. Паўтарае, збянтэжаная, на кожнае слова суддзі сваё запытальнае **га** і нічога патлумачыць не можа.

Адпусцілі яе. Як жа – дачка дэпутатка.

## *Міша і Рэня Адамовічавы*

Між шасці дзяцей красуні хутаранскай Волькі Адамовічыхі найпрыгажэйшыя Міша і Рэня. Міша быў хіба самым відным хлопцам на ўсю ваколіцу. Не адна дзяўчына была ў яго закаханая. А ён бачыў толькі адну прыгажуню, медсястру Святлану з Райцаўскай бальніцы. Тая і сапраўды прыгожая была незвычайна. А модніца! Валасы высока ўчэсвала, сукеначкі кароткія, прамыя, фарсовыя, па апошняй модзе пашытыя, што ў тых зорак галівудскіх. Фасоны паводле калекцыі Шанэль Како, не іначай. Туфелькі лакавыя, на абцасіках тоненькіх. Ды і Міша, да яе на спатканне ідучы, таксама не горш выглядаў: кашулька свежая, адпрасаваная, штаны на дасканалым канціку і туфлі лакавыя, бліскучыя.

Як цяпер памятаю. Лета, цяпло. Дзень святочны. Сядзяць хлопцы насупраць хаты

Федзі Валадзенькавага, а тут Міша падыходзіць пры ўсім сваім парадзе. Пачынаюць жартаваць, падсмейвацца з яго. Засмуціцца хлопец. Але абавязкова нехта сталейшы заступіцца:

–Як вы не разумееце, любіць ён яе.

Прыціхнуць. А Міша сваёю дарогаю пойдзе. Вядомая ягоная дарога – на Райцу…



*Міша Адамовічаў*

Усё ніяк у хлопца з тым ягоным каханнем не зладжвалася. То ўжо і вяселле павінна быць, ды раптам усё разладзіцца. Несур'ёзна, відаць, медсястра да ягоных пачуццяў ставілася. Але ўсё ж выйшла яна за Мішу замуж. Ды не было яму шчасця з ёю. Шлюб той хутка скасаваны быў. Міша з'ехаў да цёткі Анюты



*Рэня і Люда ў роднай хаце*


*Рэня ў часе службы ў ГСВГ*

Антонішынай у Днепрапятроўск. Адтуль і ў войска ўзялі, у Севастопаль трапіў. Там і застаўся, ажаніўся з Любаю, дваіх дзетак нарадзілі. Ды нядоўга бацька імі цешыўся. Памёр маладым. Далёка ад дому роднага пахаваны.

Рэня прыгажосць мела адметную, яркую. Чорныя, як смоль, валасы, чорныя, як ноч восеньская, вочы, бровы – шнурочкамі роўнымі, доўгія вейкі. Такія яркія брунэткі не рэдкасць у Шчонаве. Са старэйшых Ніна Пасэсарава, Тунікавы дзяўчаты.

Вучылася Рэня добра, медыцынскую вучэльню закончыла. Медсястрой працавала. У Гродне жыла. І муж добры, адвакат, і дзеці ўдалыя. Ды толькі хвароба страшная яе, маладую зусім, не пашкадавала. Памерла, пакінуўшы дзетак малых.

Прыгожымі былі Міша і Рэня. Ды нешчаслівымі.

## Слёзы маці

Самае вялікае гора для бацькоў – смерць дзіцяці. Не дай Божанька нікому! Але, на жаль, не мінае гэтая страшная бяда людзей. Не абмінула яна і Жэню Сяргееву, якая сыночка свайго, Вову, пахавала. Дарослы ўжо быў, жанаты.

Свету Божага з-за слёзаў не бачыла, дзень і ноч плакала маці. Ды прысніўся сон нявестцы Тамары, жонцы Вовінай, што прыходзіў ён дадому кашулю змяніць, бо мокры ўвесь.

Зразумела маці сон той як пасланне-просьбу сынаву з таго свету не плакаць, бо цяжка яму там ад яе слёзаў…

## Родная кроў

Дачка Марусі Лідзінае (Абэлгавае) Ларыса, што, зразумела, не ў Шчонаве жыве, не падобная ні на маці, ні на бацьку. Жартавала неаднойчы, мо не іхняя яна? Ажно праз многа гадоў,

калі сама ўнучка Лідзіна даўно кабетай замужняю стала, здарыўся цуд: знайшлася ў іх радні жанчына, вельмі да яе падобная. Дачка зводнае сястры бабулінае Насці Ліля, што ўсё жыццё сваё свядомае за акіянам пражыла. Зводная цётка тае Ларысы. Праз іх падабенсва вымалявалася, што захаваліся ў іх абліччах рысы радні не па кудзелі, а па мячы, па дзеду Мікалаю Валенціку.



*Ліля – дачка Насці, унучка Мікалая*

Гляньце на гэтыя здымкі. Хіба не цуд? Як перагукнулася родная кроў. Праз пакаленні, праз адлегласць у прасторы і часе. Як гэта важна – знайсціся! А звязала гэтую нітку кроўную Таіса Мухіна, яшчэ адна ўнучка дзеда Мікалая, ад якога і мянушка радзінная – Абэлгавы – пайшла.



*Ларыса – унучка Ліды, праўнучка Мікалая*

## Пабочныя кавалеры

Выміралі шчонаўскія хутары. Дасціпная Ганна Юлькава, адна з апошніх жыхароў Коньдзеўкі, сказала неяк: «Нас, хутаранцаў, футбольная каманда». Было тады якраз адзінаццаць чалавек. Але выбывалі гульцы з тае каманды адзін за адным незваротна, поле жыцця перайшоўшы.

Засталіся побач з Ганнаю двое суседзяў, двое Мікалаяў – Абрамовіч і Чайка. Сябравалі. Да суседкі штодня прыходзілі. І не толькі таму, што чалавек без чалавека не бывае. Хата Ганніна заўсёды была адчынена для ўсіх. Вабіла яе цяпло. І не толькі ад заўсёды напаленае печкі, а ад душэўнае дабрыні гаспадыні. Прыйдзе Чайка са свае халоднае хаты: «У цябе

тут Сахара», сядзе каля печкі і прасядзіць увесь вечар. А тут і другі сусед падыдзе. Ціха плыве няспешная гамонка. Усё перабяруць-перагавораць.

Жартавала Ганна, называла іх сваімі пабочнымі кавалерамі. Усё ў тым слове пераплялося: і жылі па баках, адзін справа, другі злева ад яе хаты, і кавалеры ўжо былі далёка не сапраўдныя, пабочныя. Бо пра якое кавалерства ў такім веку размова ісці магла?..

На высокай гары яны ўсе. Адзіны Мікалай Ракач яшчэ на шчонаўскіх хутарах жыве. Хай доўгім і шчаслівым будзе ягоны век.

# Частка X

# Дзіцячы шчонаўскі свет

*Пэўна, не адрозніваўся ён асабліва ад таго, чым жылі дзеці ў іншых вёсках. Але калі нат лісточкаў у прыродзе двух аднолькавых няма, то што гаварыць пра людзей, дзяцей. Кожнае дзіцятка – цэлы свет. Са сваім характарам, знешнасцю. У кожнага ў жыцці ў ягоным пачатку адметныя падзеі адбываліся. Як ні з кім і ніколі. Вось жа і пра дзяцей шчонаўскіх згадаю. З розных пакаленняў яны. Але ўсе калісьці дзецьмі былі. А многія малымі назаўсёды засталіся.*

## *Смерць малое Ленкі*

Ліда Самарава нарадзіла дачушку. Назвала Ленаю. Ужо двух хлопчыкаў мела. Дзяўчынка вельмі ж удалая была. Спакойная, ніколі не плакала. Маці магла яе надоўга пакінуць. Сустрэла Валя Барэйкава Ліду ў ягадах, у Захомах, здзівілася:

–Хто ж Вашу дзяўчынку глядзіць?

–Ніхто. Яна сама пабудзя.

Дзіўна было такое чуць.

Але нядоўга радавалася маці сваёй дачушцы. Захварэла тая. Жывоцік ёй балеў. Думалі, пройдзе той панос. Што ж тут страшнага? Але не прайшоў. Не стала дзяўчынкі.

Было тое летам. Кветак нанеслі многа-многа. Дарогу імі ўсцілалі. Уся вёска ішла за маленькаю трункаю. Толькі маці не ішла. Казалі, што нельга. Каб іншыя дзеці не памерлі.

Было гэта адзінае пахаванне малога дзіцяці ў Шчонаве за многія гады.

І бацька, і маці тае маленькае Ленкі ўжо там, з ёю.

## *Назаўсёды маленькія*

А вось раней, да вайны, у вайну ды і пасля яе паміралі дзеці ў Шчонаве часта. Хто ад выпадку няшчаснага, хто ад хваробы. Не заўсёды і лячыць маглі. Прастуда дзіцячая за хваробу й не лічылася. «Пераходзіць», – так казалі, калі дзіця кашляе, тэмпературыць. Звычайная з'ява. Яшчэ маглі так сказаць: «Перахожка ў мае малое». Дзе падзенецца, паправіцца. Але не заўсёды выздараўлівалі дзеці.

У Волькі Барэйчыхі двое дзетак малымі памерлі. Хлопчык Геня зусім маленькім. Захварэў. Пасля Волька ізноў сына Генем назвала. Даўжэй за ўсіх Барэйкавых жыў. Мо і за таго свайго браціка-аднаіменніка. А дзяўчынка Нінаю называлася. Скалечылі яе яшчэ ў маленстве. Ехаў нехта на кані праз Коньдзеўку. Не ехаў, а ляцеў. Дзяўчынка на дарозе, што ля хаты праходзіла, сядзела. Пераехаў яе і далей памчаўся. Пасля таго пачаў у малое горб расці. Саромелася бедная. На вуліцу выйсці баялася.

–Шкадавала я яе вельмі. Добра, што забраў Божанька малую, – так гаварыла Волька, згадваючы сваю няшчасную дзяўчынку.

У іх сям'ю пасля ажно дзве Ніны прыйшлі. Нявесткі. Жонкі старэйшага Алёшы і малодшага Валодзі. Яны ўсіх Барэйкавых са свайго пакалення перажылі.

Утапіўся ў рэчцы пад Куняўшчынай маленькі Алёшка, сын Рыгора і Волькі Дубеняў.

Малым ад хваробы памёр Алёшка – сынок Сідара і Марылі Гілёў, якіх Світкамі ў Шчонаве называлі. А Коля – сын Мікалая і Алены Валенцікаў – памёр, выпіўшы гарэлкі. Захмялеў моцна, блага яму было, на зямлі халоднай заснуў. Ведалі на хутарах, хто яму гарэлкі даў. Недзе там ужо, па-за светам, і за гэты грэх той чалавек адпакутаваць мусіць.

Першынец Фані Сцяпанавай і Юзіка Барынавага Валодзік таксама памёр маленькім. Нат гадочка не пражыў, пахрысціць не паспелі. Жыла тады Фаня з бацькамі ў хляве. Зразумела, што не тыя ўмовы былі, каб дзіцятка гадаваць, ад хваробы выратаваць.

## Пакутніца

А вось малодшай дачушцы Міхасёвай Анюце наканавана было выжыць. Гэта яна ў размове сябе пакутніцай назвала. Калі ж перапытала: «Чаму Вы так кажаце?», адказала жанчына: «Бо нарадзілася, а непатрэбная была». Маці яе, Ганна з Федаракаў, з Кайшовак, на тыфус захварэла. У шпіталь у Райцу яе забралі. Даглядалі немаўля брат Валодзя (14 гадоў) і сястра Жэня (13). Кармілі заціркаю, як маглі, купалі. Але як маглі, што ведалі яны, самі яшчэ дзеці?

Вярнулася Міхасіха толькі праз паўгода. Страшна было глядзець на дзіцятка: абгніла ўся, ручкі, ножкі, шыйка ў страшных струпах. Нагаравалася кабета, пакуль вылечыла сваю дачушку. Ды ўсё ж вылечыла, бярог Божанька. Прыгожаю, паслухмянаю, працавітаю дзяўчынаю вырасла. Замуж у Застадолле пайшла, дзетак сваіх выгадавала.

## Гасцючок

Калі якая малая шчонаўская недаежа перабірала ў сваёй місцы, ела не са смакам, быццам ёй у роце расло, то чула ад бацькоў: «Што, гасцючка шукаеш?» Цікава мне было: што

ж гэта за гасцючок такі, якога ў ежы знайсці можна. Раскавала наша нянька цёця Ганна Юлькава.

Жэня Аляксандрава ў дзяцінстве была такою ж недаежай. Мела звычку калупацца ў талерцы. Перашматала яна аднойчы варанае яйка, а бабуля й пытае: «Што ж ты там, Жэнько, шукаеш?» «Гасцючка…» – адказала малая, не ведаючы, што яе адказ стане шчонаўскім фразеалагізмам.

## Чорныя вочкі



*Такая дзяўчына вырасла з тае малое Чарнавочкі*

Жэня Антонішына вочкі мела яркія, прыгожыя, як чорныя зорачкі. Паплакала аднойчы дзяўчынка з-за тых сваіх вочак. Гадоў пяць хіба мела. Суседка бабуля Аніся Валенцікава была кабетаю з гумарам. Прыйшла неяк да Антонішыных і кажа малой:

–Але ж твае вочы чорныя. Ты іх, мусіць, ні мыяш.

Засаромелася малая. Намыліла палец і пачала вочкі церці. Мыла, пэўна ж, гаспадарчае, едкае было. Запякло ёй, беднай, забалела. Плакаць пачала. Маці пачула:

–Чаго плачаш?

Ды не прызналася дзяўчынка, што вочы ад бруду адмывала.

Зрэшты, не надта і мела маці часу, каб на слёзы дзіцячыя зважаць. У працы бясконцай была. А дзетак пяцёра на ногі падняць трэба было.

## Будкі

Кожная малая шчонаўка мела свой закутак, сваё зацішнае месца дзе-небудзь пры хаце ці пры хляве. З дошак старых, з якое фанерыны майстраваліся невялікія прыбудоўкі, куды дарослым і зайсці нельга было не сагнуўшыся. Зразумела,



*На шчонаўскім грудзе насупраць Лёнікавае хаты. Злева направа: Паўлік Лёнікаў, Коля Ніны Пасэсаравай, Галя Лёнікава, Ала Ніны Пасэсаравай, Аня Пэкарава, Толя Веры Лідзінай. І гэтыя дзяўчынкі мелі будкі*



*У хлопчыкаў свае забаўкі. Такую машынку-вазок зрабіў Лёнік Паўлючышын свайму сыну*

што «рэзідэнцыі» гэтыя былі выключна летнімі. А называлі іх будкамі.

Увесь свой нажыты скарб дзяўчынкі ў тыя будкі зносілі. Чаго там толькі не было! Майстраваліся сталы, ложкі, збіраўся посуд. Самымі каштоўнымі рэчамі былі пудэлкі з-пад парфумы, куды налівалася рознакаляровая вадкасць (чым толькі ні фарбавалі!), з-пад пудры, у якія ці крэйда, ці пясок засыпаўся. Гэта ўпрыгожвала сціплы інтэр’ер. А яшчэ абавязкова букеты ставіліся ў падручныя «вазы», у якія-небудзь маленькія бутэлькі ці бляшанкі.

Жылі там, зразумела, лялькі. А малыя гаспадыні іх даглядалі.

Усе тыя маленькія шчонаўкі сёння ўжо бабулі.

## *Харошая будзя!*

Дзеці Каці Харанджуковай і Колі Барэйкавага аднагодкі. Па-шчонаўску – Ніна Каціна і Коля Барэйкаў. Ранняе маленства поруч прайшло. На Коньдзеўцы. Праз балота.

Ранняю восенню тое было. Прыходзіць Ніна да Барэйкавых. А ў Аляксандравых (бабулі Нінінай) было многа сліваў. Што яшчэ смачнейшым ласункам быць можа? Ды не толькі тымі слівамі дзяўчынка ласавалася, а яшчэ і ў пясочку гуляла, хаткі будавала. А мо і маме на агародзе дапамагала. Не больш за тры гадочкі тая гаспадынька малая мела. Упэцкалася не толькі сама па самыя вушы, але і сукеначку ўсю слівовым сокам і пясочкам пачаставала.

Загуляліся дзеці. Прыходзіць па яе маці вечарам, а бабуля Волька Барэйчыха, цётка Каціна, і кажа:

–Чаму ж твая Ніна так упэцкалася?

–Нічого, – адказала кабета, – вырасця мая Ніна, вымыяцца. Харошая будзя дзеўка!

І праўда, вырасла Ніна, разумніца, прыгажуня, акуратная, чысцюля. Шкада толькі, што далёка ад Шчонава яна, як і ўсе дзеткі шчонаўскія, жыццё пражывае.

## *А Фанячко, а родная!..*

Неяк, калі настаўніца Валя Барэйкава была ў ад'ездзе, малую Алу давялося глядзець суседцы Фані Сцяпанавай. Цэлы дзень дзяўчынка, як хвосцік, хадзіла следам за кабетаю, якой трэба было працу штодзённую спраўляць. Усё і рабіла. Малая пад рукою была, не перашкаджала. Пакуль да ямы не дайшлі. У яме, выкапанай у зямлі, глыбокай, круглай, захоўвалі бульбу. Яе і трэба было з ямы дастаць. Растлумачыла Фаня, каб трохі пачакала яе, што вернецца хуценька.

–Пастой тут. Добра?

– Добра, – паслухмяна прамовіла тая.

Спускацца трэба было па драбінах. Толькі схавалася кабета ў яме, як пачула лямант малое:

–А Фанячко, а родная! А дзе ж ты падзелася?

Выскачыла Фаня з ямы, бульбы не набраўшы. Ізноў малой даводзіць тое ж:

–Ні плач, ні бойся. Я ж скоранько! Толькі картопелькаў набяру. Ні будзяш плакаць?

–Ні буду.

Не паспела да тое бульбы дабрацца, ізноў чуе:

–А Фанячко, а родная! А дзе ж ты падзелася? Баюсё-ё!..

Пяць разоў спускалася жанчына ў яму і штоpазу мусіла назад вылазіць, бульбы не набраўшы, так гаротна ляментавала малая. Што ж яе так напалохала?..

Што па Фані плакала, не памятаю. Але страх свой дзіцячы перад тою ямаю памятаю добра. Была яна каля Сцяпанавага хлява. Заўсёды далёка абыходзіла тое месца. Падавалася мне яма нечым чорным, бяздонным, куды можна праваліцца і не вярнуцца. Не дзіва, што цётку Фаню па бульбу не пусціла.

## Свякроўка

Вельмі добраю была да Валі Барэйкавай Маня Тамашыха. І да яе малое  дачкі таксама. Чаму Ала стала зваць жанчыну свякроўкаю, і сама не памятала.

–Хто прыходзіў?

– Свякроўка.

–Каго на вуліцы сустрэла?

–Свякроўку.

Пытаецца аднойчы маці ў малое, такі адказ пачуўшы:

–А ці ведаеш ты, хто такая свякроўка?

–Тамашыха.

–Не. Тамашыха стане тваёю свякроўкаю тады, калі ты замуж за іхняга Тамаша выйдзеш.

Як заплача малая, як закрычыць:

–Ніколі я за яго замуж не выйду!

З таго часу перастала дзяўчынка Тамашыху свякроўкаю называць.

## Лялька з валасамі

Шмат забаўкаў цікавых мелі малыя. У шасцідзясятыя гады ўжо і цацкаў крамных дакупіцца бацькі маглі. Для

хлопчыкаў пісталетаў, аўтаматаў, нат ровары дзіцячыя былі ў некаторых. Усе мелі каляровыя алоўкі, альбомы для малявання. Але самаю ўлюбёнаю цацкай для кожнай дзяўчынкі была лялька. Якія толькі гульні з імі ні прыдумлялі. Часцей гэта была мілая дзіцячая імітацыя дарослага жыцця. Адзенне ім шылі, апраналі, распраналі, спаць клалі, калыханкі спявалі, есці варылі, кармілі.

Купіў аднойчы Коля Барэйкаў у Маскве сваёй дачцэ вельмі прыгожую ляльку. Зразумела, што не бываюць яны непрыгожымі. Але тая была асаблівая: з валасамі, доўгімі, залацістымі, у косы заплеценымі. Такое яшчэ ні ў кога не было. Бо выпускала савецкая прамысловасць лялькі пластмасавыя, з пластмасавымі валасамі, раз назаўсёды ўчасанымі.

Не разлучалася малая з тою лялькаю. І гуляла з ёю цэлымі днямі, і спала, і ўсюды з сабою насіла.

Зайшла аднойчы да Уладзевых, дзе была малодшая на два гады Лена. Гулялі яны, весяліліся. Усё б добра, ды пара Але дахаты ісці, цямнець пачало. А Лена ў плач, ляльку не аддае. І Ала пакінуць любіміцу сваю не хоча. Усе сышліся, супакойваюць малую. Прыбегла Ніна, шкадуе сястрычку, угаворвае:

–У цябе ж свая лялька такая харошая. Нашто табе чужая?

–Мая без валасоў. А гэтая з валасамі. Гэтую хачу!

–Добра, і твая будзе з валасамі. Яшчэ лепшымі за гэтую.

Узяла яна вату, шыла, нітку з іголкаю і – за справу. Шылам галаву пластмасавую праколвала, прышывала вату.

Зрабіла-такі сваёй Ленцы ляльку з валасамі.

## *Цягнік*

Не, зразумела ж, не той, што па чыгунцы ходзіць. Таго шчонаўская малеча ніколі не бачыла. Свой, дзіцячы. Зімою па Шчонаве курсіраваў. Праўда, толькі ў адным напрамку. І без прыпынкаў.

Цягніком дзеці называлі звязаныя між сабою санкі. Гаспадаром пярэдніх звычайна выбіраўся большы хлопчык,



*Малыя шчонаўцы збіраюцца на “цягнік”. У двары фатографа Лёніка Паўлючышынага. Злева направа: Коля Ніны Пасэсаравай, Валерко Барэйкаў, Ігар, Галя Лёнікава, Паўлік Лёнікаў, Слава Мулярчыкаў, Ала Ніны Пасэсаравай, Ала Барэйкава. Канец 1960-ых*

машыніст, які кіраваў усімі іншымі. Маршрут быў адзін – па дарозе з вялікае гары, што ад могілкаў паўз школьны пляц ішла.

Збярэцца чародка дзіцячая, пазвязваюць свае саначкі і ляцяць, вецер абганяючы. Ніхто не мусіў затармазіць, ногу выставіўшы, бо для цэлага цягніка было тое небяспечным: пад адхон мог пайсці.

Апроч санкаў, мелі лыжы, драцянкі, на якіх спраўна з'язджалі з гораў старэйшыя хлопцы. І як яны ўтрымліваліся на тых тонкіх выгнутых дратах? Ды яшчэ і трампліны рабілі, насыпаючы іх са снегу.

Не загнаць было дзяцей у хаты. Столькі гульняў цікавых. Апранутыя ўжо ўсе дзеці былі, дагледжаныя. А вось з пакалення бацькоў іхніх далёка не ўсе ў дзяцінстве мелі ў чым на вуліцу ў холад выйсці…

## *Дыктоўка*

Які ж настаўнік не хоча, каб ягоныя вучні добрыя поспехі ў вучобе паказалі? Рытарычнае пытанне. Шчонаўскі дырэктар Міхаіл Уладзіміравіч Лапата таксама хацеў. Асабліва перад праверкамі living рознымі, якіх ніколі ў нашых школах не бракавала.

Чакалася такая праверка і ў ягоным класе. Асабліва перажываў настаўнік за дыктоўку па рускай мове. Усё ж не была яна дзеткам шчонаўскім блізкай, роднай. Няпроста давалася. Гэта сёння тыя дзеткі даўно на рускіх дарослых перарабіліся…

Пачаў Лапата трэніраваць свой клас. Тэкст разабралі, усе «цяжкія» словы вылучылі, як іх пісаць, вывучылі. Напісалі першы раз. Вынік не надта настаўніка задаволіў. Праз дзень паўтарылі. Крыху лепей. Але каб яшчэ лепш, хацелася. Яшчэ раз, трэці, напісалі…

Прыйшоў той дзень. З'явіўся інспектар. Дакладней, іспектарка. І гэта ж трэба – той самы тэкст у Лапатавым кла-



*Шчонаўскі настаўнік Міхаіл Уладзіміравіч Лапата і ягоная жонка Марыя Мікалаеўна*



*Вучні Шчонаўскай школы, якіх вучыў настаўнік Міхаіл Уладзіміравіч Лапата. Злева направа: Таня Дубень, Лена Гіль, Ніна Яўсей, Ніна Русак. Прыселі ўнізе: Вова Яўсей і Павел Гіль. Тры дзяўчынкі пісалі тую дыктоўку*

се выпаў! Ці ж не цуд? Такія цуды бываюць. Відаць было, што і настаўнік абрадаваўся, і вучні таксама.

Але гэта быў не адзіны цуд у той дзень у шчонаўскай школе. Вынікі дыктоўкі былі такія, якіх ніколі не было: некалькі «троек», астатнія «двойкі». Нават Ала Барэйкава, выдатніца круглая, «тройку» атрымала…

Як такое можна раслумачыць? Ці аж такімі няўважлівымі былі вучні, амаль на памяць тэкст ведаючы, ці што іншае на іх найшло?..

Мала хто, праўда, пра тое даведаўся. Бо не захацела інспектарка смецце са Шчонаўскай школы на свет Божы выносіць. Дазволіла дыктоўку перапісаць праз некалькі дзён. І перадаць ёй вынікі.

Тыя адзнакі вучням абвешчаныя не былі і ў класны журнал не выстаўляліся…

## Фядо зоркі

Косцікавы дзеці былі працавітымі, ва ўсім дапамагалі бацькам. Зрэшты, усе вясковыя дзеці да працы змалку прывучаліся.

А яшчэ былі яны вельмі добрымі грыбнікамі. Ідзе першы, самы старэйшы Федзя па лесе, дарослы, ганаровы, і прыгаворвае: «Фядо зоркі!» Што азначала: ні аднаго грыба не прапусціць, усё згледзіць. А следам за ім маленькі Колька, які толькі паспявае баравікі, братам не заўважаныя, зразаць…

Падгледзеў гэтую карціну мой брат Мікола, дома расказаў. Не адзін дзясятак гадоў прамінуў з таго часу. А мне запомнілася. Назаўсёды. Пэўна, хлопцы Косцікавы пра тое і не памятаюць.

## Ціпуля

Старэйшая дачка Алёшы Канцавога, якога ўсе клікалі Адосем, Ніна выйшла замуж у Малюшычы. Кіламетры тры ад Шчонава. Яе сястра Тамара пабыла ў Ніны з тыдзень і вярнулася адтуль гарадскою. Па-руску пачала гаварыць. Не ў Шчонаве ж усе гэтыя дні жыла!

Шчонаўскі зух, жартаўнік Коля Трахімаў, разумеючы, што ад Тамарынае мовы рускаю і не пахне, вырашыў вывесці «гарадскую» на чыстую ваду. Наладзіў ёй іспыт пры ўсёй вясковай дзетвары:

– Тамара, а як будзе па-руску *цыбуля*?

– Ціпуля, – з гонарам адказала «руская» Тамара.

Смех быў ёй адзнакай.

У шведскім Visby ад эстонскай пісьменніцы Кадры пачула, што па-эстонску цыбуля гучыць *сібуль*, пры гэтым звонкае *б* заўважна аглушаецца. Не ведала Тамара Адосева, што адказала ўсё ж не па-беларуску, а ледзьве не па-эстонску.

## *Хлясцік*

Галі, дачцы Алёшы Канцавога, купілі новае паліто. Зімовае, цёплае, крыху на падрост. Цемна-зялёнага колеру, з каўняром са штучнага меху. А ззаду прышыты быў невялікі хлясцік.

Бегалі дзеці па вуліцы, у снежкі гулялі, даганялі адна адну. Бяжыць Ала Барэйкава за Галяю, вось ужо і дагнала, а схапіць няма за што, то і ўхапілася за той хлясцік. А ён прышыты слаба быў, Галя ж бегчы не пераставала. Хлясцік застаўся ў руках дзяўчынкі. Як яна спалохалася! Галя ж крычаць стала, што маці на яе паскардзіцца, што будзе ёй. І нямала!

А той і так свет нямілым з-за тае правіны падаўся. Перажывала моцна. Баялася на вочы цётцы Анюце трапіць. Пакуль цёця Ганна не супакоіла: «Нічога страшнага! Прышыюць яны той хлясцік, і ўсяе бяды. Знайшла пра што думаць!»

## *«Гэты калгас багаты»*

Абрэвіятуры, складанаскарочаныя словы, не заўсёды дарэчныя, пачалі актыўна ўваходзіць у жыццё шчонаўцаў. Мала хто, праўда, ведаў, як правільна іх расшыфраваць. То і прыдумвалі свае тлумачэнні. Такі своеасаблівы від народнай творчасці.

На кожным грузавіку побач з лічбамі былі яшчэ і літары: ГКБ або ГКА. Што яны азначалі, і сёння дакладна не ведаю. Вось жа, дадумаліся шчонаўскія дзяўчынкі, што ГКБ – «Гэты калгас багаты». Бо тое ГКБ было напісана на машыне Валодзі Пэкара. А ён жа багаты гаспадар. І калі з’яўлялася ў вёсцы машына з гэтымі літарамі, было ганарова той малой шчонаўцы, да чыйго двара яна прыходзіла.

А ГКА азначала «Гэты калгас адсталы». То і павагі такі аўтамабіль і ягоны кіроўца мець сярод дзявочага гурту не мог.

Багацце ў шчонаўцоў было ў пашане.

## Кут

Так, размова пойдзе пра той, у якім хто толькі ў дзяцінстве ні пакутаваў! Пакаранне быццам не такое і цяжкае: падумаеш – стой сабе і нічога не рабі. Але вельмі ганебнае. Стаяць у куце было вялікім сорамам. У школе за кожную правіну, вольную і нявольную, тым кутом пагражалі. Урокаў не зрабіў – у кут, на ўроку не слухаўся – у кут, на перапынку з некім пабіўся – разам з тым некім – у кут. Не ведаю, ці ёсць хто са шчонаўскіх вучняў настаўніка Міхаіла Уладзіміравіча Лапаты, хто ў куце не стаяў. Круглая выдатніца з заўсёды прыкладнымі паводзінамі Ала Барэйкава таксама стаяла.

Вось як тое было. Памятаеце, сябры мае, урокі чыстапісання? Файныя ўрокі! Настаўнікі ў тыя часы імкнуліся навучыць дзяцей прыгожа, каліграфічна пісаць. Выводзіць літары ўніз з націскам, уверх тоненька, роўненька, з нахілам управа. Асадка, пяро зорачка (іншымі нельга!), чарнільніца, што стаяла ў круглай выемцы на парце – усё падрыхтавана да чыстапісання. Настаўнік раздае сшыткі (заводзіліся асобныя да гэтага ўрока), дзе на цэлую старонку прапісаныя ім літары. Цэлы ўрок павінны былі вучні выводзіць іх. Ала, якая хадзіла ў школу з таго часу, як сябе памятае, чытаць, пісаць, лічыць умела задоўга да школы. Чакала правапісання як свята, бо любіла прыгожую працу перапісчыка. Атрымала сшытак, за нейкія дзесяць хвілін выканала заданне і руку падняла, што справілася. І што думаеце? Пахваліў настаўнік і кажа:

–За тое, што так хутка напісала, ідзі ў кут.

Да самага канца ўрока прастаяла, слёзы стрымліваючы. Дома ўжо выплакалася, маме скардзілася. Тая верыць не хацела. Сказала:

–Мо ён так чаго зазлаваў? Мо ты не паслухалася? Пачакаем да наступнага разу.

Наступны раз – праз тыдзень. Штотыдня тыя ўрокі былі. Усе адзнакі ў журнал выстаўляліся. Усё паўтарылася дакладна. Ізноў каліграфічна выведзеныя выдатніцаю літары, ізноў кут, ізноў слёзы. Мама не пагадзілася з калегам пра гэта таварыць, бо неэтычна. Яна, зразумела, інакш казала:

–Не магу яму ўказваць, пішы павальней.

Да таго ж, дырэктарам быў ён, Лапата.

Выратаванне тапельніка ў ягоных руках. Прыдумала Ала, як ад таго кута ганебнага пазбавіцца. Атрымала сшытак і хутка, як заўсёды, спісала да апошняе лінейкі. Сядзіць, у акно гляне, на аднакласнікаў пазірае, на настаўніка. Падыходзіць ён:

–Закончыла? Здавай сшытак, ідзі ў кут.

–Не, не закончыла, яшчэ адзін радок застаўся.

–???

Некалькі разоў падыходзіў настаўнік да яе парты, а яна ўсё той апошні радок пісала. Так і не трапіла тым разам у кут. І ніколі больш не трапіла.

## Зоська – свінчына сястрычка

Так гаварылі на ўпэцканую, брудную малую шчонаўку. Загуляецца якая на сваёй «кухні», аладкі, пірагі пячэ з мяк-



*Шчонаўская настаўніца Валянціна Пятроўна Барэйка з вучнямі. Яўсей Вася, Барэйка Валера, Дубень Коля, Фыдрык Віця, Казакевіч Лора, Гіль Ніна, Адамовіч Ніна, Навумчык Ала, Дубень Таіса, Цярэшка Ліля, Русак Саша. За спіною у Валеры (злева-направа): Дубень Света, Дубень Фаця, Гіль Галя, Гоцка Ала, Таўлуй Таіса, Цярэшка Міша, Яўсей Толя. 1970 г. Ні адна з дзяўчынак Зоськаю не была*

кага «цеста» – з глею ці пяску, сукеначку запэцкае, не тое што ручкі. А сама ж яшчэ басаногая. То і ножкі брудныя. З’явіцца такая гаспадынька перад мамаю і пачуе: «Ах ты Зоська – свінчына сястрычка!»

Часам маці папярэджвае сваю дачушку, калі тая пагуляць просіцца: «Ідзі, толькі не ўпэцкайся, а то будзеш як Зоська – свінчына сястрычка».

Вельмі загадкаваю была для мяне тая Зоська. Імені такога ні ў адной дзяўчынкі ў Шчонаве не было. Таму і спытала ў мамы аднойчы: «А хто яна, тая Зоська? І як яна можа быць сястрычкаю свінцы?» І хіба ж не цуд: якраз у гэтую хвіліну праходзіла каля нашае хаты нейкая незнаёмая дзяўчынка (што ўжо было незвычайна), ды такая брудная! І ножкі босыя, аж чорныя, і сукенка брудная-брудная, і валасы не ўчасаныя. Паказвае мне мама: «Глядзі, гэта і ёсць тая Зоська».

Запомнілася мне гэта назаўсёды.

Неяк у часе навуковай канферэнцыі ў нашай вну калегамовазнаўца М.А. Даніловіч, які стала займаецца вывучэннем найменняў людзей, выступаў з дакладам пра найменні дзяцей на Гродзеншчыне. Назваў ён і тое маё, шчонаўскае, даўняе: «Зоська – свінчына сястрычка». Быццам сустрэла ізноў тую брудненькую незнаёмку, ізноў пачула маміна ўшчуванне: «Глядзі ж, не ўпэцкайся!» Перанеслася ў сваё роднае Шчонава.

Калі ж спытала пасля, адкуль у яго тая Зоська, пакапаўся ў сваіх талмудах і ведаеце што сказаў? «Вёска Шчонава, Карэліцкі раён»…

# *Частка XI*

## *З даўнейшага*

*Гэтыя гісторыі – з даўнейшага. Не за маёй памяццю ўсё гэта было. Апошнія сведкі тых часоў цёткі Фаня Лысішына, Вера Лідзіна, Анюта Уладчышына пра падзеі даўнія памятаюць, падзяліліся сваімі ўспамінамі.*

*Доўга блукаючы па страчаных, забытых шчонаўскіх сцежках, прыжылася я на іх. У даўніх гісторыях блізка мне ўсё і знаёма, быццам на маіх вачох тое адбывалася.*

## *Шчонаўскі маёнтак*

Сённяшнюю ноччу (пятага студзеня дзве тысячы шаснаццатага года) прысніўся мне шчонаўскі маёнтак. Незвычайна прыгожы. У цэнтры – двухпавярховы дом з чырвонае цэглы. Круглы, з тэрасамі, калонамі. Вакол нейкія будынкі. Схапілася за свой смартфон, шчаслівая, што здымак буду мець…

Невядома, як тая сядзіба раней выглядала. А вось у трыццатыя гады дом быў даволі сціплы, аднапавярховы, драўляны, з двума ганкамі. Амаль ніякае памяткі пра сядзібу не засталося. Толькі згадкі апошніх шчонаўцаў, што памятаюць яе з дзяцінства. Стаяў той дом у прыгожым месцы, за ракою Зямчаткаю. З узнятага над мясцовасцю ўзгорка, што, па словах А.Т. Федарука, нагадвае гарадзішча, выглядаў светлымі вокнамі, ці не едзе хто па прыгожай алеі, ці не ідзе, добрую вестку несучы. Але закончыліся для шчонаўскага маёнтка добрыя весткі ў 1939 годзе. Ды і ўсялякія закончыліся. Як і для многіх прыгожых сядзібаў нашага Краю.



*Тут быў двор пана Ждана*

У кнізе А.Т. Федарука «Старадаўнія сядзібы Беларусі. Карэліцкі раён» пададзены звесткі пра тое, што «вёска Шчонава ўспамінаецца ў Метрыцы ВКЛ за 1662 г. У 1690 г. – маёнтак Аляксандра Швыкоўскага і Міхаіла Ракевіча… У 1867 г. па купчай крэпасці маёнтак перайшоў Аляксею Захар'іну. У 1914 г. гаспадаром быў Антон Ксавер'евіч Рудлеўскі…»

А нядаўна з'явіўся матэрыял краязнаўцы Змітра Юркевіча пра «шчонаўскі след» Адама Міцкевіча. Ягоны дзед па кудзелі «Мацей з Ганнай уласнага маёнтка не мелі, таму раз на некалькі гадоў бралі ў арэнду які-небудзь фальварак. Жылі яны нейкі час у Абрынцы, Леаноўшчыне і Шчонаве, згадваюцца разам са сваякамі ў Гарадзеі»[1].

## *Жданы*

У трыццатыя гады тут жыў памешчык Ждан. Калісьці звычайны вясковы хлопец, просты працаўнік, недзе з-пад Руткавічаў. Але вельмі прыгожы. Ажаніўся з багатай, старэйшай ад сябе ды не вельмі прыгляднай паненкай.

Апроч сядзібы за рэчкаю, мелі Жданы дамы ў Навагрудку, Карэлічах, Захомах, у якім жыў аканом Павел Іванавіч Пахалінскі з сям'ёю. Перад самым лесам была тая сядзіба. Ад будынка і ў шасцідзясятыя ўжо нічога не было. Толькі здзічэлы куст барбарысу, яблыні, тады яшчэ плодныя. Сёння і іх няма.

Быў Пахалінскі агароднікам, а жонка краўчыхай. Пяцёра дзетак мелі, трох дачок (Тамару, Любу, Алу) і двух хлопчыкаў (Жэніка і Жоржа). Толькі адзін Жорж на Радзіме застаўся, ажаніўшыся з дзяўчынаю з Мокрава, Волькай Будзейкавай. Аўдавеўшы, узяў Ніну, сястру Мішы. Таксама з Мокрава. Усе астатнія ў Польшчу выехалі.

Ніхто са шчонаўцаў ні слова дрэннага пра апошніх паноў сваіх не сказаў. Добра яны да людзей ставіліся.

Дзвюх дачок Жданы выгадавалі, Тоню і Яню. Прыгожыя былі дзяўчаты. Асабліва Яня. Замуж пайшла за нейкага вайскоўца. У Шчонаве на яго казалі Жоўнеж.

У 39-ым годзе, калі саветы прыйшлі, Яня якраз дзіцятка чакала. Нацярпеліся бедныя страху. Большасць людзей шка-

[1] http://nn.by/?c=ar&i=168458

давала іх, асабліва жанчыны. Ды была адна, валоцкая Аля Кухарчыкава, з Батракоў, якая крычала:

–Хай яна ў свінарніку дзіця родзіць!

Накінуліся на яе кабеты:

–Што яна табе кепскаё зрабіла?! Чаго ты да яе маяш?

Прыехаў пасля той Жоўнеж, забраў іх. У Польшчу з’ехалі. Прыязджаў ён пазней, хадзіў самотны там, дзе маёнтак быў.

## Шчонаўскі Дон Жуан

Ён быў вельмі прыгожым, той настаўнік Лесэк, што за палякамі дзяцей шчонаўскіх і валоцкіх вучыў. Многія дзяўчаты, кабеты былі ў яго закаханыя. Дзетак ад яго пазашлюбных нараджалі. Тая ж Аля валоцкая, што пакаёўкай у школе працавала, хлопчыка ад настаўніка мела. Ды яна ўсё ж дарослая, замужняя жанчына.

А вось маладзенькая дзяўчынка, дачка аканома Пахалінскага Люба, таксама ахвяраю таго Лесэка стала. Вучаніцаю ягонаю была. Зацяжарыць не ў шлюбе ў той час было вялікаю ганьбаю. Ды яшчэ такой маладой дзяўчыне. Вось і прыдумалі ў сям’і дзіцятка тое за брата яе выдаць. Быццам маці, пані аканоміха, сыночка нарадзіла. Так і зрабілі.

Але ж шыла ў мяшку не схаваеш. Памятаюць апошнія шчонаўцы гэтую гісторыю…

## Парабкоўская доля

Уладак Гіль, якога ўсе звалі Лысы, парабкаваў у Ждана. Жылі яны ўсе ў вялікім бараку, перагароджаным для кожнае сям’і на пакоі. Нялёгкая доля парабка. Жывёлу ў пана даглядаў. Зрэшты, не была тая праца цяжэйшаю, чым пазней у калгасе. Жонка даяркай працавала. Дзе ж дзенешся, зямлі сваё не меў.

І хлеб у іх быў, і да хлеба. Але меў Уладак мару – гаспадаром стаць. Назбіраў-такі грошай, купіў зямлі, хату паставіў, бляхаю белаю пакрыў, якую яму пан танна прадаў. Шчаслівы, радаваўся, казаў усім:



M.-G.-K.-Schreibstube in Schtschenowo
(Schneider)

*Будынак у двары, дзе жылі парабкі. Здымак нямецкіх салдатаў часоў Першай святовай вайны*

–Ужо мяне пан ні будзя на работу будзіць.

–Адно ж пабудзіла зямля сырая, – гэта ягоная дачка, цётка Фаня так сказала. Бо нядоўга, гадоў пяць, пражыў у сваёй хаце, ды і то ў час вайны, з якое не вернецца.

## Дзеці Уладка Лысага

Першыя дзеткі Марылі і Уладка паміралі малымі. Спачатку нарадзілася двойня: Сяргей і Анюта. Дзяўчынка толькі гадок пражыла, а хлопчыку ўжо тры было. Яшчэ там, у бараку, памерлі. Ізноў нарадзіўся хлопчык. І яго Сяргеем назвалі, памёр, гадок маючы, ужо ў сваёй хаце.

Калі ізноў зацяжарыла Марыля Уладкава, напрасілася паненка Яня за куму. Чаму ж не ўзяць такую мілую дзяўчыну за маці хросную? Нарадзіўся хлопчык, Колем назвалі. Хрысціла яго Яня з аканомам Паўлам Іванавічам. На хрэсьбіны ў хату прыйшлі, падарункі прынеслі, за бяседным сталом пасядзелі.

Заўсёды пра свайго хрэсніка памятала маці хросная. На Вялікдзень яйка валачобнае давала.

Па тых дзетках Уладкавых на могілках шчонаўскіх былі маленькія грудкі-магілкі без помнікаў, без агароджаў з самага краю. Да гэтага часу дагледзелі іх сёстры Фаня і Мілка. А нядаўна зрабілі на тых магілках акуратныя надмагільнічкі, крыжыкі паставілі, падпісалі, хто тут вечным сном заснуў.

## Кубачак

Дом Жданоў стаяў на ўзгорку. Таму зручна было пад ім мець вялікі склеп. Быў ён поўны ўсялякіх прыпасаў. Хадзілі ў той маёнтак шчонаўцы на заробкі. Жанчыны бульбу перабіралі, у склепе пратаралі, розную працу рабілі.

Аднойчы Ліда Абэлгава ўзяла з сабою малую Веру. Паклікала пані мілую дзяўчынку і пачаставала малаком з хлебам. Вельмі спадабаўся ёй кубачак парцалянавы. Ніколі вясковае дзіцё з небагатай сям'і такога посуду не бачыла. Зачараваная, глядзела яна, як на цуд які. Зразумела гэта ўважлівая пані і лагодна сказала да малое: «Калі спадабаўся табе кубачак, вазьмі сабе».

Шыкоўны падарунак атрымала дзяўчынка. Неспадзеўку ад ласкавае пані. Не дзіва, што добрым словам тых гаспадароў шчонаўцы згадваюць.

## Кава

За Польшчаю ў школе на перапынках дзецям каву давалі. Школа тады была ў Парасчынай хаце. Вучыў дзетак Тадзік Жыткевіч, які са сваёю сям'ёю, жонкаю і дачкой Ірынай жыў на кватэры ў Васіля Таўлуя. Гэты ж настаўнік і за немцамі ў Шчонаве працаваў. Толькі школа ўжо была беларуская. А пасля вайны выехаў настаўнік з сям'ёю ў Польшчу.

Вось жа, вельмі захацелася малой Веры Лідзінай тае кавы, бо ніколі не піла яе, не бачыла нават. Павяла яе старэйшая Фаня Сцяпанава ў школу. Пытаецца жонка настаўнікава, чаго прыйшлі. Старэйшая тлумачыць:

–Яна кавы хоча, ніколі не піла.

–Няма яшчэ кавы, не згатаваная.

Ні з чым дахаты вярнулася малая. Смутна ёй, што кавы не паспытала. Старэйшая Клава суцешыла, паабяцала прынесці сястры пачастунак. У кубачку несла, а гэта не так блізка, каля паўтара кіламетра будзе, паставіла на стол, паклікала Веру частавацца. Прыбеглі ў хату, а кубачак перавернуты, кава вылітая. Кот дабраўся.

Плакала Клава, плакала Вера. Не пакаштавала кавы.

## Наеўся булак белых

З таго боку мяжы, з Беларусі савецкае, даходзілі да шчонаўцаў звесткі, што надта добра ў калгасах жывецца. Што паноў прагналі, самі гаспадараць. Ядуць булкі белыя ўволю.

Паверылі гэтай хлуслівай прапагандзе хлопцы шчонаўскія. Найбольш адважныя вырашылі за мяжу падацца. Між іншых хлопцы Юлькавыя. Удалося-такі Апанасу ў той «рай» савецкі трапіць. Быў з ім яшчэ нехта, відаць, не са Шчонава. Так цётка Вера кажа, бо не памятае хто, а шчонаўскага запомніла б. Колькі часу і ў калгасе папрацавалі. Якраз жыта ўбіралі, снапы вязалі. Вось ужо нагаладаўся! Не тое, што булак, а і хлеба чорнага мала было.

Вырашылі ў краме паесці купіць. А каб разлічыцца, польскія злоты дасталі, што з сабою праз мяжу перанеслі. «Пачакайце, – кажа ім прадавец, – размяняю вашыя грошы». А сам пабег, міліцыю паклікаў. Тут жа прыляцелі, схапілі хлопцаў. Трымалі недзе ў засценку.

Перадалі ўрэшце саветы ўцекачоў палякам. Добра атрымаўшы гумы ў пяты і на мяжы, і ў пастарунку, дахаты вярнуліся. Не ведалі, што гэта было шчасцем. Маглі б і ў ГУЛАГ трапіць як шпіёны польскія. І наогул, жывымі маглі б не вярнуцца.

Зведалі шчасце ў калгасным раі. Наеліся булак савецкіх белых.

# Частка XII

# Хвалава

*У дзяцінстве не магла зразумець, чаму Хвалава – іншая вёска. Яна ж зусім побач. Толькі дарогаю, што ўгору вядзе між Косцікаваю і Русаковаю хатамі, ад Шчонава адгароджаная. І ў школу Шчонаўскую дзеці хадзілі, і на працу разам, і на святы. Так і жылі побач. Толькі хаваліся хвалаўцы ў Райцы. Таму і сабрала тут блізкіх шчонаўцам хвалаўцаў. А дапамагла мне гэта зрабіць цётка Ліда Маковікава, што вельмі добрую памяць мае, шмат чаго згадала, усіх людзей хвалаўскіх успомніла. Дзякуй ёй за гэта!*

## *Хвалаўскі спіс*

Пачнем са спісу жыхароў Хвалава, які расшыфроўваць давялося, у чым таксама цётка Ліда дапамагла. Першы, самы даўні, што да мяне дайшоў, зроблены ў 1944-ым годзе. Яшчэ і гаспадары, якім нядоўга жыць засталося, бо загінуць у гэтым жа годзе, там прысутнічаюць. Праўда, гаспадаром (*главой*, зразумела, што спісы па-руску: саветы ж вярнуліся) запісаныя жанчыны. Відаць, мужчыны ўжо на вайне былі. Але мы іх гаспадарамі пакінем. У дужках пазначаны гады нараджэння. Каб было зразумела, пра каго размова, называю мянушкі і «неафіцыйныя» імёны.

Вось жа – хвалаўцы ў 1944-ым. І тыя, хто народзіцца пазней.

№ 1. Гаспадар **Фрыдрык** Піліп Піліпавіч (загінуў у вайну), жонка Ганна Іванаўна, Піліпіха (1901), дзеці Марыя (1935), Вера (1938), Гэля (1941).

№ 2. Гаспадар **Цярэшка** Павел Рыгоравіч.

№ 3. Гаспадар **Зайка** Уладзімір Канстанцінавіч (1914, загінуў у вайну), жонка Ганна Апанасаўна, Анюта (1922), дзеці: Яня (1941), Валодзя, мянушка Маланка (1944), сястра гаспадара Стэпа (1920).

№ 4. Гаспадар **Цярэшка** Аляксандр Сцяпанавіч (1909), жонка Вера Кандратаўна (1907), дзеці Аляксандр (Шура) (1937), (возьме замуж Люню Пасэсараву, у іх народзіцца двое дзяцей: Ліля і Саша), Ніна (1938), Фаня (1945), маці гаспадара Агата (1864).

№ 5. Гаспадар **Яўсей** Аляксандр Сяргеевіч (**Бабёр)** (1906), жонка Вольга Сцяпанаўна (Бабрыха) (1907), дзеці: Люба (1934), Жэня (1937), Ганна (1943), сястра гаспадара Фрыдрык Алеся (1896).

№ 6. Гаспадар **Цярэшка** Аляксандр Кандратавіч (1888), не ажаніўся, бацька Кандрат (1859), маці Юзя (1867), сёстры: Надзя (1899), Соня (1914).

№ 7. Гаспадар **Зайка** Аляксандр (**Булён)** (1898), жонка Аляксандра Рыгораўна, Булёніха (1894), дзеці: Мікалай (1934), Уладзімір (1936), Аляксандр (1938), маці гаспадыні Антаніна (1867), сястра гаспадара Надзя, незамужняя (1899), брат гаспадара Косцік (1913).

№ 8. Гаспадар **Цярэшка** Уладзімір Сцяпанавіч (1912, загінуў у вайну), жонка Альжбета Міхайлаўна (1907), дзеці: Зоя (1938), Зіна (1941).

№ 9. Гаспадар **Грыбок** Антон Міхайлавіч (1897), жонка Аляксандра Іванаўна (1897), дзеці: Таццяна (Тоня) (1933), Маруся (1935).

№ 10. Гаспадар **Цярэшка** Фёдар Мікалаевіч (**Чорненькі**) (1901), жонка Алена Іванаўна (1904), дзеці: Зміцер (1934), Мікалай (1937), Ліда, выйшла замуж за Маковіка Віктара (1938), Зіна (1941), Федзя (1945), Барыс (1949), маці гаспадара Рыпіна.

№ 11. Гаспадар **Цярэшка** Мікалай Сцяпанавіч (1906, загінуў у вайну), жонка Надзея Адамаўна (**Міколічыха**) (1904), дзеці: Мікалай (1935), Жэня (1937), Аляксандр (1945). Пазней народзіцца Маруся, што выйдзе замуж за Колю Тунікавага.

№ 12. Гаспадар **Цярэшка** Пётр Мікалаевіч (**Голуб**) (1888), жонка Людміла, Голубіха (1891), дзеці: Валянціна (1926), Уладзімір (1929), Генадзь (1932), Віктар (1936), Жора (1937), Ірына (1939), Ніна (1944), маці гаспадара Марыя (1869).

№ 13. Гаспадар **Фрыдрык** Сцяпан (1904), жонка Ганна Мікалаеўна, дзеці: Мікалай (1941), ажэніцца з Галяй з Райцы, іх дзеці: Света, Віця, Іра.

№ 14. Гаспадар **Патук** Уладзімір Ігнатавіч (**Корч**) (1908), жонка Аляксандра (1916), дзеці: Аляксандр (1941), ажэніцца з Зінай Парасчынай са Шчонава, Леанід (1943), Зоя, Ніна, Маруся, маці гаспадара Маруся (1861), цётка гаспадара Арцюх Юля (1866). Лёнік ажэніцца з Ленай, іх дзеці: Таня, Вова, Дзіма. Сям’я Лёніка застанецца ў бацькавай хаце, сёння жыве нявестка.

№ 15. Гаспадар **Яўсей** Іван Адамавіч (**Шчэрба**) (1908), вярнуўся з вайны калекам, хутка памёр, жонка Ганна Канстанцінаўна, Шчэрбіха (1909), дзеці: Валодзя (1935), Міша (1937), Віця (1939), Коля (1941), Толя (1944).

№ 16. Гаспадар **Цярэшка** Адам Лук’янавіч (**Майстар**) (1884), бацька Мішы Цярэшкі (Батуры), нежанаты, сястра Алеся (1899).

№ 17. Гаспадыня **Маня** (Гарбатая), яе сын Міша Цярэшка, возьме замуж Ніну з Кайшовак. Іх дзеці: Пеця, Ліда, Вова, Тамара. Перaселяцца ў іншае месца, побач з Фрыдрыкамі.

№ 18. Гаспадар **Цярэшка** Міхаіл Лук'янавіч, брат Адама (1906), жонка Феня, дзеці: Яня, Маруся, Міша. Дом захаваўся, прыязджае сын Міша.

№ 19. Гаспадар **Біран** Аляксандр Юльянавіч (1897), жонка Аляксандра Мікалаеўна (1899), сястра бацькі цёткі Ліды Маковікавай, дзеці: Марыя (1929), Юзік (1935), Яня (1937), Карпей (1940) ажэніцца з Кацяй з Дубровы, іх дзеці: Саша, Лена, Сяргей (1942), Фаня (1945).

№ 19. Гаспадар **Цярэшка** Пётр Мікалаевіч (1888), жонка Волька (1894), дзеці: Аляксандр (1928), Маруся (1932), Іван (1934), Валодзя (**Дуст)** (1939), Дамініся, сястра гаспадара (1874).

№ 20. Гаспадар **Логіш** Уладзімір (1899), жонка Аніся Уласаўна (1895), дзеці: Маруся (1929), Вера (1934), Соня (1942), (Гізіха: выйшла замуж за Колю Гіза, іх дзеці: Коля, Гена, Вова), брат гаспадыні Сташчанюк Міхась (1874).

№ 21. Гаспадар **Піваварчык** Іван (1891), пакінуў жонку, жонка Стэфанія Пятроўна (1893), дзеці: Гена (1934).

№ 22. Гаспадар **Біран** Мікалай Міхайлавіч (1888), брат Цярэшкі Альжбеты, жонка Марыя (1891), дзеці: Аляксандр (1923).

№ 23. Гаспадар **Арцюх** Платон Георгіевіч (1895), жонка Жэня (1896), дзеці: Аляксандр (**Камісар**) (1928), Міхаіл (1929), Слава (1932), Люня (1937), сястра гаспадара Яфіма (1889). Аляксандр ажаніўся з Соняю (Камісарыха), іх дзеці: Саша, Віця, Вова, Пеця.

№ 24. Гаспадар **Зайка** Аляксандр Піліпавіч (1885), жонка Вольга Іванаўна (1885), дзеці: Маруся (1924), Стэпа (1925), Мікалай (1934).

## *Марыў пра хату*

Аляксандар Цярэшка па дрэва на хату, як і многія гаспадары з нашых ваколіцаў, за Беняконі паехаў. Ды ўжо дамоў жывым не вярнуўся.

Купілі яны тое дрэва, загрузілі ў кузаў. Залез туды Аляксандар, лаўка там пры борце была. На ёй і прымасціўся. А дрэва высока накладзенае, цэлы зруб. Дарога, зразумела, няроўная, з ямамі, выбоінамі. Трэсла кузаў моцна. Зляцела дрэвіна, стукнула мужчыну ў грудзі і прыдушыла. Шафёр нават і не згледзеў. Прыехалі дахаты, а чалавек мёртвы.

Скакаў сын Аляксандраў Шура біцца да таго шафёра. Ды хіба ж ён наўмысна тую бяду ўчыніў?

Марыў чалавек пра сваю хату. Ды не дачакаўся.

## Няшчасная Стэпа

Сястра Уладзіміра Зайкі Стэпа была калекаю. Гарбаценькая, непрыгожая. Але і на такую нехта паквапіўся. Зацяжарыла яна, таілася, нарадзіла дзіцятка, ніхто і не ведаў. Каб ганьбу сваю далей схаваць, вырашыла загубіць яго. Пад арэхавым кустом закапала.

Але выйшла наверх гэтая страшная правіна Стэпіна. Падгледзеў нехта, разнеслася чутка, прыехаў міліцыянер. Загадаў няшчаснай адкапаць дзіця, а рыдлёўку забараніў узяць. Рукамі зямлю дзерці мусіла.

Засудзілі яе. Дзесяць гадоў далі. Як адседзела, вярнулася ў Хвалава.

А што бацька дзіцяці? Ніхто і не ўведаў, хто ён. Увесь грэх, пакуты на няшчасную кабету леглі. Таму і не вытрымала, загубіла дзіцятка.

## Маня Гарбатая

А вось Маня Гарбатая (так яе ў вёсцы называлі з-за калецтва, якое з дзяцінства мела: упала з печы, пашкодзіла хрыбет) сыночка свайго пазашлюбнага Мішу нарадзіла, узгадавала на радасць сабе. Яе сакрэт (хто бацька хлопчыка) быў вядомы ўсім: сусед Адам Цярэшкаў. Але так і не прызнаў ён сына. Што за сэрца меў гэты чалавек? Штодня свайго сыночка бачыўшы, ніколі да яго па-бацькоўску не азваўся. Затое маці нарадавацца на хлопчыка не магла. Сама працавітая, старанная, сына да працы прывучала. Да таго ж, яна хораша шыла. Мела зінгера, які пазней нявестцы дастаўся.

Высокім, прыгожым рос Міша, спраўным, удалым. Замуж добрую дзяўчыну з Кайшовак узяў. Старая маці пры іх дажывала.

Пэўна, ніколі не пашкадавала, што жыццё дзіцяці дала.

## Хвалаўскі волат

Незвычайнаю сілаю адарылі бацькі Алеся Яўсея. У Хвалаве яго Бабром называлі. Да таго ж, чалавек быў з гумарам, распавядаць пра свае прыгоды ўмеў і любіў.

### Бабёр і брыгадзір

Красці ў калгасе, пра што ўжо згадвалася, грахом ніколі не лічылася, хоць бы таму, што ababралі тыя калгасы людзей да ніткі. Вось жа, цягне Бабёр на плячох вязанку канюшыны. А тут – брыгадзір Коля Барэйкаў:

–Украў?

–Украў… – як тут не прызнаць відавочнае?

–Скідай з плеч!

Скінуў, як жа не паслухаць? Хацеў малады брыгадзір тую канюшыну на свой воз закінуць, калгаснае дабро вярнуць, але як ні падступаўся, з якога боку ні заходзіў, падняць не змог. Нат з месца не зрушыў. Знайшоў выйсце. Пэўны быў, што і Бабёр сам не падыме, што нехта яму канюшыну на плечы паддаў. Кажа хвалаўцу:

–Калі зможаш падняць, то забірай!

Бы лёгкую ношку, ускінуў Бабёр на плечы тую непад’ёмную вязанку і панёс. Яшчэ і азваўся да брыгадзіра:

–Дзякуй, дзеткі…

### Капу з вартаўніком

Зразумела, што дабро калгаснае так сабе не валялася, варта да яго ставілася. Толькі чаго яна варта была, усе ведалі.

Тым разам сена Дуст вартаваў. Ведама, днём прылегчы асабліва не мог, бо працы ў вёсцы заўсёды поўна. Змарыў яго сон, у капу схаваўся, каб на вочы не кідацца. Ды і не сваё ж даглядаў.

Бабёр на драбязу не разменьваўся, усю капу і забраў, дубовыя калкі пад яе падсунуўшы. Што яму было тую капу падняць!

А Дуст нат не пачуў, не прачнуўся, калі яго разам з тою капою пераносілі. Толькі ранкам, калі Бабрыха прыйшла ў хлеў карову даіць, зразумеў ён, што здарылася. Ды не выносіць жа сена з хлява ці, дакладней, смецце з хаты…

### *І – у рэчку!..*

Сам Бабёр, як бачым, красці лоўка, артыстычна ўмеў, а з іншых, хто не такі здатны быў, пажартаваць любіў.

Будаўнікі хвалаўскія Майстар (Адам Цярэшкаў) і Корч (Патук) задумалі дошкі ў цялятніку ўкрасці. Патрэба была пільная, бо што без дошак пабудуеш? А яны хаты будавалі, самі ўсё рабілі, сталяры знатныя былі.

Высачыў Бабёр, як тыя праз рэчку на ноч гледзячы па кладцы да цялятніка пайшлі. Падпілаваў ён тую дошку-кладку і чакае. Не адзін раз пераказваў сваім удзячным слухачам пра тую прыгоду. Трэба было чуць, з якім непаўторным артыстызмам умеў ён апавядаць. Не расповяд – паэзія, дзе ні аднаго слова лішняга, дзе ўсё да месца, усё гучыць:

*–Сяджу, гляджу:*
*Майстар – першы,*
*Корч – за ім,*
*і – у рэчку!..*

## *Яўсеі*

Бедным быў Хведар Яўсей. Чубкам па-вулічнаму яго звалі. Не шанцавала яму. Першая жонка памерла, дзвюх дачок пасіраціўшы. Другую ўзяў, такую ж бедную, як і сам. Ксеню Барэйкаву. Нарадзіла яна яму хлопцаў Косціка і Колю. Бяда была, што на хату лю**дскую** так і не ўзбіліся. Жылі ў такой маленечкай, што зайсці цяжка было, гаравалі. Пазней, як Косцік ажэніцца, Соню з Дубровы возьме, тая шафу сваю пасажную прывезці не зможа, бо ў хату, аселую да зямлі, уцягнуць нельга было. У куфар пасаг складзе.

Але неяк рады давалі сабе Яўсеі, гадаваліся хлопцы.

Здатнымі на розныя штукарствы выраслі. Асабліва даставалася ад іх старому Патуку, які самагонку на продаж гнаў. Хадавы тавар. Грошай у хлопцаў заўжды бракавала, то і выдумлялі розныя хітрыкі, каб тае самагонкі «купіць».

### *Купі дровы*

Вартым таварам заўсёды лічыліся дровы. Аднойчы цёмным вечарам прыцягнулі Косцік з Колем вялізныя бярвенні на Патукоў надворак. Прапаноўваюць гаспадару:

–Купі дровы. За самагонку.

Чаму б не? Абмен выгадны. Пагандляваліся яшчэ, колькі самагонкі на тыя дровы выйдзе. Задаволены Патук, задаволе-

ныя хлопцы дахаты пайшлі.

Толькі назаўтра раніцай зразумеў гаспадар, адкуль тыя бярвенні. Зайшоў ён у хлеў, а там тыльная сцяна разабраная…

Прыходзіў да Чубкавых сварыцца, але нічога не вярнуў: самагонка ў той жа вечар апрыходаваная была.

### *Купі шапку*

Тым разам гнаў Патук самагонку у Малюшыцкім раўку. Дапільнавалі яго хлопцы Чубкавы, прыходзяць і прапаноўваюць купіць шапку. За самагонку. Непатрэбная Патуку тая шапка чужая, у яго і свая ёсць. Тут шантаж у ход пайшоў:

–Не купіш, то раскажам, што гоніш.

Дзе ж дзецца? Наліў маладым нахабам цэлы літар за тую шапку.

Але ім таго мала падалося. Вылілі самагонку, у бутэльку вады налілі і зноў у равок вярнуліся:

–Што ты нам паслед даў? Адна вада!

–Мусіць, паблытаў я, хлопцы.

Ізноў літар наліў. Думаў, спакой урэшце будзе. Адно ж прыходзіць яшчэ адзін маладзён. Зразумела, з тае ж кагорты, разам прыдумлялі, як болей самагонкі займець. Угледзеў шапку і накінуўся на Патука:

–Во дзе мая шапка! Ты ўкраў! Аддавай, а то міліцыю выклічу!

Прасіўся, бажыўся Патук, што не краў ён гэтае шапкі. Давялося яшчэ адзін літар наліць, каб справу залагодзіць…

### *Няправільныя грошы*

Зусім не азначала ўсё гэта, што сумленна хлопцы з Патуком не разлічваліся. Праўда, першым разам не маглі старому давесці, што сапраўдныя грошы яму даюць. Той за самагонку браў польскія злотыя, а яны савецкія рублі прынеслі. Ніяк не хацеў пагадзіцца:

–Што вы мне суняця? Што гэто за грошы?

–Савецкія. Цяпер такія будуць.

–Няправільныя грошы. Ні трэба мне такія.

Ледзьве ўгаварылі, шо правільныя, што толькі такія і застануцца.

Не хацелі нашы людзі ні саветаў, ні іхніх грошай…

## *Патуковыя хлопцы*

І чаму найпрыгажэйшыя дзяўчаты шчонаўскія тых хлопцаў Патуковых, Сашу і Лёніка, так упадабалі? Неаднойчы разважалі кабеты над гэтай праблемай. Нябрыдкія хлопцы, даволі высокія, стройныя, валасы хвалістыя, але ж не такія ўжо і прыгажуны. Лёнік больш вясёлы, адкрыты, а старэйшы Саша наогул нейкі маўклівы быў. Мо ў тым ягоным маўчанні была вабная таямніца, што дзяўчатам бачылася? Хто іх ведае, хто разгадае сэрцы дзяўчат маладых.

Апрануцца ў белыя кашулі, на матацыкл сядуць, ляцяць з ветрам. Мо вецер дзяўчатам галовы кружыў? Вецер умее.

Вось жа, кахалі Сашу дзве прыгажуні: Зіна Парасчына і Маруся Тунікава. Да таго ж і сёстрамі стрыечнымі былі. А ён ні адной перавагі не аддаваў. Ды пасватаўся ўсё ж да Зіны.

Чаму Зіну выбраў?

Была ў Сашы сястра малодшая, Зоя. Не брыдкая, але і не надта відная дзяўчына. Не было ў яе кавалераў. І вось прыязджае ў вёску Парасчын Коля, прыгожы хлопец. У ваеннай форме, высокі, стройны. Падобныя яны з Зінаю. Не адна дзяўчына на яго заглядвалася. А ён на *гулянi* Зою запрашае. Танец за танцам. І да хаты праводзіць…

Тады і пасватаўся Саша Патукоў да Зіны Парасчынай. Вяселле згулялі. А Коля як з’ехаў, дык і не з’яўляўся ў Шчонаве доўгі час.

Сям’я Сашы жыла ў Карэлічах. Нядоўгім быў век гаспадара. Памёр яшчэ зусім нестарым ад хваробы невылечнае. А нядаўна і Зіны не стала. Вішні з дрэва абірала, не ўтрымалася, упала. Ды так моцна пабілася, што да сябе ўжо і не дайшла. Памерла ў шпіталі. Пусты іхні дом. Дочкі часам з Мінска прыязджаюць.

Даўнія гэта справы, таму, спадзяюся, ніхто крыўдаваць не будзе. І тыя, хто тут, і тыя, хто ўжо там, па-за мяжою жыцця зямнога.

# Частка XIII

# Валокі

Хоць Валокі ад Шчонава не нашмат далей, чым Хвалава, але сувязі з імі з часоў прыходу саветаў перасталі быць моцнымі. Бо належала гэтая вёска да іншага калгаса з цэнтрам у Кайшоўцы. Ды спрадвеку побач жылі, за панамі разам у Ждана працавалі, радніліся-жаніліся. Нат і з майго пакалення некалькі дзяўчат за валоцкіх хлопцаў замуж пайшлі. То і пра Валокі мусіць быць мой аповед.




Вуліца Мокрава сто гадоў таму



Тая ж вуліца сёння

## *Клеман*

Бадай, самай яркай асобай з валоцкіх Батракоў (так называецца бліжэйшая ад Шчонава вуліца, бо засялілі яе колішнія батракі пана Ждана) быў Сцяпан Кліменцьевіч Гіль. Сцяпан – імя звычайнае, а вось імя бацькі – з прызабытых, рэдкіх. Як і маці – Альжбета. Таму, відаць, усе называлі яго Клеманам.



*На гэтым месцы, па сцверджанні Сцяпана Гіля, была калісьці ў Мокраве царква*

Замуж Сцяпан узяў Маню, дачку Сымона Якаўлевіча Гіля. Прозвішча дзяўчыне мяняць не давялося. Хоць і бедная, пасагу вялікага не мела, зямлі ў бацькі мала было, лепшае не хацеў Сцяпан. Усё жыццё кахаў сваю Маню, прыгожую, працавітую, акуратную. Яе бацька Сымон у даўнія часы быў аканомам у Райцаўскім маёнтку. У сям'і было трое дзетак: Маня, Саша, Ліда. Добра жылі. Ды з пачаткам Першай сусветнай вайны усё страцілі, у бежанцы падацца мусілі. Там захварэла і памерла жонка, пакінуўшы дзетак сіротамі. Па вяртанні ўзяў Сымон шлюб са Стэпаю з Русакоў, дзяўчынаю з Райцы. Добраю мачыхаю яна была. Як родных дзяцей даглядала. Старэйшай Мані, што ўжо была дзяўчынаю на выданні, купілі прыго-



*Сям'я Клемана – Сцяпана Гіля: гаспадар, дачка Антаніна, жонка Маня*



*Сцяпан у двары свайго дому з жонкай Маняй (на руках унук) і яе сястрой Лідай. Каля плоту дачка Людміла*

жы вышываны кажушок. Ні ў кога ў Валоках такога ўбрання не было.

Трое дзетак у Сымона са Стэпаю нарадзілася: Марыя, Анюта і Зіна.

Сцяпан меў мноства талентаў: быў вядомым цесляром, мулярам, хаты будаваў, печкі рабіў. Хату сваёй сямейцы сам збудаваў. І да сёння жыве ў ёй дачка Людміла. Прасторная, светлая, цёплая хата зберагае той даўні лад прыстойнасці, працавітасці, які закладзены быў продкамі.

Ніколі не адступіў Сцяпан ад веры, не зважаў ні на якія бязбожныя ўлады. У царкву хадзіў заўсёды, у хоры спяваў. Старастам у Райцаўскай царкве быў.

Меў незвычайна прыгожы голас, быў таленавітым спеваком-самавукам. На скрыпцы, што ад бацькі дасталася, іграў. Розныя мелодыі ведаў. Збярэцца сямейка на свята ў хаце, малітву адгаворыць, пачастуюцца, бацька песню зацягне. Усе падпяваюць. На скрыпцы зайграе – заслухаюцца.

Ва ўсёй ваколіцы Клеман быў шанаваны. Ні адно пахаванне без яго не адбывалася. Быў пеўчым – так у нас называюць тых, хто адпявае нябожчыкаў. І да нас на развітанне з мамаю прыязджаў.

## Артыстка


*Антаніна Гіль-Гаркуша ў ролі Адэль. 5.05.1998*

А вось сёння самая знакамітая асоба не толькі на ўсе Валокі, а значна далей, Клеманава дачка. Антаніна Гіль-Гаркуша – артыстка, оперная спявачка, якая ўсё сваё сталае жыццё пражыла ва Украіне. Хораша напісала пра яе краязнаўца з Карэліч Святлана Кошур. Яе артыкул «Прымадонна з вёскі Валокі» можна прачытаць у кнізе «Зямля карэліцкая і яе славутыя людзі» або на сайце: http://bfk.by/?p=3178#more-3178. Паўтару толькі словы галоўнага дырыжора Днепрапятроўскага акадэмічнага тэатра оперы і балета, якія шмат гавораць пра спявачку з Валокаў: «Як брыльянт, упрыгожвае нашу ўкраінскую оперную сцэну ваш беларускі салавей Антаніна Гіль-Гаркуша».

Усё жыццё на высокай сцэне адпрацавала, адкрасавалася ў найпрыгажэйшых ролях, самыя знакамітыя оперныя партыі адспявала, а засталася прыгожаю беларускаю жанчынай, не развучылася на зямлі працаваць, любіць яе не развучылася.

Мне асабліва блізкая гэта асоба яшчэ і таму, што першаю настаўніцаю яе была мая мама. Захаваўся з тых часоў школьны здымак.

Расказала неяк пані Антаніна пра тое, як малою дзяўчынкаю жыта калгаснае на полі жала, маме дапамагала. А тут якраз нехта з кіраўнікоў калгасных пад’ехаў. Так старалася ўвішнае дзяўчо, што не заўважыла, як шаснула




*Настаўніца Валянціна Пятроўна Барэйка і вучні пачатковай Валоцкай школы. Побач з настаўніцай злева Антаніна Гіль*

вострым сярпом сабе па руцэ. Не столькі ад болю сэрца яе зайшлося, колькі ад жаху: «Як жа артысткаю буду з пакалечанаю рукою?»

Ды загаілася яе рука, не стала перашкодаю ў артыстычнай кар'еры тая рана даўнішняя.



*З партрэтам бацькі, удзельніка вайны. У Днепрапятроўску цудоўная традыцыя: на Дзень Перамогі выходзіць з партрэтамі родных, якія ваявалі*

## Валоцкая ледзі Макбет

Гэта тая ж Аля Кухарчыкава з Батракоў, якая паненку Тоню Жданову абразіла.

Не кахала яна свайго мужа Івана, не шанавала. Раней яшчэ звязалася была з настаўнікам Лесэкам, думала, той яе замуж возьме. Ды да таго дайшла, што са свету мужа звесці надумала. А памагаць у гэтай страшнай справе дзяцей намовіла. Сына Івана і малодшую дачку Ніну.

Вечарам тое было. Сын засек бацьку, і ўсе трое закапалі яго на надворку. Высокі мужчына быў, у яме не змяшчаўся, ногі падкурчылі. Спачатку каменнем закідалі, а пасля пяском засыпалі.

Знік Іван. Пытаюць жонку, дзяцей, дзе дзеўся, а ў адказ адно:

–Паехаў да брата ў Сібір.

Ды засталіся ў раённае міліцыі сумненні ў тым, што сапраўды мужчына з'ехаў. Мо і падказаў хто, што не ўсё тут гладка. А мо запыт паслалі ў той Сібір? Малодшая Ніна вёрткаю дзяўчынай была. Нат мужа свае сястры старэйшае Мані не прамінула. З'явіўся ў яе новы кавалер, быццам сватацца прыехаў, ды і застаўся. Жыў з ёю. Аказаўся следчым з Карэлічаў. Выведаў ён у закаханае кабеты страшную таямніцу. (Але ж і метады ў савецкага следства!)

Сабраў ён людзей да таго месца злачыннага і прымусіў Ніну капаць. Не хацела, то пацягнуў па спіне бізуном.

Дасталі цела. Галава была рассечаная. Паклалі ў сенях. Старэйшая дачка Маня галасіла:

–Татачко, я ні вінаватая, я нічого ні ведала…

Судзілі іх, маці і дачку малодшую. А вось сын Іван яшчэ да следчага эксперыменту ўцёк, неяк даведаўшыся, што выкрылі іх. А каб сляды свае схаваць, яшчэ адно забойства здзейсніў. У лесе ля Гарадзішча павесіў чалавека на дрэве. Свае дакументы тому ў кішэню паклаў. Інсцэніраваў самагубства. Такая вестка і дайшла да Валокаў. Ніхто апазнання не рабіў. Усе былі пэўныя, што так і здарылася.

Але праўда ўсё ж выйшла наверх. Хутаранец Мікалай Абрамовіч родам быў з Макашоў, што пад Баранавічамі.

Сабраўся ён аднойчы сваіх у той вёсцы адведаць. Ідзе і раптам бачыць: Кухарчык дровы каля хлява ў адной жанчыны сячэ. Гукнуў яму Абрамовіч:

–Здароў, Іван!

Падняў той галаву, спалохаўся, нічога не адказаў, кінуў сякеру і пабег. Ніхто з нашых людзей яго больш ніколі не бачыў. Дзе падзеўся, куды збег, як жыццё пражыў? Ці быў пакараны яшчэ ў гэтым жыцці за свае злачынствы цяжкія? Ніхто ўжо, пэўна, не даведаецца.

А маці з дачкою адседзелі сваё, у Валокі не вярнуліся. У Баранавічах жылі. Ніна яшчэ і замуж пайшла. За добрага хлопца.

## *Майсеевы вішні*

Белая Майсеева хата каля самага Шчонава. Яна і сёння стаіць, і сёння жылая.

Жывою сцяною вішняку адгароджаная яна была ад шчонаўскага лугу. Хіба ні ў кога ў нашых ваколіцах не было ў тым часе такіх вішняў. Смачныя, буйныя, сакаўныя, нікому з дзятвы шчонаўскае не дасяжныя.

Ішла неяк Майсеіха ў краму паўз нашае хаты ў час спелых вішняў, угледзела маму і запрашае:

–Прыйдзіце да нас па вішні.

Шанавалі людзі маму, настаўніцу, што і ў Валоках калісьці працавала. Падзякавала мама. Сама часу не мела, сказала, што дзяцей пашле.

Узялі мы з Колікам бітончык і пайшлі ў Майсеевы вішні. Залезлі, рвем, у той бітончык сыплем. Выходзіць з хаты гаспадар, хапае кій і – да нас. Ды з такою злосцю! Гэта ж трэба, якое нахабства: сярод белага дня ягоныя вішні крадуць. Праўдзівы допыт наладзіў:

–Што вы тут робіце?

–Вішні рвем.

–А хто вам дазволіў?

–Ваша цётка.

–Калі гэто яна дазваляла?

–Сёння, як у маг**а**зін ішла.



*Майсеевы вішні і тая, што рвала іх*

–А чаго гэто яна вам дазваляла? Чые вы?

–Барэйкавы.

–А-а-а…

Павярнуўся і пайшоў у хату.

Здаецца, і зараз чую тое ягонае працяжнае **а-а-а**, у якім столькі ўсяго намяшалася: і расчараванне, што не злавіў і не пакараў зладзеяў, і павагі да тых Барэйкаў, на якіх крычаць не трэба, бо ж не крадуць, а з дазволу скарысталіся…

Вішні тыя мы ў той жа дзень і з'елі. Спачатку мама хацела варэнне зварыць. Але перадумала: два літры ўсяго ў бітончыку, колькі таго варэння выйдзе. Хай лепей дзеці свежыя вітаміны спажывуць.

## *Бандзюкаватыя хлопцы*

У дзяцінстве толькі некалькі разоў праз Валокі прайшла. Калі ў Шчонаве яшчэ свае крамы не было. Нядобры ўспамін з тых паходаў застаўся.

Ішлі малыя шчонаўкі (Галя Лёнікава, Света Лысішына, Таіса Мішышына, Ала Барэйкава) па валоцкай вуліцы. Раптам выбягаюць на дарогу басаногія падшыванцы і давай галёкаць, свістаць. Спалохаліся дзяўчынкі. Кінуліся бегчы.А ўслед ім камяні паляцелі…

Не памятаю, ці ў каго тыя камяні трапілі, але добра запомнілася адчуванне глыбокае дзіцячае крыўды. Гонар дзявочы, хай яшчэ зусім малымі былі мы тады, закрануты быў. Ніколі ў нашым Шчонаве такога не было. Такое непавагі, абразы. З плачам дахаты вярнуліся.

З таго часу забараніла мама ў Валокі ў краму хадзіць. А з бандытамі тымі валоцкімі абяцала разабрацца, пагаварыць з іхнімі бацькамі, ейнымі вучнямі колішнімі…

# *Мая бабуля – гуманістка*

Яна не ведала гэтага высокага слова. Як ніколі не задумвалася, што яе ўчынкі вартыя ўшанавання. Мая бабуля – Вольга Сымонаўна Барэйка, ураджоная Гіль. Шчонаўцы называлі яе, як тое было прынята ў нашых вёсках, па мужу – Барэйчыхай. У абразках яна – удава гарушчая Волька Барэйчыха. Была незвычайнай асобай. І, разам з тым, на першы погляд, звычайнай вясковай кабетай-пакутніцай, нікім пры жыцці, як належна, не ацэненай.

Не па каханні замуж пайшла, па волі бацькі. З каханым пабрацца не здолела: радня ягоная ў пасаг, апроч іншага, карову патрабавала, а бацькі даць такога пасагу не маглі.

Была вясковай знахаркай, ружу замаўляла, пярэпалах вылівала. Наша першая лекарка. Як зараз бачу: сядзіць пры печцы, у адной руцэ міска з халоднай вадой, у другой – алюмініевая лыжка, якая ўсаджана ў драўляны тронак. Трымае яе над агнём, што гарыць у печцы. І шэпча свае замовы. Строгая, урачыстая. У гэтым часе нельга было нічога гаварыць. Схіляеш галаву, якую пакрываюць хусткай, над ёю чуецца глухаваты ўдар. Гэта страляе расплаўленае волава, улітае ў халодную воду. Вусцішна, быццам нейкая хваля прабягае па ўсім целе. А пасля ўсе ўважліва разглядаюць тое, у штоператвараецца волава. Яно мусіць даць адказ, што сталася прычынай сполаху. Нагадвае часам нагу ці руку, ці галаву чалавека або сабакі. Знахарка тлумачыць, што азначае той скамянелы алавяны скрутак, ад чаго сполах.

Уся хата бабулі Волі ўлетку была завешана зёлкамі. Збіраць іх – далёка хадзіць не трэба: у равочак за садам. Якіх толькі траваў там не было! І зараз, шпацыруючы па сваіх ваколіцах, сустракаю тыя расліны, не ведаючы ні іх назваў, ні што імі лекаваць, але памятаю многія, ужо прызавялыя, пахучыя, з яе беднай хаціны.

Бабуля мела талент найлепшай у ваколіцы ткаллі, вышывальшчыцы. Маладыя кабеты, дзяўчаты да яе вучыцца хадзілі. Сярод сямейных рэліквіяў, якія мне зберагаць выпала, – два ейныя пасажныя ручнікі.

Унучка дыпламаванага лекара, дачка адукаванага бацькі (працаваў настаўнікам), мая бабуля была непісьменнай. Тая ж бацькоўская воля: «Дзеўкі павінны кросны ткаць, а не кніжкі чытаць». А вось сына адзінага прадзед Сымон вывучыў. У трыццатыя гады той займаўся палітыкай, з-за чаго і згінуў, асіраціўшы траіх малых сыноў. Бабуля ўсё жыццё ад той недалучанасці да пісьмовага слова пакутавала. Вельмі чытаць хацела. «Душою чытала, – гэтак кажа пра яе пляменніца, мая стрыечная цётка Ніна. – Прыйдзеш, бывала, а яна газету «чытае». Усё перагледзіць у той раёнцы. І што ж Вы вычыталі? – Во як многа людзей памерла. – Адкуль ведаеце? – Дык у чорных рамках. А тут – пра свята, бо кветачкі вакол. І праўда, віншаванні з Першамаем».

Да навукі, відаць, здатная была. У першую нямецкую вайну (так у нашым Шчонаве першую сусветную называлі) немцы ў вёсцы стаялі. Дык па-нямецку размаўляць няблага навучылася.

Была вельмі сумленнай. Бульбу ў пана капала – каб ні адной, самай маленькай, у зямлі не пакінуць. Нават сам пан неаднойчы казаў: «Рабі, як усе, бо нічога адна не зменіш».

Але – вяртаюся да назвы майго аповеду. Мела ў сэрцы вялікае дабро. Прыхільнасць да ўсіх, каго крыўдзілі. Ратавала людзей, як магла. Ведаю пра тры выпадкі. Пра першыя два ад яе чула.

Верасень, 1939 год. Маладыя пані, дочкі тутэйшага пана Ждана, пра якога, дарэчы, ніхто з шчонаўцаў ніколі благога слова не сказаў, не з'ехалі адразу з радзінай у Польшчу. А калі прыйшлі «вызваліцелі», мусілі хавацца, бо страх мелі смяртэльны. Для гэтага, на жаль, былі падставы. Калі наша няня цёця Ганна расказала мне пра той жах, што ўтварылі новыя гаспадары з пані з суседняга мястэчка Райцы, я зразумела, чаму гэтак баяліся Ждановыя. Хавала іх бабуля неаднойчы.

А ў 41-м выратавала чырвонаармейцаў. Цэлы атрад, што ў акружэнне трапіў. Чалавек мо з трыццаць. Прыйшлі да яе хаты і просяць: «Схавай, маці, бо немцы даганяюць». «Куды ж мне іх у маёй маленькай хатцы падзець? Тут і аднаго не схаваеш. Павяла ў свой равочак. Дык яны там роўненько і

палеглі. Праз колькі часу – немцы ляцяць, на матацыклах. Прыляцелі, гергечуць, пытаюць пра салдатаў. Я ж усё разумею. Няма, кажу, дзе ж тут? У хату заглянулі, за хату – нікога. Паехалі. А салдацікі да вечара ў раўку прасядзелі. На ноч падаліся ў бок лесу за Рамейкамі. Малаком яшчэ іх пачаставала. Болей не было нічога. Па глыточку».

З тых гераіняў, што ў апавяданні Янкі Брыля «Маці».

Гэту гісторыю чула не раз. Скрозь слёзы расказвала яе бабуля, калі хацела выратаваць свой равочак. Яго вырашылі заараць: поле калгаснае павялічыць. У той равочак у кожную вольную хвіліну бегла. Хавалася там і ад злога мужа Міхалка, што часта біў яе… Зараз разумею: то быў яе прыродны Храм. «Ён жа стольківх людзей выратаваў. Як жа яго заворваць?» – гэткі довад прыводзіла таму калгаснаму начальству. Але ў камуністаў сваё разуменне Бацькаўшчыны.

А пра тое, як яўрэяў у вайну ратавала, мой бацька расказваў. Прыходзілі сем'ямі. На ноч прасіліся зімою. Цэлымі днямі кудысьці вёў іх той жудасны шлях. Стомленыя, галодныя, знямоджаныя. Клаліся спаць на падлозе ля печкі. Падлога гліняная. На нагах замік абутку мелі нейкія лахманы. Раскручвалі іх на ноч, засыналі. Ногі былі паабмарожваныя. У цяпле адыходзілі. Няшчасныя не прачыналіся праз усю ноч. Але то быў страшны сон. Бацька, яму было каля дзесяці гадоў, заснуць не мог. Найбольш непакоіў яго той жудасны пах гнілога чалавечага мяса, які ішоў ад іхніх ног: «Колькі буду жыць, пра гэта не забудуся…» Ранкам, яшчэ зацемна, падхопліваліся і зноў беглі. Мо насустрач сваёй Галгофе.

Яшчэ ў трыццатыя гады, перад вайной, здзівіла бабуля сваіх вяскоўцаў: падала заяву на скасаванне шлюбу. Моцна здзекаваўся з яе муж. Але ж хіба гэта магло быць у тым часе прычынай для такога кроку: з каго з вясковых жанчын не здзекаваліся, каго не білі? Звычайная справа ў беларускіх вёсках. Але, відаць, ужо і сапраўды трываць больш нельга было. Справы гэтай да канца так і не давяла. Прыехалі паліцыянты, угаворвалі, ён прасіўся, абяцаў, што больш не будзе. Угаварылі. Яму да канца веку свайго не даравала, хоць намнога і перажыла свайго нялюбага мужа Міхалку. Прасіла перад смерцю сыноў толькі пра адно: «Не хавайце

мяне побач з ім…» Не маглі дзеці такую волю споўніць. Што ж людзі сказалі б – гэткі няпісаны закон у нашых вёсках. На гадавіне па нашым бацьку ў травені 2009 года на могілках, дзе ўсе яны спачываюць, спытала ў цёткі Ніны Пасэсаравай, за што дзед Міхалка біў бабулю. Так адказала: «Нікому не казала, а табе скажу. Яна дзяцей больш не хацела, бо раджала ж увесь час. А ён быў мужчына. Вось і біў яе…» Якая жахлівая праўда! Бедная мая знахарка! Як жа не ўведала яна якога сродку народнага, каб ратавацца.

Недзе ў тым часе страшная бяда напаткала сямейку: згарэла гумно, загінула ўсё збожжа, якое толькі што звезлі з поля. Адратавалі толькі страху. Так і засталася – страха на падпорках. Новае гумно пабудаваць сілаў не было. Бабуля добра ведала, хто ўчыніў ёй такую крыўду. Але паліцыянтам, як ні дапытвалі, не сказала. Бо то была яе сваячка, удава па браце Паўлюку. А ў яе – малыя дзеткі. Жанчыне пагражаў астрог. «Што ж я дзяцей роднага брата пасірачу?..» Спаліла, бо частка іх поля бабулі Волі перайшла. Іх маці, наша прабабуля Таццяна, жыла ў сына Паўлюка з нявесткай Ганнай. Не ўжываліся кабеты. А калі сын памёр, то і зусім невыносна стала. Перайшла да дачкі. А па законах таго часу, хто старых бацькоў даглядаў, таму і зямля належала – найвялікшае багацце. Вось і ўчыніла няшчасная кабета на знак помсты тое жудаснае спаленне. Мусілі ўвесь год есці хлеб з гарэлага, прагорклага збожжа, якое ратавалі, заліваючы агонь вадою.

Нацярпелася мая бабуля ў вайну. Старэйшы сын Алёша (па пашпарце Аляксандр, а ў вёсцы ўсе Алёшам звалі) адзіны з вёскі пайшоў у партызаны. Кожны раз, калі да вёскі падыходзілі немцы (хіба што там болей паліцаяў было), бабуля мусіла разам з малодшымі дзецьмі ўцякаць у няблізкі лес. Равочак ужо выратаваць не мог, бо мясцовыя пра тую схованку ведалі. Партызанства старэйшага сына стала для сям'і пакутай. Алёша быў адважным партызанам. Меў клічку Кручаны. Відаць, недарэмна. Украў з хлява бабулінага каня, бо які ж партызан без каня? А не з тых быў, што мог бы ў кагосьці іншага забраць. Нават перабіранку з бабулінага куфра забраў, каб каня пакрыць.

Перад вайной дзед Міхалка, бабулін муж, быў ужо вельмі хворым. Памёр яшчэ зусім не старым, усяго пяцьдзясят гадоў меў, у 1941 годзе. Гэты ўзрост стане смяротным і для іх малодшага сына Валодзі. Па вайне бабуля засталася ўдавой, але не на фронце муж загінуў, а сваёй смерцю памёр. Таму ёй не давалі ніякай дапамогі, як іншым удовам. Не мела па закону на яе права. Так і пакутавала бедная. Яе адзіным зімовым адзеннем быў вайскова бушлат, што дастаўся ад сына-партызана. Падпярэзвалася вяроўкай, так і хадзіла ўсю зіму. А на нагах праз многа гадоў насіла розны абутак: адзін абрэзаны гумовы бот, другі нейкі атопак. Цёця Ганна расказвала, як бабуля тканіну на адзенне выбірала. Адвернецца, каб прадавец не бачыў, і спрабуе разарваць. Галоўнае для яе, каб моцны, каб зносу не было.

Хатка, у якой усё жыццё не жыла, а гаравала, была маленькай, абмазанай глінай. Заходзіш спачатку ў збітыя з дошак сені, а пасля пераступаеш праз высозны парог і трапляеш у адзіны пакой – хату, што быў і спальняй, і залай. Была яшчэ і кухня. Але я туды мала заходзіла, бо ў мой час



*Каля хаты бабулі Волі. Алёша, Коля Барэйкі і Лёнік Паўлючышын з сынам Паўлікам. 1960-ыя гг.*

столь на кухні была правалілася, прагнулася. Мне там было страшна. Ды і наогул, увесь прытулак быў у тым адзіным пакоі. Зімою там было вельмі холадна. Бабуля страшэнна баялася холаду. Не магла дачакацца вясны. Памятаю, лета заканчваецца, а яна з такой скрухай падае мне руку і кажа: «Божачка, як жа хутка тое цяпло канчаецца. Дакраніся да маёй рукі, у ёй яшчэ мінулагодні лёд ні растаў». Тую вечную мерзлату ў руках і нагах хіба і мне перадала.

Апошнія гады бабуля пакутавала ад бездапаможнасці. Жыць адна ў той хатцы не магла. Жыла то ў малодшага сына Валодзі, які сам, прымак, цясніўся з сям'ёй у не надта добрай хаце. Жыла і ў нас. Якраз у тым часе дачка бабуліна, наша адзіная родная цётка Люба (мая хросная), што з'ехала на далёкую Поўнач, у Мурманскую вобласць, перастала слаць лісты. Бабуля вельмі непакоілася. Памятаю, іду са школы, а яна стаіць ля весніцаў, паштальёна чакае: мо ліст ад Любы прыйдзе. Каюся перад ёю, хоць зараз. З незразумелай мне цяпер злосцю кінула я ёй аднойчы: «Не напіша Вам Ваша дачка, забылася яна пра Вас!» Зараз разумею сваю недарэчную дзіцячую злосць: мы яе даглядаем, а яна ўсё пра Любу пытаецца. Гэткая своеасаблівая рэўнасць. Вечарамі часам сядалі з ёю за стол, каб напісаць далёкім дзецям лісты. Яна дыктуе, а я пішу Любе або сыну Геню на Волгу. Ні разу адказу так і не дачакалася. Ад дачкі не дачакалася да самай смерці. Цёця Люба тады хварэла. Але магла б і напісаць маці. Не, я не асуджаю, проста памятаю, як бабуля чакала хоць вестачкі. Сказала пра тое цётцы, калі яна прыязджала праз колькі гадоў пасля бабулінай смерці. Плакала на магілцы. Думаю зараз, што мая цётка пакрыўдзілася. Яе ўжо таксама няма.

Апошнія паўгода бабуля ўжо не ўставала з ложка. Прыехаў бацька са Шчонава. Раззлаваны. Выпіўшы. Хіба ні адна сустрэча з братам не адбывалася без гарэлкі. І са злосцю да мамы: «Мы тут販нуем у гэтых пакоях, а маёй маці месца няма». На што мама спакойна: «Я ж не кажу, каб ты яе сюды не прывозіў». Назаўтра яе і прывезлі.

Бабуля ляжала ў чыстым, светлым пакоіку. Я была ўжо ў пятым класе. Даглядала яе. Карміла, падавала судна. Звы-

чайна яна ляжала спакойна. Не ведаю, ці хто яшчэ да яе заходзіў. Мама заходзіла, зразумела. І бацька вечарам, бо ён заўсёды быў на працы. Але калі трэба было што і я была дома (зрэшты, я заўсёды была дома), мама пасылала мяне. Думаю зараз: мы ж усе на паўдня сыходзілі з хаты ў школу, як яна адна ляжала, не могучы нават устаць? Увесь час прасіла смерці, прычытала: «Дзе ж тая смерць падзелася?» Праўда, прасіла таблеткаў, верыла ў іх моц.

Наша фельчарка Надзея Апанасаўна, якая прыходзіла даглядаць, даваць уколы, праціраць цела, каб не было пролежняў, дакладна вызначыла дзень, калі бабулі не стане. Надта часта даводзілася гэтай вясковай лекарцы бачыць смерць. Прывезлі са Шчонава бабуліных сясцёр Алену і Ганну, якія намнога перажывуць яе. Нам нічога не тлумачылі. І сапраўды, тым жа вечарам яе не стала. Памятаю яшчэ, мы, дзеці, былі ў другім пакоі, глядзелі тэлевізар. Якраз ішоў адзін з самых цікавых фільмаў, экранізацыя «Братоў Карамазавых». Бацька зайшоў і са злосцю накінуўся на нас: «Бабуля памірае, а вы тэлевізар гледзіце!» Выключыў, выйшаў. Мы пачакалі крыху і зноў уключылі. Праз нейкі час бацька зайшоў зноў. Больш тэлевізар мы не ўключалі. Са шкадаваннем думаю зараз, чаму дарослыя не паклікалі нас да бабулі ў тую яе апошнюю часіну. Хоць бы мяне.

У дзень яе пахавання цвіла чаромха. Мы ездзілі рваць кветкі. Не памятаю, ці імі дарогу разам з елкавымі лапкамі ўсыпалі, ці букеты рабілі. У лесе не было адчування жалобы. Мы бегалі, хіба і смяяліся. Разважлівая Аксана, стрыечная сястра, дачка дзядзькі Алёшы сказала: «Як усё роўна не на пахаванні». Смех ва ўсіх прайшоў.

Было вельмі многа людзей: памерла маці старшыні калгаса…

Колькі я прыходзіла да яе ў тую бедную хацінку, калі мы яшчэ ў Шчонаве жылі, столькі чула: «Чым жа мне цябе, унучачка, пачаставаць?» Даставала то цукерачак, то пячэнік, то яблычак. Часам давала мне грошы, заўсёды чамусьці адзінаццаць капеек. Была вельмі ашчаднай. Сваю жабрацкую пенсію хавала на чорны дзень. Сабе шкадавала. Дык вось, за гэтыя адзінаццаць капеек я павінна была купіць ёй

у краме цукеркаў. Шакаладных. Як яна іх любіла! Не ведаю, ці хоць раз у жыцці бабуля наелася іх уволю. Атрымлівалася тры або тры з паловай цукеркі. Прыношу, а яна: «Нешта ж мала атрымалася». Мне сорамна, быццам я іх з'ела. Ніколі б сабе такога не дазволіла. Маўчу. Адзін з гэтых цукерачкаў мне даставаўся. А калі ўжо ў нас жыла, у Баранавічах, цукеркі ў мяне амаль не пераводзіліся. Частую яе, а яна з такой радасцю, удзячнасцю: «Вот жа дзякуй табе. Мо і я калі разбагацею, то і цябе пачастую».

Сваю пенсію збірала, загортвала ў хусцінку, хавала. Аднойчы мама мыла яе халат і знайшла той схоў у кішэньцы. Было каля сямідзесяці рублёў. Вялікія грошы па тым часе. А бабуля пра іх і забылася. Калі мама вярнула іх, як жа тая дзякавала! Не, каб цукерак сабе накупляць. Яшчэ далей схавала.

Вось жа, праз многа гадоў пасля бабулінага сыходу, калі ўжо і мамы маёй не стала, выбралася я на яе котлішча. Хаты ўжо даўно не было. Спілавалі і клён, што стаяў ля дарогі, адзінае дрэва перад хатай. Выкарчавалі і сад за хатай. Мама вельмі прасіла, каб клёнік хоць пакінулі, каб бачылі людзі,



*Клёны, што растуць на месцы бабулінай хаты*

што і тут жылі калісьці. Але на гэтыя маміны сантыменты бабуліны сыны не асабліва зважалі. Пакінулі толькі стары здзічэлы бэз…

Падыходзім мы з маёй дачушкай да яе колішняй сядзібы, а там – ці не з дзясятак маладых дрэўцаў, дзяцей таго клёніка. Так і растуць па сёння. Спадзяюся, іх ужо ніхто ссякаць не будзе.

І падалося мне, быццам і насамрэч чую яе, бабулі Волькі, голас: «Чым жа мне цябе пачаставаць?» І бачу вакол спелыя, буйныя сінія ажыны з дымкавым налётам, што параслі якраз там, дзе хата стаяла. Пачаставала і мяне, і маю дачушку. Яшчэ ў мяшэчак я тых ажынаў набрала. Бо вельмі многа было. Зварыла дома ажынавае варэнне. Густое, хоць нажом рэж.

Тыя ажыны былі апошнія, якіх я ўволю наелася. Ніколі больш не сустракала я гэтых ягадаў. Вывеліся чамусьці ў нашых ваколіцах. А на бабуліна котлішча ў час, калі спеюць ажыны, ужо хіба ніколі і не патраплю.



*Праўнучка Сняжана наведала месца былое сядзібы прабабулі Волі*

# *Мама – шчонаўская настаўніца*

У дзяцінстве, калі мы яшчэ жылі ў Шчонаве, даволі часта чулі ад мамы: «Не будзеце мяне слухаць, пайду прэч. Вось тады паглядзіце…» Зрэшты, казала яна тое без асаблівай злосці, напаўжартам, але з нейкай загадкавай скрухай. Бо мы былі, як я разумею сёння, «залатымі» дзецьмі: удалымі, працавітымі, выдатна вучыліся, кожны меў абавязковую справу, літаральна ва ўсім дапамагалі маме.

Што такое гэтае «прэч», я, малая, не разумела. Уяўлялася нейкая далеч, нешта цьмянае, невыразнае. Мама на мае роспыты адказвала адно: «Пайду, і не будзе мяне»… Як жа страшэнна балюча адчула я гэта, калі яе не стала. Гэтак раптоўна, гэтак нелагічна. Вось я і паглядзела. З маміным сыходам я страціла нашу хату, дзе мне было цёпла, Радзіму, дзе чакалі майго прыезду. І нешта яшчэ, што словамі не выкажаш. Я



*Шчонаўская настаўніца Валянціна Пятроўна Барэйка з вучнямі. Сядзяць (злева направа) Саша Арцюх, Валодзя Зенкевіч, Ліда Цярэшка, Марыя Таўлуй. Стаяць Коля Таўлуй, Віця Чайка, Марыя Патук, Марыя Цярэшка, Аня Лукошка, Коля Зенкевіч, Саша Казакевіч, Саша Гіль. 1964 г.*

страціла тую надзейную сцяну, што заўсёды здольна была засланіць ад благога, тую цеплыню і пяшчоту, якая саграва-ла мяне, вечнамёрзлую зімовую рыбу. Утварылася пустэча, якую не здольны запоўніць ніхто. Зрэшты, мяркую, нешта падобнае адбылося і ў душах маіх братоў.

Было асабліва цяжка таму, што амаль год па сыходзе мамы жыла ў яе хаце, гэта быў апошні год вучобы ў аспірантуры. Усе ранкам сыходзілі на працу, а я заставалася адна, бясконца перабірала яе рэчы. Падавалася такім недарэчным тое, што яе няма, а рэчы засталіся. Хацелася неяк справіцца з імі, прывесці да ладу. Усім маміным сваячкам штосьці паадвозіла. На жаль, бацька спрыяў гэтаму майму стану…

Нарадзілася мама ў лясной вёсцы Антанёва, што ў Налібоцкай пушчы. Ранняе дзяцінства прыпала на трыццатыя гады. У іх сям'і (бацька, наш дзед Петрык, маці, бабуля Маня, дзеці Валя і Віця) жыў яшчэ нежанаты бацькаў брат Іван. Мама з вялікай любасцю згадвала яго. Быў працавіты, акуратны. Вельмі добра гуляў у карты. Кожную суботу, памыўшыся і прыбраўшыся, ішоў да панкоў у лес (уся пушча тады была заселена леснікамі, асаднікамі, панамі ). Вяртаўся пад раніцу. І заўсёды меў прыбытак, выігрыш. Кожнага разу ў нядзельку мама знаходзіла пад падушкай падаруначак ад яго: стужку, цукерку ці грош, за які ў лаўцы можна было купіць дзве ляндрынкі. Дзед Іван быў даволі фарсовым кавалерам. Ніколі не хадзіў босы. Летам, у працы – не лічыцца. А пахавалі яго босым. Мама казала, сніўся ёй, дакараў, чаму ў дамавіну босага паклалі. Загінуў праз праклятую партызанку. У чарговую блакаду, калі партызаны паўцякалі ў балоты і туды ж следам падаліся антанёўцы, дзед Іван не схацеў уцякаць: «Я ж тут кожны кусцік, кожнае дрэўца ведаю. Няўжо яны мяне не схаваюць?» Па вяртанні яго знайшлі з прастрэленай галавой. Фашысты не пакінулі жывымі нікога, хто застаўся. Усіх знайшлі сабакі. Вёску немцы спалілі. Не першы раз. Згарэла ўсё. Была такая галота, што ніякага абутку не знайшлося. Пазней мама думала, чаму хоць якія тапкі не сшылі ці шкарпэткі не адзелі. Гэтак і згінуў дзед Іван праз сваю веру ў тое, што родны кут не выдасць на загубу. Тады ж, у партызанку, у Антанёве і могілкі ўзніклі, бо ні ў які іншы

час тут не хаваліся. Дзед Іван пахаваны з самага краю, каля дарогі, насупраць таго месца, дзе некалі стаяла хата ягонага брата Паўла. Закінутая магілка зарасла бэзам. Мама гаварыла: «Калі б дзед Іван не загінуў, у нас бы жыў». Заўсёды памятала пра яго.

Мама добра вучылася. Была прычына: першы раз яе дзіцячыя валаскі абразалі над кнігай. Антанёўцы верылі ў гэта. А вось дзядзька Віця вучыўся дрэнна. І «вінаватым» быў дзед Іван, які абрэзаў ягоныя першыя валасы не над кнігай. Так бабуля Маня лічыла. Праз усё жыццё наракала на дзевера, што без яе, у яе ж не спытаўшы, так зрабіў. Смешна крыху, што яна ўсур'ёз у тое верыла. Мне не раз расказвала.

У іх хаце была кніга для чытання ў пачатковых класах. Ад дзядзькі Валодзі, бабулінага брата-гімназіста дасталася. Пачалося навучанне ў школе, а падручнікаў не стае. Маму ж у школу не прымаюць: не хапае гадочкаў. Прыйшоў да іх настаўнік і просіць кнігу для школы. А бабуля яму ўмову: «Возьмеце Валю ў школу, то і кнігу дам». Узялі. Так і трапіла яна ўпершыню ў тую жаданую школу.

Калі ж закончыла пачатковую школу, пайшла вучыцца ў Ярэмічы. Адна з усяго Антанёва. Каля дзесяці кіламетраў да той школы было. Няблізкі шлях. Наймалі кватэру. Прыходзіла дахаты толькі на выходныя ды на святы. Аднойчы, ідучы праз лес, убачыла цэлую зграю ваўкоў. Іх тады, пасля вайны, шмат развялося ў пушчы. Стаялі якраз на дарожцы, па якой трэба было ісці. Спалохалася, канешне, страшэнна. Але не закрычала, не пабегла. Відаць, тое яе ўратавала. Кругу вялікага дала, пайшла па сцяжынцы. Яны стаялі і глядзелі ўслед. А яна ні разу не аглянулася…

Працу сваю настаўніцкую мама вельмі любіла. У маладосці не магла дачакацца, калі закончацца канікулы. Зразумела, што пазней справы хатнія, клопаты пра дзяцей не давалі ёй магчымасці рэалізаваць свае здольнасці, напоўніцу аддавацца працы. У жыцці яе былі чатыры школы: Цырынская, Валоцкая, Шчонаўская і Баранавіцкая.

Мама была прыгожай дзяўчынай. На ўсіх здымках (школьных, пазней з педвучылішча) яна падаецца мне самай прыгожай. Мо таму, што гэта мая мама. Там, у педвучылішчы, пака-



*У Ярэміцкай сярэдняй школе. Валя Бандарык трэцяя справа ў верхнім радзе. З галінкай чаромхі*



*Настаўніца пачатковых класаў Цырынскай сярэдняй школы Валянціна Пятроўна Бандарык з каляжанкай. Першая палова 1950-ых гг.*

хала яна хлопца, што меў калекую руку. Бабуля Маня не дазволіла выйсці за яго замуж, хоць быў ён добрым чалавекам і, нягледзячы на калецтва, спраўным майстрам. Усё жыццё пражылі недалёка адно ад аднаго. Ён таксама настаўнікам працаваў, у суседняй вёсцы жыў. Не ведаю, як тое даўняе пачуццё адгукалася ў маміным сэрцы пры сустрэчах (не сустракацца на розных нарадах, імпрэзах не маглі), ці шкадавала калі-небудзь. Наогул, даведалася пра тое яе юнацкае каханне зусім нядаўна ад сяброўкі з часоў педвучылішча Валянціны Сымонаўны Палуян, адзінае, хто застаўся з усіх сяброў далёкае мамінае маладосці…



*На 1-ым курсе Наваградскае педвучэльні. Валя Бандарык другая злева ў чацвёртым радзе ў сукенцы з белым каўнерыкам*

Вялікім каханнем яе жыцця быў бацька. Расказвала, што першыя дзесяць гадоў глядзела на яго як на Бога, кожнае слова ўспрымала як ісціну. Ведаць не жадала, што не ўсё насамрэч ісцінай было. Пасля пачала прыслухоўвацца, аналізаваць. Многае выклікала ў ёй нязгоду: ягонае пакланенне камуністычным ідэалам, савецкай уладзе, рускай мове. Але заўсёды шанавала, шкадавала і даглядала свайго мужа. У апошнія гады так казала: «Як цяжка з табою, Коля. Але без цябе яшчэ цяжэй».

Зрэшты, нялёгка маме было заўсёды. Згадвала як вельмі цяжкі час свайго жыцця лета 1961-га. Дачцэ было паўтары гады, нарадзіўся сыночак. А ёй трэба дзялку буракоў палоць. І ўся немалая гаспадарка на ёй. Хатнія справы не лічыцца, гэта між іншым рабілася. Палоць дзялку абавязкова, бо мужык брыгадзір: калі яго жонка не аполе, то як іншых прымусіш. Каб дапамагчы, такога не было. Не мужчынская справа. Ніхто з мужчынаў не палоў. Буракі калгасныя неда-

лёка ад хаты, пакладзе малых спаць (у адну калыску), закалыша, а сама на дзялку бягом. Толькі прыбяжыць, пачне палоць, а тут крык з хаты даносіцца. Яна назад лятом. А яны спяць… Плач дзіцячы ў галаве адбіваўся. Казала: «Мне не трэба было, каб хто палоць дапамог ці дзяцей глядзеў, усё сама рабіла б, а каб толькі сказаў, плачуць яны ці спяць». На шчацэ ў яе радзімка была. Як і ў дачкі. Глянула неяк у люстэрка, а радзімкі няма, прапала. Калі – не заўважыла. Маладая кабета, трыццаці яшчэ не было, а на сябе глянуць часу не мела. Ды ўсё пражыла. Маладая была, здаровая. Радавалася сямейцы сваёй, дзеткам, што падрасталі…

Хоць і ведалі мы, што мама моцна захварэла, усё ж не верылі, што так трагічна, невылечна. Не былі падрыхтаваныя, ніколі не загаварылі пра развітанне, пахаванне. Самай моцнай аказалася наша старэйшая нявестка Аня, недарэмна ж медык. Яна і сукенку маме выбірала. Бацька толькі сказаў: «Найлепшую вазьмі, яна ў мяне варта…». Вось жа, разгублены стратай, пытае ён, дзе ж пахаваем маму. Бо тамтэйшыя могілкі, машэвіцкія, чужыя, рудніцкія толькі паўсталі, таксама не нашы. У мяне сумнення не было: толькі ў Шчонаве. Папа, падалося, абрадаваўся: «Праўда, у Шчонаве. Не падумаў…». Паехалі мы ў Шчонава, да сваіх заходзілі, на развітанне запрашалі, пасля на могілкі прыйшлі, месца ёй выбіралі. «Добра тут», – сказаў. І дадаў, што відаць адсюль калгасны двор, на які яна столькі глядзела, вочы выгледзела, яго выглядаючы. «Як яна мяне чакала!» – гэта ўжо было сказана праз слёзы…

Праз колькі гадоў прыбіраем на мамінай магіле, непадалёку шчонаўскія кабеты тым жа клопатам занятыя. Нас не бачаць, размаўляюць між сабою:

–Чаму Валю Барэйчыху тут пахавалі, вязлі ажно з тых Баранавічаў?

–Бо тут яна маладыя гады пражыла. Усіх дзетак у Шчонаве нарадзіла. І Коля наш, шчонавец. Між нас ляжаць будуць…

Падышла да іх, сумеліся знячэўку. А я шчыра падзякавала, што пра маму гавораць і што так разумеюць месца яе апошняга прытулку.



*Сямейны здымак, дзе ўсе разам, адзіны*

Яна была шчаслівай. Бо жыла дзеля дзяцей. Яны больш радавалі, чым засмучалі. Галоўнае ж – шчаслівы той чалавек, якога хаваюць дзеці. Гэтае правіла бабулі Мані разумеецца сёння як ісціна.

Памятаецца, жылі мы яшчэ ў Шчонаве. Выпісвала нам мама «Вясёлку». Было там вельмі шчымлівае апавяданне пра трох сыночкаў і іх матулю. Вось жа, захварэла яна, з ложка ўстаць не магла, прасіла дзетак падаць ёй вады. Да ўсіх звярталася, ды не пачулі яе сыночкі, сваімі справамі-гульнямі занятыя. Ад крыўды вялікае ператварылася маці ў зязюльку, узнялася і паляцела. Толькі тады зразумелі сыны, што нарабілі. Беглі яны следам, кубачкі з вадою ў руках трымаючы, малілі-прасілі вярнуцца. Сілы трацілі, падалі. Ды не магла маці з птушынае няволі выбрацца. Плакала яна, гледзячы на сваіх дзетак. Дзе слёзы падалі, там кветкі выраслі. Зязюльчыны слёзкі… Болю ў сэрцайкі малых чытачоў дабаўлялі малюнкі. Той сюжэт неаднойчы згадваўся мне, калі мамы не стала. Не таму, што не паслухалі яе калі. Паслушнымі былі дзецьмі. А таму, што боль даўні ад незваротнае страты вяртаўся.

Гэтаю восенню (2016 г.), праз дваццаць пяць гадоў пасля развітання з мамай, напісала верш, што ўвайшоў у нізку «Развітальныя».



*З унучкамі, якія іх памятаюць*

## *Наша мама пайшла*

*Наша мама пайшла*
*у нязведаны край,*
*адляцела самотнаю птушкай.*
*Не сказала мне нават:*
*«Дачушка, бывай».*
*І журба ўеццa ў сэрцы*
*бясконцаю стужкай.*

*Наша мама пайшла*
*у апошні свой шлях,*
*растварылася ў небе*
*самотнаю хмаркай,*
*ці расінкай лягла*
*на зялёных лістках,*
*ці заззяла вясёлкаю яркай.*

*Наша мама пайшла,*
*каб назад не прыйсці,*
*не вярнуцца у родную хату,*
*бо між намі мяжа*
*назаўсёды лягла,*
*лёс накрэсліў*
*матуліны даты.*

*Наша мама пайшла,*
*голас мілы заціх,*
*і закрытыя родныя вочы.*
*Праляцела жыццё,*
*як хвіліна, як міг,*
*што схавана за покрывам ночы.*

*Наша мама пайшла,*
*бо мінуў яе час,*
*бо на тое вышэйшая воля.*
*Але ў сэрцы у нас*
*будзе воблік яе*
*і любоў не загіне ніколі.*

## *Бацька – шчонаўскі брыгадзір*



*З жонкай і сястрой Любай*

Пачала пісаць пра бацьку, калі яго не стала. І ўсё не магла ўзяцца за працяг. Усё час не прыходзіў. Зараз ён настаў. Падаю спачатку той зачын…

Мне пакуль цяжка пісаць пра бацьку, бо яго не стала 3.05., а сёння 13.05.08. Запішу толькі вершаспеў, што напісаны ў ягоную апошнюю ноч, калі мы з Вовачкам сядзелі пры дамавіне. Напісаны ў стылі тых спеваў, якія гучаць над памерлымі. На жаль, гучаць амаль выключна па-расейску ці папольску. Гэтым вершам я ратавалася ад болю.

**Памяці майго бацькі**
**Барэйка Мікалая Міхайлавіча**

*Вы прыйшлі у мой дом*
*развітацца са мной,*
*адлажыўшы ўсе справы свае.*
*Я ж заснуў вечным сном, развітаўся з жыццём*
*і прашу вас: даруйце правіны мае.*

*Я на хвілю прылёг*
*ў дамавіне спачыць,*
*бо наперадзе доўгі, апошні мой шлях.*
*А навокал жыццё аж вірue ў палёх,*
*у садох і блакітных рачулках зямных.*

*Вы прайдзіце за мной*
*гэтай сцежкай зямной,*
*што ў глыбокую вечнасць вядзе,*

*раздзяліце са мной шлях у вечны спакой*
*і схіліце галовы ў бядзе.*

*Вы згадайце мяне*
*словам светлым, ціхім,*
*што да сэрца майго прыплыве.*
*Кожны хай ўспамяне пра дабро, што зрабіў,*
*і навекі запомніць мяне.*

*І не плачце, прашу,*
*і не рвіце душу*
*ў галашэнні адчайным сваім.*
*Ў гэты час, ў гэты свет свой апошні прывет*
*я бязмоўна усім вам пашлю.*

*Буду вам я спрыяць,*
*у бядзе спагадаць.*
*Хай ніколі вас боль не кране.*
*Буду ў сэрцах у вас, буду ў думках у вас,*
*буду жыць, пакуль будзеце помніць мяне.*

*Дык бывайце ж навек,*
*дарагая радня,*
*мае дзеці і ўнукі мае.*
*Я ніколі ужо не адкрыю павек,*
*каб вітаць вас усмешкай сваей.*

*5.05.2008, 5 гадзін*

– От і геройскі быў твой бацько! – неаднойчы чула гэта ад цёткі Фані Лысішынай. Сапраўды, на ўсю ваколіцу хлопец быў. Прыгожы, разумны, дасціпны, таленавіты, працавіты.

Першая згадка пра бацьку захавалася ў мяне з вельмі ранняга дзяцінства. Гадоў мо тры мела. Асноўны транспарт брыгадзіра – конь. Мяркую, ён любіў ездзіць верхам, ляцець, скакаць. Як усе мужчыны. Вось жа, часам браў мяне, малую, з сабою. Памятаю, як уздымае мяне на каня, садзіць перад сабою, наказвае сядзець ціха. Моцна трымаюся за грыву, тулячыся да ягонага цела. Крыху страшна, але зусім крыху. Бо вельмі мне падабаецца. Едзем хутка, хочацца і па ба-

кох разгледзецца, і наперадзе ўсё ўбачыць.

Памятаю яшчэ, што моцна смылелі пасля далікатныя сцягонцы юнае вершніцы, нацертыя ад тое язды…

Сірочую цяжкую долю зведаў наш папа. Засталіся яны, пяцёра дзетак, з маці гаспадарыць на сваёй зямлі. Асноўная работа на плячох бабулі, крыху старэйшым Гену, ды на ім з Любай. Касіць, жаць, малаціць з дзяцінства мусілі. З таго часу меў рукі ўвярэджаныя. Нас папракаў, што такое работы не робім. Мама адвакатам у такім разе выступала.



*Коля і Валя Барэйкі з першынцам Колікам. 1957 г. Спас. Райца*



*У сямейцы брыгадзіра ўжо двое дзетак: Колік і Ала. 28.06.1960. Антанёва*

Усё б і нічога, толькі не заўсёды гэтая праца непасільная вынікі добрыя мела. Неаднойчы даводзілася галадаць Барэйкавай сямейцы. І на адзенне-абутак цяжка было ўзбіцца. Адною зімою ў яго не было ніякога абутку. А гара, з якое хлопцы на драцянках зляталі, каля самае хаты. Выскачыць ён басанож, заляціць на горку, з'едзе на драцянках і лятом у хату, на печ гарачую.

Вельмі здольны быў да навукі. Але як да школы дойдзеш, калі ні апрануцца, ні абуцца няма ў што. Завочна школу канчаў, як ужо працаваў у калгасе. У войска ўзялі. Марскі флот. Праўда, не даслужыў да канца з-за аперацыі на язву. Дзякуючы маме, яе самаахвярнасці і адданасці, змог партыйную школу ў Магілёве закончыць. Стацыянарам. Памятаю тое развітанне. Разам іх праводзілі, цётку Любу з сям'ёю з летняга адпачынку ў яе Мурманскую вобласць і нашага бацьку. Бяседу зладзілі на хутарах, у хаце Каці Харанджуковай. Моцна плакала баба Воля, дачушку чарговы раз праводзячы ў той далёкі край. Але яшчэ мацней плакала наша мама. Не надта я, малая, разумела яе слёзы. Сёння дзіўлюся, як пагадзілася яна такі цяжар на сябе ўскласці…

Кожны прыезд бацькі дамоў быў для нас святам. Падарункі, цукеркі. На экскурсію іх, слухачоў партыйнае школы, вазілі ў Маскву. Прывозіў ён адтуль вельмі прыгожыя рэчы. Мне касцюм колеру незвычайнага, ярка-зялёнага, бы трава вясновая, і сукенку шарсцяную, ружовую, у складачкі… Наогул, самыя лепшыя нашы з мамай абновы мелі мы з тае Масквы багатае. Бо і пазней папа ездзіў туды неаднойчы. Купляў звычайна столькі тканіны, каб і мне і маме сукенкі выйшлі. Прыгожа гэта глядзелася: мама і дачка ў аднолькавых сукенках.

Калі вярнуўся з партыйнае школы, пачаў працаваць намеснікам старшыні, шчонаўцы пачалі Міхайлавічам называць. Пачулі ад яго:

–Кажыце на мяне Коля. Я ж такі, як і вы. Між вас вырас.

Наш бацька быў чалавекам веры. Апантаным ідэяй. Ягоная душа прагла чагосьці высокага, лепшага, чым прапаноўвала


*На адпачынку ў Севастопалі. 1974 г.*

штодзённае вясковае жыццё. Яна, маладая, няўрымслівая душа беларускага хлопца, была прыдатным матэрыялам для апрабацыі розных ідэяў. На жаль, не сустрэў ён на сваім шляху асобы, нацыянальна свядомай, улюбёнай у Беларусь, што на прыкладах гісторыі нашай патлумачыла б юнаку, хто мы, адкуль, хто нашыя ворагі і хто сябры. Гэтую місію – даць веды і запоўніць ідэйны вакуум – выканала партыйная школа, якая зрабіла з бацькі свядомага камуніста, апантанага ідэяй пабудовы бяскласавага грамадства. Як ён, узгадаваны зямлёю, працай, голадам і холадам, мог паверыць у байкі савецкіх прапагандыстаў, як ён не зразумеў утапічнасць гэтай ідэі? Проста іншага жыццё не прапаноўвала. Штодзённае сутыкненне казённае лухты, што няслося з радыё і тэлебачання, з газетных матэрыялаў, і рэальнага калгаснага ладу, якому аддаў усё сваё жыццё, пэўна ж, прыводзіла да роздуму пра неэфектыўнасць грамадскае гаспадаркі, але ніколі не вылілася ў аспрэчванне, адпрэчванне.

Мне вельмі шкада нашага папу, чалавека не абы-якіх здольнасцяў, прыгожага, моцнага, па-свойму справядлівага, добрага. Шкада яго, старэнькага, якім ён стаў пасля сямідзесяці. Нешта ў ім надламалася. Вельмі скрытны, незвычайна вынослівы, боль свой умеў хаваць, пачуцці стрымліваць. А ў старасці вочы ягоныя часта слязамі затуманьваліся. Погляд быў скіраваны не наперад, не ў даль, а кудысьці ўглыбіню, у сябе, у тое пражытае, перажытае, невядомае нам, дзецям. Паспрабавала дайсці да ягонае памяці, да згадкаў пра былое. Купіла нататнік, ручку, папрасіла запісваць усё, што толькі прыйдзе на памяць. Бо



*Мікалай Міхайлавіч і Валянціна Пятроўна Барэйкі*

ўсё мне цікава, важна. Быццам пагадзіўся. Але нічога не атрымалася. У тым блакноце застаўся толькі адзін запіс пра медаль на ВДНГ у Маскве. І на схіле жыцця яму падавалася, што гэта самая важная падзея ў жыцці. Хоць прасіла пісаць пра сваё, пра родных, пра бабулю Волю.

Мама часам папракала бацьку, што не ўмее ён жыць з людзьмі, ладзіць з імі, дапамагаць. Пыталася:

–Як ты будзеш жыць на пенсіі, табе ж ніхто не дапаможа?

На гэта ён адказваў:

–А я да пенсіі не дажыву.

Дажыў. Затое не дажыла мама, якую ён, як мы лічылі, не надта шанаваў. І не беспадстаўна. Нат не таму, што занадта многа клопатаў было ўскладзена на яе плечы, а таму, што ніколі не чула яна ад яго ласкавага слова. І, наогул, не шмат словаў чула. Пытала, калі ён на яе просьбы-развагі адмоўчваўся:

–Чаму ты маўчыш?

–Бо я не разгаворлівы, – быў адказ.

Ён, сапраўды, дома мала з кім і мала калі гаварыў. Галоўныя жыццёвыя інтарэсы палягалі не ў сямейным. Не меў часу на такія дробязі, як яму падавалася. Мы гэта прымалі і разумелі.

Страшная бяда, якая прыйшла ў наш дом (раптоўная, смяротная хвароба мамы), падкасіла бацьку. Не ведаю, ці перажываў ён з-за таго, што ставіўся да мамы не заўсёды спачувальна. Ці раскайваўся. Але пасля яе сыходу гаварыў пра жонку вельмі пяшчотна. І што прыгожа яна выглядала на свае гады, і што ён, як мог, імкнуўся выратаваць яе. Літаральна ў апошні мамін дзень прысніўся яму сон. Быццам нападае на яе нейкая чорная пачвара, падобная на вялізную котку. Кідаецца, грызе, а ён хоча адагнаць, адарваць, ды нічога не атрымоўваецца…

Калі мама ўжо была ў шпіталі, уставіў ён зубы. З глыбокаю скрухаю казаў пасля: «Яна ўжо пра мае новыя зубы не даведалася». Кожнаму чалавеку важна падзяліцца сваім з іншым чалавекам, з тым, каму тваё неабыякава. Падаецца, зразумеў папа, што такім чалавекам, самым блізкім яму, была жонка. Позна зразумеў…

Меў моцныя, густыя валасы. У дзяцінстве светлыя, льняныя, у маладосці ярка-русыя, у сталыя гады амаль чорныя, перад сыходам моцна пасівелі. Глядзіць у люстэрка і кажа:

–Сівы, як конь стары.

Калі жыў у нас, расчэсвала яму валасы, прыгладжвала, бо ўжо больш ляжаў, чым хадзіў, а валасы тырчэлі ва ўсе бакі, прыгаворвала:

–Галубок мой сівенькі…

Падавалася, яснелі ягоныя вочы, яшчэ больш сінелі.

А калі мыў яго зяць, а я пазногці абразала, заўсёды жаліўся, што дажыў да такое нямогласці, слёзы ў вачох блішчэлі. Хоць і ўгаворвала яго, што час такі ягоны прыйшоў, не суцяшала гэта. Нагадвала, як ён нам, малым, пазногці абразаў…

Самым блізкім чалавекам на схіле бацькавага жыцця стала другая жонка, цёця Зіна, як мы яе называлі. Страціўшы першую, відаць, зразумеў папа, што чалавека, з якім жывеш, трэба берагчы найперш. Шкадаваў яе, паважаў. Да скону



*Дзед Коля з жонкай Зінай, зяцем Віктарам і дарослымі ўнучкамі*

буду ўдзячна цёці Зіне за той апошні бацькаў год у ягонай хаце. Нідзе яму так добра не было, як у родных сценах.

Марыў пра лёгкую смерць. Да споведзі і ў Гродне ў нашага святара пабыў, і дома ў райчанскага. Радуюся, што хоць перад смерцю адбылося гэта. Толькі тры дні прамучыўся ў рэанімацыі. На велікодным тыдні пайшоў з жыцця. Дзверы тыя, у вечнасць, яму адчыненыя павінны быць. Калі не справамі жыццёвымі, хоць імкнуўся жыць па праўдзе, як ён яе разумеў, то вераю шчыраю дзён першых, дзяцінных, і споведдзю ды пакаяннем апошніх, перад дарогаю незваротнаю.

Ляжаць яны з мамаю сярод сваіх людзей, шчонаўцаў, з якімі жылі, хто дабром іх згадваў. Помнік на іхняй магіле прыгожы. Але самым лепшым помнікам бацькам – справы



*Апошні здымак з роднымі*

іхніх дзяцей. І яшчэ ёсць па іх жывыя помнічкі, як звычна называюць сёння тых, каму імёны ў спадчыну дасталіся. Па маме дачка яе залоўкі Любы Валянцінай названа і старэйшая дачушка наймалодшага сыночка, па бацьку – сын старэйшы і ягоны сынок Мікалаі Мікалаевічы.

## *Частка IV*

## *Цёця Ганна*

Яна была нам другой мамай. І тады, калі жыла мама, і тады, калі мамы не стала. Пачынаю пісаць успаміны пра яе ў вельмі смутным часе, калі штохвіліны магу пачуць вестку пра яе сыход. Ужо амаль два тыдні, як наша цёця Ганна знаходзіцца між жыццём і смерцю, страшэнна пакутуе ад болю, нямогласці і слепаты. А яшчэ ад таго, што стварыла клопат іншым, бо праз усё сваё немалое жыццё заўсёды служыла камусьці, маючы ад гэтага толькі самае неабходнае. Як цяжка, пакутліва жыла, гэтак жа цяжка і сыходзіць.



*Ганначка і Валерко. Травень 1963 г.*



*Праз многа гадоў. 29.05.1981*

Тыдзень таму даведалася пра яе стан, у той жа дзень была ў Шчонаве. Бедная, бедная наша дарагая цёця Ганна. Твар змяніўся страшэнна. А бачыліся ж зусім нядаўна: нейкія пару тыдняў. Просіць толькі аднаго – смерці. І зусім не баіцца. «А што я тут бачыла? Толькі мучылася. Душа мая будзе недзе ў пекле…» І на развітанне з усімі найлепшымі пажаданнямі мне і маёй сям'і (а хіба ў гэтым свеце няма больш чалавека, які б быў гэткім шчырым дабрадзеем да нас) пажадала: «Каб мы тут больш не сустрэліся…»

Папрасіла цётку Волю, пляменніцу цёці Ганны, каб паклікалі святара. У яе нават на гэта не было грошай. Назаўтра споведзь адбылася. Пасля гэтага хворай ненадоўга, але ўсё ж стала лягчэй. Марыла памерці ў суботу, каб усім нам было прасцей прыехаць на выхадныя. А сёння ўжо сыходзіць нядзеля. На тое, што паправіцца – надзеі ніякай. Увесь гэты час нічога не есць. А апошнія дні не можа з кубка напіцца вады.

Я заўсёды са смуткам даведвалася пра тое, што памёр хтосьці са шчонаўцаў, бо ўсе яны, мае не надта шчаслівыя землякі, дарагія мне як апошнія ўдзельнікі і сведкі таго даўняга і такога любага мне свету – Шчонава, які няўхільна



*Ганна Юлькава і Алёша Барэйкаў*

і незваротна сыходзіць у мінулае. А цёця Ганна заўсёды казала: «Шчаслівы, што памёр. Бо не памёр ён, а ўваскрос. Бо тут адны пакуты меў».

І сёння я яе разумею. Як бы цяжка мне ні было змірыцца з думкай, што і гэтую страту трэба перажыць, усё ж яе цяперашнія пакуты хіба страшней.

Жыла бязгрэшна, як толькі можа жыць просты смяротны чалавек, а заўсёды казала пра сваю грахоўнасць. Вось і ў апошнюю сустрэчу пра тое нагадала. Таму я вельмі шчаслівая, што даехала туды і паспрыяла яе апошняй споведзі.

У маладосці Юлькава Ганна была вельмі прыгожай. Улюбёная бацькава дачка, гаспадара Юляка Яўсея. Іх вясковая мянушка была Чубкавы. Спрытная, кемная, дасціпная, трапная на язык. Сама пра сябе казала, што была вельмі даходнай: усюды, дзе толькі нейкая падзея важная здаралася, трапляла. А забегчы ж трэба было пешшу. З радасцю бегла сваімі лёгкімі маладымі ножкамі, маючы ад таго вялікую асалоду, хацела ўсё ўбачыць, нічога не прамінуць. Калі бацькі не пускалі, уцякала. Як жа там без яе абыдзецца! Трапляла на фэст у Цырын, Любанічы… Няблізкі свет. Быццам прадчувала, што гэтай радасці – дайсці, дабегчы – адпушчана ёй у жыцці будзе вельмі мала.

Першыя згадкі звязвала Ганначка з маленствам, з пярэбарамі сям’і на хутары. Было тое ў 1932-ім годзе. Жылі яны на пачатку дваццатага стагоддзя ў Шчонаве, там, дзе зараз пляц Дубеня Аляксандрыка. Хатнія, гаспадарскія рэчы везлі на вазах, кожны нешта нёс. Ёй, маленькай, дасталося штосьці з драўлянага посуду…

Суседзямі цёці Ганны былі Чайкі. Мелі аднаго сына, якога вывучылі на інжынера сельскай гаспадаркі. Па мерках Шчонава, багачы. Хоць што мелі з таго багацця? Ніколі сабе паесці ўсмак не дазволілі. Цёця Ганна неяк згадала, як у дзяцінстве давялося ёй несці Чайчыху цераз рэчку. Тая вельмі баялася ступіць у ваду, а Ганна Юлькава хіба нічога не баялася. Вось і ўзялася яе перанесці. А на сярэдзіне заўпарцілася: «Злазь, а то скіну!» І малілася, і прасілася



*Каля хаты Юлькавых: Коля Чайкаў, Ганна Юлькава, Тоня Валенцікава, Манька, Ала Барэйкава*

Чайчыха, а не злезла, гэтак баялася вады. Чаму цёця Ганна праз шмат гадоў па сконе суседкі, якая пакутліва памірала ад раку, згадала пра гэта? Мо таму, што праз усё жыццё ёй у нечым і давялося тую Чайчыху насіць, дапамагаць ёй, шыць для яе сям'і, дагаджаць багацейшай і шчаслівейшай, памагаць даглядаць унукаў? Шчыра шкадавала, калі суседка памерла, сябравала з Чайкам, пакуль не выехаў ён да сына, дзе давялося старому чалавеку папакутаваць.

Калі цёця Ганна згадвала пра свайго бацьку, заўсёды паўтарала ягоныя словы перад сконам: «Я паміраю праз сваю Ганну». Сапраўды, ягоны ранні сыход быў прыспешаны яе такім недарэчным, такім раннім калецтвам. Працавала ў шпіталі ў Райцы. Незадоўга пасля вайны. Параніла палец на назе. Не гаіўся. Сказала доктару, а той: «Нічога, вылечым твой пальчык…» Не палічыў за бяду. Калі ж пачалі лячыць, ужо было позна: пачалася гангрэна. Нагу давялося ампутаваць. У васямнаццаць гадоў. У Наваградскай бальніцы. Казала, доктар усё пытаўся, чаго ёй хочацца, бо пасля такой аперацыі абавязкова чалавек чагосьці павінен хацець. А ёй

сорамна было прызнацца, што хацелася гарэлкі. Сказала, доктар загадаў бацьку прынесці. Пасля тое жаданне прайшло. Хоць цёця Ганна ніколі не адмаўлялася выпіць. Але крышку, каб не ўпіцца, як заўсёды казала. Пасля гэтага Юляк пачаў на вачох марнець, праз некалькі год памёр. Тады ж цёця Ганна вырашыла, што, калекая, не можа пайсці замуж. Бо, хоць і бязногая, яшчэ мела прапановы. Між іншых, ад старэйшага брата майго бацькі дзядзькі Алёшы.

Часта расказвала пра сямейны скарб – залаты пярсцёнак з каменем, які знайшоў бацька. Хаваў для Ганны. Нейкі пан, даведаўшыся пра пярсцёнак, прыехаў, прапаноўваў Юльку некалькі пудоў жыта. Ды гаспадар не згадзіўся: гэта Ганнін пасаг.

Улюбёным братам цёці Ганны быў А́ндрый. Гэтак яго і называла: А́ндрый, націск на першым складзе. Любіў кветкі, працаваў у нейкага пана ў Руткавічах у садзе, прыносіў насенне кветак, расаду. Дарожкі да хаты абставіў шклянымі бутэлькамі. Мне гэтай прыгажосці бачыць не давялося: пасля Андрыя ніхто ў Юлькавых кветак не садзіў. Цёцю Ганну з любасцю клікаў Нанка. За маёй памяццю так яе звала толькі Ніна, дачка пляменніцы Волькі.



*У хаце Ганны Юлькавай: Манька і Ганна Юлькавы, Ала і Наташа Барэйкавы*

Ампутаваная, ножанька сталася болем цёці Ганны на ўсё доўгае жыццё. Той нясцерпны боль раптам вяртаўся. Тады яна крычала. Так доўжылася дзень, ноч, назаўтра, пакуль боль не адыходзіў. Піла нейкія моцныя пігулкі, якімі атруціла страўнік. Займела рак. Памятаю, як ехала на аперацыю ў Гродна. Казала: «Вось і канец Ганначцы». Восень, 1979 год. Пасля таго яшчэ доўга пражыла, аперацыя была ўдалай. Прыйшла да яе, яна мяне пазнала, нямоглым голасам кажа: «Алка, мне ўжо зрабілі…» Радавалася, што рабілі доўга, значыць выразалі, а не проста зашылі, бо ўжо не было б чаго выразаць.

Пераехаўшы ў Баранавічы, мама вельмі часта наведвала Шчонава. Любіла туды ездзіць. Зразумела, завітвала да цёці Ганны. Заўсёды старалася штосьці ёй купіць. Тая казала: «У мяне ж усё ад Валі. Адзення я ж не купляю». Аднойчы, памятаю, сказала: «Нашто ж Вы мне ўсё возіце?» А мама ў адказ: «Вы ж мне дзяцей пагадавалі. Я перад Вамі на ўсё жыццё ў даўгу». Сплочвала той доўг, як магла. Пасля мы з Валерам яго перанялі – нас яна гадавала.

Усе тыя гады яна прыязджала ў Баранавічы найменей разоў чатыры на год: плесці цыбулю, церабіць буракі, крышыць капусту, парадкаваць свежаніну. І на ўсе нашы балі. Для мяне гэтыя прыезды заўсёды былі як свята. Вечарамі, калі ўсе клаліся спаць, яны з мамай яшчэ доўга-доўга размаўлялі. Маме ў Баранавічах не хапала добрай, прыязнай душы, каб пагаварыць, што яна вельмі любіла. Прыязджала цёця Ганна і калі я па маме ў хаце два гады гаспадарыла. Тады да позняй ночы гаварыла са мною. Перастала ездзіць, як перасталі клікаць, пры цёці Зіне. Але калі Вовачка наш упершыню сваю нарачоную Аксану на знаёмства прывёз, і цёцю Ганну запрасілі.

У той дзень, як не стала мамы, паехалі з бацькам у Шчонава наказваць сваякам, каб прыехалі на пахаванне. Цёця Ганна сустрэла мяне роспачным плачам: «Я ведала, што ты да мяне прыедзеш. Хай бы я памерла, а каб толькі яна жыла». І гэта было сказана шчыра. Яна заўсёды была гатова памерці за кожнага з нас. Цэлую ночку прасядзела каля мамы, не прылегла: «Я мушу каля яе сядзець».

Пачала пісаць гэты ўспамін пра цёцю Ганну 21.10.2007 года. Не ведала тады, што гэта быў яе апошні дзень. Памерла 22.10.2007 а восьмай раніцы. Хавалі назаўтра, у аўторак.

Апроч сукенкі колеру марское хвалі, якую сама сшыла за шмат гадоў да смерці, была апранута ў шарсцяны каптанік. Я парадавалася: не так холадна будзе. Але ёй не павінна быць там холадна, бо многа цяпла аддала людзям тут. Гэта памятаецца. І гэта – памяць пра іх – там павінна саграваць. Ляжала супакоеная, прасветленая. На твары – ні ценю той пакуты, якую трывала апошнімі днямі.

Калі за тыдзень развітвалася з ёю, прасіла: «Прыходзьце да мяне ў сне, раскажыце, як Вам…» Яна ніколі не верыла, што там нешта ёсць. Закапаюць і ўсё. Верыла ў наканаванае: «Будзе так, як яно суджана…» Да шасцінаў ні разу не снілася, а зараз часта. І ўсё адзін сон. У Шчонаве, у яе хаце. То яна, то Манька.

Перад паездкай у Польшчу на канферэнцыю, прысвечаную пяцідзесяцігоддзю «Белавежы», прыснілa я цёцю Ганну. Быццам гляджу на яе праз вакно машыны (адпраўляем яе ў шпіталь, бо памірае), нагнулася да яе, а яна перажагнала мяне і як быццам бласлаўляе. Словаў я ўжо не чую, бо за шклом машыны ейны твар, але па вуснах і па ўсмешцы бачу, што прамаўляе: «Шчасліва табе…» Верыцца, што тое «шчасліва» пажадала мне не проста на паездку, а на ўвесь мой шлях жыццёвы.

Ляжыць на шчонаўскіх могілках побач з Манькай, каля нашае мамы. Як і ў жыцці, калі заўсёды была побач. Гэта яна сама выбрала месца, калі сястра памерла. І помнік сама паставіла. Па Маньцы і па сабе, аддаўшы апошнія грошы. Мы нешта не прыехалі тады. З'явіліся пазней, а яна і кажа: «Хлеба нават не было за што купіць. Але ж ніхто не ведае, што ў мяне ў роце было. А што помнік стаіць, усе ўбачаць».

*21.10.2007–14.01.2008.*

## *«Ні будзя шчонаўцаў, хай хоць назвы застануцца»: мікратапонімы вёскі Шчонава*

*ШЧОНАВА* – вёска ў Карэліцкім раёне Гродзенскай вобласці. Размешчана на схіле Наваградскага ўзвышша, у лагчыне, між двух ланцугоў сапраўдных гораў, адзін з якіх пакаты, другі стромы. Бліжэйшыя цэнтральныя дарогі Райца – Малюшычы і Райца – Варонча абмінаюць Шчонава, праходзяць на адлегласці 1–2 км. За вёскай, паралельна пакатаму ланцугу, працякае рэчка Зямчатка, якая ўпадае ў Сэрвач, прыток Нёмана. Паміж сядзібамі і рэчкай – нешырокі луг, які шчонаўцы называюць балотам. Калісь гэта быў мурожны луг – летам стадыён для гульні ў футбол, валейбольная пляцоўка, зімой – каток для гульні ў хакей. Адначасна – паша для жывёлы (кароў, коней), у іншых месцах – сенажаць з мноствам пахучых кветак. Сёння луг і сапраўды ператварыўся ў дзікае балота. Зніклі кладкі, што былі насупраць кожнага двара, берагі рэчкі зараслі дзікай травой. Разбураны калгасны двор (знаходзіўся за рэчкай, на схіле пакатай гары), дзе месціліся кароўнік, канюшня, кузня, сушылка, кармакухня, пазней лазня. Засталіся былі толькі разваліны. А зараз ужо і следу ад тых будынкаў няма. За-арана ўсё, поле калгаснае – пры самай дарозе. На ўсю вёску толькі адзін конь, ні адной каровы, некалькі гаспадаркаў, дзе маюць свіней, козаў, дробнае птаства. Сёння ў Шчонаве жывуць 33 чалавекі. У шасцідзясятыя гады налічвалася каля 135-ці жыхароў. Шчонава памірае. Жыхары перабіраюцца ў апошні прытулак, што размешчаны на самай высокай гары ля дарогі да шчонаўскіх хутароў, якія таксама раней нагадвалі вёску. Зараз там застаўся апошні жыхар – Ракач Мікалай Іванавіч. Некарэнны шчонавец, колішні прымак. Назва самой вёскі паходзіць ад назвы маёнтка Шчонава, што знаходзіўся непадалёку (этымалогія не вызначана). Поруч размешчаны вёскі Валокі, Хвалава, Рамейкі, Райца, Скорава.

*БАБІНА ДАЛІНА.* Даліна паміж вёскамі Райца і Скорава. *У Бабінуй даліне раней праводзілі школьныя турыстычныя злёты, і цяпер маладзейшыя туды на пагулянкі ходзяць.*

*БАГАТЫ РЭЗ.* Сенажаць (самая ўрадлівая ў ваколіцы: багата сена рэзалі) за рэчкай Зямчаткай паміж Шчонавам і Валокамі. *Па абедзе сено на Багаты Рэз сушыць пойдзям.*

*БАРЭЙЧЫШЫН РАВОК.* Яр насупраць хутара Барэйкі Вольгі Сямёнаўны, заараны пад калгаснае поле напрыканцы 60-ых гадоў XX ст. *Моцно плакала Барэйчыха па сваім раўку, калі трактарэ заворваць прыехалі.*

*БАТРАКІ (БАТРАКЕ), мн.* Вуліца паміж Шчонавам і Валокамі, дзе раней жылі людзі, што батрачылі ў пана. *Батраке пачынаюцца за Адосям, ад Майсеявай хаты.*

*БЭЧАЎ ГРУД.* Цэнтральная гара ў вёсцы Шчонава, насупраць Барэйкавае хаты. *Нехто прыдумаў такую прыпеўку, спявалі яе раней: «Ехаў Валадзенько з Бэчаваго груда // З грознымі палкамі прама на вайну».*

*БЯГЕЛЬНЯ, ж.* Поле ля шчонаўскіх хутароў, праз дарогу каля Кавалюшчыны. *За тым месцам, дзе была Максімава хата, злева ад дарогі была Кавалюшчына, а з праваго боку полё, Бягельня называецца. Тая дарога да Рамейкаў вядзе.*

*ВАЛАДЗЕНЬКАВА ПОЛЕ (ВАЛАДЗЕНЬКАВО ПОЛЁ).* Участак зямлі побач з могілкамі, насупраць хутара Таўлуя Уладзіміра Мікалаевіча, якога ў вёсцы называлі Валадзенько. *Сягоння Валадзенькаво полё не гарэцца, запушчано, ужо і дрэвы парасслі.*

*ВАРЫ (ВАРЭ), мн.* Вуліца в. Шчонава, што вядзе да Валокаў. *На Варох ўжо мало хатаў жылых засталосё. А чаму яны Варэ называюцца, бо, мусіць, красці ўмелі.*

*ВУЗКАЕ ПОЛЕ (ВУЗКАЁ ПОЛЁ).* Поле каля шчонаўскіх хутароў. *На Вузкаё сёгоння ўжо пойдзям жаць.*

*ГАЛАПУЗНЯ, ж.* Вуліца ў Райцы, першы дом якое настаўнікаў Худніцкіх.

*ГАЛЯНОВА (ГАЛЯНОВО), н.* Хутары паміж Шчонавам і Скоравам. *У Галянове толькі адзін Евушко Коля жыве, той, што недзя ў горадзе афіцыянтам быў.*

*ГРЫШКА ПАСЭСАРА РАВОК*. Яр, у якім сёння размясцілася адна з вуліцаў вёскі Шчонава. На схіле яго жыў гаспадар Таўлуй Рыгор, якога звалі Грышко, мясцовая клічка Пасэсар. *У раўку Грышка Пасэсаравага толькі першая і паследняя хата пустыя, а ў астатніх яшчэ і цяпер людзі жывуць*.

*ГРЫШКА КАНЦАВОГА БРОД (ГРЫШКА КАНЦАВОГО БРОД)*. Брод на Зямчатцы насупраць сядзібы Шэймана Рыгора, які жыў у канцы вёскі, таму меў клічку Канцавы. *Праз брод Грышка Канцавого ні пяройдзяш, заглыбоко там*.

*ГРЫШКАЎ БРОД*. Брод на рацэ Зямчатка насупраць сядзібы Таўлуя Рыгора. *Ні надто глыбокі быў Грышкаў брод, туды раней кароў калхозных паіць ганялі*.

*ГРЭБЛЯ, ж*. Сенажаць паміж Хвалавам і Шчонавам. *Даўно ўжо на Грэблі ні косяць, нікому тая трава ніпатрэбная, бо кароў німашака і касіць німа каму*.

*ЗАДЫ (ЗАДЭ), мн*. Поле за шчонаўскімі хутарамі ў напрамку вёскі Райца. *Чаму тоё полё Задэ называлі, бо адразу за хутарамі яны, ззаду*.

*ЗАХОМЫ, мн*. Лясная мясціна, што размешчана праз кіламетр на захад ад вёскі Шчонава. *Раней у Захомах столькі ягадаў было, грыбоў, а зараз нічого німашака, пусты лес, стары*.

*ЗЯЛЁНЫЯ СЦЕЖКІ*. Дарога ад Райцы праз Сёгду на Наваградак. *Гэто ні грунтовая дарога, тыя Зялёныя Сцежкі, а лясная, палявая, самая простая ад нас да Наваградка, ніхто ўжо і ні ездзіць па ёй*.

*КАЗЛОВЫЯ ГОРЫ*. Горы паміж Хвалавам і Шчонавам. *Гэдак называюцца – Казловыя горы, бо жыў каля іх чалавек Маковік Мікалай, па мянушцы Казёл*.

*КАВАЛЮШЧЫНА, ж*. Вуліца на хутарах у накірунку да вёскі Рамейкі. *Ні аднае хаты ў Кавалюшчыне ні засталосё. Ні знаку, ні следу, ні аднаго дзераўца. А столькі людзей жыло!*

*КАЛОДЗІСЬКІ, мн.* Лес каля Рамейкаў, насупраць шчонаўскіх хутароў. *Грыбоў і цяпер у Калодзіськах поўно, найболяй апенькаў, кошыкамі носяць.*

*КАСЦЮКЕВІЧАЎ РАВОК.* Яр перад Райчанскім лесам, за Паталочавай хатай. *Пайду ў Касцюкевічаў равок, па парушэняц, яго там много.*

*КЛІН, м.* Вуліца на шчонаўскіх хутарах з райцаўскага боку. Нагадвае клін, што дарогай-перашыйкам далучаны да іншых вуліцаў. *У Кліне сягоння толькі адзін Ракач жывы застаўсё, усе паўміралі.*

*КОНЬДЗЕЎКА (КОНЬДЗЯЎКА), ж.* Цэнтральная вуліца на шчонаўскіх хутарах. *Пайду на Коньдзяўку, занясу хлеба бабе Волі, зайду да цёці Ганны.*

*КОШЫКІ, мн.* Груд каля Райцы, парослы травой, дрэвамі. *У Кошыках і цяперака яшчэ кароў пасвяць.*

*КРЫНІЦА, ж.* Месца каля Хвалава, дзе цячэ крыніца, якую асвячаюць святары на Макавея, 14 жніўня. *Трэба да Крыніцы ісці, прыбраць, бо скоро бацюшка свянціць прыедзя.*

*КРЫНКІ, мн.* Поле за вёскай Райца. *Крынкі адразу за райцаўскімі могілкамі пачынаюцца.*

*КУНЯЎШЧЫНА, ж.* Брод на рэчцы Зямчатка каля Валокаў. *Вельмо глыбоко было на Куняўшчыне, вада чыстая, купацца раней туды хадзілі.*

*ЛАПА, ж.* Поле за рэчкай паміж Хвалавам і Шчонавам, невялікі лапік ворнай зямлі. *На Лапе картоплю садзілі, соткі людзям раней давалі.*

*ЛЫСІШЫН БРОД.* Брод на рэчцы Зямчатка насупраць сядзібы Гіль Марыі, што мела мянушку Лысіха, бо яе муж быў лысым. *Ужо і да Лысішанаго броду ні дойдзяш: асот, крапіва парасслі.*

*МАЛЮШЫЦКІЯ РАЎКІ.* Яры за Масцішчам. *У тых Малюшыцкіх раўкох мы даўней травы лекавыя збіралі і грыбэ там раслі.*

*МАСЦІШЧА (МАСЦІШЧО), н.* Сенажаць паміж Шчонавам і Скоравам. *На Масцішчы трава вельмо добрая была, вазэ велькія клалі. Мо, і цяперака там косяць.*

*МІШЫШЫН БРОД.* Брод на рэчцы Зямчатка, насупраць двара Вольгі Барысаўны Таўлуй, якую ў вёсцы называлі Мішыха (па імені першага мужа Міхаіла). *Раней праз Мішышын брод да Валокаў коньмі ездзілі, а цяпер ні праедзяш, бо ўсё зарасло. Ды і ехаць няма каму.*

*МОКРАВА (МОКРАВО), н.* Вуліца вёскі Валокі за рэчкай, каля якой знаходзяцца старыя шчонаўскія і валоцкія могілкі. *Даўно ўжо ў Мокраве шчанаўцэ ні хаваюцца, а раней там нашыя могілкі былі, усе нашыя бабы і дзядэ там ляжаць.*

*ПАНЦЯЛЕЕЎКА (ПАНЦЯЛЕЯЎКА), ж.* Поле паміж вёскамі Забердава і Сёгда. *Панцялеяўка велькаё полё, аж да самае Сёгды цягнецца. Там цяпер газаразмеркавальнік паставілі.*

*ПАРОСНІЦА, ж.* Лагчына за сядзібай Яўсея Косціка. *Цяпер за Параснiцаю лес падняўсё, у ім растуць грыбэ, чарніцы.*

*ПЛІТНІЦА, ж.* Поле ля вёскі Забердава. *Плітніца надто ж глiністая, адразу за хатаю тое кабеты, якую называюць Красавіца.*

*ПРЭНТЫ, мн.* Сенажаць за Шчонавам каля колішняга панскага двара. *Сено на Прэнтах касілі, шчаўю там много было, бабы шчонаўскія збіраць хадзілі.*

*СПІЧАНКА, ж.* Невялікі, пераважна бярозавы, лес паміж Шчонавам і Скоравам. *Хоць Спічанка лясок ні велькі, але ж грыбоў там заўшы кошык набярэш.*

*СЦЕНКА, ж.* Грунтовая, шырокая дарога, што вяла ад вёскі Рамейкі праз шчонаўскія хутары, каля Паўлючыхі, да Мокрава. *Якія ж раней дарогі былі? Як сцежкі. А Сценка была шырокая, выбітая. І следу ад яе цяперака ні засталосё.*

*СЫШЧЫКАВА ЛАГЧЫНА.* Лагчына паміж Райцай і Скоравам. *Даўней у Сышчыкавуй лагчыне хутар ляснікоў быў, а мянушка яго Сышчык, мусіць, выведваць любіў. Звалі Міхась Яўсейчык.*

*ТАМАШОЎ РАВОК.* Яр за вёскай, у якім калісьці быў хутар Навумчыка Тамаша Захаравіча. *Зарос той Тамашоў равок, ні ад хаты, ні ад хлява нічого ні засталосё.*

*ХВАЛАЎСКІ ПОПЛАЎ*. Месца на лузе паміж Хвалавам і невялікай канавай, якая была тут раней. *На тым Хвалаўскім поплаве такая макрэча была, заўсёды вада стаяла. Грэбля праз яго была да хатаў Бірана, Цярэшкі, што за рэчкаю.*

*ЧАРКЯСОЎ БРОД*. Брод на рацэ Зямчатцы насупраць хаты Дубеня Хведара (Чаркяса). *Зарос ужо і Чаркясоў брод, ні пройдзяш да яго*.

*ШНУРЫ (ШНУРЭ), мн*. Груды паміж Хвалавам і Шчонавам, якія ў часы Польшчы выкарыстоўвалі пад поле. Аралі вакол, кругамі. Утварыліся шнуры, парогі, якія ў 60-ыя гады дзецi выкарыстоўвалі ў якасці лыжных трамплінаў. *Са Шнуроў ляцеў наш Колік, пакаціўсё, лыжу зламаў, добро, што ногі цэлыя*.

*ШЫРОКАЕ ПОЛЕ (ШЫРОКАЁ ПОЛЁ)*. Поле паміж шчонаўскімі хутарамі і Рамейкамі. *У Шырокаё Полё паеду рабіць, да вечару, мусіць, ні вярнусё*.

*ЯЛАВЕЦ, м*. Лес паміж Хвалавам і Райцай. *Раней там велькі лес быў. Як называўсё, ніхто ні помніць. Высяклі яго. Застаўсё толькі ялавец. А цяпер зноў лес нарос, Ялаўцом называям. То мы і кажам, што па ягады ў Ялавец пойдзям.*

# З архіўных крыніцаў

Хто жыў на гэтай зямлі, хто былі продкі маіх шчонаўцаў? Хто продкі нашай сям'і? Зразумела, гэтыя пытанні неаднойчы хвалявалі мяне. Не маю магчымасці працаваць у архівах. Але Неба ведае, як дапамагчы таму, хто шукае. З далёкае Вялікабрытаніі прыляцеў да мяне знойдзены ў архіве дакумент, які мне вельмі важны. Бо ў ім адказ на многія пытанні. Самотна, што няма тут ні аднаго жаночага імя. Толькі згадваюцца ўдовы Далмацкая і Ганчыкава, бо яны гаспадарылі. Такі быў час. Такімі былі правілы.

Між іншых прозвішчы Гіль – мае бабулі Вольгі, і Барэйка – дзеда Міхалка. Але каторыя з запісаных тут нашы продкі, хто ведае…

Вось жа – той першы дакумент, адаптаваны да сучаснае мовы, перапіс насельніцтва майго Шчонава і блізкіх з ім Валокаў, з якімі да аднаго маёнтка належалі.

## Інвентар маёнтка Шчонава. 1728-ы г.

Года тысяча семсот дваццаць восьмага месяца ліпеня дзевятнаццатага дня.

Інвентар маёнтка Шчонава, што знаходзіцца ў Навагрудзкім ваяводстве.

**Вёска Шчонава.**

Дым першы. Піліп Кароль, сыны Якуб і Васіль.

Дым другі. Максім Гіль, браты Пётр і Ясько.

Дым трэці. Сцяпан Гіль, брат Максім.

Дым чацвёрты. Ганчыкава, удава, сын Паўлюк.

Дым пяты. Пустка Хвеськава Таўлуёва, сын служыць пры двары.

Дым шосты. Сямён Кірыевіч, брат яго ў Палонцы.

Дым сёмы. Хведар Гіль на месцы Грышкі Ходзькі, у якога сын Ігнат.

Дым восьмы. Мацей Шлык, сын Тамаш.

Дым дзявяты. Сцяпан Малей, сыны Паўлюк і Андрэй.

Дым дзясяты. Ясько Кірыевіч, Габрыэль і Якуб сыны.

Дым адзінаццаты. Іван Таўлуй, брат Хведар, сыны Алесь і Міхалко, нехта ад Мацея Таўлуя пайшоў да пана Петрусевіча пад Вільню.

Дым дванаццаты. Міхал Кірыевіч на месцы Цімоха Гіля.

Дым трынаццаты. Ясько Таўлуй, сыны Сцяпан, Самусь.

**Вёска Валокі.**

Дым першы. Сымон Чайка. Дзеці яго Хведар, Матэвуш, унук на імя Андрэй.

Дым другі. Васіль Еўсечны, брат на імя Ясько.

Дым трэці. Пётр Барэйко, сыны Кандрат, Міхал і Сымон.

Дым чацвёрты. Далмацка ўдава на месцы Самуся Ходака, які з двума сынамі пайшоў прэч і жыве пад ксяндзом плябанам Наваградскім. Мае брата Якуба, сына Тамаша.

Дым пяты. Андрэй Птуха, мае двух сыноўцаў (пляменнікі па братавай лініі) Сцяпана і Мацея.

Дым шосты. Марцін Птуха, сыны Цімох, Грышко і Алесь, і ўнук Грышко.

Дым сёмы. Астап Барэйко, сыны Пракоп і Кандрат.

Дым восьмы. Самусь Радзюк, сыны Міхал і Астап.

Дым дзявяты. Пётр Злотнік, сын Алесь.

## *Шчонаўскі парад: прозвішчы і мянушкі вёскі Шчонава*

У маім родным Шчонаве, як і ва ўсіх беларускіх вёсках, людзі шырока выкарыстоўвалі мянушкі. Памятаю, калі гаварыла з нашай няняй, светлай памяці цёцяй Ганнай Яўсей, і называла сваіх аднакласніцаў па імені і прозвішчы (Ніна Яўсей, Таня Дубень, Галя Навумчык), яна жартам злавалася: «Якая гэто Ніна Яўсей? Кажы па-нашаму, а то і ні ведаю, пра каго гаворыш». Шчонаўцы настолькі звыкліся называць аднавяскоўцаў па-своему, што не жадалі прымаць ад сваіх людзей афіцыйна-зафіксаваныя, «задакументаваныя» імёны. Іншая справа з прадстаўнікамі розных ўладаў.

Большасць з тых найменняў зусім і не былі мянушкамі. І ў прамым сэнсе, як тое падае «Тлумачальны слоўнік»: «назвамі, дадзенымі чалавеку жартам, у насмешку або для канспірацыі», і ў сэнсе, які ўкладвалі ў гэтае слова шчонаўцы: насмешка, абраза, знявага. Проста так было прынята, па-вулічнаму. Мая мама, шчонаўская настаўніца Барэйка Валянціна Пятроўна, так тлумачыла: «У вёсцы многа людзей з аднолькавымі прозвішчамі, імёнамі. А часам і тое, і другое супадаюць. То людзі і карыстаюцца мянушкамі. Часцей гэта не абразы, проста так прынята, па-вулічнаму. Часам такія назвы могуць гучаць ганарова».

Тутэйшыя дзеці да імёнаў ставіліся з належнай павагай і цікаўнасцю. У нас, малых дзяўчынак, былі нават гульні, звязаныя з імёнамі шчонаўцаў. Часцей за ўсё іх і прыдумвала аўтарка гэтае кнігі. Да прыкладу, называлася імя. Патрэбна было згадаць як мага больш шчонаўцаў, ягоных носьбітаў. Часам далучалі сюды яшчэ і хутаранцаў або райчан ці валоцкіх. Запісвалі на паперках ці проста называлі колькасць. Зразумела, што перамагала тая, якая згадвала найбольш. Часцей за ўсё забываліся імёны старых кабетаў, якіх ніхто не называў па-імені. Яны даўно сталі Паўлючыхамі, Мішыхамі, Рыгорыхамі…

А ў майго малодшага брата Валеры была такая гульня. Прыходзіў ён, пяці- шасцігадовы хлопчык, на якую-небудзь

вуліцу на хутарох, глядзеў на дамы і пачынаў называць усіх, хто там жыве. А людзей у кожным доме было не тое, што зараз, калі двое старэнькіх гаспадароў – ужо многа.

Заключны раздзел славутай «Камароўскай хронікі» Максіма Гарэцкага называецца «Камароўскі парад». Аўтар стаяў на парозе трагічных падзеяў і ў лёсе краіны, і ў сваім асабістым жыцці. У 1936 годзе ён прыехаў развітацца з Малою Багацькаўкай, сваёй роднаю вёскай, напэўна, прадчуваючы, што пакідае яе назаўсёды. Пакінуў своеасаблівую камароўскую візітоўку – пранумараваў хаты і перапісаў насельнікаў.

Вось жа, запрашаю ў нашы шчонаўскія хаты, у далёкія 60-ыя гады. Яшчэ і далей заглянем. Хачу пазнаёміць цябе, шаноўны чытач, з іх дарослымі і малымі гаспадарамі. Большасць з першых ужо ў сваім Вечным Доме, на шчонаўскай гары, якая амаль цалкам заселена новымі вуліцамі. А шчонаўскія дзеці (іх імёны, як і гаспадыняў, падаю менавіта так, як называлі ў вёсцы) разляцеліся ва ўсе канцы, пакінуўшы свае гнёзды.



*Гаспадар дому № 2 Дубень Трахім з жонкаю Верай*

№ 1. Гаспадар **Шэйман** Аляксандр Рыгоравіч, жонка Анюта, дзеці: Ніна, Іван, Маруся, Тамара, Галя, Вася, Коля, Люся. Мянушкі гаспадара: **Адося або Адось** – гаварыў невыразна, не выгаворваў некаторых гукаў, сваё імя Алёша вымаўляў як Адося. Алёша **Канцавы** – хата размяшчалася напрыканцы вёскі. **Шот** – абразлівая мянушка. Гаспадыню звалі Адосіха або Шоціха, да імёнаў дзяцей дабаўлялі **Адосяў** ці **Адосява** або **Шотаў** ці **Шотава.** Дзеці мелі мянушкі: **Галёк** (Галя), **Макека**(Коля). Хата не захавалася.

№ 2. Гаспадар **Дубень** Трахім, жонка Вера Пятроўна. Удава. Мянушкі: **Трахіміха** або Вера **Трахімава** – нейтральная, па імені мужа, **Бара** – абразлівая, ад скажонага імя гаспадыні. Хата не захавалася. Насмешліва называлі яшчэ **Сіратою**, бо падкрэслівала гэта, будучы ўжо ў вельмі сталым веку.

№ 3. Гаспадар **Дубень** Іван Трахімавіч, жонка Фаня **Лысішына** – па мянушцы маці, дзеці: Света, Ваня, Вова,

*Гаспадар дому №3 Дубень Іван з жонкай Фаняй і дзецьмі Светай і Ванем*





*Так выглядае сядзіба сённяшняга гаспадара Дубеня Мікалая*

Коля. Мянушка гаспадара: **Рускі,** бо пасля вяртання з частых адлучак (з’язджаў на заробкі) гаварыў некаторыя словы па-руску**.** Дзяцей часам звалі Святок, Ванёк. Хата захавалася, жывуць гаспадыня з сям’ёй сына Колі. Адзіная маладая сям’я ў Шчонаве. Жонка Колі Лена, дочкі Ангеліна і Карына, сыны Ваня і Арцём.

№ 4. Гаспадар **Дубень** Пётр Трахімавіч, жонка Воля, дачка Ніна. Мянушка гаспадара: **Пэпко** – зняважліва скажонае імя. Жонку звалі Воля **Пецява** або Воля Апанасішына – па мянушцы маці, дачку – Ніна **Пецява.** Хата захавалася, наведвае гаспадыня і дачка.

№ 5. Гаспадыня **Зенкевіч** Валянціна Трахімаўна. Дзеці Коля і Валодзя. Гаспадыню называлі Валя **Трахімава** (па імені бацькі). Мянушка Колі **Скурат** – быў вельмі геройскім, вёрткім, даходным хлопцам. Хата захавалася, жывуць гаспадыня з сынам Валодзем.

№ 6. Гаспадар **Таўлуй** Уладзімір Піліпавіч, жонка Кацярына, дзеці: Зіна, Волька, Юзік, Жэня, Анюта. Мянушка гаспадара **Барын,** быў ганаровы, працаваў на млыне, іграў на гармоніку. То і мянушка адпаведная, ганаровая. Дзяцей звалі **Барынавы.** Хата не захавалася.

№ 7. Гаспадар **Дубень** Мікалай Сідаравіч, дзеці ад першае жонкі: Мара, Валодзя, Жэня, другая жонка Люба (сястра Абрамовіча), дзеці: Яня, Зіна. Мянушка гаспадара **Сяннік.** Мянушка гаспадыні **Роза.** Любіла не надта дарэчна ўбірацца. На вяселле свайго брата прыйшла ў капелюшы (па іншых звестках, у берэце), з нейкімі кветкамі на адзенні. Мянушка Валодзі **Сяннічок.** Хата не захавалася.

№ 8. Гаспадар **Казакевіч** Аркадзь, жонка Анюта, дзеці: Таіса, Коля, Ларыса. Пераехалі ў Карэлічы. У хаце пазней жыла сям’я Калеснікаў. Хата не захавалася.

№ 9. Гаспадар **Гіль** Юрый Сідаравіч, жонка Марыля. Загінула ад грому. Сядзелі ў хаце за сталом з суседкай, якую Пярун не крануў. Дзеці: Алёша, Коля, Надзя, Косця, Анюта. Гаспадара звалі **Юрко** – скарочанае імя, дзеці – **Юркавы.** Хата не захавалася.

№ 10. Гаспадар **Гіль** Уладзімір Сідаравіч. Называлі Уладак, загінуў на вайне, жонка Волька. Мянушка гаспадара **Лысы** – рана аблысеў. Жонку звалі **Лысіхай.** Пазней жыла сям'я сына Колі. Хата захавалася, у недагледжаным стане. Жыве ўнук Коля з жонкай Галяй.

№ 11. Гаспадар **Мулярчык** Мікалай Міхайлавіч, жонка Ганна Рыгораўна, дзеці: Люба, Федзя (памёр у 22 гады), Віця, Марыя (памерла маленькай). Мянушка гаспадара **Ёўна.** Пазней тут жыла Гіль Ганна (Паўлючыха). Хата не захавалася.

№ 12. Гаспадар **Навумчык** Аляксей Антонавіч, жонка Мілка. Мянушка гаспадара: **Коньдзяўка** (так называлася вуліца на хутарох, адкуль родам), гаспадыня Мілка **Лысішына** – па мянушцы маці**.** Хата захавалася. Жывуць тыя ж гаспадары.

№ 13. Гаспадыня **Дубень** Вольга Сідараўна. Замужам не была. Мянушка: **Труска.** Хата захавалася як лецішча сваякоў.

№ 14. Гаспадыня **Таўлуй** Вольга Барысаўна. Мянушка: **Мішыха** – ад імя першага мужа. Другі муж Коля **Юркаў** – па імені бацькі. Хата захавалася, даглядае дачка Тамара.

№ 15. Гаспадар **Навумчык** Мікалай Фаміч, жонка Тамара, дзеці: Таіса, Міша. Мянушка гаспадара: Коля Тамашоў – па імені бацькі, гаспадыні Тамара **Мішышына –** ад мянушкі маці**.** Дачку звалі Таіса **Мішышына.** Хата захавалася, жыве гаспадыня і сын.

№ 16. Гаспадыня **Таўлуй** Алена Пятроўна, дзеці: Коля, Віця. Мянушкі гаспадыні: Гэля **Петрукова** або **Сахлэева** – па імені і мянушцы бацькі, **Рахэля, Рахмель** – зняважлівыя, скажонае імя. Хата не захавалася.

№ 17. Гаспадар **Мулярчык** Іван Міхайлавіч, загінуў на фронце, жонка Волька, дзеці: Соня, Міша, Маня, Віця. Мянушка гаспадыні: **Прымачыха,** па мянушцы мужа **Прымак**, які атрымаў яе ад бацькі. Дзяцей звалі **Прымачышыны.** На месцы старой новая маленькая хата, нежылая.

№ 18. Гаспадар **Барэйка** Мікалай Міхайлавіч, жонка Валянціна Пятроўна, дзеці: Коля, Ала, Валер, Вова. Мянушкі



*Барэйкавы дзецi: Ала, Валер, Коля i Вова*

гаспадар не меў, яе замяняла гучнае прозвішча: **Барэйко.** Гаспадыню звалі Валя **Барэйчыха (**у адрозненне ад старэйшай Барэйчыхі, яе свекрыві Волькі). Меншага ў сям'і ласкава звалі **Воўчанько.** Хата не захавалася. Гаспадары, пераехаўшы ў іншую мясціну, прадалі яе Вольцы Барынавай, пасля смерці якое хату перавезла ў Мір яе пляменніца Ала.

№ 19. Гаспадар **Таўлуй** Фёдар Уладзіміравіч, жонка Тоня, дзеці: Жана, Вова. Звалі гаспадара **Федзька Валадзенькаў** – па мянушцы бацькі. Жонку і дзяцей – **Федзькавы.** Хата не захавалася. Згарэла на пачатку 70-ых, пасля чаго сям'я пераехала ў Маскву да жончынага брата.

№ 20. Гаспадар **Лапата** Міхаіл Уладзіміравіч, жонка Марыя, дзеці: падчарыца Ала, Лена, Вова. Гаспадара, настаўніка, звалі **Лапато**, жонку**Лапаціха**, дзяцей **Лапатавы**. Жылі ў другой палове тагачаснай школы, пазней быў клуб, будынак не захаваўся.

№ 21. Гаспадар Навумчык Сцяпан Фаміч, жонка Марыся, дачка Фаня **Сцяпанава**, унучка Люда **Фаніна**. Мянушка га-

спадара **Лесні́чок.** Хата захавалася. Зрэдку жыве гаспадыня Фаня і прыязджае яе дачка.

№ 22. Гаспадар **Дубень** Апанас, жонка Параска, дзеці: Валодзя, Маруся, Анюта, Ніна, Коля, Зіна, Саша (**Кашкель, Зубіло**), Фаня. Дзяцей звалі **Парасчыны**. Мянушка Колі **Дзесярцір,** бо нарадзіўся ад бацькі, які многія гады жыў у хляве (па іншых звестках, у склепе: хаваўся ад уладаў). Хата захавалася, нежылая. Побач хата Сашы, у якой жыве з жонкай Марыяй Іванаўнай (дзявочае прозвішча Мыслівец).

№ 23. Гаспадыня **Валенцік** Надзея Мікалаеўна. Мянушка гаспадыні: Надзя **Чычканова**, па мянушцы бацькі. Хата захавалася, нежылая.

№ 24. Гаспадыня **Гіль** Аляксандра Аляксееўна. Мянушка: **Дудка**, дзеці Пеця, Валодзя, дачка Лёня. Хата не захавалася.

№ 25. Гаспадар **Навумчык** Тамаш Захаравіч, жонка Маня, дзеці: Алёша, Валодзя, Тамаш. Жонку звалі **Тамашыха** (па імені мужа), дзяцей **Тамашовы**. Хата захавалася, нежылая.

№ 26. Гаспадар **Дубень** Аляксей Аляксандравіч, мянушка **Муха**, жонка Таня **Тунікава** – па мянушцы бацькі, сын Саша. Пасля смерці мужа гаспадыня выйшла замуж за **Таўлуя** Уладзіміра Канстанцінавіча з хутароў, мянушка Валодзя **Харанджукоў** – па мянушцы бацькі. Хата захавалася. Жывуць Валодзя і Таня.

№ 27. Гаспадар **Гіль** Леанід Паўлавіч, жонка Жэня, дзеці: Галя, Паўлік. Гаспадара звалі Лёнік **Паўлючышын** – па мянушцы маці, жонку і дзяцей **Лёнікавы**. Хата захавалася, недагледжаная, жыве сын Павел.

№ 28. Гаспадар **Мулярчык** Міхаіл Іванавіч, жонка Волька Рыгорава – па імені бацькі, дзеці: Слава, Наташа. Школьная дзіцячая мянушка сына **Слава калхозным палям.** Хата захавалася. Жывуць гаспадыня з сынам.

№ 29. Гаспадар **Навумчык** Аркадзь Антонавіч, жонка Ніна **Пасэсарава** – па мянушцы бацькі, якую той атрымаў ад далёкага прадзеда, што быў асэсарам. Дзеці: Коля, Ала, Саша. Мянушка Колі **Маленькі** – быў невысокага росту. Хата захавалася. Жывуць гаспадары.

№ 30. Гаспадар **Яўсей** Іван Адамавіч, мянушка **Ямеля**, быў надта паслухмяны, працавіты, але нехлямяжы, як Ямеля, які ляжаў на печы, жонка Вера Лідзіна – па імені маці або Вера Ліды Абэлгавай (мянушка маці **Абэлгава).** Ямеліха, дзеці: Толя, Вова. Мянушка старэйшага **Антолька** – зменёнае імя. Хата захавалася, нежылая.

№ 31. Гаспадар **Таўлуй** Рыгор, жонка Люба, дзеці: Коля, Шура. Жонка Колі Ніна, унукі Міша, Ліля, Іра, Саша, Коля. Гаспадара звалі **Грышко**, гаспадыню **Грышчыха.** Мянушка Колі **Лётчык,** жонкі – **Лётчыха.** Старая хата не захавалася. Пабудавана новая. Жывуць нявестка з дачкой Ліляй і сынам Сашам.

№ 32. Гаспадар **Таўлуй** Уладзімір Уладзіміравіч, жонка Гэля, дачка Аня. Мянушкі гаспадара Валодзя **Пасэсараў** – па мянушцы бацькі, **Пэкар.** Толькі нарадзіўся, прыйшла паглядзець суседка з малым сынам: «Які харошы Пасэсар», – сказала, каб падкрэсліць падабенства з бацькам. А сын, якому быў год, не вымавіў Пасэсар, а сказаў Пэкар. Так і прыстала на ўсё жыццё мянушка Пэкар**.** Старая хата не захавалася. Пабудавана новая, у якой жыве **Калеснік** Феафанія Уладзіміраўна – Фаня Калеснікава.

№ 33. Гаспадар **Гіль** Сяргей Уладзіміравіч, жонка Жэня Сымонішына, дзеці: Ніна, Толя, Вова. Мянушка гаспадара **Віндар**, дасталася ад прадзеда, які калісьці праспяваў прыпеўку: *Віндар, віндар, віндар-дра, віндарыха ты мая*. І сам ён, і ўсе нашчадкі сталі **Віндарамі**. Хата захавалася. Жыве гаспадыня.

№ 34. Гаспадар **Гіль** Уладзімір Уладзіміравіч, жонка Жэня, дзеці: Ніна, Коля, Лена. Гаспадара звалі **Уладзё**. Мянушка Колі **Уладзік** (скарочанае ад бацькавага імя). Хата не захавалася. Згарэла разам з новым гаспадаром.

№ 35. Гаспадар прымак **Яўсей** Уладзімір Апанасавіч, жонка Ліда, дзеці: Коля, Вова, Лена (памерла немаўлём). Мянушка Вовы **Есаул** – надта геройскі хлопец. Мянушка гаспадара Уладак **Самара.** Жонка Ліда **Самарава,** мянушка **Лідося.** Старая хата не захавалася. Пабудавана новая, дзе жыве знявечаная інсультам Ліда, якую даглядае сын Коля.

№ 36. Гаспадар **Таўлуй** Васіль, жонка Стэпа, дзеці: Анюта, Сяргей, жонка Сяргея Зоя, унукі Коля, Ала, Вова. Дзяцей звалі **Васілёвымі**, унукаў **Сяргеявымі.** Хата захавалася. Жывуць Сяргей з жонкай і сынам Колем.

№ 37. Гаспадар Таўлуй Віктар Васільевіч, жонка Ніна, дзеці: Маруся, Аня, Вася. Гаспадара звалі **Віцё Васілёў**. Хата захавалася. Ніхто не жыве. Лецішча для сына.

№ 38. Гаспадар **Дубень** Апанас, жонка Волька, дзеці: Анюта, Жэня, Аляксандрык, нявестка Ніна, унукі: Коля, Лёнік. Школьная дзіцячая мянушка Колі **Тоцік** – малым не выгаварыў свайго імя, заміж Колік сказаў Тоцік. Так і сталі зваць. Мянушка крыўдная. У старэйшых класах пра яе забыліся. Меў ганаровую мянушку **Дос.** Хата захавалася. Жыве нявестка.

№ 39. Гаспадар **Таўлуй** Леанід Рыгоравіч, жонка Жэня, дзеці: Саша, Коля. Мянушка гаспадара **Саво.** Не выгаворваў



*Волька Апанасава з дзецьмі і ўнукамі. Злева направа: Анюта трымае сына Валодзю (Маланку), Аляксандр, Яня, Жэня і Волька Апанасава*

гук **л**. З ім адбыўся анекдатычны выпадак. Пайшоў у цырульню не вельмі чысты. Цырульнік сказаў: «Ну і карак у цябе!» Думаючы, што той меў на ўвазе *адкормлены*, Лёнік сказаў: «Трэба саво есці». «Еш што хочаш, але карак мый», – пачуў у адказ. Хата захавалася, гаспадары прадалі яе новым (Мані Кірэевай з хутароў), самі выехалі. Зараз ніхто не жыве.

№ 40. Гаспадыня **Таўлуй** Мілка Сымонаўна**.** Завуць Мілка **Сымонішына** – па імені бацькі. Хата захавалася. Жыве тая ж гаспадыня.

№ 41. Гаспадар **Дубень** Хведар, жонка Надзя, дзеці: Ніна (дарослая, была замужам у Райцы), Вацлаў. Мянушка гаспадара Хведар **Чаркес.** Нехта з продкаў служыў 25 гадоў у рэкрутах на Каўказе. Нявестка Маруся. Сына звалі **Вацё Хведараў** – па імені бацькі. Унукі: Фаця, Таня, Коля. Нявестку і ўнукаў звалі **Вацявы.** Хата захавалася. У цёплую пару жыве нявестка.

№ 41. Гаспадар **Навумчык** Мікалай Аляксандравіч, жонка Маруся **Парасчына** – па імені маці, дзеці: Галя, Віця, Ліля. Гаспадара звалі Коля **Ахфіцэраў** – сямейная мянушка, якая пайшла ад далёкага продка афіцэра. Хата захавалася, жывы гаспадар.

№ 43. Гаспадар **Гіль** Мікалай Уладзіміравіч, прымак у хаце ўдавы Уласіхі, жанаты з яе дачкой Любай, дзеці: Саша, Вова, Коля. Жонку звалі Люба Уласішына – па імені бацькі. Мянушка гаспадара Коля **Лысы –** як і бацька, рана палысеў. Хата не захавалася.

№ 44. Гаспадар **Маковік** Віктар Канстанцінавіч, жонка Ліда, дзеці: Віця, Міша. Хата захавалася. Жыве гаспадыня.

№ 45. Гаспадар **Яўсей** Канстанцін Фёдаравіч, жонка Соня, яе маці Вера з Дубровы, дзеці: Федзя, Ніна, Вася, Паўлік, Коля, Лена, Дзіма. Гаспадара звалі Косцік, дзяцей **Косцікавы.** Маці, дасціпная на язык кабета, ласкава называла Колю **Пятачкай** – мілы, разумны хлопчык, пяты па ліку. Хата захавалася. Лецішча для сям'і старэйшай дачкі.

*2013 г.*

PS. З таго часу, калі збіраўся гэты матэрыял, адбылося нямала зменаў. Шмат самотных. Перабраліся на шчонаўскую гару ў свой вечны дом Фаня Сцяпанава, Саша Парасчын, Волька Пецева, Валя Трахімава, раней пахаваўшы сына Валодзю, Зоя і Сяргей Таўлуі, Соня Косцікава, Ліда Самарава, Ніна Аляксандрыкава, Мілка Сымонішына. Называю іх так, як называлі ў Шчонаве.

Пакінулі Шчонава Навумчыкі Ніна і Аркадзь, пераехалі ў недалёкі Цырын, дзе жыве іх дачка Ала. Бо не стала сілаў без дапамогі дажываць.

Хоць нямнога, ды радасныя навіны ёсць у маёй вёсцы: нарадзіліся ў Шчонаве два хлопчыкі, сыны Колі Дубеня, якіх назвалі Ваня і Арцём. І Ліля Таўлуй нарадзіла дачушку Дар'ю. Хоць жыве ў Карэлічах, але ў хаце роднай бывае часта. А яшчэ вельмі парадавала мяне аднаўленне хаты цёткі Веры Лідзінай. Яе ўнук, сын Толі, робіць рамонт, збіраецца выкарыстоўваць сядзібу для лецішча.

А восенню 2016-га вярнулася гаспадыня ў сваю хату, дзе частавала мяне дранікамі...



*Сёстры. Унучкі Мікалая Валенціка (Абэлгі). Сустрэча праз гады. Тася, дачка Тані (Райца), Вера, дачка Ліды (Шчонава), Ліля, дачка Насці (Канада), Жэня, дачка Лізы (Малюшычы). 2015 г.*

# *На шчонаўскіх хутарах*

Колькі народу там жыло! Не меней, чым у Шчонаве. Пераход на хутары адбываўся на пачатку трыццатых гадоў дваццатага стагоддзя. Цёця Ганна пра тое расказвала. Памятала яна, як іх сямейка са Шчонава на хутары пераязджала. Дакладней, пяшком ішлі. Колькі тае дарогі! На вазох скарб перавозілі. І дзеці таксама штосьці з хатніх рэчаў няслі. Малой Ганначцы дасталося *качалко,* якім ком таўклі.

Гэты перапіс дапамагла скласці апошняя жанчынахутаранка цётка Жэня Антонішына, Мялешчыха – Мялешка Яўгенія Антонаўна. Праўда, хадзілі мы з ёю не проста па дарозе, а з канца ў канец вуліцаў хутаранскіх, якіх насамрэч ніколі не было. Хаты паабапал лугу, некалі мурожнага, які балотам называлі, да гораў прытуляліся. Абыйдзем адзін канец вуліцы, назад вяртаемся. Шчонаўцы зразумеюць наш маршрут. А іншым – усё роўна.



*Сыны Уладка Гіля Уладзё і Сяргей*

Што цётка Жэня не прыпомніла, падказалі яе брат, дзядзька Аркадзь, Навумчык Аркадзь Антонавіч і цётка Люня Пасэсарава. А размаўлялі мы з цёткаю Жэняю восенню 2015-га года, якраз напярэдадні Дзядоў. Сімвалічна атрымалася. Гэты перапіс хай будзе агульным помнікам усім шчонаўскім дзядам.

Тыя, хто тут названыя, жылі на хутарах з 30-ых гадоў XX-га стагоддзя. На пачатку стагоддзя XXI-га карэнных шчонаўцаўхутаранцаў не стала. Жыве толькі прымак Мікалай Ракач, пра якога неаднойчы згадвалі. Некаторыя хаты,

праўда, яшчэ стаяць. І выглядаюць няблага. Але, відаць, ніколі не дачакацца ім, каб хтосьці з тых, каго выгадавалі, у свет выправілі, сюды вярнуўся.

Заглянем у хаты на шчонаўскіх хутарах. І ў тыя, якія ёсць, і ў тыя, што засталіся толькі ў памяці нямногіх шчонаўцаў.

№ 1. Гаспадар **Гіль** Уладзімір, жонка Марыля (**Уладчыха**). Дзеці: Анюта, Уладзё, Паўлік, Сяргей.

№ 2. Гаспадар **Гіль** Якуб Сцяпанавіч, жонка Наталя (**Якубіха**). Дзеці: Даша, Анатоль, Вольга, Анюта, Жэня, Тоня. Мянушка Жэні **Будка**, бо неяк адмыслова, будкай, хустку завязвала.

№ 3. Гаспадар **Гіль** Іван Сцяпанавіч, брат Якуба, жонка Волька. Дзеці: Маня (выйшла замуж за Тамаша), Волька, Іван.

№ 4. Гаспадар **Дубень** Юлек (**Юлясь**) Лук'янавіч (загінуў на фронце), жонка Ліза. Дзеці: Марыля, Волька, Саша.

№ 5. Гаспадар **Дубень** Мікалай Іванавіч (Коля Варвараў), жонка Валя. Дзеці: Таіса, Ніна, Наташа. Хата стаяла на месцы хаты Юляся.



*Шчонаўкі-хутаранкі: Вера Лідзіна, Воля Лізіна, Воля Алеся Чаркяса, Анюта Петрукова, Ніна Світкава*

№ 6. Гаспадар **Таўлуй** Максім Аляксеевіч, жонка Волька (Максіміха). Дзеці: Анюта, Федзя, Жэня.

№ 7. Гаспадар **Таўлуй** Мікалай Рыгоравіч (забіты партызанам), жонка Гэля Сахлэева. Дзеці: Коля, Віця.

№ 8. Гаспадар **Аляшкевіч** Аляксандр, жонка Марыля. Дзеці: Ева, Адам, Павел.

№ 9. Гаспадар **Таўлуй** Кірэй, першая жонка Алеся, другая – суседка Ганна, трэцяя Маня Аляксандрава. Дзеці: ад першага шлюбу: Маня (Водычыха), Алёша, ад трэцяга сын Валодзя (Сынчык).

№ 10. Гаспадар **Чайка** Сідар, жонка Маня. Дзеці: Волька (Піскуніха), Сцёпа (памёр малады), Коля (Матрушка).

№ 11. Гаспадар **Дубень** Рыгор, жонка Волька (Рыгорыха). Дзеці: Лёнік, Волька, Алёша (утапіўся малы каля Куняўшчыны), Валодзя з'ехаў у Карэлафінск.

№ 12. Гаспадыня **Ждан** Алеся (Панчыха). Сястра Навумчыка Аляксандра (Афіцэра). Была замужам у Скораве за мужчынам па мянушцы Панок. Дзеці: Маня, Анюта, Ніна, Коля.

№ 13. Гаспадар **Навумчык** Аляксандр (Афіцэр), жонка Жэня. Дзеці: Коля, Віця, Іра.



*Навумчык Сцяпан з жонкай Марыляй і дачкой Фаняй*



*Сёстры Жэня і Фаня Сцяпанавы з дочкамі Фаняй і Людай*

№ 14. Гаспадар **Гіль** Аляксандр (Свіздун), жонка Алеся. Дзеці: Маня (Кірэіха), Валодзя, Жэня. З імі жыла Ганначка, незамужняя сястра Алесі.

№ 15. Гаспадар **Лукошка** Канстанцін, жонка Аксеня. Дзеці: Коля (Ліс), Соня, Надзя.

№ 16. На месцы хаты Косціка Лукошка пабудаваў хату **Таўлуй** Мікалай Канстанцінавіч (Коля Харанджукоў), жонка Жэня Аляксандрава. Дзеці: Сеня, Вова, Саша, Валер.

№ 17. Гаспадар **Лукошка** Мікалай Канстанцінавіч (Ліс), жонка Алена з Руцаў з Дорагава. Дзеці: Галя, Аня, Света, Люба.

№ 18. Гаспадар **Гіль** Уладзімір (Валодзя Аляксандраў), жонка Каця Харанджукова. Дзеці: Саша, Ніна, Коля, Аня.

№ 19. Гаспадар **Навумчык** Сцяпан Фаміч, жонка Марыся. Дзеці: Жэня, Анюта, Фаня. Анюта выйдзе замуж за Абрамовіча Мікалая, будуць жыць на гэтым пляцы. Іх дзеці: Міця памёр малы, Жэнік, Коля, Галіна, Воля, Раман.

№ 20. Гаспадар **Гіль** Сідар (Світко) загінуў на фронце, жонка Марыля. Яе маці Тацяна. Дзеці: Валодзя, Волька, з’ехала на цаліну, Ніна, Алёша, Яня. У хаце жыла Ніна з мужам Валодзем **Барэйкам.** Іх дзеці: Таня, Віця.

№ 21. Гаспадар **Гіль** Паўлюк Сымонавіч, жонка Ганна Захараўна (Гаіста). Дзеці: Лёнік, Сымон, Пеця.



*Паўлючышыны хлопцы, Аркадзь Антонішын і іх стрыечная сястра з Райцы*



*Геня Барэйкаў*

№ 22. Гаспадар **Таўлуй** Піліп загінуў на вайне, жонка Настуля. Дзеці: Коля, Алёша Настуліны. У хаце жыў Коля са сваёй сям'ёю. Жонка Маня Петрукова, дзеці: Аня (Нюра), Маруся, Коля. Выехалі кудысьці пад Мінск. Хату купілі Валоцкія – мянушка новых гаспадароў. Бабуля Марыя, яе дачка Волька, сын Волькі Гіль Анатоль Сяргеевіч.

№ 23. Гаспадар **Барэйка** Міхаіл Раманавіч (Міхалко), жонка Волька. Дзеці: Алёша, Геня, Коля, Люба, Валодзя. Памерлі малымі Геня і Ніна. Маці гаспадыні Тацяна.

№ 24. Гаспадар **Валенцік** Мікалай Фаміч (Абэлго), жонка Анісся. Дзеці: Ліда – дачка Мікалая ад першага шлюбу, Ліза – дачка Анісі ад першага шлюбу, іх дочкі Насця і Таня. Пазней у хаце будзе жыць Ліда з трыма дочкамі: Верай, Клавай, Марусяй.

№ 25. Гаспадар **Навумчык** Антон Захаравіч (Вясёлы), загінуў на фронце, жонка Ганна (Антоніха). Дзеці: Алёша, Аркадзё, Жэня, Ніна, Анюта. Пазней на гэтым пляцы пабудуе хату Мялешка Анатоль Сцяпанавіч з Рамеек, за якога выйдзе замуж Жэня. Іх дзеці: Толя, Коля, Саша.



*Валодзя Барэйкаў*



*Анатоль Мялешка*



*Юныя хутаранкі Воля Апанасішына і Жэня Антонішына*



*Адамовіч з сям'ёю дачкі Люды*



*Сям'я Адамовіча: Уладзімір, Міша, Люда, Волька з Рэняй*



*Каля хаты Петрука. Злева направа: Гэля, Анюта, Петручыха, каля яе дачка Мані Нюра, Надзя, Маня*

№ 26. Гаспадар **Адамовіч** Уладзімір Мікалаевіч, жонка Волька. Дзеці: Міша, Люда, Рэня, Коля, Ніна, Вова.

№ 27. Гаспадар **Гіль** Пятрук (Сахлэй), жонка Вольга Мікалаеўна (Петручыха). Дзеці: Гэля, Маня, Надзя, Анюта.



*Маладыя хутаранкі з кветкамі. Фаня Сцяпанава і Анюта Петрукова*

№ 28. Гаспадар **Валенцік** Мікалай (Чычкан), жонка Алена. Дзеці: Надзя, Зіна (памерла маладая), Гэля, Тоня, Коля (памёр малы).

№ 29. Гаспадар **Дубень** Алесь Аляксандравіч (Маздзюк), жонка Жэня. Дзеці: Маруся, Алёша, Коля (Трумар), Фаня.

№ 30. Гаспадар **Таўлуй** Уладак Пятровіч (Пасэсар), жонка Ганна. Дзеці: Валодзя, Люня, Ніна, Коля, Саша. Маці Уладка Тацяна, цётка Альжбета, сястра Уладка Жэня.

№ 31. Гаспадар **Яўсей** Юляк (Чубко), жонка Ганна. Дзеці: Апа-



*Клін*

нас, Андрэй, Ганна, Манька. Жонка Апанаса Маня. Іх дзеці: Волька, Анюта, Валодзя (Самара).

№ 32. Гаспадар **Чайка** Коля, жонка Анюта (Петрукова), сын Віця.

№ 33. Гаспадар **Гіль** Аркадзь Мікалаевіч, жонка Тоня (Валенцікава), сын Толя.

№ 34. Гаспадар **Таўлуй** Васіль (Рубіс), жонка Алеся. Дзеці: Шура (Шураста), Маня.

№ 35. Гаспадар **Мулярчык** (Шэйман, Навумчык) Сідар, жонка Алеся (Найбіха). Дзеці: Маня, Аркадзё.

№ 36. Гаспадар **Дубень** Іван (Варвара), жонка Ганна. Дзеці: Коля, Люба (у Ленінградзе), Сашанька (памерла малая).

№ 37. Гаспадар **Дубень** Алесь, брат Івана (Чаркес), жонка Надзя. Дзеці: Ніна, Маруся, Волька, Жэня (Шэра), Жора.

№ 38. Гаспадар **Дубень** Міхась, жонка Ганна (Міхасіха). Дзеці: Валодзя, Жэня, Іра, Волька, Анюта.

№ 39. Гаспадар **Навумчык** Кастусь (Тунік), жонка Марыля (Тунічыха). Дзеці: Таня, Раіса, Маруся, Коля.



*Дзяўчаты з хутаранскага Кліну: Таня Тунікава, Люба Варварава, Раіса Тунікава*

№ 40. Гаспадар **Гіль** Мікалай Адамавіч, жонка Марыля (Адамавічыха). Дзеці: Аркадзё (муж Тоні Валенцікавай), Міша, Коля, Надзя. Выйдзе замуж за Ракача Івана. Іх дзеці: Коля, Жана.

№ 41. Гаспадар **Чайка** Мікіта, жонка Зося. Дзеці: Аркадзё, Валодзя, Мілка, Міцё, Ніна. Маці гаспадара Марыя Фамінічна.

№ 42. Хата на пляцы Чайкі Мікіты. Гаспадар **Апалонік** Жэнік, жонка Жэня Міхасёва. Дзеці: Таіса, Ліля, Віця.

№ 43. Гаспадар **Таўлуй** Кастусь, першая жонка Волька, сястра Юльчыхі і Сцяпаніхі. Дзеці ад першага шлюбу: Волька, Алёша. Другая жонка Алена з Гілёў, сястра Барэйчыхі і Пасэсарыхі. Дзеці ад другога шлюбу: Каця, Коля, Валодзя.

№ 44. Гаспадар **Навумчык** Мікалай, жонка Марыля. Дзеці: Яня (у Застадоллі), Валя (жонка Колі Варваравага), Анюта (ва Украіне), Маня (загінула ў часе аварыі мартэнаўскай печы).

№ 45. Гаспадар **Навумчык** Мікіта Мікалаевіч (Джараджон), загінуў на фронце, жонка Марыя Аляксееўна (Мікіціха). Дзеці: Коля, Алесь, Ганна – калека.

№ 46. Гаспадар **Навумчык** Алесь Мікітавіч, жонка Ганна. Сын Коля (Зайчык).

# *Шчонаўскі некропаль*

Файнае месца абралі шчонаўцы для свайго апошняга прытулку. Роўненькі пляц на высокай гары. Быццам спецыяльна выраўнены кімсьці. Апошнія шчонаўцы кажуць, што ніхто не раўняў, так і было. Усё думала, хто гэтае месца выбраў. Ад цёткі Веры Лідзінай даведалася, што падказаў яго апошні шчонаўскі пан Ждан. Ён і аддаў гэты лапік зямлі пад могілкі. Месца якраз столькі, што ўсім хопіць. І не застанецца.

Паўсталі могілкі не так і даўно, перад самаю вайною. Раней шчонаўцы ў блізкім Мокраве хаваліся. Да нядаўняга часу жывою агароджаю з трох бакоў высіліся каля могілак прыгожыя ліпы. Калі даводзілася ў часе іхняга цвіцення туды трапіць, зачароўваў салодкі густы водар, якім поўнілася паветра. Вось жа, калі могілкі паўсталі, вырашылі абсадзіць іх



дрэвамі. Займаўся гэтым хутаранін Юляк Яўсей. Нядаўна дрэвы зрэзалі. Па-рознаму да гэтага паставіліся шчонаўцы. Мне вельмі шкада тых ліпаў. Мелі яны ўсяго толькі па восемдзесят гадоў. Моцныя, прыгожыя дрэвы. Недагледжаныя, ніколі не абразаныя. Як бы прыгожа яны выглядалі, калі б знайшлася дбайная гаспадарская рука, абразала галіны, бяліла ствалы. Не можа яна знайсціся, бо мужчынаў у маім Шчонаве амаль няма. А ўлады цяперашнія вельмі ссякаць любяць тое, што не садзілі. На агароджу грошай не знайшлося…

Першаю пахавалі тут Хвілінку. Магілка яе ў самым кутку ў першым радзе (на першай вуліцы) каля ўваходу. Толькі старыя людзі памятаюць гэтую жанчыну. Была яна адзінокая, жыла на Коньдзеўцы ў хаце Гілёў. Гаспадар Уладзімір Аляксеевіч, будучы муж Дудкі, ягоная маці і тая Хвілінка.

Упершыню слова *вуліцы* пра могілкавыя рады пачула ад нашага папы, калі наведалі неяк маміну магілку. Не ведаю, ці то ён сам прыдумаў, ці пачуў ад некага, але гэта вельмі дакладна, бо і там усё, як у свеце жывых. Тыя ж умоўныя дамы – магілы, помнікі, якія даглядаюць дзеці, сваякі. Хто як можа. Вельмі хвалюе – надпісы на помніках не на той мове, на якой мае шчонаўцы спрадвеку гаварылі.

На Радуніцу могілкі ажываюць. Адусюль прыязджаюць людзі, падымаюцца на гару апошнія шчонаўцы. Тым, хто ўжо ў сваім доме, вельмі патрэбна малітва. Сустрэчы з радзінай, што ўжо адышла, патрэбныя жывым. Каб людзьмі заставацца. Каб спаўняць свой доўг. Ведаючы, што нехта прыйдзе ж і да іх. Шкада магілак, да якіх ніхто не падыходзіць. І такія ёсць. Асабліва прыкра, калі дзеці тых людзей не за светам жывуць.

Забудоўваюцца вуліцы, зразумела ж, не ў такім парадку, у якім хаты ў вёсцы будаваліся. Самыя крайнія роўненькімі радочкамі, помнікі на ўсіх магілах, няцяжка тут разабрацца. А вось першыя, самыя даўнія, няроўна будаваліся. Некаторыя магілы блытаюцца між радамі.

Апошнія шчонаўцы ведаюць, дзе іх месца. Хай жа доўга яно іх чакае!

Пачала рабіць гэты спіс на Радуніцу 10 травеня 2016 г. Ведала, што многія магілкі занядбаныя. Але не ўяўляла, што іх так многа. Да болю многа. На месцы некаторых нат знака не засталося, парасло кустоўе. Іншыя зарослымі грудкамі пазначаюць сваю прысутнасць. Некалькі дзясяткаў такіх магілаў не ўдалося мне ідэнтыфікаваць. Двойчы пахавалі тых людзей: адзін раз, калі яны памерлі, другі – калі магілы даглядаць перасталі. Асабліва многа магілкаў дзетак шчонаўскіх згубілася.

Да таго ж, і тут назіраецца блытаніна ў імёнах. Імя Алесь саветы перапісалі на Аляксандр, імя Алёша чамусьці таксама ў пасляваенных дакументах запісана як Аляксандр. Таму Алесь Дубень, вядомы па мянушцы Маздзюк, у сваім вечным доме, на вуліцы 6-й, – Аляксандр Аляксеевіч. А вось ягоныя сыны, пахаваны побач Коля (мянушка Трумар) і праз вуліцу, на 8-й Алёша (Маздзюкоў), па-бацьку запісаны па-рознаму. Трумар – Мікалаў Аляксандравіч, Алёша ператварыўся ў Аляксандра, а па-бацьку стаў Аляксеевічам. Каб было зразумела, хто ідзе, падаю побач з афіцыйнымі імёнамі мянушкі.

Пройдземся па вуліцах шчонаўскага некропалю.

**Вуліца 1-я.**

1.Магілка **Хвілінкі**, першае пахаванне, без помніка і крыжа. Даглядае цётка Жэня, жонка Сяргея Гіля, будучая суседка Хвілінкі.

2.Магіла, невядомае пахаванне. Магчыма **Алеся**, сястра Хвілінкі.

3.Магіла, помнік: **Гіль Якуб Сцяпанавіч** (1894–1947)**,** **Наталля** (1894–1947), жонка Якубава.

4.Магіла, першы на шчонаўскіх могілках і адзіны на першай вуліцы гранітны помнік: **Таўлуй Тоня Уладзіміраўна** (1931–1957) (Тоня Валадзенькава).

5. 4 пахаванні, 2 помнікі: **Таўлуй Праскоўя Васільеўна** (1894–1947) (маці Валадзенька**), Таўлуй Уладзімір Мікалаевіч** (Валадзенько**)** (1908–1996), жонка **Вольга Фёдараўна** (Валадзеньчыха**)** (1909–1995), магіла з крыжыкам, тут пахавана дачка Валадзенька **Марыя**.

6.Магіла каля пня, крыж. Невядомае пахаванне.

7. 4 пахаванні. Магіла, помнік: **Валенцік Мікалай Антонавіч** (1898–1973), жонка **Алена Аляксееўна** (1900–1995) (Валенчыха)**,** дзве магілы, крыжы. Адна – магчыма, маці Валенчыхі.

8.Магіла без крыжа. Невядомае пахаванне.

9.Магіла, помнік: **Таўлуй Грыгорый Грыгор'евіч** (Грышко) (1899–1968), вакол яшчэ дзве магілы.

10.Магіла, помнік: **Чайка Сідар Міхайлавіч** (1892–1947) (Зыдор), жонка **Марыя Емяльянаўна** (1884–1966), іх сын **Чайка Сцяпан** памёр 26.04.1938, жыў 25 гадоў.

11.3 зарослыя магілы, невядомыя пахаванні.

12.3 маленькія магілы, нядаўна зробленыя надмагільнікі з крыжыкамі. Пахаваны дзеці **Таўлуя Уладка** (Лысага), якія памерлі малымі: **Сяргей** – 2 г., **Анюта** – 1 год і 6 месяцаў, **Сяргей** – 1 год і 2 месяцы. Жылі ў канцы 30-ых, пач. 40- ых гг. XX ст. Даглядалі магілкі іх сёстры Фаня і Мілка Лысішыны.

13.Магіла, помнік: **Абрамовіч Стэфаніда Іванаўна** (Майсеіха) (1908–1986).

14.Магіла, помнік: **Валенцік Мікалай Фаміч** (Абэлго) (1867–1940), **Валенцік Лідзія Мікалаеўна** (1903–1977), дачка Мікалая.

15.Магіла, нядаўна пастаўлены помнік: **Гіль Таццяна Рыгораўна** (1870–7.12.1951). Эпітафія: «Вярнулася імя тваё з нябыту, каб застацца ў памяці нашчадкаў». Наша прабабуля.

16.Магіла, помнік: **Яўсей Іван Адамавіч** (1933–1992) (муж Веры Лідзінай, Абэлгавай).

17.2 магілы ў агароджы без крыжоў. Магчыма, **Таўлуй Іван** (Іван Аўдоцін) і ягоная жонка.

18.2 магілы без крыжоў. Магчыма, тут пахаваны маленькі сын Фані Сцяпанавай і Юзіка Барынавага.

**Вуліца 2-я.**

1.Магіла, помнік: **Гіль Сяргей Уладзіміравіч** (1935–2005).

2.Магіла, помнік: **Навумчык Мікалай Фаміч** (1932–1991).

3.2 магілы, помнік: **Гіль Ганна Мікалаеўна** (1864–1940), **Таўлуй Анастасія Лукінічна** (1895–1950).

4.2 магілы, помнік: **Гіль Марыя Ігнатаўна** (Уладчыха) (1892–1983), **Павел Уладзіміравіч**, яе сын (1932–1941).

5.3 магілы, помнікі: **Таўлуй Вольга Уладзіміраўна** (Волька Барынава) (1927–2005), **Таўлуй Уладзімір Мікалаевіч** (Барын) (1895–1956), жонка **Кацярына Рыгораўна** (1895–1961).

6.2 магілы, помнік: **Дубень Трахім Рыгоравіч** (1895–1950), жонка **Вера Пятроўна** (1905–1974).

7.Магіла, помнік: **Дубень Таццяна Рыгораўна** (1870–1963). Маці Дубеня Аляксандра (Алеся Маздзюка).

8.Магіла, помнік: **Валенцік Зінаіда Мікалаеўна** (1931–1964), маладая дачка Валенціка.

9.Магіла, помнік: **Таўлуй Ганна Максімаўна** (Анюта Максімава) (1825–1948).

10. 3 занядбаныя магілы без помнікаў каля бярозкаў.

11.Магіла, помнік: **Дубень Ганна Рыгораўна** (1910–1940).

12.2 магілы, помнік: **Таўлуй Алена Пятроўна** (Гэля Пеtрукова) (1915–1993), **Мікалай Рыгоравіч** (1912–1943), яе муж, забіты партызанам.

13.Магіла, пахілы крыж. Верагоднае пахаванне **Уладка Маковіча (Кадлубая).**

14.Дагледжаная магілка **Гіль Тамары Мікалаеўны,** дачкі Гіля Мікалая (Колі Лысага), нядаўна зроблены надмагільнік і крыжык.

15.2 магілы, помнікі: **Барэйка Міхаіл Раманавіч** (1892–1941), жонка **Вольга Сымонаўна** (1898–1972). Побач былі пахаваны іх дзеці **Гена** і **Ніна**, а таксама ўнук **Валодзя**, што нарадзіўся мёртвы, сын Колі. Магілкі страчаныя.

16.Магіла, драўляны помнік: **Чайка Марыя Фамінічна.** Памерла ў 1942-ім. Пражыла 63 г. Сястра Валенціка Мікалая Фаміча (Абэлгі), бабуля Міці Чайкі.

17.2 магілы, помнік: **Гіль Марыя Паўлаўна** (Лысіха), (1903–7.03.1998), сімвалічная магіла мужа **Уладзіміра Сідаравіча** (1898–1944), загінуў на фронце.

18.Магіла, помнік: **Абрамовіч Майсей Іванавіч** (1903–4.08.1993).

**Вуліца 3-я.**

1.2 магілы, помнік: **Таўлуй Сымон Максімавіч** (1905–1940), жонка **Вольга Паўлаўна** (Сымоніха) (1912–1984).

2.2 магілы, на адной помнік: **Навумчык Вольга Максімаўна,** сястра Сымона, першая жонка Тамаша (1909–1943) і яе маленькі сын **Навумчык Георгій** (Жорык).

3.2 магілы, на адной помнік: **Навумчык Алена Аляксееўна** (1878–1963).

4.2 магілы, помнік: **Гіль Марыя Васільеўна** (Марыля Світчыха) (1909–1949), **Гіль Аляксандр Сідаравіч,** сын Марыі (1933–1944).

5.2 магілы, помнік: **Гіль Уладзімір Сідаравіч,** сын Марыі (1931–1949), **Сачко Таццяна Сцяпанаўна** (Тацяна Барэйчукова, маці Марылі Світчыхі) (1888–1967).

6.2 магілы, помнік: **Мулярчык Марыя Мікалаеўна** (1938–1939) (дачка Ёўны), **Мулярчык Ганна Рыгораўна** (Ёўніха) (1909–1954).

7.2 магілы, помнік: **Мулярчык Фёдар Мікалаевіч** (1936–1958) (сын Ёўны), **Мулярчык Мікалай Міхайлавіч** (Ёўна) (1909–1968).

8.2 магілы ў агароджы, закінутыя. Пахавана **Мулярчык Вольга** (Прымачыха) і яе дачка **Марыя Іванаўна** (Маня Прымачышына). Сястра Соня пакінула месца для сябе, але пахавана была ў Жухавічах, дзе яе даглядала пляменніца Наталля.

9.3 магілы, помнік: **Таўлуй Кірыл Піліпавіч** (Кірэй) (1900–1972), ягоны сын **Аляксандр Кірылавіч** (1935–1960), ягоная першая жонка **Аляксандра Рыгораўна** (1894–1957).

10.2 магілы, помнік: **Дубень Вольга Пятроўна** (1915–1963), сястра Уладка Пасэсара і, магчыма, яе дачка.

11.Магіла без помніка і без агароджы.

**Завулак у канцы вуліцы 3-й.**

1.2 магілы, помнік: **Дубень Аляксандр Рыгоравіч** (Алесь Чаркес) (1909–1998), ягоная дачка **Яўгенія Аляксандраўна** (Шэра) (1944–1974).

2.Магіла, помнік: **Дубень Надзея Лявонцьеўна** (жонка Алеся Чаркяса) (1906–1969).

3.4 магілы, дзеці Алеся Чаркяса: **Анюта, Валодзя, Ніна, Марыя.**

4.Дзве малыя магілы, невядомыя захаванні.

**Вуліца 4-я.**

1.2 магілы, 1 крыж**: Таўлуй Аляксандра Адамаўна**, сястра Адамавіча, яе пляменніца **Гіль Вера**, сястра Надзі Ракачыхі.

2.Магіла нядаўна памерлай **Таўлуй Людмілы Сымонаўны** (Мілкі Сымонішынай) (1934–2016).

3.Магіла, помнік**: Гіль Соф'я** (1942–2004), жонка Гіля Сямёна Паўлавіча.

4.2 магілы, 2 помнікі**: Гіль Ганна Захараўна** (Паўлючыха) (1906–1993).

*Эпітафія*

Ты сабе шчасця не сатварыла
цяжкай удовінай працай,
вераю шчырай, што будзеш
лёсу свайго ўладаром называцца, –
сэрца нашчадкам у памін палажыла,
шчасця жадаючы людзям.

Побач – яе сын **Гіль Сямён Паўлавіч** (1932–2003). Эпітафія, якую ён напісаў сам:

Выдатна знаю – не знайду
Нідзе жыццёвае палёгкі.
Зямлі сырой аддам хаду,
Якую меў з жабрацкіх сродкаў.
Такі ўжо лёс мяне спаткаў
На самым важным жыццясхіле,
І я яго як ёсць прыняў,
З ім буду ў вечнасці – магіле.

Унізе пад вершам – выява пяра і надпіс:

*«Людзі, святла Вам і любові»*

5.2 магілы, помнік**: Лукошка Канстанцін Васільевіч**, бацька Лукошка Мікалая (жыў 64 г.), яго жонка **Ксенія Рыгораўна (**1886–1968).

6.Магіла каля дрэва, дагледжаная.

7.2 магілы недагледжаныя.

8.4 магілы, помнікі**: Дубень Іван Рыгоравіч** (Варвара) (1909–1994), ягоная жонка **Ганна Міхайлаўна** (1909–1994), іх маленькая дачушка **Сашанька** (1940), **Любоў Іванаўна,** дачка Варвары, жыла ў Ленінградзе, крэміравалі, пахавалі на Радзіме (1938–2014).

9.Магіла недагледжаная.

10.4 магілы, помнікі**: Навумчык Яўгенія Рыгораўна** (Жэня Афіцэрыха, муж загінуў на фронце) (1911–1984), яе браты: **Яўсей Мікалай Рыгоравіч** (Аленавіч), загінуў у гады вайны, **Яўсей Юляк Рыгоравіч**, яго жонка **Ганна Андрэеўна** (Юльчыха).

11. 2 магілы невядомыя.

12.Магіла каля бярэзіны.

13.2 магілы, помнік**: Гіль Георгій Сідаравіч** (Юрко) (1895–1982), ягоная жонка **Марыя Карпаўна** (1897–1955).

14.2 магілы, помнік**: Таўлуй Канстанцін Піліпавіч** (Кастусь Харанджук) (15.05.1895–20.02.1955), ягоная другая жонка **Алена Сымонаўна** (1899–30.04.1989).

**Вуліца 5-я.**

1.2 магілы, помнік**: Таўлуй Васіль Максімавіч** (1907–1984), ягоная жонка **Стэфанія Вікенцьеўна** (1903–1971)**.**

2.Магіла, помнік**: Ракач Надзея Мікалаеўна**(1944–2007).

3.Магіла, крыж**: Шэйман Рыгор** (Грышко Канцавы), бацька Алёшы Канцавога. Жонка пахавана ў Плужынах.

4.2 магілы (самыя кветкавыя), помнікі**: Лукошка Мікалай Канстанцінавіч** (1912–1974), жонка **Лукошка Алена Сцяпанаўна** (1921–1996).

5.2 магілы, помнік**: Гіль Ганна Тамашаўна,** жанчына з Рамеек (1878–1955), яе дачка **Тарасевіч Яўгенія Аляксандраўна** (1914–2002).

6.2 магілы, помнік**: Яўсей Фёдар Рыгоравіч** (Хведар Чубкаў) (1880–1945), другая жонка **Аксеня Раманаўна** (1887–1946)**,** сястра Барэйка Міхалка. Бацькі Косціка Яўсея (Чубкавага).

7.4 магілы невядомыя.

**Вуліца 6-я.**

1.2 свежыя магілы. Пахаваны **Таўлуй Сяргей Васільевіч** (08.02.1935–18.10.2015), жонка **Зоя Іванаўна** (1935–2014).

2.Магіла, помнік нядаўна памерлага **Дубеня Уладзіміра Іванавіча** (1965–2015), сына Фані Лысішынай.

3.Магіла, помнік нядаўна памерлай **Таўлуй Феафаніі Сцяпанаўны** (Фаня Сцяпанава) (1927–2014).

4.2 магілы, помнік: **Дубень Аляксандр Аляксеевіч** (Алесь Маздзюк) (1906–1966), жонка **Яўгенія Сцяпанаўна** (Жэня, сястра Фані Сцяпанавай) (1912–2003).

5.Магіла, помнік**: Дубень Мікалай Аляксандравіч** (Трумар, сын Алеся Маздзюка) (1911–1984).

6.2 магілы, помнік**: Навумчык Марыя Аляксееўна** (Мікіціха) (1900–1986), дачка **Навумчык Марыя Мікітаўна** (1944–1963), загінула ў мартэнаўскай печы**.**

7.2 магілы, 2 помнікі**: Таўлуй Максім Аляксеевіч** (1892–1972), жонка **Вольга Мікалаеўна** (Максіміха) (1898–1971).

8.Магіла невядомага.

9.2 магілы, помнік**: Гіль Мікалай Рыгоравіч** (Коля Юркаў) (1922–1978), жонка **Таўлуй Вольга Барысаўна** (Мішыха) (1912–1999).

10.2 магілы, помнік**: Таўлуй Васіль Канстанцінавіч** (1890–1961), жонка **Аляксандра Сідараўна** (1892–1973), бацькі Мані і Шурасты Таўлуеў.

11.2 магілы, помнік**: Дубень Апанас Данілавіч** (1895–1973), жонка **Вольга Піліпаўна** (1895–1971). Па сведчанні ўнукаў, нарадзіліся ў адну ноч.

**Вуліца 7-я.**

1.Магіла, помнік**: Таўлуй Уладзімір Канстанцінавіч** (Валодзя Харанджукоў) (1941–2013).

2.Магіла, помнік**: Шэйман Васіль Аляксандравіч** (Вася Алёшы Канцавога) (1963–2010).

3.2 магілы, помнік**: Дубень Міхаіл Сідаравіч** (Міхась) (1901–1973), жонка **Ганна Сямёнаўна** (Міхасіха) (1910–1997)**.**

4.2 магілы, помнік**: Навумчык Сідар Якімавіч** (Зыдор) (1896–1968), жонка **Аляксандра Андрэеўна** (Найбіха) (1905–1979)**.**

5.2 магілы, помнік**: Навумчык Сцяпан Фаміч** (12.03.1884–4.04.1967), жонка **Марыя Андрэеўна** (Марыля Сцяпанава) (1885–1970)**.**

6.Магіла, помнік**: Чайка Фядора Міхайлаўна** (1895–1967), цётка Колі Чайкі.

7.4 магілы, 4 помнік**: Гіль Міхаіл Мікалаевіч,** сын Адамавіча (пражыў 38 г.), жонка Адамавіча **Марыя Рыгораўна** (Марыля Адамавічыха) (1908–1971), **Гіль Ар-**



*Аднойчы сабраліся памянуць родных на могілках. Ніна Пасэсарава з Аркадзем, Уладзімір Адамовіч, Жэня Мялешчыха, Мілка Лысішына, Люда Адамовічава, Таня Мялешкава з дзецьмі. На жаль, такое традыцыі ў Шчонаве няма.*

**кадзь Мікалаевіч,** сын Адамавіча, муж Тоні Валенцікавай (1937–1971), **Гіль Мікалай Адамавіч** (1911–1984)**.**

8.2 магілы, помнік**: Таўлуй Уладзімір** (Уладак Пасэсараў) (1910–1974), жонка **Ганна Сямёнаўна** (Ганна Пасэсарава)(1910–2002)**.**

9.Магіла, помнік**: Таўлуй Віктар Мікалаевіч** (Віця Гэлін) (1942–1974).

10.Магіла, помнік**: Маковік Віктар Канстанцінавіч** (1933–1982).

11.2 магілы, помнік**: Навумчык Фама Захаравіч** (1909–1997), жонка **Марыя Антонаўна** (Маня Тамашыха) (1915–1985).

12.2 магілы, помнік**: Гіль Уладзімір Уладзіміравіч** (Уладзё) (1928–1994), жонка **Яўгенія Апанасаўна** (Жэня Уладзева) (1927–1995).

**Вуліца 8-я.**

1.2 магілы, помнік**: Зенкевіч Уладзімір Мікалаевіч** (12.09.1955–8.04.2011), яго маці **Валянціна Трахімаўна** (Валя Трахімава) (26.03.1929–08.08.2015).

2.3 магілы, помнікі**: Навумчык Канстанцін Іосіфавіч** (Тунік) (памёр 22.03.2003, жыў 70 г.), жонка **Марыя Георгіеўна** (Марыля Тунічыха) (1906–1997), сын **Мікалай Канстанцінавіч** (1944–2000).

3.Магіла, помнік**: Дубень Аляксандр Аляксеевіч** (Алёша Маздзюкоў) (2.03.1936–27.06.1980).

4.Магіла, помнік**: Калеснік Аляксандр Іванавіч** (22.02.1945–20.11.1975).

5.2 магілы, помнік**: Дубень Фёдар Рыгоравіч (**Хведар Чаркес) (1888–19), жонка **Надзея Міронаўна** (1890–1980).

6.2 магілы, помнікі**: Дубень Апанас Іванавіч** (14.11.1909–4.08.1976), жонка **Праскоўя Міхайлаўна** (Параска) (4.11.1909–28.04.1984).

7.Магіла, помнік**: Жукоўская Сцепаніда Рыгораўна,** сястра Тунічыхі і Барыніхі, была замужам за Цырынам, даглядала пляменніца Волька Барынава, памерла ў яе хаце, колішняй хаце Барэйкаў (1901–1976).

8.2 магілы, помнік**: Гіль Аляксандр Парфіравіч** (Свіздун) (1900–1977), жонка **Аляксандра Іванаўна** (1897–1978).

9.Магіла, помнік**: Дубень Ганна Іванаўна** (залоўка Параскі, сястра Апанаса) (1895–1974).

10.2 магілы, помнік**: Гіль Пётр Іванавіч** (Пятрук, Сахлэй)(15.06.1892–7.02.1977), жонка **Вольга Мікалаеўна** (14.05.1892–25.06.1987).

11.2 магілы, помнік**: Маковік Канстанцін Міхайлавіч** (1909–1937), жонка **Марыя Уласаўна** (1904–1979).

12.3 магілы, помнік**: Навумчык Аляксандр Мікітавіч** (Алесь Зайчык) (5.05.1911–19), яго сын **Мікалай Аляксандравіч** (1953–1993), па жонцы Алеся **Ганне** стаіць крыж. Прозвішчы маці і сына памылкова напісаны *Навумовіч*.

**Вуліца 9-я.**

1.2 магілы, помнік**: Таўлуй Віктар Васільевіч** (Віця Васілёў) (27.08.1929–26.03.2003), жонка **Ніна Сільвестраўна** (12.03.1935–07.08.2005)**.**

2.Магіла, помнік**: Віткоўская Ніна Аркадзьеўна** (Ніна Русакова) (31.10.1959–18.08.1984).

3.2 магілы, помнік**: Барэйка Уладзімір Міхайлавіч** (1941–21.05.1991), жонка **Ніна Сідараўна** (Ніна Світкава) (5.05.1937–25.08.2012).

4.2 магілы, помнік**: Гіль Леанід Паўлавіч** (12.01.1930–3.11.1985), жонка **Яўгенія Максімаўна** (1929–24.01.2010).

5.2 магілы, помнік**: Абрамовіч Мікалай Мікалаевіч** (19.12.1911–10.09.2010), жонка **Ганна Сцяпанаўна** (Анюта Абрамовічава) (2.06.1922–6.02.1985).

6.Магіла, агароджа, помніка няма**.**

7.2 магілы, 2 помнікі**: Шэйман Аляксандр Рыгоравіч** (Алёша Канцавы) (1929–10.01.1990), жонка **Ганна Мікалаеўна** (1924–22.11.1989).

8.2 магілы, 2 помнікі**: Сечка Уладзімір Вікеньцьевіч** (17.02.1928–16.05.1996), жонка **Лідзія Ягораўна** (28.09.1926–17.08.1999).




*Барэйкавы дзеці каля магілы бацькоў. Радуніца, 2016 г.*

9.Магіла, помнік**: Таўлуй Любоў Кандратаўна** (Люба Грышкава) (10.09.1899–23.11.1990).

10.Магіла, помнік**: Дубень Іван Трахімавіч** (18.08.1935–9.08.1986).

11.2 магілы, помнікі**: Барэйка Мікалай Міхайлавіч** (1.09.1934–3.05.2008), жонка **Валянціна Пятроўна** (28.09.1934–4.10.1991).

Эпітафія на яе магіле:
*Ты пайшла так раптоўна,*
*так рана.*
*У сэрцы кожнага з нас –*
*незагойная рана.*




*Данілка Асабін са стрыечным дзедам Валодзем на шчонаўскіх могілках. Лета, 2016 г.*

Эпітафія па бацькох:
*Схіляемся ў паклоне*
*перад Вамі*
*за дар жыцця,*
*навуку і любоў.*

12.2 магілы, помнікі**: Гіль Мікалай Уладзіміравіч** (Коля Лысы) (22.05.1932–9.12.2001), жонка **Любоў Канстанцінаўна** (20.03.1936–4.02.2001).

**Вуліца 10-я.**

1.Магіла, помнік**: Русак Аркадзь Аляксандравіч** (2.01.1933–6.02.2004).

2.Магіла, помнік**:** Т**аўлуй Уладзімір Кірылавіч** (Сынчык)(22.04.1963–1.12.2006).

3.2 магілы, помнік**: Гіль Уладзімір Аляксандравіч** (Валодзя Аляксандраў) (1.01.1930–17.12.2003), жонка **Кацярына Канстанцінаўна** (Каця Харанджукова) (4.01.1930–9.02.2001).

4.Магіла, два помнікі**: Яўсей Канстанцін Фёдаравіч** (Косцік Чубкаў) (19.01.1932–19.07.1993), жонка **Соф'я Аляксандраўна** (Соня Косцікава) (1936–4.05.2015).

5.Дзве магілы, на адной помнік**: Таўлуй Аляксандр Васільевіч** (Шураста) (1923–1990), побач ягоная сястра **Марыя**.

6.Магіла недагледжаная **Апалоніка Яўгена**.

7.Магіла, помнік**: Кашко Лілія Яўгенаўна (**Ліля Апалонікава**)** (3.01.1962–14.04.2010).

8.Магіла**: Дубень Аляксандр Апанасавіч** (Саша Парасчын).

9.Магіла, помнік**: Дубень Уладзімір Аляксандравіч** (сын Сашы Парасчынага) (10.09.1974–2.06.1992).

10.Магіла, помнік**: Таўлуй Мікалай Рыгоравіч** (Коля Грышкаў) (25.01.1942–17.02.1993).

11.2 магілы, помнік**: Дубень Аляксандр Апанасавіч** (7.05.1949–18.10.2014), жонка **Ніна Аляксандраўна** (30.11.1936–11.07.2015).

12.2 магілы, помнік**: Яўсей Марыя Юльянаўна** (Манька Юлькава) (1.05.1922–15.03.2002), яе сястра **Ганна** (Ганна Юлькава) (7.09.1925–22.10.2007)**.**

**Вуліца 11-я.**

1.Магіла, помнік**: Сачко Марыя,** сястра Алены Валенцікавай (1900–1998).

2.Магіла, помнік**: Гіль Таццяна Мікалаеўна** (Тоня Валенцікава) (6.05.1942–24.11.1999).

3.2 магілы, помнік**: Таўлуй Мікалай Канстанцінавіч** (Коля Харанджукоў) (1.12.1934–3.04.2011), жонка **Яўгенія Аляксандраўна** (12.04.1934–16.09.2002).

4.Магіла, помнік**: Таўлуй Марыя Аляксандраўна** (Маня Кірэева) (20.11.1923–20.07.2007).

5.Магіла, помнік**: Навумчык Марыя Апанасаўна** (Маруся Парасчына) (4.11.1937–23.11.2002).

6.2 магілы, помнік**: Дубень Мікалай Іванавіч** (Коля Варвараў) (7.03.1935–4.06.2004), жонка **Валянціна Мікалаеўна** (19.01.2013).

7.Магіла, помнік**: Дубень Віктар Фёдаравіч** (Вацё Хведараў) (1930–2004).

8.2 магілы, помнік**: Яўсей Уладзімір Апанасавіч** (Самара)(1941–27.09.2004), жонка **Лідзія Аляксандраўна** (30.05.1942–08.01.2015).

9.2 магілы, помнікі**: Зайка Ганна Апанасаўна** (дачка Дубеня Апанаса) (2.07.1922–13.11.2013), **Зайка Уладзімір Уладзіміравіч** (Маланка) (1945–27.10.2008).

**Вуліца 12-я.**

1.2 магілы, помнік**: Дубень Рыгор Мацвеевіч** (1900–27.03.1988), жонка **Вера Вікенцьеўна** (Рыгорыха) (1900–17.01.1972).

2.Магіла, помнік**: Мулярчык Міхаіл Іванавіч** (Міша Прымачышын) (13.02.1934–11.06.1989).

3.2 магілы, помнік**: Чайка Мікалай Сідаравіч** (1926–2010), **Ганна Пятроўна** (Анюта Петрукова) (1926–1993).

4.2 магілы, помнік**: Дубень Пётр Трахімавіч** (Пецця Трахімаў) (1931–13.05.2003), жонка **Вольга Апанасаўна** (Воля Пецява) (20.10.1936–28.03.2014).

5.2 магілы, 2 помнікі**: Дубень Вольга Сідараўна** (Труска) (23.02.1915–25.09.1995), яе сястра **Яўсей Марыя Сідараўна** (Апанасіха) (1911– 1994).

6.2 магілы, помнік**: Навумчык Антон Захаравіч** (1900–4.05.1945), загінуў на фронце, сімвалічная магіла, жонка **Ганна Мікалаеўна** (Антоніха) (8.04.1900–14.03.2001).

7.Магіла, помнік**: Мялешка Анатоль Станіслававіч** (19.04.1935–20.10.2002).

8.2 магілы, помнік**: Адамовіч Уладзімір Мікалаевіч** (20.10.1923–1.08.2011), жонка **Вольга Мікалаеўна** (Волька Адамовічыха) (19.08.1923–11.11.2002)**.**



## *Пасляслоўе*

Кніга ўжо была падрыхтавана да друку, калі ўрэшце прыйшоў дакладны адказ на пытанне, дзеля чаго ствара-ла яе. Вось жа, Шчонава памірае. Таму развітальны матыў увесь час праступае ў розных згадках, ён скразны ў кнізе. Працэс гэты, на вялікі жаль, незваротны. Мая вёска паўтарае лёс тысячаў такіх у Беларусі. Міне нейкі дзясятак гадоў, і не застанецца нікога з сённяшніх сталых шчонаўцаў. Адзіная маладая сямейка Дубеня Мікалая, сына Іванавага, унука Трахімавага, праўнука Рыгоравага, дзе гадуюцца чацвёра дзетак, – шчаслівае выключэнне, якое толькі пацвярджае правіла. Але ці захоча хтосьці з гэтых апошніх дзяцей вёскі застацца тут? На маё пытанне, ці жадаў бы Мікалай такое долі для сваіх нашчадкаў, ён адказаў станоўча. Сказаў, што быў бы шчаслівы, каб хоць адзін з іх жыў у Шчонаве. Мо хоць гэтая нітка вялікага калісь шчонаўскага свету не перарвецца…

Кніга створана дзеля таго, каб маё Шчонава засталося. У слове напісаным, што будзе мацаваць памяць нашчадкаў, якім неабыякава мінулае, якія імкнуцца не разарваць повязь з Радзімай, якія хочуць ведаць свае карані. Каб не быць бязроднымі. Між шчонаўцаў, што з’ехалі хто далёка, а хто не вельмі, такіх многа. Яны вяртаюцца сюды штогоду да сваіх бацькоў, дзядоў, прадзедаў у дзень памінальны, на Радуніцу. Прыходзяць на высокую шчонаўскую гару, каб пакланіцца, памаліцца за душы продкаў. Сплаціць доўг бацькам, што далі жыццё, і зямлі, што ўзгадавала.

Калі пройдуць гады і мяне не стане, кніга застанецца. Нашчадкі шчонаўцаў, маю надзею, прачытаюць гэтыя радкі майго стрыечнага дзядзькі Гіля Сымона Паўлавіча і як мой зварот да іх, у будучыню:

*Вам сэрцам, людзі майго краю,*
*радкі з нябыту прысвячаю.*

# *Змест*

